

4

**КРАСАВІК**

МІНСК, 1972


*ШТОМЕСЯЧНЫ ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ*
*І ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ ІЛЮСТРАВАНЫ*
*ЧАСОПІС*




# МАЛАДОСЦЬ


ОРГАН ЦЭНТРАЛЬНАГА КАМІТЭТА ЛКСМБ І САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БЕЛАРУСІ



Заснаваны ў 1953 годзе



Выдавецтва ЦК КП Беларусі







У свеце мастацтва

Вокладка **В. Шрамякова.**

Шмуцтытулы: малюнак **Ю. Зайцава** (стар. 3) і фота **«Старт касмічнага карабля»** (стар. 95).



# ПАЭЗІЯ

- БАРЫС БЕЛІЖЭНКА
- МІКОЛА КАПЫЛОВІЧ
- УЛАДЗІМІР ДЗЮБА
- АЛЯКСЕЙ КАРПЮК
- УЛАДЗІМІР ФАМІН



- ЯЎГЕН ПУШКІН
- УЛАДЗІМІР КУНЦЭВІЧ
- УЛАДЗІМІР АЛЯХНОВІЧ
- ФРЫДРЫХ ШЫЛЕР

# ПРОЗА





*барыс беліжэнка*

*

ПАЭЗІЯ

*

## На лодцы

Усё некалі ды некалі было...
Катацца ў лодцы? Неяк смешнавата...
Але дзядулю Ільіча рабяты
Завуць да рэчкі. Валакуць вясло.
Усплёскі хваль. Паволі паплылі...
Смяецца Ленін: «Мы, напэўна, гэтак
Сплывем адсюль на іншую планету
На гэтым самаробным караблі».
І мрояць хлапчукі: плывуць яны
Сярод сузор'яў рэчкай безназоўнай,
Нібы прычалы, сустракаюць зоры
Той човен незвычайны і зямны...
...Да берага плывуць. Ідуць дамоў.
Ільіч ківае ім на развітанне,
А хлопцы сярод зорнага мільгання
Усё тую ж лодку прыкмячаюць зноў,
Што прыстае да новых берагоў...

■

Я клічу чацвёртага:
«Дзе ты? Гукні і вярніся».
Чацвёртае месца
пустуе у нас за сталом.
Чатыры шпакоўні —
ўспамінам журботным у высі,
Чатыры бярозы
самотна стаяць пад акном.
Чатыры часіны
прыходзяць адна за другою:
Чацвёртае сэрца
не грэе у люты мароз,
Чацвёртая сеялка
ў поле не выйдзе вясною,
А летам не ляжа трава
у чацвёрты пракос.
З чацвёртае яблыні
яблыкі восень страсае,
І новы з зімы пачынаецца кругазварот,
А мне ўсё здаецца —
чацвёртага смерць выклікае,
І рэжа па сэрцы шалёна чужы кулямёт...

■

На ўлонні рэк цячэ маё жыццё.
Нясу я з імі цяжкасцяў камені,
Чаўны нярэдка падымаю з мелі,
Ламаючы зялёнае трысцё.
Па-рознаму рака з ракой цякуць,
Ці ў акіян, ці ў ціхія азёры,
То круцяць электрычныя маторы,
То асвяжаюць холадам руку.
Адных асвецяць бакенаў агні,
Другіх—святло праспектаў і палацаў...
Ды рэкі не за бляск цаню—за працу,
Адрозніваю іх па глыбіні.



ПРОЗА



*мікола капыловіч*

# СЯРГЕЙ, СЫН АНТОЛІН

## АПАВЯДАННЕ

● Мал. Б. СУСЛЯНКОВА.

**1**

Ён прыляцеў самалётам у Мазыр і свае вялізныя, як скрыні, чамаданы ледзь давалок да плошчы — там быў прыпынак таксі. Свабодных машын стаяла аж тры, і ён падышоў да той, што была на чарзе першай. Вадзіцель сядзеў за рулём і драмаў, звесіўшы галаву. Сяргей паставіў на зямлю чамаданы, пастукаў у ветравое шкло:

— Да Буды давязеш? Дваццаць кіламетраў.

Таксіст ачомаўся ад дрэму, адчыніў дзверцы:

— Колькі даеш?

— Пяцьдзесят рублёў...

— Колькі?

Не паверыў, што так многа хоча заплаціць яму пасажыр.

— Што, цяпер аддаць?

Таксіст выйшаў з машыны, глянуў на Сяргея, яго багатую вопратку, новенькія чамаданы, падумаў, што пасажыр не жартуе з цаною, і сказаў:

— Ды не, я так... Сядай.

Увапхнулі ўдвух у багажнік чамаданы, селі і паехалі.

Горад застаўся ззаду, машына ішла мякка, падрогвала толькі на выбоінах, і пад колы накручвалася навошчаная гудронам шаша, што праразала сабою глухі і глыбокі лес. За вакном таксі мільгалі, адляталі назад роўныя хлёсткія бярэзнікі, і калі Сяргей глядзеў на іх — зажмурваўся: у вачах пярэсцілася, скакала іх бель; з-пад колаў вырываліся і ляцелі ў лес дразды, над бярозамі ўразвалку лятАлі ўдоды; з-за ветравога шкла ў кабіну цурчэў рахманы ветрык, ліўся па шыі, па твары, бегаў у валасах, і тамлівая цеплыня казытнула душу — ён быў дома.

Таксіст пакручваў баранку, краем вока зіркаў на спакойны твар Сяргея і думаў: «Грашавіты, бач».

І не вытрымаў, асцярожна пацікавіўся:

— Вы, напэўна, лётчык?

— Не, бульдазерыст.— Сяргей павярнуўся да таксіста.— А што, хіба на яго падобны?

— Летась аднаго лётчыка вёз па гэтай дарозе. Мне таксама заплаціў добра... От я і падумаў...

— І правільна падумаў,— засмяяўся Сяргей.— Я таксама лятун. Па беламу свету лятаю.

Таксіст кашлянуў і змоўк. Яму нешта не верылася, каб бульдазерыст раскідваўся сваімі рублямі, якіх зарабляў не так багата. Ды і рублі гэтыя потныя. «Па беламу свету лятае. Можа які жулік? Шчэ возьме ды і не заплоціць». І пашкадаваў, што не ўзяў грошы там, у горадзе. Сяргей закурыў і працягнуў цыгарэту таксісту. Той, калі прыкурваў, мяльком зірнуў на яго парэпаную з пабітымі пазногцямі руку, яшчэ тлустую ад саляркі, і толькі цяпер паверыў, што пасажыр сказаў праўду.

І спытаў ужо вольна:

— Адкуль едзеш?

— З Запаляр'я.

— Ого! — выгукнуў таксіст.— Які чорт туды цябе занёс?

— Служыў і застаўся пасля арміі.

— І дзе там робіш?

— На прыіску. Благародны метал мыем. Золата.

— Ого! Жывое золата? Можа з сабою вязеш?

— Гэ-гэ! — рагатнуў Сяргей.— Нашто яно мне... Мы дзяржаве — золата, дзяржава нам — грошы.

— У водпуск едзеш?

— Не, назусім. Да старой. Астануся, ажанюся, дом пастаўлю. Хопіць цягацца. Крышка!

Сяргей з шыкам пад'ехаў на таксі пад матчыну хату, расплаціўся з таксістам і выцягнуў з багажніка чамаданы.

— Сыночак мой родненькі, крывінка мая! — Маці выбегла з варот, абхапіла яго галаву рукамі, стала цалаваць, аж задыхацца, у губы, у вочы.— Прыехаў, дзякаваць богу...

І не адпускала ад сябе, далоні яе, шурпатыя, як таркі, гладзілі яго твар, і ў запалых матчыных вачах свяціліся слёзы.

— То хадзем, хадзем, Сяргейка, у хату...

Яна пабегла наперадзе, адчыніла варотцы, і Сяргей з чамаданамі праціснуўся ў двор. У хаце Сяргей распрануўся, памыўся з дарогі, прысеў за стол і стаў аглядаць хату. Адвык ад яе, і хата здалася трохі чужой: і столь ніжэйшая, рукою дастанеш, і вокны цямнейшыя, і печ паменшала, быццам асела. Устаў з-за стала, падышоў да чамаданаў і стаў распакоўваць іх.

— Табе, мама, гасцінцаў прывёз.— Ён выняў і паклаў на лаву паліто з цёплым рудым каўняром: — Гэта зімою на людзі выходзіць.— З дна чамадана ўзяў і паставіў на падлогу валёнкі і чаравікі, дастаў пуховую хустку, разгарнуў яе і працягнуў у рукі мацеры: — У Якуцку на базары купіў. Сорак рублёў аддаў, насі на здароўе.

Старая Антоля глядзела на падарункі і саромелася нечага перад сабою, не ведала, дзе рукі дзець, і прыгаворвала:

— Божачка, божачка, столькі грошай зглуміў! Мне і ў гэтым, ста-

рым, добра. І ватоўка новая шчэ ёсць, і боты леташнія... Лепш на сябе пусціў бы іх... Такія грошы аддаў!

Дзяржала ў руках хустку і не ведала, што з ёю рабіць—пакласці куды ці на галаву прымераць.

— Грошай, мама, у мяне навалам... І табе трохі дам.— Палез у кішэню пінжака, выняў пачку новых, шчэ не пакамечаных дзесяцірублёвак і падаў іх мацеры: — Тут пяцьсот... Бяры, хай будуць... Дзірак, мабыць, багата ў гаспадарцы... І ўсе трэба пазатыкаць. Бяры, не праціўся...

Увечары адведаць госця прыйшоў Віктар, бібліятэкар. Некалі яны разам хадзілі ў школу, сядзелі на адной парце.

Старая Антоля выняла з печы чыгунок, у якім быў вытушаны ў бульбе, аж упрэлы, певень, напрагла яечні, нарэзала сала, прынесла з лёха міску агуркоў. Сяргей паставіў на стол дзве пляшкі спірту, і яны селі вячэраць. Чокнуліся, выпілі, яшчэ раз чокнуліся. Пачырванелі ад выпітага, і пачала завязвацца гаворка. Госць расказваў пра Поўнач, налягаў на бульбу і агуркі, бо даўно такой яды ў вочы не бачыў.

— Ты, мабыць, чуў, што ёсць мора Лапцевых... Шэсцьдзесят кіламетраў ад яго мая работа. На полюсе холаду... Там за год дзесяць месяцаў зімы... Халадзіна. Паветра аж трашчыць,— Сяргей зноў наліў у стограмоўкі, адным махам перакуліў сваю чарку ў рот, захрумстаў агурком. Хмель ударыў у галаву, і ён увайшоў у ахвоту гаварыць. Хацелася, аж душа свярбела, расказаць пра сябе, пахваліцца перад Віктарам.— Ты от у школе выдатнікам быў, кніжкі любіў, Гогаля і Талстога чытаў, а я на двойкі вучыўся... І што з гэтага стала, горш за цябе жыву? Лепш! І выпіць ёсць за што, і грошы вядуцца... Інжынеры менш за мяне палучаюць, от... Бо не баюся чорнай работы. Лодыра не ганяў і не ганяю. Раблю як вол... Хто на галаву, а я на рукі маю талент... У школе на фізкультуры і на працы мне пяцёркі ставілі. Адгаблюю раму — настаўнік не паправіць... У мяне так: калі рабіць дык рабіць, калі гуляць дык гуляць...

Маці, якая дагэтуль ціха сядзела за сталом і слухала хлопцаў, не вытрымала, падтакнула сыну:

— Што праўда, то праўда... Бывала, як дома быў, і хлеў перакрые і вароты новыя паставіць... Гора з ім не знала... І з дрывамі і з сенам была... Рабацяшчы быў. Толькі вот навука не ішла яму ў галаву...

— І добра, што не ішла,— Сяргей расхрыснуў на сабе сарочку, каб вальней было грудзям: — Правільна зрабіў, што школу кінуў... Да дзевятага класа не дайшоў бы, каб не маці... Не давала спакою: «Вучыся, сынок, у людзі выйдзеш». Выйшаў і без навукі... Трыста кожны месяц выганяю... А ў цябе, Віктар, які аклад?

— Семдзесят рублёў...

— Во, во! — засмяяўся Сяргей: — І тэхнікум скончыў... Здуваеш пыл з кніжак...

— Мне гэтых грошай хапае,— абазваўся Віктар.— Свой гурок вядзецца, бульбіна, скварка. І работа па нутру...

Яны падняліся з-за стала і выйшлі на двор праветрыцца, пакурыць.

Сонца ўжо спадала з неба за лес, прахалода нагортвалася на зямлю. Асвежаны летнім вечарам, на двары зелянеў мурог, у гародзе — бульба, а далей, у нізіне — поплаў...

— Вочы адвыклі ад зялёнага... Даўно не бачыў. У нас там шэры мох.— Сяргей памаўчаў і таўхануў Віктара пад бок: — А як тут з жаночым персаналам?





— Настаўніцу летась маладую прыслалі... Фаінай Пятроўнай завуць яе... Дзяўчына — во! Закачаешся...

— А што сёння ў клубе?

— Танцы.

— Пойдзем?

— Я жанаты... Схадзі сам.
— Пайшлі спірт канчаць...
— Мне ўжо досыць.
— Пасядзі для кампаніі. Я сам буду піць.
Яны пакурылі і пайшлі ў хату.

## 2

Ён вынырнуў з цемені ў белую паласу святла, што цягнулася з расчыненых дзвярэй клуба аж за ганак, прыслепавата прыжмурыўся, прыглядаючыся да людзей. Чуў, быццам у сне, недзе блізка ля сябе гаворку і смех, але тых, хто гаварыў і смяяўся, не бачыў — быў п'яны. Узлез раскарачаны на ганак, ступіў да дзвярэй, зачапіўся за нечыя ногі, пахіснуўся і, каб не ўпасці, схапіўся рукой за вушак.
— Што тут робіце?
— Танцуем, не бачыце,— абазваўся нечы голас.
— А хто вы такія?
— Хлопцы, хто ж.
Ён прыгледзеўся і ўбачыў падхлопцаў, якія стаялі на абодва бакі дзвярэй і хіхікалі.
— Шпэндрыкі вы зялёныя, а не хлопцы. Марш адсюль!
І павёў перад сабою рукою.
Падлеткі крыўдзіцца не сталі, пастараніліся, бо ўбачылі, што чалавек добра недзе набраўся, ледзь языкам варочаў. Ды і настырацца з ім не хацелася — чалавек быў здаравенны і высокі, як шула — калі зачэпіць рукою, дык з ганка змяце. Сталі прыглядацца, каб пазнаць, хто такі: густая, пальцы не ўваб'еш, чупрына, тугі мардаты твар, рыжая барада і вочы, рачкатыя, чорныя. Апрануты быў ва ўсё новае, моднае. На ім быў дарагі блакітны плашч, чорны касцюм, белая сарочка, пад каўняром чырвоны і кароткі, як язык, гальштук.
— Ведаеце мяне? — грымнуў сабе ў грудзі п'яны.
— Не!
— Антолінага Сяргея не ведаеце?
— Чулі.
— То-та яно-та. Курыце?
Ён палез у кішэнь плашча, выняў цыгарэты і працягнуў іх хлопцам.
— Бярыце... Маскоўскія...
Яны закурылі.
— Лавачніца ў клубе?
— Клава? Вунь сядзіць ля вакна ў белай кохце, — паказалі хлопцы ў дзверы клуба.
— Шчас... Вып'ем з вамі... Каньяку...
Сяргей уваліўся ў клуб.
У клубе грымелі танцы, стаяла духата, і дзяўчаты часта выскоквалі на вуліцу астыць, аддыхацца пасля полькі, а хлопцы — перакурыць.
Ён павёў вачыма ў той бок, дзе сядзела лавачніца, і ўразвалку падышоў, сеў ля яе:
— Прадай каньяку!
— Што? — не зразумела Клава.
— Выпіць прадай.
— Зараз ноч.
— Адчыні магазін. За бутэльку два чырвонцы плачу.
— Заўтра прыйдзеш. Ідзі выспіся.



— Я...
І не дагаварыў, змоўк: перад вачмі, як на пласцінцы, закружылася столь, людзі, пад грудзі падкацілася нешта нуднае, і ён цяжка падняўся з табурэта і, спатыкаючыся, пайшоў да дзвярэй. З ганка яго пад рукі ўжо звялі хлопцы. Сяргей адмахнуўся ад іх, даплёўся да плота і абапёрся на яго грудзьмі — жэрдкі трэснулі, лопнулі на сярэдзіне, і ён шуснуў у бульбоўнік. Патужыўся быў падняцца, але не хапіла сілы. Ляжаў, а ў вушах стаяла, як з-пад зямлі ішла, музыка, чуўся глухі тупат — у клубе адбівалі польку.
І адкуль толькі дачулася, што з ім пагана, маці, прыбегла адразу, задыханая і мітуслівая, нагнулася над сынам:
— Ці не ўдарыўся ты, Сяргейка?.. Божачка, божачка... Устань, сынок, дадому пойдзем... Усё новенькае вымазаў, выкаляў на сабе.
Зразумела, што адна яго не падыме, не завядзе да хаты, пабегла прасіць у клуб людзей, каб памаглі. Блытаючыся нагамі ў сваёй доўгай спадніцы, трушком пабегла і гаманіла сама сабе:
— Гэта ж так напіцца...

## 3

На другі дзень галава ў Сяргея аж трашчала, быццам на яе хто зверху цяжкі камень палажыў. Ціснула ў скронях, сушыла ў роце, ныла ўсё цела, што аж падняцца з ложка няможна было — як-ніяк, бутэльку спірту за вечар выцадзіў. Маці падавала яму ў ложак кіслае малако, адпойвала гарачым чаем. Ён піў і ніяк не мог наталіць смагу. Спадручна было старой Антолі цяпер пагаманіць з сынам пра тое, пра што кожны раз думала, што не давала сэрцу спакою, і яна села на табурэт ля ложка, паглядзела на Сяргея:
— Годзе, сынок, па свеце цягацца. Не давядзе цябе гэта да дабра. Што на чужыне той бачыш? Бульбіны не з'ясі свежай, садавіны не бачыш...
— Затое грошы,— буркнуў Сяргей і павярнуўся тварам да сцяны.
— А які толк з тых грошай? — уздыхнула Антоля.— Усе распусціў, калі той раз прыязджаў. Паіў каго папала... Кожны чалавек табе таварыш, кожнага частуеш, а калі ў самога за душою капейкі няма, ніхто ў твой бок не гляне... На дармаўшчыну ахвочых багата. Не шануеш капейкі, хоць і цяжка яна табе дастаецца. Людзі як людзі жывуць, пажаніліся, дзяцей гадуюць, да свайго селішча цягнуцца, а ты...
— Жанюся, мама, жанюся,— пачаў усцешваць ён маці.— Вось толькі дзяўчыну знайду...
— Не адзін ужо раз гаварыў...
Яна пасядзела яшчэ, пачакала — мо сын што добрае скажа,— але нічога ад яго не пачула і пайшла да дзвярэй, бо на агародзе было багата работы.
Апоўдні Сяргею стала лягчэй, ён падняўся з ложка, апаласнуў вадою твар, апрануўся і выйшаў на ганак. Пагода была ні сонечная, ні пахмурная, неба абцягнула смугою, і на ёй, як праз слюду, прасочвалася, стаяла пляма сонца. Ён агледзеў двор. Ля паветкі грабліся ў трэсках куры, у карыце скакалі вераб'і, а ў старой бочцы, якая ляжала пад плотам, сядзеў, пільна глядзеў Сяргею ў вочы і віляў хвастом сабака — як свайму. Сяргей пашукаў вачыма будку, але яе не ўбачыў, пайшоў пад паветку, знайшоў дзве дошкі, нажоўку, цвікі і ўзяўся за работу.

## 4

У гэты вечар Сяргей не прапускаў ніводнага танца, запрашаў і запрашаў Фаіну Пятроўну ў круг, жартаваў з ёю, а калі сціхаў баян, праводзіў пад руку да лаўкі, сам прысаджваўся побач, заглядаў у вочы і гаварыў:

— На колішні манер танцуеце... Полькі ды кадрылі... Пад баян... Не каб пад аркестр...

— У вас хіба лепшыя танцы? — усміхнулася Фаіна Пятроўна.

— Пад джаз... Шэйк, твіст поўным ходам...

— Тут любяць сваё.

— У атамны век...

— Некалі і вы круцілі полькі.

— Гэта ж некалі...

Баяніст зайграў марш, і ўсе рушылі да дзвярэй. Сяргей і Фаіна Пятроўна выйшлі з клуба і завярнулі ў вулку. У небе стаяў і падсвечваў похмаркі месяц, над поплавам вісеў, як марля, рэдкі туман, ноч была цёплая, парная, і дыхалася лёгка, вольна. Фаіна Пятроўна ішла, паглядвала на Сяргея, пыталася ў яго:

— І вы на аленях каталіся?

— Ха, аленіну нават кожны дзень еў.

— І паўночнае ззянне бачылі?

— Зімою над галавою вісіць.

— А якое яно?

— Калі скласці дзесяць вясёлак, будзе ззянне...

— А белыя мядзведзі вялікія?

— Большыя за карову...

— Зайздрошчу вам, Сяргей... Столькі ўсяго пабачыць...

— Паедзем са мною.

— Мяне ж сюды прыслалі ў школу...

— Тады я застануся тут... Жанюся на вас і — баста...

— Якая самаўпэўненасць! — Фаіна Пятроўна засмяялася ахвотна і шчыра.

Падышлі да хаты, у якой кватаравала настаўніца, селі пад акном на лаўку. Маўчалі, бо гаварыць не знаходзілі што, слухалі, як недзе на поплаве парыпваў драч. Так доўга сядзець ціха было няёмка адзін перад адным, нешта трэба было гаварыць, і першай абазвалася Фаіна Пятроўна:

— Драч дзяцей калыша... Калыскаю рыпіць...

— Гэта ён парцянкі дзярэ... Хоча пераабуцца...

Яна зноў засмяялася. Сяргей глянуў на загарэлую шыю, мяккія пульхныя губы настаўніцы, круглыя каленкі, і нешта гарачае ірванулася з грудзей; увесь задрыжэў, не мог ужо стрымацца і абхапіў рукамі, загроб да сябе Фаіну Пятроўну.

— Нахал!

Ад аплявухі пагарачэла шчака, і пакуль Сяргей уцяміў, што здарылася, апамятаўся, настаўніцы ля яго ўжо не было.

Шчэ з вечара старая Антоля пачула ад людзей, што Сяргей пайшоў дамоў праводзіць настаўніцу, ляжала на ложку і не магла заснуць — чакала яго. Пачула, пазнала яго крокі на двары. Сяргей моцна ляснуў у сенцах дзвярмі, увайшоў у хату, стаў распранацца.

— Мо ў сваты, сынок, пойдзем да настаўніцы? — падняла яна з падушкі галаву.— Ці сышліся душою?

— Э-э, гнілая інтэлігенцыя! — махнуў ён рукою. — Заўтра паеду ў Мазыр... Да старой знаёмай. Вазьму за руку і — у загс.



## 5

Вярнуўся з Мазыра ён аж на другім тыдні ўвечары. Маці даіла ля хлява карову, убачыла, што Сяргей на двары, падышла да сына і аж самлела ўся — белая сарочка была на ім расхрыстаная, парваная, пад вокам ляжаў вялізны сіняк.

— Божачка мой, хто ж цябе так?

— А-а, не пытай... У рэстаране хацеў правучыць аднаго... Набеглі яго дружкі.

— Каб іх гром пабіў на чыстай, на гладкай дарозе!

Павойкала, пабожкала, пакляла тых, што сына ўдарылі, працадзіла на ганку малако ў гладышыкі і ўзяла ў рукі палку — трэба было загнаць у будку і прывязаць нанач сабаку. Падышла да бочкі, стукнула па ёй:

— Вылазь, ірад пракляты, каб цябе ваўкі ўклалі...

Сабака круціўся ў бочцы, ціха скуголіў...

— Вылазь, кажу! — старая Антоля мацней стукнула палкаю і — да Сяргея: — Будка прападае... Учора прывязала, дык усю ноч выў, спаць не даваў... У бочцы яму, бач, добра... Напрасна толькі дошкі паглуміў...

Пакуль гаварыла, сабака выскачыў з свайго лежыва і шуснуў у агарод.

Яны пайшлі ў хату.

— Бачыў сваю знаёмую? — папытала маці.

— Замуж выйшла.

Пачаў хадзіць туды-сюды па хаце, хацеў нешта сказаць мацеры, ды не асмельваўся — баяўся пакрыўдзіць яе. І рашыўся, сказаў:

— Паеду я, мама.

Сэрца ў старой Антолі затохкала:

— Куды?

— Назад, у Якуцію.

— Зноў?

— Зараблю грошай і прыеду назусім... Даю слова...

— Як гэты раз.

— Што я тут буду без капейкі рабіць...

— Трактарысты і ў нашым калгасе добра зарабляюць...

— Якія там заработкі ў іх... Смехата...

Сяргей падышоў да мацеры, глянуў ёй у вочы:

— Дасі мне на дарогу грошай... Свае патраціў... Толькі, богам прашу, не плач.

— Да грошай вялікіх прывык... Хіба ж яны на карысць яму — не дзержацца ў кішэні. Дома рубель даражэйшы, надзейны, бо тут шануюць заробленае. Распусціўся... Без прыгляду, без сваіх людзей... Ніхто ні накрычыць, ні падвучыць там, як жыць трэба.

Антоля ступала па вулічным пяску, выцірала ражком хусткі слёзы, жалілася Віктару — яны толькі што правялі Сяргея на аўтобус і от зараз ішлі дамоў.

— Праўду кажаце, цётка...— Віктар дайшоў да сваёй хаты і спыніўся.— Свая зямля мае над чалавекам дысцыпліну... Перад нашымі людзьмі сорамна быць горшым, чым яны.

Яна адчыніла варотцы і ўвайшла ў свой двор. Пачала хадзіць ад хаты да хлява, не магла супакоіцца, села на калодку, што ляжала на дрывотні, уголас заплакала, і ніхто не бачыў яе слёз, і ніхто не мог памагчы матчынаму гору.



*уладзімір дзюба*



ПАЭЗІЯ



## *Выток*

ВЯНОК САНЕТАЎ

### 1

Дзень добры, нафта! Ты—адна з крыніц!
Табе зрадні няскораная сіла.
Якая абудзілася, вірыць,
Струменіцца за межы небасхілу.

У гэтым — прага першаадкрыцця
І подзвіг неўміручы, чалавечы.
Выходзім дружна на прасцяг жыцця,
Яму падмогай — розум наш і плечы.

Парыў душы і дужасць нашых крыл.
Мы з кожнай новай вышынёй узятай
Наступнай трызнім вышынёй крылатай.

Тут, на зямлі, наш вырас дзівасіл,
І мы спазналі веліч творчых сіл
Зямлі-матулі шчодрай і багатай.

### 2

*Зямлі-матулі шчодрай і багатай.*
Якая мне чужою не была,
Я ўдзячны, што яна гула набатам
І продкаў нашых звала да святла.

Я—сын яе і ёю ганаруся,
І толькі аднаго ў жыцці хачу:
Каб думаць і каб дыхаць Белай Руссю.
Каб спеў яе дзівосны вечна чуць.

І сам сябе лаўлю на думцы тут жа,
Што трэба мне душою не крывіць.
Зямлёю продкаў шчыра даражыць—
Ці гэта Прынямонне, ці Прыбужжа! —
З крыніц яе заўсёды чэрпаць мужнасць,
На ёй, зямлі, і мне крынічна жыць.

### 3

На ёй, зямлі, і мне крынічна жыць!..
Ды запярэчыў тут зямляк-вандроўнік:
«Рамантык я і здолеў палюбіць
Сібір, Каўказ, цалінных даляў
роўнядзь...»

Яму я пра Палессе расказаў
З яго базмежжам і гарывадою,
Дзе з кожнай хвояй лёс мяне звязаў,
Дзе сцежкі ўсе прайшоў я пехатою.

І ён сумеўся: «Ты прабач, зямляк.
Ад сцежкі ды ад хвоі за роднай хатай,
Адтуль, дзе нарадзіўся, шлях пракладвай,

Свой гераічны, свой цярністы шлях,
Бо маем права жыць мы толькі так:
Сцвярджаць сябе усёй жыццёвай
праўдай».

### 4

Сцвярджаць сябе усёй жыццёвай
праўдай,
У космас мкнуць і ўзводзіць гарады—
Такія мы, такі наш век дваццаты
Напружаны, імклівы, малады.

Упэўнена трымаем мы раўненне
На мужны ўсплёск кастрычніцкіх сцягоў,
З якімі нас нястомны геній Ленін
Дарогай светлай па жыцці павёў.

Да камунізму шырыцца прастора,
Плячом к плячу—цясней працоўны люд.
На ўсіх адзіна правільны маршрут —

Да шчасця! Каб крынічыла, як мора,
Каб заўтра лепш жылося, чым учора—
Няхай жа б'юць фантаны там і тут!

### 5

Няхай жа б'юць фантаны там і тут,
Нястомныя, і дзень і ноч шчыруюць
Пад пушчаў спеў, пад пушчаў перагуд,
Там, дзе пачуў легенду я такую.

Блакада. Акружэнне. Немцы. Смерць.
Народ фашыстам не хацеў скарыцца.
Дзяцей, жанчын, сагнаўшы пад павець,
Рашылі смагай замарыць чужынцы.

«Вады, вады...»—і тухне бляск вачэй.
Да матчыных грудзей хінуцца дзеці,
А смерць блукае, ходзіць побач дзесьці.

І тут — о дзіва! — зазвінеў ручэй.
Ён праз гады спявае ўсё званчэй —
Тут, на зямлі, і там, у паднябессі.

## 6

Тут, на зямлі, і там, у паднябессі,—
Хвала табе, рабочая рука!
І апяваюць, славяць на Палессі
Сучасніка майго—нафтавіка.

А ён—звычайны, не шукае славы,
Ён ведае: ва ўсіх нафтавікоў
Нялёгкі лёс, але наўздзіў цікавы.
Падчас — не без вяселляў і вянкоў.

Пад гэтымі вянкамі — маладыя,
Якіх чакае ўжо застольны кут.
Не парушайце сцішаных мінут:

Кахаюць сэрцы шчырыя, зямныя!
Перад нягодай выстаяць такія—
Узнёслай працай можна здзейсніць цуд!

## 7

Узнёслай працай можна здзейсніць цуд:
Згадаем хоць бы крокі пяцігодак,
Бо што ні крок—шчаслівым дням салют
І што ні крок—твой подзвіг, аднагодак!

Такім цябе я бачыў, паляшук,
Які глядзеў і пільна і далёка,
Які казаў: «Не пашкадуем рук,
Каб над дрыгвою сонца ўзняць высока!»

І нафтавышкі—помнік тым рукам,
Якія сонца над зямлёю ўзнеслі.
Дык слава ж вам, Сцяпаны і Алесі!

Я забыццю вас, продкі, не аддам.
Насустрач шчасцю крочу я і сам—
Гарывада сагрэла нашы песні!

## 8

Гарывада сагрэла нашы песні—
Мо ад таго, што ўмеем мы спяваць
І ў полі раным-рана на прадвесні,
І выйшаўшы на луг, на сенажаць!

Ах, як зацягне песню першы голас:
«Мне, сіраце, ў жыцці спаткаўся ты...»
А другі голас: «...колас ты мой, колас...»
І трэці голас: «...колас залаты!..»

О не, ніхто не ўбачыць нашы слёзы.
Мы песню-сум звядзём заўжды на жарт
І прамаўчым, што каля нашых хат

Чацвёртай кожнай нестае бярозы...
Гаючыя крыніцы ў нас і росы —
Такі ён, дух наш, і такі ўжо гарт!

## 9

Такі ён, дух наш, і такі ўжо гарт —
Прысню, што да мяне вярнуўся бацька.
Ён, здзіўлены, глядзіць на Нафтаград.
З ілба спаўзла запыленая каска.

Такі ён, дух наш, і такі ўжо гарт—
Не здацца і не ўпасці на калені.
Будаўніком быў бацька мой. Я рад,
Што ўзяў яго прызванне на ўзбраенне.

І не злічыць глыбінных свідравін,
Дзе пошук мой гарывадою ўспеніў.
А колькі будзе іх, такіх імгненняў,

І колькі будзе радасных хвілін!..
Нашчадкам спраў бацькоўскіх стане
сын —
І светлых дум, і велічных імкненняў!

## 10

І светлых дум, і велічных імкненняў
Нам, маладым, напорыстым, стае,
Бо прагнем мы сваіх зямных
здзяйсненняў,
І гэта нам спакою не дае.

Знайшоўшы нафту, мы сябе знаходзім.
Спазнаўшы край свой, спазнаем сябе,
Ніколі і не думаў з нас ніводзін,
Што здрадзіць мары, здасца ў барацьбе,

Бо мы сагрэты мужнасцю бацькоў.
Мы ўнукаў іх падгушкваем з каленяў
І хлеб заечы дастаем з кішэняў—

Сыны ў насляваенных хлапчукоў!
Не знікне радаслоўная вякоў—
Выток, што з нетраў самых заструменіў!

## 11

Выток, што з нетраў самых заструменіў,
Мне свет майго дзяцінства нагадаў,
Калі хадзіў за хатай змрок вячэрні,
А я пры лямпе Коласа чытаў.

І тут мне маці: «Не сляпіся, сынку.
Гляджу — сядзіш во, ночы навылёт...»
І я, прыўзняўшы вочы на хвілінку,
У лямпе ўбачыў нагарэлы кнот.

І газы болей не знайшлося ў хаце,
Якой разжыўся дзесьці матчын брат.
Але жыццё гуло на новы лад:

Вучыцеся — пішыце і чытайце!
Хто вучыцца, той ад дарог да шчасця
Ніколі не павернецца назад.

## 12

Ніколі не павернецца назад
Народ мой з заваёваных вышыняў,
Народ—плугар, і сейбіт, і салдат.
Ён вырас, ён узняўся, не загінуў!

І думкі сёння вельюцца ракой
У будучыню, да стагоддзяў новых.
О як хачу я, каб нашчадак мой
Нас зразумеў, і добрых, і суровых.

Каб ён памножыў нашы перамогі,
Ішоў далей, наперад не наўгад:
Упісваў нафтавышкі ў далягляд,

Звяраў свае шляхі, свае дарогі
І па здабытках нашае эпохі...
Усім натхнёным дадзена так шмат!

## 13

Усім натхнёным дадзена так шмат!
Нялёгка гартавалася натхненне.
Быў край, быў век, быў стоены пагляд,
Былі ў вачах і роздум, і здзіўленне.

Мастак душу укладваў ў палатно —
Каторы раз выводзіў вочы, вусы,
А потым—хату, цьмянае акно:
Маўляў, яны такія, беларусы.

І раптам — нафта, штольні, гарады.
І безліч і здагадак, і сумненняў.
О беларус, ты ўсіх даўно запэўніў,

Што ты звычайны, просты, не святы,
Шчаслівых дзён стаў шчырай песняй ты
І будучыні новых пакаленняў.

## 14

І будучыні новых пакаленняў
Маю зямлю нанова адкрываюць,
І многа звонкіх сонечных праменняў
У воблік краю роднага ўплятаюць.

Адно: мой край падслухаць толькі
трэба—
Дзе шыр лясоў, і сінь імклівых рэк,
І далі, і блакітны купал неба—
Усё тваё, руплівы чалавек.

Які прастор тут для шчаслівай долі!
Прыгожа можна і заможна жыць.
І ўжо ніколі не парвецца ніць

З людзьмі, якім ускрыкнецца міжволі,
Хвалююча, свабодна, як ніколі:
«Дзень добры, нафта! Ты—адна з
крыніц!»

## 15

Дзень добры, нафта! Ты—адна з крыніц
Зямлі-матулі шчодрай і багатай.
На ёй, зямлі, і мне крынічна жыць,
Сцвярджаць сябе усёй жыццёвай праўдай.

Няхай жа б'юць фантаны там і тут —
Тут, на зямлі, і там, у паднябессі:
Узнёслай працай можна здзейсніць цуд—
Гарывада сагрэла нашы песні!

Такі ён, дух наш, і такі ўжо гарт
І светлых дум, і велічных імкненняў:
Выток, што з нетраў самых заструменіў,

Ніколі не павернецца назад—
Усім натхнёным дадзена так шмат
І будучыні новых пакаленняў.



ПРОЗА

*аляксей карпюк*

# ВЕРШАЛІНСКІ РАЙ

## РАМАН-БЫЛЬ

● Мал. Г. ПАПЛАЎСКАГА.



## РАЗДЗЕЛ ПЯТЫ

### 1

У Грыбоўшчыну зноў хлынулі людзі, несучы прароку сваю падтрымку, хваробы і надзеі, захапленне і новыя падарункі. Натоўп акружаў царкву, багамольцы падалі на калені і спявалі Альяшу гімн, напісаны Паўлам Бельскім:

Ты, Ілля, наш святы страннік,
Табе слава і прывет!
Ты вялікі Хрыста йзбраннік,
Служыш богу много лет!

Браты Кавальскія прывязалі чатыры званы. І праўда зрабілі іх на славу: з галасамі магутнымі, чыстымі ды звонкімі. Калі з'яўляўся Альяш, званары хапалі за вяроўкі, і па душах узбуджанага радасцю люду ўдаралі шматпудовыя бронзавыя волаты. З урачыстай узнёсласцю яны абвяшчалі цэлай акрузе:

— Ідзе-е!.. Вось ён, вось ён, вось ён!

Страціўшы ўсялякую годнасць, людзі на цвінтары з дзікім віскам кідаліся да Клімовіча. Яны цалавалі яго світку, ногі і брудныя нагавіцы, якіх чалавек ніколі не мяняў і не чысціў.

— Бом!.. Бам-бам-бам!..

Дужыя целаахоўнікі браліся за рукі, адціскалі ад яго багамольцаў, пракладвалі ў людской масе калідор. Ашалелыя кабеты ныралі на зямлю, выдзіралі травінкі ды пясок, да якіх дакраналася нага «святога», завязвалі ў хусцінкі, каб занесці яе тым, хто застаўся дома. Потым гэтым пяском пасыпалі куточкі сваёй хаціны, каб прыйшло ў дом шчасце, сыпалі на галоўкі дзеткам, каб не ўраклі іх

Заканчэнне. Пачатак гл. «Маладосць» № 3.

злыдні, пасыпалі нават мужчын, каб не запівалі і не ленаваліся, крапілі ім, як магічнымі, чарадзейнымі перламі, свіней і кароў,— каб не браў іх паморак.

## 2

Малебны, спяванне псалмаў на вечарах у Грыбоўшчыне зблізіла паклоннікаў «новага вучэння» і сцэментавала. Альяшовая эліта жыла бесклапотна, прыпяваючы. Каб не трапіць «во искушение дьявольское», каб заглушыць у сабе плоць, змагары за «чысціню веры» ва ўсім свеце прыдумвалі розныя схімніцтвы, адмысловыя пасты, накладвалі на сябе жалезныя вярыгі, да ног прывязвалі пудовыя гіры... «Трэція свяшчэннікі» і не думалі патураць схімнікам. Наадварот, альяшоўцаў ахапіла буйства плоці, і яны далі яму волю.

Заўважыць ніхто не паспеў, калі ля кожнага апостала з'явілася «святая сястра». Апосталы нібы памаладзелі, сталі ўпэўненымі, спакойнымі ды прывязанымі да месца, не вельмі цяпер ішлі з вёскі.

К таму часу Альяш меў ужо амаль семдзесят гадоў, але ён не разумеў, якая пагроза навісла над яго абшчынай і куды ўсё гэта вядзе. Быццам парваліся тыя здаровыя абручы, што так моцна трымалі прынцыпы сялянскай традыцыі, маралі, і ўсё пайшло наперакос.

Каля гуранскай дарогі стаяў спарахнелы крыж, пад ім спрадвеку хавалі дзяцей, што радзіліся нежывыя.

Аднаго разу ў Грыбоўшчыну брыло чалавек сорак багамольцаў. Яны спыніліся пад крыжам, паселі на магільныя капцы і сталі маліцца. Пасля гэтага жанчыны расплялі косы, схадзілі да калодзежа, у бутэльках з-пад малака прынеслі вады і пачалі мужчынам мыць ногі. Выцерлі іх распушчанымі валасамі і пазнімалі з сябе сукенкі...

Гуранскія цёткі трапілі на дзіва выпадкова. Апомніўшыся, бабы з віскам кінуліся назад.

— Што яны там робяць, нягоднікі, дзеці ж глядзяць! — уляцелі цёткі з крыкам у вёску.

Мужчыны пахапалі калы, бізуны і рынуліся да распуснікаў. А потым ужо, расказваючы пра ўсё гэта, дзівіліся, што пілігрымы, як іх ні лупцавалі, толькі нешта мармыталі і хрысціліся.

Раптам ад Альяша адкалоліся самыя верныя яго багамольцы ў Цялушках пад Гайнаўкай. Цялушкінцы аб'явілі сябе анёламі, складчынай купілі шэсць званоў, павесілі пасярод вёскі і па іхнім сігнале ішлі на сустрэчу са святым духам, а потым голыя шпацыравалі па вуліцы. Ад такога карнавала шалелі сабакі, не пазнаючы сваіх гаспадароў. Пад бокам у Альяша ўзнік небяспечны сапернік — чорнабароды Рэгіс. Родам ён быў з Жабінкі.

## 3

У час грамадзянскай вайны адмірал Калчак побач з інфантэрыяй, кавалерыяй, кулямётнымі і сапёрнымі ротамі завёў сабе «Ісусавы палкі». Салдаты гэтых палкоў былі апрануты ў спецыяльную форму з крыжамі. Наперадзе «святых ваякаў» крочылі з харугвамі і малітвамі папы.

Пасля грамадзянскай завірухі будзёнаўцаў і матросаў вярнулася да нас мала, усе яны засталіся ў СССР, затое прыбегла шмат салдатаў разгромленай белай арміі. У вёсцы Падзалуках якраз і асела цэлае аддзяленне «Ісусавага палка».





Аднаго зімовага вечара ў гэтую вёсачку завітаў барадаты, абарваны і амаль босы чалавек. Солтыс праверыў у яго дакументы і павёў на начлег.

— Мікалай Аляксандравіч Рэгіс! — па-інтэлігентнаму прадставіўся госць і сціпла сеў на лаве чакаць, калі гаспадыня накорміць яго бульбай з расолам.

Далікатныя манеры, чыстая руская мова вандроўніка ўзбударажылі вёску, слухаць яго збеглася поўная хата прагных да навін людзей. Барадаты столькі ведаў пецярбургскіх гісторыяў і падрабязнасцяў пра жыццё архірэяў, міністраў і двор, што мужыкі спачатку слухалі яго з пашанай, а потым пачалі насцярожана прыглядацца.

Выйшаўшы з хаты, яны пасталі на вуліцы ды пачалі чухаць патыліцы — хто ж такі завітаў да іх? Ці не пераадзеты гэта цар, які ўцёк ад бальшавікоў?

— Сам прызнаўся, што зваць Мікалаем Аляксандравічам! — спахапіўся гаспадар. — Прозвішча не разабраў. Памятаю, што на «ры»...

— Мужчыны, от пабачыце — ён!..— запэўніў адзін з мужыкоў.— Гасудары любяць так пераадзявацца і да народа ісці!..

Барадатага гаспадыня паклала спаць у бакоўцы на саломе, а падзалуцкія «манархісты» не заснулі ўсю ноч...

Раніцой барадаты прачнуўся ад грукату і замёр. Праз шчыліну ў дошках ён убачыў, як на кухню ўваліліся мужыкі з шапкамі ў руках, апусціліся на калені і шэптам спыталіся ў гаспадыні:

— Мікалай Аляксандравіч Раманаў ужэ ўсталі?..

— Спяць яшчэ!..— гэтак сама шэптам адказала ім цётка.

Далей падзалукцы Рэгіса не пусцілі. Хоць ён адкрыта царом сябе не называў, аднак і не аднекаваўся—усе наступныя дні да глыбокай ночы забаўляў мужыкоў пецярбургскімі байкамі. Мужыкі за гэты час яго адкармілі, абулі, адзелі ва ўсё новае. Іхнія жанкі на Рэгісавым адзенні вышылі карону, царскі вензель з ініцыяламі «М.А.Р.», заслалі брычку дываном, пасадзілі ў яе «цара» і адправілі ў Грыбоўшчыну. Мікалай адчуў, што Альяш разумнейшы за падзалуцкіх мужыкоў, і падабраў адпаведны ключык. Ён нізка схіліў галаву перад «прарокам» і пачціва аб'явіў:

— Айцец Ілля, я прыехаў да вас, каб усе думкі, якія бог будзе глаголець вашымі вуснамі, упісаць у біблію!..

Альяшовых багамолак Рэгіс пакарыў мажным выглядам і галасам. Калі саліст Ісаакія ў грыбоўшчынскай цэркаўцы зацягваў псалм, людзі адзін аднаму паказвалі дзіва — на свечках трымцелі агеньчыкі. У крынкаўскім жа рэстаране, падвыпіўшы, Мікалай дэманстраваў фокус: яму падносілі фужэр з крышталю, ён туды «пускаў ноту», і фужэр рассыпаўся ўшчэнт.

## 4

Кбатараваў Рэгіс у Грыбоўшчыне. У цэркаўку ён хадзіў толькі пад настрой. Прыносіў з сабою кошычак гарэлкі з закускай, замыкаўся ў пакоі і не выходзіў да людзей, покуль не канчаліся запасы. У адрозненне ад Альяша, былы дзячок усё, што зносілі яму людзі, прамантачваў. І трэба аддаць яму справядлівасць, часамі быў ён шчодры.

Аднойчы п'яны Рэгіс уваліўся ў хату да Лапіцкіх, калі там былі адны дзеці, і пачаў раздаваць грошы. Малыя мелі суровы наказ ад бацькоў — у чужых нічога не браць, але на гэты раз паддаліся спакусе, падарунак прынялі.

Назаўтра стары Лапіцкі вывалак з-пад ложка новыя боты ды аслупянеў: у іх ляжалі залатыя рублі з адбіткам цара. Зрабіўшы дзецям допыт, дзядзька пабег да марнатраўцы, паклаў манеткі на стол.

— Айцец Мікалай, вы пакінулі іх учора ў маёй хаце!

— То нашто аддаеш?! — здзівіўся Рэгіс.

— Не хачу чужога.

— Ну і дурань!

— Які ўжэ е!..

У летні дзень Рэгіс наняў за дзесяць злотых Мірона Касцюкевіча з фурманкай. Вынес загорнуты ў прасціну абраз божай маці, уладкаваў яго ў саломе, а фурмана папярэдзіў:

— Толькі не смейся, калі ўгледзіш нешта!..

Мужчыны селі на засланы дыванам воз і паехалі.

— Ну, Мірон, хваліся, якое маеш багацце!

— То вядома, якое... Дзве каровы. Каня. Пару авечак. Жонку і пяцёро дзяцей...

— Яшчэ, напэўна, Бобіка, ката, свінню з парасятамі... Дзеці мурзатыя, босыя, бо ты, боўдзіла, нават абутку ім не купіш!

— Не панскія — летам босыя ўсё лётаюць!..— не пакрыўдзіўся фурман і ўздыхнуў: — Надта не накупляешся таго абутку, няма вельмі заробку цяпер!.. Раней у Гродне на фартах прырабпялі, а зараз — дзе мужыку зарабіць?.. Хібо падвязеш так якого пана...

— Лапухі вы, лапухі!.. Глядзі, Пінкус адных агаркаў ад свечак па два пуды кожны дзень збірае ў Альяша. Воск ператоплівае, робіць зноў свечкі і мае прыбытак!.. Але Піня не лянуецца дзеля гэтага і з Крынак ехаць сюды, вы ж — сядзіце на залатой жыле, ды цяжка вам задніцы падняць!

Мірон прамаўчаў. Ён і сам мог расказаць, як беластоцкі Вацэк яго ж бочкай і канём набіў сабе кішэні.

Праехалі яны Крынкі, накіраваліся ў Алекшыцы. Стаяла цудоўнае надвор'е, на небе — ні хмурынкі. Не было і ветру. Час цягнуўся марудна. Пагойдваючыся ў возе, мужчыны павольна вялі гутарку. На пустой дарозе сяды-тады траплялія ім фурманкі: людзі ехалі ў касцёл.

— Пятро ў палякаў сёння! — успомніў фурман.— Праз два тыдні — наш. От вы скажэце: чаму палякі заўсёды святкуюць раней?.. У гэтым годзе наш вялікдзень быў пасля іхняга на месяц пазней. Дзіво, Хрыстос та ўваскрос адзін?!

— Ты не ведаеш? — ажывіўся Рэгіс.— Калісьці на Галгофу праваслаўныя і католікі адправіліся разам. Дайшлі да Іярдана. Палякі былі абутыя ў чаравікі, знялі іх, перайшлі рэчку ўброд. Нашыя ж былі ў пасталах. Покуль развязалі аборы, разматалі анучы, перабрылі Іярдан, то на Галгофу прышлі няскора. Таму і святкуюць цяпер пасля палякаў!

Заклапочаны фурман глядзеў на пасажыра і не разумеў — праўду той гаворыць ці брэша. Рэгіс сцягнуў з сябе кашулю і перасцярог:

— Праз Малую Бераставіцу добра паганяй каня! Камуністаў там многа, ну іх к д'яблу, гэтых фанатыкаў!.. Скінь кашулю і ты! — параіў Мірону.

— Але!..— спалохаўся фурман.— Каб скура злезла і заражэнне крыві было?!.

— Дурань, няўжо ты ніколі не загараў?!.

— У войску некаторыя хлопцы яшчэ ў сакавіку хаваліся ў зацішак і спрабавалі загараць, але я баяўса.

На ўзгорку паказаўся натоўп пілігрымак з харугвамі.

— О, у Грыбава ўжо паўзуць! — насцярожыўся Рэгіс.— З'язджай,

з'язджай з дарогі, каб не пазналі, а то гэтыя вар'яткі да ночы мяне не адпусцяць!

Калі яны аб'ехалі людзей, Рэгіс прыстаў да фурмана зноў.

— Значыць, кашулю знімаць баішся, каб не было заражэння. А вечарам, вядома, дачок не выпускаеш без хусткі?

— Яшчэ лятучая мыш у валасы ўблытаецца!..

— І малако жонка цэдзіць праз дзірачку ад сучка ў дошчачцы?!

— Ну, мая гэтаго не ро-обіць! І ўвогуле цэдзяць цяпер так толькі некаторыя старыя! — шчыра разважаў Мірон.

— Аднак яшчэ цэдзяць?!. Бушмэны вы, папуасы!.. Мала вас, дурняў, розныя Пінкусы ды Альяшы...

Рэгіс нешта хацеў яшчэ сказаць, але яго размарыла. Ён вяла выцягнуўся на саломе, пазяхнуў, падставіў загарэлыя плечы пад ласкавыя і шчодрыя промні чэрвеньскага сонца і задрамаў.

## 5

Праз пару гадзін фурманка ўехала ў Алекшыцы і падкацілa да рэстарана.

Увесь ружовы ад сонечнай ванны, як распараны хлопчык, Рэгіс загадаў фурману:

— Спыні падводу! Пара паесці!..

Мірон рассупоніў каня, даў яму торбу. Пасажыр старанна прыкрыў дзяругай абраз і паклікаў Мірона абедаць.

Алекшыцкі рэстаран трымаў Клемус Кавальчук, празваны Амерыканцам. Ён быў з тых рэдкіх шчаслівуцаў, хто ў Канадзе зарабіў долары і ў роднай вёсцы пусціў іх на справу. Амерыканцаў млын і рэстаран у Алекшыцах прыносілі немалы даход, толькі Клемус займаўся не адным павелічэннем свайго капіталу. Тоўсты, як бочка, і чырвоны Кавальчук меў за пяцьдзесят, з-за жывата не мог зашнураваць і чаравіка, аднак ажаніўся на васемнаццацігадовай прыгажуні Стасі, любіў пагаварыць, а ў выпіўцы не адставаў і ад маладога.

У зале панаваў прыемны халадок, народу было мала. Абедала пару балаголаў, а каля сцяны з карабінамі на каленях сядзелі два паліцыянты. Бліскучыя боты тонка паскрыпвалі пад сталом, на лакіраваных казырках фуражак, якія ляжалі на падаконніку, блішчэла сонца. Паліцыянты з куфляў пакрысе цягнулі дармовае піва і насцярожана пазіралі праз акно — вартавалі свае веласіпеды.

— А-а, Мікалай!..— як брата спаткаў Амерыканец госця, выходзячы з-за прылаўка.— З тыдзень не было цябе, куды выбраўся?..

— Да каханак на валачонае!..

Абодва зарагаталі: Клемус з радасным захапленнем, што яго госць нарэшце выблытаўся з бяды і нават добра ўладкаваўся, а Мікалай — ні то з выклікам, ні то з крыўдай.

У Берштах быў свой Амерыканец з рэстаранам. Адной ночы ўзброеныя бандыты вывалаклі з хаты мясцовага дзяка Рэгіса, падвялі пад рэстаран і загадалі папрасіць гаспадара адчыніць дзверы. На знаёмы голас дзяка заскрыгіталі замкі, загрымелі жалезныя штабы, і дзверы неўзабаве адчыніліся. У апошні момант рэстараншчык спахапіўся і пачаў страляць. Пярэдняга бандыта ён улажыў на месцы, астатнія разбегліся, пакідаючы ні жывога ні мёртвага ад страху Рэгіса.

Суд потым разабраўся ва ўсёй той гісторыі, дыякана апраўдаў, але не мог завязаць людзям языкі. Па вёсках папаўзлі неверагодныя чуткі, і гродзенскі архірэй звольніў Рэгіса з пасады па прынцыпе: ні то ён украў кажух, ні то ў яго ўкралі.

Рэгіс заказаў абед, абслугоўваць іх узяўся сам гаспадар. Кавальчук увесь час стараўся паказаць, што госця ставіць нараўне з сабой, а іншыя ў зале — драбязa, не вартая ўвагі.

— Во, пачакай! — успомніў Кавальчук, усхапіўся і са жвавасцю грузнай калоды прынёс паперку. — Кіраўнік школы сёння адабраў ад вучняў,— перапісвалі адзін у аднаго!.. Паслухай, што пра вас пішуць камуністы:

Святы Альяш з хмары зваліўся,
Упаў у Грыбоўшчыну ля нас
І чаго, каб хто спытаўся,
Злез стуль боскі свінапас?
Святых сабраўся сонм сяброўскі:
Мі-ко-ла Рэ-гіс, якісь Панкрат,
Трэці — Бельскі наш, Пянькоўскі,
Чварты — Ломнік, канакрад.
Ён ім розум устаўляе,
Нежывым дае жывот,
А цалаваць дык застаўляе
У халявы ад чабот.
Яны круцяць млын свой боскі,
Пылам сыплецца мука,
Едуць дурні малоць з вёскі,
Стуль, з-за Бельска, здаляка.
Ломнік у ролі быў Хрыстуса,
Бельскі вучням быў, Пятром,
Й дым пускалі беларусам,
Аж трудно выкруціць пяром,
Дык будуй, браты, бар'еры,
Закладаймо ТБША,
Шлях пакажам у свае дзверы
Лепшым, чым у Альяша!..

Клемус склаў паперку і з захапленнем паўзіраўся на сябра:

— Ну, як?!.

— Ло-оўка!.. — шчыра прызнаўся Рэгіс.

Упамінанне яго імені ў паэме яму вельмі палесціла.

— І я кажу!.. — з дабрадушнай бесклапотнасцю пацвердзіў узрадаваны, што справіў сябру прыемнасць, Кавальчук.— Папрыносілі ў школу малалетнія, судзіць іх не могуць. Паліцыя пазапісвала прозвішчы і ўлепіць штраф бацькам за гэтыя «бар'еры», га-га-га!..

Фурман уявіў сабе, што чакала мужыкоў, і зыркнуў пад акно. Паліцыянты ўзіраліся на іх з фанабэрлівай перавагай. Яшчэ Мірон заўважыў — калі Клемус адносіў паперку, Мікалай ужо падміргваў яго жонцы...

Нарэшце яны наеліся і напіліся.

— Восем злотых! — выставіў ім рахунак Амерыканец.

Рэгіс паабяцаў заплаціць потым і загадаў Мірону запрагаць каня.

Выпітая гарэлка кружыла галовы.

— Чуў, які пра мяне вершык камуністы напісалі?! — пахваліўся ўсё гэтак жа палешчаны Рэгіс і пашкадаваў: — Эх, толькі паліцыя надрукаваць яго ў газеты не дазволіць!.. А заўважыў, якая ў гэтага Амерыканца Стася ядроная?!. Эх, го-оспадзі!..

Рэгіс зацягнуў «Ярмака», фурман стаў яму падпяваць. Не заўважылі, калі апынуліся ў Кавалях.

Раптам Мірон адчуў нейкую трывогу. Як праз сон, даляцела да яго ўсхваляваная нечая гаворка.

— Здаецца, ён, Рогусь!.. Святы Мікалай!..— крычаў з-за плота

нейкі хлапец, ды так узрадавана, быццам гэтага моманту чакаў усё жыццё.

— І я кажу, што — ён!..— дадаў другі.— Я яго добра ведаю, хлопцы!

— Едзе ўжэ бабаў дурыць!..— крычаў аднекуль трэці.

— Забягай, забягай напярод!.. — закамандаваў першы.

— Хапай каня за цуглі!.. Хутчэй хапай, а то, жулік, уцячэ, як мінулы раз!..

Рэгіс устрапянуўся, бы ўджалены, і адразу працверазеў.

— Паганяй! — віскнуў на фурмана.

Мірон скочыў на калені, з усяе сілы сцебануў каня лейцамі, і воз затраскацеў па вясковым бруку. Уздагон ім паляцела каменне, сучкі і пагрозы.

За вёскай, выкінуўшы з саломы камянюкі, Мікалай пацёр гуз на галаве, паскардзіўся:

— Пячэ-э, зараза!.. Добра, што шапка на башцэ была, а то — амба! — паківаў ён галавой.— Чорт, зусім забыўся, што і ў Кавалях камуністаў поўна!.. Ловяць іх, саджаюць, а яны — сваё!.. От, фанатыкі!..

Супакоіўшыся крыху, Рэгіс успомніў:

— Адправіліся мы аднойчы ўдвух з Ломнікам у Забагоннікі... І паслухай, што было. Ломнік паклаў у палукашак пучок крапівы. «На дурняў!» — кажа. Я яшчэ перапытаў, на якіх, але ён больш не стаў тлумачыць. Уехалі мы ў Меляшкі, гляну я перад сабой, і стала мне моташна: з кіямі нас чакалі цэлай гурбой, а воз табе не ровар, адразу не завернеш!.. Азіраюся, а мой Ломнік з палукашка бярэ крапіву, нюхае сабе і кажа: «Ах, як па-ахне!..» І што ты думаеш?.. Покуль хлопцы з разяўленымі ратамі дзівіліся, навошта гэта ён робіць, мы мінулі іхнюю кампанію, тады — па кані і — драла!.. Цырк!..

## 6

Ужо без прыгод падвода падкаціла пад Семяненкі. З агародаў убачылі іх бабы, з енкам паляцелі наперарэз фурманцы.

— Адно не смейся, глядзі!..— зноў напомніў Мірону Мікалай.— І ўважай, каб абраз нам бязмозглыя дурніцы не раздушылі!..

Праз хвіліну бабы абляпілі воз, палезлі цалаваць Мікалаю рукі.

Фурманка спынілася каля ўдовінай хаты. Умомант расчыніліся вароты.

Мірон завярнуў на падворак, стаў выпрагаць каня, Рэгіс вывалак асцярожна з саломы абраз і набожна перахрысціўся. Маладзіца спрытна разаслала ад воза да парога сувой палатна, кабеты пападалі на калені, а чорнабароды махляр, урачыста ступаючы па кужалі, панёс Жыровіцкую божую маці ў хату. Узбуджаныя бабы замітусіліся, бегалі з сяней у сені.

Гэтым часам Мірон завёў у хлеў каня, даў яму аброку. Не было чаго рабіць, ён сеў на задок і пазіраў, што робіцца.

З хаты ўжо даносіліся спевы. Спявалі зладжана, хораша, зычнымі і маладымі галасамі, бы ў грыбоўшчынскай царкве. Чуваць быў Мікалаеў бас. Мірон пранікся да свайго пасажыра насцярожанай пашанай — ты глядзі, які дзелавы і вёрткі, бы вуж! Ці ўжо наканавана такое чалавеку зверху, ці ён проста ўлез у такую шкуру?

Фурмана вывелі з роздуму — прыйшлі клікаць на вячэру.

У вялікай хаце яшчэ гучэлі псалмы, а Мікалай у баковачцы ўжо чакаў Мірона. Бліскаючы пацеркамі белых зубоў, распрамянёная ад шчасця курносая маладзіца ў вышыванай кофце стала падаваць ім пачастунак — налівала чаркі, не зводзячы з Мікалая зачараваных вачэй.

За вячэрай Мірон добра выпіў, таму не памятаў, як даваломся да хлява, як лёг у воз. Прачнуўся ён позняй раніцой. Дом удавы па-ранейшаму звінеў ад псалмаў і малення — там цяпер ужо бушавалі бабы з суседніх вёсак.

Фурман паснедаў і зноў заваліўся на салому ў возе, пакінуўшы, каб не было душна, адчыненымі дзверы хлява. Скрозь дрымоту Мірон чуў, як счапіліся з-за нечага дзве цёткі, як пачалі тузаць адна адну за каўтуны, як іх развалакалі. Потым з пугай уляцеў на падворак нечы муж, высцебаў сваю жонку і папёр яе дадому...

## 7

Гасцей з Семяненкаў адпусцілі толькі на трэці дзень к абеду.

Мірон выкаціў калёсы на падворак. Курносая маладзіца ў вышыванай кофце стаяла на парозе і румзала, а з Мікалаем развіталіся іншыя бабы — кланяліся яму і абцалоўвалі яго з галавы да пят.

Нарэшце з суседняй хаты цётка прыпёрла сувой палатна і разаслала яго па забруджаным гусіным памётам мурозе. Рэгіс, пакідаючы на палатне чорныя сляды, пайшоў з абразом да воза, загарнуў абраз у прасціну і сунуў яго ў салому. Жанчыны павалаклі свайму богу падарункі — новыя кажухі, воўну, вэнджаныя каўбасы, дываны, пасмы лёну, клалі на воз звязаных гусей, качак, вузялок з грашыма...

Знямоглы, стомлены і схуднелы Рэгіс уваліўся ў воз, шапнуў фурману:

— Паганяй!

Фурманка, аддаляючыся ад істэрычнага віску, апынулася за вёскай. Мікалай усеўся лепей на мяшку і ўздыхнуў, нібы пасля цяжкай работы. Затым пачаў грэбацца ў трафеях.

— На тебе кажух! — прапанаваў Мірону.

Той адхіліўся, як ад агню.

— Ха-ха-ха! — засмяяўся дзяк.— От, лапух вясковы!.. Ну, што з табой здарылася б, калі б узяў?

У гэты час курыца, якая ляжала ля іхніх ног, забрудзіла Мікалаю чаравік. Рэгіс хапіў яе за крыллі, шпурнуў у поле:

— Поску-удзь!..

Чубатка са звязанымі нагамі бездапаможна залапала крыллямі ды павалілася на бок. Мірону стала яе шкода:

— Каршун задзярэ тут або ліса схопіць!.. Бабы ж дарылі!..

— А чаго яна пэцкаецца?!

Рэгіс развязаў вузел — там было дзвесце дзесяць злотых.

— Адразу дзве твае каровы, бачыш?! — паказаў ён на грошы.— А дабра вунь колькі!.. За адзін такі дублёны кажух Пінкус пятнаццаць злотых адваліць, як думаеш? А іх тут — раз, два, тры, чатыры, пяць! І гускі па чатыры злотых, качкі — па два... Лёну колькі!... Пінкус ваш лён адпраўляе за золата ў Англію, у Белфаст!.. Воўну Піня забярэ таксама... Дываны — барахло, у мяне іх цэлая гара сабралася! Адным словам, за ўсё — яшчэ сотні тры!.. Во трэба як жыць, разумееш?!.

Мірон падумаў, што дзяк пераплюнуў нават крынкаўскага гандляра, але сказаць пра гэта не адважыўся.

Мікалай Рэгіс павучаў фурмана далей:

— Вас, дармаедаў, трэба душыць яшчэ доўга, покуль чаму-небудзь навучыцеся! Ты глядзі, колькі я людзям дабра зрабіў за тры дні!.. Думаеш, цёткі не разумеюць, што ўсё — мана?.. Успамінаючы мяне, п'янага, зараз не адна семяненкаўская баба кляне сябе апошнімі словамі і прыгаворвае: «Прыехаў, каб налізацца, а я, дурніца...» Але зараз жа пра гэта забывае. Столькі ўдоў развялося пасля вайны... Хто іх прыгорне, слова добрае скажа. І вось цёткі памаліліся, паплакалі, паспявалі, патанцавалі, паказалі самі сябе — якія яны гасцінныя, добрыя, галасістыя і клапатлівыя,— адвялі душу!

— Адвялі-і, яшчэ я-ак! — паківаў галавой Мірон.

— О, і ты чуў, як падлога хадуном хадзіла, што яны вычваралі?— узрадаваўся Мікалай.— Каб ты бачыў, што было ноччу!.. Засынаю з адной, а прачынаюся з другою... І кожная ласкавая...

Рэгіс усміхаўся сам сабе і круціў галавою.

Паказалася вёска Кавалі.

— Аб'язджай, аб'язджай за гумнамі,— закрычаў, устаючы на калені, Рэгіс.— Няхай іх халера, фанатыкаў гэтых!.. Эх, паліцыі нідзе не відаць!.. Развялі паліцыянтаў столькі, а калі трэба, і не знойдзеш!.. З'язджай з дарогі, табе кажу!

— Грэчка тут узыйшла, патопчам!! — упіраўся Мірон.

— Халера яе бяры, тваю грэчку, праедам, покуль заўважаць. Дай лейцы мне, калі не можаш!.. Но-о!..

Мінулі вёсачку, і Рэгіс зноў развёў сваю філасофію.

Мірон слухаў разважанні былога дзяка і хітравата маўчаў. Рэгіса ён баяўся і паважаў за тую незразумелую сілу яго. Не дарма той закруціў бабам галовы!.. Трэба ж умець так, трэба валодаць чарамі нейкімі, ці што?

— Зайсці ў алекшыцкі ўчастак, напісаць пратакол на Кавалі за гузяк, няхай усыплюць ім?..— разважаў услых Рэгіс.— Трэба правучыць камуністаў!.. Ці мо другім разам гэта зраблю?..

— Ладно, не забілі ж,— параіў фурман.— Лепш едзем дахаты!

— Маеш рацыю, Мірон! Кіруй дамоў. Толькі доўг занясу ў рэстаран!.. Эх, і ядроная ў Амерыканца жонка!..

У Алекшыцы прыехалі яны к вечару. З мілай усмешкай насустрач ім выйшла маладая рэстараншчыца.

— Стася, прывітанне! Восем злотых прывёз твайму Клемусу, анёлачак мой!

— А Кавальчука няма! — з нявінным здзіўленнем заявіла маладзіца.— Паехаў у Гродна па тавар, вернецца заўтра!

Рэгіс насцярожыўся і хвіліну думаў.

— Міроне, слухай. Абраз завязеш у Грыбоўшчыну і пакінеш у мяне на кватэры!.. І кажухі, воўну ды іншае барахло ў сені звалі!.. Гускі, качкі, курэй скідвай тут!.. Лён вязі да мяне таксама!.. Бяры сваю дзесятку, а я забягу на пастарунак, усё ж правучу іх, а то на галаву ўзлезуць...

## 8

Анархія ў абшчыне Альяша панавала нядоўга. Нечаканым забойствам чалавека Альяш паставіў усіх на месца.

Здарылася гэта восенню.

Бульбу ўжо выкапалі, выбралі і агароды, бабы браліся трапаць лён. Заладзілі дажджы, настала на вёсцы ціхая пара, калі па раскіслых дарогах — ні праехаць ні прайсці, а да калядных маразоў яшчэ далёка. Надышлі доўгія і сумныя ночы.

У адну з іх у Грыбоўшчыне на падлогах покатам валяліся чужыя людзі. «Святы ўзгорак» пілігрымы наведалі яшчэ днём, там яны наплакаліся, нажаліліся ўдосталь, большасць з іх не захацела ўжо і вячэры, а леглі спаць, каб на світанні несці свае клопаты і хваробы дадому, які адгэтуль здаваўся ім ужо гэткім утульным і жаданым прыстанішчам.

Тыя пілігрымы, хто паспеў ужо заснуць, варочаліся з боку на бок, скавыталі скрозь сон, плакалі і стагналі — мо якраз гутарылі з анёламі ці адбіваліся ад чорта, які прыходзіў купляць іхнія душы. Некаторыя ж раптоўна прачыналіся, станавіліся на калені і горача маліліся і маліліся да непрытомнасці, да слёз, бо ва сне ўбачылі яшчэ нешта страшнейшае. Адным словам, каб сны тых пілігрымаў можна было чуць, Грыбоўшчына тады, мабыць, задыхалася б ад скавытання і енку.

Але, відаць, найгорш было самым цвярозым. Такія цяпер насцярожана прыслухоўваліся з трывогай да ночы і былі сам-насам з неспакойнымі думкамі.

За акном сумна барабаніў зацяжны дождж. На кухнях пры газовачках гаспадары шаткавалі капусту, а малыя сварыліся з-за качаноў і морквы. Цвярозыя пілігрымы адно цяпер спахопліваліся, што зусім не падрыхтаваныя да зімы, а дома іх чакаюць і не дачакаюцца такія ж самыя падшыванцы. З астаткамі забабоннага страху, яшчэ не смеючы нічога кепскага нават падумаць аб прароку, такія людзі ўжо дзівіліся з сябе, як далёка забрылі: з жахам уяўлялі разлезлую дарогу, па якой ім зноў брысці і брысці. Ногі аж гулі. Страх і падумаць, што заўтра трэба перастаўляць іх зноў. А казалі, быццам нейкая сіла ў Грыбоўшчыне знімае з іх боль...

Сон да цвярозых пілігрымаў не даходзіў. Такія людзі неспакойна ўздыхалі ад думак, як ад зубнога болю, варочаліся, шасталі саломай, масціліся так і гэтак, і не адзін з іх у роспачлівым адчаі казаў:

«Эх, сам ад сябе, халера, нікуды не ўцячэш, не схаваешся, хоць ты трэсні!..»

А ў царкве ўсё яшчэ ішло вячэрняе малебства. Зрэшты, такое слова, мабыць, падыходзіць найменш для вызначэння таго, што там адбывалася.

Перад палаючымі падсвечнікамі ля алтара згрудзіліся аброслыя па самыя вушы, з льнянымі торбачкамі цераз плячо, у пасталах фанатыкі з Валыні. Злева перад імі ляжалі на сталах каравai хлеба, пірагі, бутэлькі ўкраінскага віна, цукеркі. Наверсе гэтых прынашэнняў бялелі паперкі з імёнамі для памінання «за ўпакой», а справа на такіх жа самых ахвярных сталах ляжалі запіскі «за здраве». Тут жа на лаўках чынна, з рукамі на каленях сядзелі апосталы, «трэцця свяшчэннікі» і сам Альяш. Невідочныя вясковыя харысты цягнулі з хораў псалм, а гукі манатоннай песні танулі ў змрочных пустых кутках храма. Ва ўсёй царкве адчувалася тая асаблівая, благагавейная насцярожанасць, якая была заўсёды, калі ў ёй прысутнічаў прарок. Настрою гэтаму, мажліва, не паддавалася толькі адна бацькавая сястра.

Хімка была пры любімым сваім занятку — сачыла за падсвечнікамі. У цэнтры кожнага падсвечніка палаў тоўсты васковы валік з залатымі абадкамі, і ў плоскіх чашах — васковыя дубцы, устаўленыя ў патрончыкі. Для цёткі кожная свечка была душой, за якую недзе маліліся сваякі, і Хімка адносілася да гэтых дубчыкаў з пашанай і набожным страхам. Свечкі стаялі ў яе роўна, адна ў адну, выгаралі амаль датла. Калі ўсе чатыры падсвечнікі, дыхаючы расплаўленым

боскам, палалі ў яе яскравымі вогнішчамі, Хімка не адрывала ад жывога букета агню загіпнатызаваных вачэй, а ў гэты час багамолы з залі падсылалі ёй новыя свечкі і прыглушана адзін аднаму шапталі:

— Брат, сястра, перадай!..

Пярэднія пілігрымы адварочваліся, з набожнай беражлівасцю бралі тоненькія патычкі ды спаўнялі просьбу. І свечкі цяклі, цяклі, цяклі скрозь апрануты ў саматканыя світкі натоўп, кожны дзень, з раніцы да вечара,— толькі Хімка паспявала ўстаўляць іх ды запальваць. І заўсёды ёй было хараша і ўтульна, як цяпер.

Хор скончыў сваю праграму, было чуваць, як спевакі зашоргалі нагамі, палезлі па каменнай лесвіцы ўніз. Хімка насцярожылася — Данілюк узышоў на прыступкі каля яе, сабраўся чытаць пропаведзь. Прысутныя заварушыліся, згрудзіліся яшчэ цясней — даўно такія пропаведзі ў Грыбоўшчыне сталі выліваццa ў свабодныя сялянскія дыскусіі, і таму вячэрняе малебства ў царкве нагадвала хутчэй сходку сялянскага клуба па самаадукацыі ці — спаборніцтва эрудытаў.

— Дзісь, брацця і сёстры, пагаворым аб трэцім дні работы нашага госпада-бога-тварца! — гартаючы вялізную, акаваную жалезам біблію — падарунак пастаўскіх багамолаў, урачыста ўсім аб'явіў Данілюк.

Прапаведнік знайшоў патрэбную закладку і адкрыў старонку. Узняўшы галаву, ён абвёў бліскучымі акулярамі залю, спаткаўся з недаверлівымі і варожымі позіркамі валынян і хвіліну памаўчаў.

— Прарока Іллю прыйшлі мы паслухаць! — закрычалі ўкраінцы, а іхнія вочы загарэліся фіялетавым бляскам.

Апосталы і «трэція свяшчэннікі» абурана загулі. Альяш, які дагэтуль сціпла сабе сядзеў на лаўцы, павярнуўся і накрычаў на фанатыкаў:

— Сціхніце!.. Калі вас сюды ўпусцілі, то стойце і маўчыце, а то выганю!..

У зале запанаваў спакой.

— На трэці дзень, брацця і сёстры,— загаварыў гладка і ўпэўнена Данілюк,— гасподзь бог стварыў для вады ўмясцілішчы і ў некаторых месцах адкрыў твар зямны. Як гэто гасподзь зрабіў і чаму?.. Ён падумаў, што для вады неабходны вялізныя і глыбокія лажбіны, бо ваду інакш не ўтрымаеш — разальецца. З дошак іх парабіць? Не, дарагія, столькі дошак не напасешся!

— Дый яны не вечныя!..— падказалі з лавак.

— Верно!.. І ў госпада было адно выйсце — чашы такія выляпіць з зямлі, дно іхняе выслаць глінай, каб вада не пайшла ў зямлю, а па краях чашаў для трываласці паставіць горныя аграмадзіны. І парабіў ён зямныя чашы, і ўзняў горы. Умясцілішчы, якія гэткім чынам атрымаліся, гасподзь напоўніў вадой і назваў іх марамі, а суш — зямлёй. І рэча бог,— зачытаў Данілюк з бібліі: — «Да сабярэцца вада ажэ пад небесем у сабранне адзінае і да з'явіцца суш і бысць тако: і сабралася вада, і з'явілася суша. І нарэчэ бог тую суш зямлёю і сабранне вод нарэчэ морам!..»

Покуль Данілюк клаў на падстаўку акаваную жалезам біблію, покуль здымаў акуляры, нейкі дзядзька ўставіў смялей:

— О, горы е высо-окія!.. Мы, як былі ў бежанстві за Армавірам, то наглядзеліса на іх. Часамі, як глянеш у поле пры добрым надвор'і,— вышэй аблокаў яны тырчаць, а пачнеш ісці, то будзеш дзень, два і тры плясціса, а горы гэтак жа ўсё маячыць будуць!.. І стро-омыя, стро-омыя!..

Хімцы надта хацелася дабавіць пра тое, што чула ад страшаўскай Кірылíхі: «А бежанцы, якія лазілі на Каўказскія вяршыны, апавядалі, што там нічога няма. На кожнай гары вісіць толькі абраз Жыровіцкай мацеры божай на грушы і гарыць лампада!..» Але ж няможна было ўвязвацца ў гутарку мужчын. Дый у яе быў свой клопат. У жывым, бы з расплаўленага золата, густым частаколе адзін тоненькі дубчык пачаў хіліцца, а пасярэдзіне ў яго выперла каленца.

— Госпадзі, даруй мне, разявe!

Цётка палахліва выдзернула крывы дубчык з сярэбранага патрона, каленца падставіла пад агонь, распалавініла і перапаліла нітачку кнота. Такім чынам у яе атрымаліся ўжо дзве свечкі. Хімка беражліва пагапальвала каратышкі і паўстаўляла зноў. Нейкі чалавек хацеў памянуць за ўпакой дзве душы, не хапіла яму, мабыць, грошай, і ён узяў свечку адну. Толькі ўсявышні — справядлівы, дзе ты яго ашукаеш! І ён раздзяліў душы паасобку...

— Ды-ыхайце!.. Квітнейце сабе!.. Ра-адуйцеса!..

З жаласці да новых кволых агеньчыкаў, з замілавання да сябе ад таго, што яна гэткая чулая, старанная і справядлівая, у цёткі нават выступілі слёзы. Аднак усе гэтыя перажыванні ў яе занялі секунду, цётка ўжо слухала ўважліва апостала.

Данілюк ахвотна прыняў падказку слухачоў і звярнуўся да людзей, як да паслухмяных вучняў:

— Такім чынам, калі суш паказалася?

Бабы і мужчыны адказалі хорам. Разам з імі прашаптала і Хімка:

— Ужэ на трэці дзень!

— Правільно!..— падбадзёрыў іх прапаведнік.— Яшчэ ні ў паветры, ні ў вадзе не было жывых істот, а суш у гэты дзень пачала выдаваць з сябе цуды. З грубай, шэрай і зярністай, як шрот, зямлі, са звычайнага пяску, са жвіру, скал сталі вылазіць дзіўныя расліны!.. З ілу, з гліны пачало выпіраць, праз каменні сталі прабівацца на свет божы далікатныя кветкі, рознага роду травы, размаітая збажына і ўсе віды траў...

— Пачакай, Ляксандр, не спяшы! — запыніў прапаведніка шчыра зацікаўлены Ломнік.— А праўду гавораць, што вады на зямлі болей?

— Ну, ска-ажаш! — закрычалі на яго абурана.

— Гэто праўда, брацця і сёстры! — аўтарытэтна запэўніў іх апостал.— Вады — дзве трэціх, а сушы — толькі адна!

— О! — узрадаваўся, што надарыўся выпадак уставіць слова, стары Майсак.— Калісьці мы з Ляксандрам ездзілі ў Канаду пілаваць лес, то цэлых два тыдні плылі караблём да той Амерыкі, памятаеш, Волесь?.. Вада аж абрыдла нам!.. І салё-оная, у рот не ўзяць!

— А ў вайну з японцам нас пад Мукдэн перлі морам тыдняў з пяць! — закрычаў з цемры другі дзед.— Ужэ і верыць перасталі, што да берагу прычалім, толькі ляжалі ў трумах і маліліса!..

Валыняне ледзь стрымлівалі сябе ад абурэння. Ход іхніх думак развіваўся прыкладна так: калі нейкі лысы гэтак цікава гаворыць, то як ужо гаварыў бы прарок? Чаму не даюць яму слова?!.

Да ўкраінцаў нікому не было справы.

— А ў нас гэтай вады, каб капусту паліваць і то не хапае,— азваліся з кутка кабеты.

— Няхай гаворыць апостал Ляксандр, не перабівайма!..

— Нічого, нічого, яшчэ паспею, скажу і я! — памяркоўна заявіў галоўны Альяшоў прапаведнік. Бывалы дзядзька Аляксандр, які аб'ездзіў паўсвету, усё больш даваў волю сваёй фантазіі:

— Яе столькі на зямлі, колькі трэбо для існавання кожнай істоце: тварэц прадбачлівы, усё стварыў мераю, лічбаю і вагой,ісцінно вам гавару!

Данілюк і сам ведаў, што гаварыць з мужыкамі ўмее, але паспрабуй дагадзі старому. Таму ён, ужо выціраючы свой пакаты, успатнелы ад напружання і гарачыні лоб, няўзнак паглядаў на Альяша. А Хімка ў гэты час забылася на свае мігатлівыя душы, лавіла кожнае слова апостала, каб потым расказаць усё страшаўскім бабам ды мецъ аргументы адбівацца ад брата.

— Ляксандар, раскажы яшчэ пра сонца! — папрасіла Хрысціна.— Кажуць, яно большае за зямлю. Хібо можа гэто быць?

Данілюк не спяшаўся, даў выгаварыцца іншым.

— Вялікае! — азваўся сам «прарок».— Глядзі, свечка якая вялікая, а аднясі яе далёка — і маленечкай здасца.

— Вядома, маленькай, Ілля Лаўрэнцьевіч! — ахвотна падхапіў Данілюк.

— Прарок Альяш! — паправілі апостала абураныя ўкраінцы, і іхнія вочы зноў загарэліся злым агнём.

— Ладна вам!.. Кажу — памаўчыце!..— закрычаў на іх Альяш зноў і прадоўжыў: — Свечку аднясі — і ўжэ не відаць. А заедзь у Крынкі або нават у Кранштат, і ўсюды сонцо свеціць аднолькаво, хоць і там здаецца малым!

— Правільно айцец Ілля гаворыць! — узрадаваўся Данілюк.— Нават заедзь у Амерыку, і там яно гэтак жа грэе.

Заля ажывілася. Адзін дзядзька, нібы ў сябе на прызбе, спытаўся:

— Скажы ты мне, Ляксандар, адкуль маланка бярэцца? Летам, як толькі грымне, так і глядзіш, ці не курыць твой хлеў!.. Нядаўна ў Плянтах як смальне Косцю Лавіцкаму ў гумно!..

— Але чаму гэто, скажы, смальнуло яму?! — ні то дапытваўся, ні то дзівіўся Майсак.— Косця і да цэркві хадзіў, і такі далікатны — дзіця табе не пакрыўдзіць!..

Данілюк абвёў вачыма прысутных. Не, чакалі, што скажа ён.

— У Лавіцкіх ля хутара балото. У балотнай вадзе жалеза много — калісь нават руду з яе варылі. У жалезе — магніт, а магніт прыцягвае перуны.

— Ляксандар, то няхай біла б у вербы над рэчкай, якія стаяць у самай балаціне, а то — у будыніну на сушы!

— Праўду кажа Ляксандар,— азваўся Альяш зноў.— Пярун — той жа магніт. Плянты стаяць на поўнач ад балота, і стрэлка магнітная цягне на поўнач. Таму і стрэліло туды!

Людзі нібы толькі цяпер убачылі Альяша, і ў царкве запанавала поўнае пашаны маўчанне. Мужыкі паківалі галовамі: «Недарма Альяш служыў дзеншчыком у афіцэра, трымаў у руках компасы, магнітную справу ве-едае!..» Украінцы глядзелі на яго зачаравана.

— Гэто верно! — пацвердзіў словы прарока Данілюк.

Адчуваючы, што трэба сказаць яшчэ нешта, Альяш закрычаў:

— Пярун — знаменне гнева божаго!.. У Грыбоўшчыне танцы кожную суботу ўстройваюць, курацъ!.. Пабяруць папяросы ў зубы, валэндаюцца па вуліцы і лынды б'юць, а хібо гэто да дабра давядзе?! Каго ты ашукаць хочаш? Бо-ога?! Вунь як перад бурай баляць зубы ці галава, як у баку коле! А перад дажджом як ломіць?!

— Святыя словы кажа айцец Ілля,— прыйшоў яму на выручку Данілюк.— Прырода — адзіная, і ў ёй усё адно з адным звязана, дзякуй табе, госпадзі, за мудрасць тваю! — «Апостал» перахрысціўся на абраз.— Айцец Ілля хацеў сказаць, што цераз прыроду і мы цесна звязаны з госпадам богам, праз яе ўсявышні нас карае і мілуе! А цяпер, брацця і сёстры, давайце перад сном скажам «Отчэ наш!». Па тры разы!..

Акрылёны «апостал» упаў на калені і пачаў шаптаць «Отчэ наш», а па яго прыкладзе зашапталі астатнія.

— Амін! — першы ўзняўся Альяш. — Царкву буду закрываць!

— Амін! — устаючы, адгукнуліся мужыкі.

— Амін! — апошняй прашаптала Хімка і фукнула — патушыла першую свечку.

## 9

А ў гасцініцы ў гэты час чулася п'яная гутарка, жаночы смех і хрыплы голас патэфона.

Толькі ў адным пакоі на другім паверсе панавала цішыня. Тут сабраліся трое: Бельскі, Мікалай Рэгіс і даўно не голены фурман. Смокчучы папяросу і пыхкаючы клубкамі дыму, Бельскі пісаў вершы. На сцяне над ім віселі два партрэты барадатых дзядзькоў — «прарока» Альяша Клімовіча і графа Льва Талстога. Былы актывіст Грамады напэўна не прачытаў ні адной кніжкі Льва Мікалаевіча. Павел шанаваў графа, пакланяўся яму толькі за тое, што яго праклялі папы.

Фурман у верхняй вопратцы валяўся на нарах. Ён раніцой меўся везці на станцыю вышытыя ручнікі, дываны, воўну і лён.

За сталом, на якім стаяла недапітая бутэлька гарэлкі, сядзеў Мікалай Рэгіс. Яго вышываная касаваротка з вензелямі і царскай кароной была расхрыстана, на смуглых грудзях вісела на ланцужку вязлівае медное распяцце.

— Мёртвы сезон! — ні то ўслых падумаў, ні то прамовіў да фурмана былы дзяк.— Цяпер тут будзе застой да вясны!.. Госпадзі, як перажыць зіму?! У горад падацца, ці што?.. Сумота, хоць ты плач!..

Рэгіс неахвотна перакуліў паўшклянкі «вудкі выборовэй» сабе ў рот, з глінянай місы ўзяў лусту хлеба, цыбуліну, таўкануў яе ў соль і з хрумстам пачаў жаваць.

— Як ні плакаў — бог аднакаў! — прабурчаў фурман, засадзіў пяцярню за пазуху і пашкроб сабе бок.

— Што, вошы заелі? — паспачуваў яму Рэгіс.

— І дзякуй богаві, калі яны е!..— сур'ёзна адказаў фурман.— Вош толькі ад мёртвага ўцякае.

— О-о, трупы яны пакідаюць адразу... Бачыў. За вайну ўсяго нагледзеўся я...

Павел нервова зацягнуўся папяросай і з шумам выдыхнуў дым. Прыслухаўшыся да свайго голасу, ён стаў рыфмаваць, адбіваючы такт:

— Ты тру-дов по-нес не-ма-ло, слёз не-ма-ло ты про-лил... Гм... О!.. И сам бог те-бя за это... за это... За это?.. И сам бог те-бя за э-то ру-кой щед-рой наг-ра-дил!..

Паэт ліхаманкава ўзяўся запісваць знаходку.

— І ахвота чалавеку! — паціснуў плячыма Рэгіс, ды ў гэты момант нехта нясмела пастукаў у дзверы. — Прошэ!.. — па-польску дазволіў ён.

З вядром вады і венікам увайшла Тэкля. Маладзіца тры разы пакланілася партрэту Альяша, затым — Талстому, перажагнулася і мякка папракнула мужыкоў:

— Зноў накурылі, хоць сякеру вешай?! Ой, мужчынкі, мужчынкі, як вы так мо-ожаце!..

— А, святая душа, Фёклачка! — узрадаваўся Рэгіс. — Навядзі парадак у нас, мілая, навядзі!..

— А як жа, навядзеш тут у вас!.. Вазончыкі ад дыму во зусім ужо зачахлі!.. Хоць бы фортку сабе адкрылі, ці што?! — палезла яна белым каленам на акно.

Покуль маладзіца мокрай анучай працірала падлогу, падбірала са стала акуркі, покуль разгладжвала на нарах саматканыя посцілкі, Рэгіс не спускаў з яе ласых вачэй.

Агледзеўшы яе з ног да галавы, шчыра здзівіўся:

— Гэтыя радзімкі на шчацэ і шыі, гэтыя поўныя но-огі!.. Колькі разоў на яе гляджу, столькі думаю — ну ж і бабу падчапіў сабе наш прарок!

— Альяш хоць стары, але — жывы! — прабурчэў фурман.

— Ты сур'ёзна?!.. Што ён у свае гады можа рабіць з ёю, ды яшчэ на адной грэцкай кашы? Чудзяса твае, госпадзі!..

— Скажаце вы таксамо, айцец Мікалай! — засаромелася Тэкля.

— Пра нашага старога смешна апавядаў шудзялаўскі войт, паслухай. Альяшу прысудзілі палякі ордэн. За царкву. Прыслалі яму паперу, што ўзнагароду можна выкупіць у Беластоку за дваццаць злотых. Стары ўзяў торбу хлеба, прыбыў у гміну і папрасіў: «Пане войце, а нельга гэтыя грошы адсядзець у арыштце, як за штраф?!.»

Фурман гумару не зразумеў:

— А што?.. Бо гаспадарлівы!.. Нічога не скажаш на яго, грошы берагчы ўмее, і народ любіць яго за гэто.

— Цьфу, лапух, табе нічога не скажы!..

Тэкля мудра прамаўчала. Яна была з тых жанчын, якія за наіўнай сціпласцю ведаюць, чаго хочуць. Жанчына разумела — Рэгіс гаворыць пра «прарока» з зайздрасці, і такая размова нічога Альяшу не пашкодзіць. Наогул з ёю тварылася дзіўная метамарфоза.

Быў час, калі ў горадзе Тэклю да таго спойвалі, што на другі дзень яна на сметніку шукала коркі ад бутэлек і жавала іх. Бацька яе сілай пасадзіў у фурманку і прывёз дамоў. У празнікаўскага памешчыка батрачыў сірата Юзік, якому даўно трэба было жаніцца. Стары прывадзіў яго да сябе чаркай і ўгаварыў стаць прымаком. Але Юзік неўзабаве пачаў здзекавацца з жонкі. Тэкля пайшла аднойчы з бабамі ў Грыбоўшчыну і да мужыка болей не вярнулася. Пражыла яна тут чатыры гады, знайшоўшы сабе прытулак у Альяшовай хаце.

Паміж імі ўстанавіліся дзіўныя адносіны. Кожны раз, молячыся перад абразамі, Тэкля клялася ў сваіх грахах, кожны раз Альяш бэсціў яе апошнімі словамі. Яна плакала, і гэта прыносіла ёй аблягчэнне. Толькі апошнія месяцы яна паспакайнела і гора сваё пачала забываць.

Мабыць, адзін псіхолаг мог бы вытлумачыць, чаму ў былой гродзенскай прастытуткі прабілася ў Грыбоўшчыне такая сціпласць і душэўная чысціня. Жанчына нібы расквітнела і ў трыццаць чатыры гады аж свяцілася нейкай дзявочай прывабнасцю. Яна і мінуты не магла выседзець без справы. Да ўсяго, што зрабіў Альяш, яна адносілася з беражлівасцю руплівай гаспадыні. З такой жа цеплынёй адносілася і да яго нядобразычлівых сяброў, бо надта хацела, каб гэтая непрыязь была часовая.

Пачуўшы тое, што сказаў Рэгіс, Тэкля патаемна перажагналася і пакланілася на партрэт Альяша. Тады сціпла і добразычліва папракнула жартаўніка:



— Вы — як заўсёды, айцец Мікалай, жартуеце!

— Чаму так думаеш? Я ж — сур'ё-озно!

Тэкля наспрабавала перавесці гутарку на іншае.

— І нашто вы, айцец Мікалай, столькі п'яце?!.

— Ты лічыш — грэх? Дурненькая, дык жа і сам Хрыстос піў!

— Ска-ажаце вы!..

— Не верыш?!.— Рэгіс здаравеннай ручышчай хапіў распяцце, адцягнуў на ланцужку на выцягнутую руку: — То Іаан Хрысціцель быў непітушчы, а гэты — яшчэ як піў, і людзям нават піць дапамагаў!

— Нібы гэто праўда!

— Што ты! На вяселлі ў Кане Галілейскай, дзе ён піраваў, не хапіла чым напоўніць бакалы, дык Хрыстос са звычайнай вады нарабіў віна для ўсёй кампаніі, пра гэта ў евангеллі напісана!

— То віно, а вы — гарэлку!

— Бо там жыта не расце, тыя людзі гарэлкі і не ведалі!.. А так напэ-эўна піў бы і ён яе — гарэлка ж лепшая!.. Што для мужыка вінаграднае, падумай! Скажу табе шчыра: ён бы спірт палюбіў!..

Хвіліну яны памаўчалі. Павел, зацягнуўшыся папяросай, прачытаў услых:

— Он ве-ро-й и прав-до-ю мир прос-ве-тит, поз-най-те те-перь и е-го всю семью!.. Добра!.. Адзін куплет гатовы!..

— Гэта ён пра цябе, Фяклуша! — падміргнуў Рэгіс.

— Навошта вам чапаць божага чалавека, айцец Мікалай? — з забабоннай пашанай да паэта сказала Тэкля.— У айца Паўла якраз малітва льецца па ўнушэнню духа святога!

— Ха-ха-ха-ха!.. Харо-ошая ты, дальбо!.. Усяму ў цябе знойдзецца апраўданне, да ўсіх ты гэтак хараша адносішся!.. Мне б такую жонку!.. І на назе радзімка!.. Колькі іх у цябе?! Не ведаю, чаго ты да смарчка гэтага прыліпла, што ты ў ім убачыла?

Маладзіца выцірала шыбіну і нібы не чула.

— Скончыўся ён даўно, нічога больш гэты дзед не выдасць!.. Усе яго паклонніцы цяпер да мяне ліпнуць, як мухі, а да яго ходзяць толькі бяззубыя бабулькі!.. Дзівачка з цябе! Кожная дзеўка адхапіла сабе маладога апостала, а ты, гэткая прывабная?!.

— Жарабцоў нахапалі?!. — маладзіца апякла Рэгіса нядобрым агнём сваіх цёмных вачэй.— Нахапалі і прамантачваюць сваю жысць! — кіўнула яна галавой за сцяну, з-за якой далятаў віск. — Наглядзелася я на іх за свой век, і радзімкі яны мае папалічы-ылі, хопіць аж занадто!..

Рэгіс сумеўся.

— Бо ў яго бог е, а ў вас няма!

— Які-і бог, ты пра што-о?!.

Але маладзіца зрабіла выгляд, што непрыемнай хвіліны паміж імі не было, і пабегла ў куток з венікам.

— Ой, і там павуціна!

Наводзячы ў кутку парадак даўжэй, чым трэба, Тэкля загаварыла ўжо зусім добразычліва, не азіраючыся:

— Яшчэ спаткаеце сваю, айцец Мікалай, кожная за вас пойдзе!..

Рэгіс паўзіраўся на яе разгублена:

— Дзякуй, што пацешыла... Аднак ты з хара-актарам!.. Павел, я не чакаў ад цябе такога!..

— Бо вы таксама скажаце часамі, айцец Мікалай, што і слухаць не захочацца,— ні то апраўдвалася, ні то папракала яго Тэкля.— Знайшлі каго прыводзіць у прыклад!..

Чалавек яўна быў збіты з тропу. Ён хвіліну памаўчаў, тады глыбока ўздыхнуў і пачаў няўпэўнена:

— Гм, і я, па-твойму, нічога не варты?.. Гм!.. І ў мяне няма ў душы бога?!. Няўжо я так нізка скаціўся?!. Ведаеш, мілая Фяклуша, чаму ўсё ж такі я п'ю? Мне — надта цяжка!..

— Праўда? — яна добразычліва падтрымала яго хлусню.

— Бо я ўсе вашыя грахі на сабе нашу!.. Усе людскія беды ўзваліў на сябе цяжкім каменем!.. І таму мне вельмі бывае трудна!.. А вып'ю — і лягчэй адразу, разумееш?.. Сядай, прычасціся і ты, не саромейся! Звычка прычасця пайшла таксама ад Ісуса Хрыста!

Рэгіс па-панібрацку і з любоўю даў пстрычку распяццю.

— Эх і мужык быў — што трэба! — і павярнуўся да Тэклі: — А ты сядзь! — цёплыя і вільготныя вочы яго прасілі з разгубленай вінаватасцю, настойліва і прагна.— Ні Павел, ні гэты багамол — не п'юць, абодва — святыя праведнікі, аднаму мне даводзіцца трымаць фасон...

У голасе, у манерах гэтага буйнага шэльмы, які аж у Крынкі ездзіў да цырульніка стрыгчы і пырскаць адэкалонам сваю чорную, як смоль, бародку, была такая мужчынская прывабнасць, якая прымушала вар'яцтваваць не толькі вясковых бабаў. У Рэгіса закахалася нават прыгожая памешчыца са Шчорсаў і паклікала яго ў прымы. Фанатычная каталічка запатрабавала ад Мікалая прыняць каталіцызм. Ён адмовіўся, і багатая прыгажуня пайшла ў манастыр. І Тэкля бачыла ў Рэгісу гэтую прывабнасць, толькі яна не кранала яе. Маладзіца захаплялася ім, як малюнкам. Але добрай ад шчасця і сардэчнай жанчыне захацелася пашкадаваць чалавека, і яна прысела на край табурэткі.

У гэты момант на першым паверсе пачуўся грукат у дзверы. Спевы, крыкі і патэфон у гасцініцы сціхлі.

— Хто там? — насцярожылася маладзіца.— Пачакайце, гляну, каго так позна нясе!

Тэкля вылецела з пакоя.

Выйшаў у калідор і Рэгіс. З дзвярэй высунуліся галовы. Тэкля кагосьці ўнізе адчытвала.

— Юзік?!. Зноў прыплёўся?!

— Пачакай, пагаворым! — прасіў мужчынскі голас.— Прыйшоў, каб заявіць: ладна, дарую табе ўсё!..

— А-а, даруеш?.. Але ці я прасіла ў цябе гэтага?!

— Перастань і паслухай! — цвярдзіў мужчына.— Хату будую ў Бераставіцы! Ужэ толькі печы засталоса скласці. Хадзем, будзем жыць разам!.. Кафлі купім белай...

— А потым будзеш зубы лічыць мне, як у Празніках?

— Хай мая рука адсохне, калі больш на цябе падніму!

— Ве-едаю!.. Толькі цяпер так гаворыш, бо цвярозы!.. А нап'ешса, людзі ўвядуць што ў вушы, і зноў жывёлінай станеш!..

— Так — не?.. Жонка ты мне ці не жонка?!.— голас у мужчыны памацнеў.— Ану, пайшлі, бо магу і ў паліцыю заявіць!

— Ах ты, смурод! — узарвалася Тэкля.— Заяўляй хоць самому Пілсудскаму ў Варшаву! А я ўсё роўно да цябе не вярнуса, бо не люблю, чуеш? Бегаў па вёсцы, бэсціў апошнімі словамі, цяпер адумаўса?.. Жыць буду з тым, хто мне падабаецца!

— Ну, ну, ведаеш, перад кім...

— І не палохай, бо не баюса!.. Табе ўжэ аднойчы сказала — каб тваёй нагі тут больш не было! А цяпер марш адгэтуль, бо скажу самому Іллі, і ён цябе хутко адвядзіць!





— Ы-ых, знайшла кім палохаць!

Рэгіс пачуў, як Тэкля бразнула дзвярыма і падперла іх дручком. Маладзіца ўся аж кіпела. Рэгіс глядзеў на яе з пашанай — нібы першы раз убачыў.

## 10

Пакінуўшы гасцініцу, Юзік выпіў для храбрасці ў знаёмых, пасядзеў. Раз'ярыўшы сябе чаркай яшчэ больш, выйшаў на вуліцу і стаіўся ў цемры каля ліпы.

«Прарок» меў звычай хадзіць адзін.

Юзік дачакаўся, калі той вяртаўся з царквы, пазнаў старога па белай барадзе. Спачатку ён загаварыў да Альяша па-добраму — папрасіў адпусціць Тэклю. Для старога гэта было нечаканым, і ён маўчаў.

Саламяны ўдавец усё прасіў:

— Забяруса ў Супрасльскі манастыр і любы абраз табе за Тэклю прывалаку, чуеш?..

Стары хацеў яго абмінуць, але Юзік грудзьмі загарадзіў яму дарогу:

— Або грошай збяру, колькі скажаш! Слухай, дзед, ты ж любіш іх!.. Кажуць, і па гумнах трымаеш, і ля царквы закопваеш!.. Колькі табе — збанок, каструлю?.. Збяру, адно пусці Тэклю!

Ці з-за таго, што жанчына была яму дарагой, ці з-за ўпартасці Альяш маўчаў. Сапернік цісную яго да плота:

— Нашто табе, кончанаму чалавеку, маладая?.. І слухай: калі ты верыш сапраўды ў бога, то ён цябе на тым свеце па галоўцы не пагла-адзіць, на самае дно ў кацёл са смалой запіхне!..— Юзік хапіў старога за бараду і пачаў валтузіць.

— Пусці, гіцлю!..— Альяш упёрся плячыма ў штыкеціны, адарваў Юзікаву руку, адпіхнуў яго і віскнуў: — Ідзі адгэтуль, цацаліст ты!..

— А-а, не здаешса, па-добраму не хо-очаш?!.

Юзік палез біцца. Маладзейшаму на паўтара пакалення няцяжка было падмяць пад сябе Клімовіча, пакласці ў лужыну і сесці на яго вярхом. Але далей хлопцу не пашанцавала.

Альяш вывалак з халявы кілаграмовы ключ, стукнуў Юзіку ў скронь і аглушыў. Побач ляжалі нечыя дровы. Ускочыўшы на ногі, «прарок» хапіў ёмкі яловы кругляк і пачаў хвастаць Юзіка па галаве.

Адкінуўшы кругляк, задыханы Альяш паваloкся быў ужо дамоў, але адумаўся і з паўдарогі вярнуўся. З вялікай цяжкасцю, ледзь не надрываючыся, Клімовіч завалок нежывое ўжо цела пад цэркаўку, кінуў у яму, адкуль бралі святы пясочак, і закапаў. Адпачыўшы крыху, спаласнуў у лужыне рукі, на ўсякі выпадак памыў ключ і патэпаў дахаты, дзе яго чакала ўстрывожаная Тэкля.

— А чаго ён ле-ез?!.— плаксіва, нібы апраўдваючыся, нібы просячы ў Тэклі прабачэння, першым загаварыў стары. Потым ускіпеў ад злосці: — Гэто праз цябе, суку!.. На калені, распутніца!..

## 11

Альяш не прадбачыў, што яго святога месца не прызнавалі сабакі. Яны за ноч раскапалі і вывалаклі з ямы труп. Людзі раніцой убачылі нежывога Юзіка і пабеглі заяўляць солтысу. Курза Сцяпан ускочыў на каня, памчаў у гміну.

К абеду прыехалі з Саколкі следчыя.



Чыноўнікі знайшлі яловы круглячок са слядамі засохлай крыві — каровы, якіх пастухі гналі на пашу, насцярожана цягнулі да яго мызы, трывожна мычэлі.

Знайшлася і цётка, у каторай Юзік выпіваў ды хваліўся, што пойдзе вырываць бараду і выбіваць апошнія зубы саперніку. «Святыя дзявіцы» дабавілі следчым пра сварку паміж Тэкляй і Юзікам.

Пад вечар Альяша арыштавалі.

## 12

Выязджаючы ў Грыбоўшчыну па сігналу з гміны, сакольскія следчыя старасту нічога не сказалі. Даведаўся павятовы начальнік, што за вязень сядзіць у яго турме, і перапалохаўся. Стараста адразу памчаў у Беласток і з ваяводам Генрыкам Асташэўскім пазванілі ў Варшаву. Кардынал выклікаў начальнікаў да сябе.

Прымас Польшчы ў пурпуровай мантыі ўважліва выслухаў ваяводу са старастам і, кажуць, вельмі здзівіўся:

— Панове, то гэты мужык з такім хара-актарам?.. Але ж — выдатна!.. Ён і праўда той, хто нам патрэбен! Не будзем, мае дарагія, суровымі к людзям. І ў саміх ёсць эканомкі. Ды і віна яго не вялікая — з такім жа поспехам мог яго прыкончыць і сапернік, але лёс выпаў зрабіць гэта яму! Панове, вы самі ведаеце, якое апусташэнне ён нанёс праваслаўнай царкве, як на фоне гэтага вар'яцтва выглядаюць нашыя касцёлы на Крэсах, па рэляцыях вашых рэферэнтаў віданць!

— Вы маеце слушнасць, ваша эксцэленцыя! — пачціва падтакнуў і ваявода.— Ды і ў грыбоўшчынскім бедламе столькі нашага! Царква прарока больш на касцёл падобна, у цэнтральным месцы вісіць матка боска Чэнстахоўска!..

— Ведаю!.. Панове і на мінуту не маюць права забываць, што Ватыкан аб'явіў вашы землі «тэрыторыяй місіянераў». Трэба нам канчаткова выпіхнуць адтуль праваслаўе і адміністрацыйным апаратам наблізіцца да граніцы Савецкага Саюза. Гэта аграмадзіна вось-вось рассыплецца. Грузіны, татары, башкіры даўно чакаюць, каб узняць разню, якой яшчэ свет не бачыў, тады ваша ваяводства стане базай для паходу каталіцкіх місіянераў на Усход. Не забывайце, панове, вялікага каталіка Стэфана Баторыя!.. Такой спрыяльнай атмасферы сталіца апостальская не мела на Крэсах Усходніх ужо трыста гадоў!..

Стараста і ваявода пачціва ківалі галовамі.

— Такім чынам, мы не зацікаўлены, каб глушыць гэтую секту. Інтарэсы святой веры патрабуюць, каб захаваць яе. Пра вашага мужыка ведаюць нават у Ватыкане!.. Так, так, вашы рэляцыі ўжо запатрабавалі туды!.. Гэтага арыгінала трэба зараз жа выпусціць!.. Думайце самі, як арганізаваць усё, вы людзі вопытныя. Канфлікту з паліцыяй мець не будзеце. Міністэрства ўнутраных спраў таксама Альяша падтрымлівае. Клімовіч глушыць работу камуністаў, і генерал Славой-Складкоўскі выдасць дадатковыя распараджэнні паліцыі. Захавайце асцярожнасць. Барані вас бог выдаць сябе: рабіце так, каб ніякія весткі не пранікі ў левыя газеты, а тым больш — за граніцу... Зразумела?

— Будзе выканана, ваша эксцэленцыя!

— Я са свайго боку памагу вам таксама. Папрашу прэзідэнта, каб узнагародзіў гэтага хлопа зноў. Біскуп Ялбжыхоўскі ў вёскі, дзе праваслаўе найбольш пахіснулася, пашле «Жывыя Ружанцы». Ксяндзы атрымаюць заданне, як тлумачыць з амбоны гэтае цячэнне!..

— Так ест, ваша эксцэленцыя!
— Але ж і хара-актар!.. Самародак!.. Не перашкаджаць яму, панове, даць развярнуцца! З богам!

## 13

Ваявода са старастам проста са сталіцы прыкацілі ў Саколку ды пачалі дзейнасць. Неўзабаве да морга пад'ехала вайсковая машына. Захутаны ў мешкавіну труп сышчыкі з тайнай паліцыі кінулі ў зялёны кузаў і некуды павезлі. Абодва следчыя, якія вялі справу, атрымалі накіраванне на работу ў другія паветы. Перавялі і начальніка крынкаўскага «пастарунка» паліцыі.
Здаецца, зроблена было ўжо ўсё. На ўсякі выпадак ваявода са старастам адправіліся яшчэ да солтыса ў Грыбоўшчыну, каб прыгледзецца на месцы, ці не можна было б «прароку» дапамагчы ў чым-небудзь. Перапалоханы Курза добрасумленна ім падказаў.
У свой час «прарок» перадаў царкву на баланс крынкаўскаму протаіерэю. Альяш нездарма быў селянінам — сядзеў і ў ім адвечна мужыцкі страх перад кожным падпісаным дакументам, а тая паперка, пад якой ён у час падстрыжэння непрадбачліва паставіў сваё прозвішча і ўручыў яе папу Савічу, не давала яму спакою. Калі ў нядзелю вартаўнік дакладваў, што едзе нейкі свяшчэннік служыць літургію, Клімовіч насцярожана пытаўся:
— З якога боку?
— З Вострава, айцец Альяш.
Прарок адразу рабіўся адважны і Фэлюсю загадваў:
— Пакажы яму фігу — самі службу адправім!
Затое калі бацюшка ехаў з Крынак, Альяш ключ даваў.
— На, адчыняй, Савіч няхай паслужыць, мо дакумент выдзяру ў яго!..
Вярнуўшыся ў Саколку, начальнікі паклікалі суддзю:
— Акт перадачы грыбоўшчынскай царквы ўняважніць, паперку Клімовічу вярнуць! — загадаў яму ваявода.
— На якой падставе?!.— узмаліўся абаронца Феміды.
— Знайсці закон. Справа — дзяржаўнай важнасці!
— Будзе выканана, пан ваявода!
Толькі пасля гэтага Асташэўскі вярнуўся ў Беласток.
Забіраць Альяша з турмы пайшоў былы легіянер Пілсудскага — павятовы староста Вайцяховіч.
Двухметровага росту, энергічны і далікатны пан з затоенай гідлівасцю і цікавасцю павёў «прарока» абедаць. Цягнучы знямоглымі нагамі пудовыя боты з камякамі засохлай гліны, дзядзька Альяш праплёўся ў панскі дом.
Жонку Вайцяховіч меў родам з дому князёў Любамірскіх.
З далікатным профілем і загадкавай усмешкай, напудраная і з прычоскай а ля Грэта Гарбо пані старасціха чакала іх з хваляваннем. Прыслугу сваю яна заганяла, бо славутага госця збіралася частаваць па ўсіх правілах свецкага этыкету.
— Пані Леокадыя! — прадставіў старасціху Вайцяховіч.
— Вельмі прыемна! — гаспадыня лёгка нахіліла галаву.
Вясковы дзед на шыкоўную даму нават не падняў вачэй.
У пярэдняй кленчылі пад сцяной і з забабонным страхам білі госцю паклоны дзве беларускія дзеўкі. Маленькая балоначка какетліва цяўкнула ды белым клубочкам пакацілася яму пад ногі. Альяш



служанкам пакланіўся таксама, нават дазволіў ім пацалаваць руку, а любіміцу пані Леакадзіі адкінуў ботам, і белая сучка са скавытаннем паляцела на кухню.
Пасля некаторай збянтэжанасці стараста паказаў, куды ісці:
— Прсшэ, пане Клімовіч, прошэ бардзо!
Дзед пакрочыў у гасціную, прысеў на ўскрай абабітага квяцістым шоўкам крэсла. Апусціўся ён з такой асцярожнасцю, нібы баяўся забрудзіцца, ды стаў азірацца, куды прымасціць шапку. Дзядзька Альяш намерыўся пакласці яе на паркет, але перадумаў і апусціў сабе на калені.
Як на сонца, зачараванымі вачыма праз дзверы глядзелі на «прарока» непрытомныя ад шчасця служанкі. Само сабой выйшла, што ў пакоі ўсё было лішнім: і элегантная, з тонкім профілем гаспадыня, і бутэлькі з замежнымі этыкеткамі, і бліскучае піяніна, і ўвесь шык кватэры.
Вайцяховіч шырокім жэстам паказаў:
— Ойцец Альяш што-небудзь перакусіць? Пан прагаладаўся, не праўда?.. Нічо-ога, цяпер справа ойца ўладжана, праз пару мінут адпраўлю пана дадому!.. Прошэ, няхай ойцец частуецца!
Але госць і на яго не падняў галавы, крытычна і з-пад ілба аглядзеў панскі стол, не спяшаючыся ўзяў кавалачак чорнага хлеба, адкашляўся і сумным, прастуджаным у каталажцы голасам папрасіў:
— Цыбульку мне...
Гэта і былі адзіныя словы, якія ён прамовіў.
Гаспадары пераглянуліся.
Пані Леакадзія хацела адправіцца на кухню сама, але старэйшая служанка з-пад фартуха дастала цыбуліну і з зямным паклонам падала «прароку».
Гаспадары здзівіліся яшчэ больш.
Дзед пазногцямі абадраў лупінку, абмакнуў цыбуліну ў сальніцу, уставіў вочы ў сурвэтку і пачаў нібы пад прымусам наталяць свой голад. Старасціха ў недаўменні слухала нейкі час, як хрумсціць цыбуля, зноў пераглянулася з мужам, і на яе шляхетным твары з'явілася гідлівая міна. Пані паляцела ў суседнія пакоі клікаць панічоў, паказваць ім папуаса.
...Неўзабаве Вайцяховіч бесцырымонна ўпіхнуў дзеда ў свой лімузін і загадаў здзіўленаму шафёру даставіць «прарока» ў Грыбоўшчыну.
— Што, Янэк, такога пасажыра яшчэ не вазіў?! — засмяяўся ён.
Вайцяховічу было чаго радавацца. Уладкаваўшы Альяшову справу, ён адчуў, што адкрывае сабе новы раздзел службовай кар'еры. Сэрца яго поўнілася радасцю, яму захацелася пахваліцца жонцы. Начальнік павета, насвістваючы марш, падаўся абедаць.
Усе вокны сваёй вілы Вайцяховіч застаў адчыненымі насцеж. Служанкі на чале з разгневанай паняй Леакадзіяй канчалі выціраць гарачаю вадою з содай квяцісты шоўк крэсла, паркет і браліся церці стол, нібы туды ўзабралася і наслядзіла балонка.

## 14

А гэтым часам у Грыбоўшчыне падзеі разгарнуліся па-свойму.
Як толькі арыштавалі Альяша, «апосталаў» агарнула трывога — засудзяць «прарока», разгоняць іх. Толькі цяпер яны ўбачылі, чым для іх быў дзядзька.

Данілюк сабраў у царкве савет «трэціх свяшчэннікаў».

— З дваццаць гадоў таму назад гэтак само арыштавалі бесарабскага прарока, айца Інакенція, і пасадзілі ў Мурамскі манастыр,— трымаў ён прамову.— Людзі дабраліся аж туды і выручылі яго. Тры тысячы кіламетраў ішлі малдаване з Бесарабіі ў Аланецкі край!.. Нам жа да Сэколкі — вёрст дваццаць пяць — трыццаць. Скажы нашым людзям — адразу ўсе вёскі паднімуццо на гэто, ісцінно вам гавару!

— А што?!.— падтрымаў яго Бельскі.— Вунь камуністы арганізавалі паход сваіх да Васількоў і прагналі штрэйкбрэхераў, хібо мы — горшыя? А ў часы «Грамады» якія мы паходы рабілі з Паўлам Валошыным?

— І таксамо паліцыя не магла нам даць рады.

— З сякерамі нават тады хадзілі, паліцыянты з пастарункаў паўцякалі.

— Перасаджалі потым і вашых валошыных, і гарадоцкіх, і васількоўскіх. Не тое правіш, брат Павел,— асудзіў іхні запал Майсак.

— Нашто ўвязвацца ў бойкі з паліцыяй? Няхай цацалісты грызуцца з ёю, мужыкам трэ рабіць усё з толкам.

— Супроць уласці не папрэ-эш! — падтрымалі ўжо Майсака.

— А я скажу вам: уласці заўсёды нас падтрымлівалі, і гэтым трэ нам даражыць,— развіваў сваю думку Майсак.— На чыім возе ездзіш, таму і песню спявай!.. І я памятаю паход бесарабаў. А колькі іх перамерзло, колькі перасаджалі. Гэто не ратунак. Хібо іншаго не знойдзем, тады...

Мужыкі задумаліся. Ломнік падаў ідэю:

— А што, калі Сакольскаму старосце падсунуць узятку?

— Думаеш, возьме? — насцярожыўся Майсак.

— Усе паны на грошы ласыя. Ім трэ на курорты, шампанскае, паненкі... Сотняй, вядомо, яго не купіш. Трэ такую ўзятку даць, каб не адмовіўся!..

Апосталы сышліся на суме ў гадавы аклад павятовага начальніка — 12 000 злотых. Правярнуць далікатную місію даручылі асцярожнаму дыпламату, «апосталу» Данілюку.

Аляксандар Данілюк зараз жа запрог буланчыка. Знайшоўшы ў збядованай Тэклі тую самую конскую торбу, сунуў у яе пачак грошай і ноччу адправіўся ў Саколку.

— Грошы ад вас ахвотна прымаю і перадаю іх на будаўніцтва шпіталя святога Роха ў Беластоку,— заявіў Вайцяховіч, беручы ў апостала пакет з банкнотамі.

Яшчэ большым для Данілюка было дзівам, калі гэты «цар і бог» цэлага павета загаварыў устрывожана:

— А вы яго не спаткалі?!. То ж пана Альяша я адпусціў яшчэ ўчора!.. Хацеў нават на машыне завезці, але ён толькі за Саколку пад'ехаў. Вылез ён на дарогу і аб'явіў, што далей пойдзе пехатою... Арыгінал ваш стары!

Па тым, як павятовы стараста трывожыцца і вінавата апраўдваецца, Данілюк здагадаўся, пад якой апекай яго шэф.

— На машыне, пане староста, айцец Ілля не паедзе! — растлумачыў ён.— Паводле сваго вучэння ён ездзіць толькі на фурманцы, у якой няма ні кавалка жалеза...

— Нас служанкі папярэджвалі, калі я на абед яго прыводзіў, што скаромнага не есць, але я таксама не верыў. Езус Хрыстус, шапку здымаю перад такім фанатызмам!.. Не дзіўлюся цяпер, што так ляцяць да яго багамолкі. Але ж ён — слабы чалавек, яшчэ што-небудзь здарыцца ў дарозе.



— Не хвалюйцеся, пане староста, нічого не здарыцца, ён — пад апекай боскай...

Свайго «прарока» Данілюк дагнаў аж у Трасцяной і перадаў яму лейцы. Даехалі яны да Грыбоўшчыны, не прамовіўшы і слова.

Не азваўся Альяш ні да каго яшчэ цэлы месяц. Дзядзька сам на сябе наклаў пакаранне — чатыры тыдні вымольваў грэх перад абразамі.

## 15

Толькі і апошняе здарэнне зноў нічому не навучыла багамольцаў. Грыбоўшчынскае забойства яны пачалі тлумачыць па-свойму.

Нібы развязаў хто вялізны мех — па вёсках шуганула магутная, неверагодная новая легенда пра тое, як папы, архірэі ды іншыя ворагі «новага вучэння» захацелі зжыць са свету «прарока». Далярцела легенда і да маёй вёскі. Па гадах тады я браўся ў падросткі. І з нейкай маладой эгаістычнай перавагай і лёгкадумнасцю прыслухоўваўся да пагалосак, не могучы яшчэ зразумець закаранелых, бы цяжкая хвароба, прычын, якія давялі да гэтага маіх землякоў.

— Паду-умаць толькі, да чаго дайшлі Альяшовыя ворагі! — з абурэннем гаварылі нашыя цёткі.— Так усё падстроіць!.. Выкапалі, ля, з могілак чыйсьці труп, раздзелі нябожчыка і голага падкінулі пад самюткі парог Іллє!

— Нават яшчэ разбілі яму чэрап і палена падкінулі.

— Знайшліса і сведкі.

— Бо заплацілі ім добро архірэі!.. Е такія людзі, што на роднаго бацьку набрэшуць за грошы!

І далей перадавалі ўжо адзін аднаму фантастычныя байкі, як паліцыя прывезла закаванага ў кайданы «прарока» ў Саколку і кінула ў халодную, а там ён раптам засвяціўся незямным святлом.

— Альяш скінуў свае кайданы і, нібы праз тыя павуцінкі, прайшоў праз жалезныя краты і мураваныя сцены!..— расказвала Кірыліха.

— А паліцыянты, што яго вартавалі, убачылі цуд і аслеплі! — дадала Клемусава нявестка.

Перабіраючыся з вёскі на хутар, Клемусаў сын прадаў на нейкую патрэбу хату і пасяліўся ў зямлянцы. Ішлі гады, нараджаліся і раслі яго дзеці, а лесу Міхал не прыдбаў — сям'я зімой і летам гніла ў сырой і цёмнай яме. Клемусаў Сцяпан і нявестка захацелі яшчэ раз сябе запэўніць, што такі існуе магутны, вышэйшы суддзя і таямнічыя справядлівыя сілы. Суддзя гэты Нёману можа загадаць цячы ад Балтыкі да Святой гары, слабога зрабіць дужым, беднага — багатым, старога — маладым, толькі ты вер! вер! вер!

Перапоўненая прагай да жыцця, поўная жадання асіліць несправядлівую, раўнадушную рэчаіснасць, з безгранічнай верай у тыя самыя сілы, цётка Кірыліха распісвала падзеі далей:

— А камендатнту крынкаўскай паліцыі і следчым скруціла рукі, ногі, і паляхі паўміралі ў страшных мэнках!.. І на іхніх дзяцей хваробы напалі!..

— А хто сведчыў на Іллю, вярнуўса з Саколкі, а дзеці іхнія — нямкі!.. Яны ў кішэні за грашыма, каб з'ездзіць да лекара, а там замест грошай — асінавыя лісты!..

У грыбоўшчынскай абшчыне раскольнікі прыціхлі — Альяша пачалі ўсе баяцца.

## РАЗДЗЕЛ ШОСТЫ

### 1

Была нядзеля. У вішнях паміж гумнамі Мікалай Рэгіс выставіў шацёр са стракатых дываноў і лячыў дурніцу, а цікаўныя падшыванцы стараліся ўсё з кустоў падслухаць. Збядованыя людзі з дачкой аб'ездзілі ўжо Гродна і Варшаву, пачулі яшчэ аб адной методзе лячэння вар'ятаў і пагаджаліся на ўсё, абы хоць якую мець надзею. Мікалай за прыём браў залатымі рублямі, і «мятода» яго лячэння называлася — выбіваць клін клінам. Між іншым, калі Рэгіс яшчэ зімой адпусціў гэтак першую пацыентку, грыбоўшчынцы спахапіліся, што і Паўтарак, мабыць, на свет гэтак прыйшоў, толькі нямая і пасля родаў заставалася дурніцай...

Грэла сонца, шчабяталі птушкі, снавалі ластаўкі, па вуліцы ляніва лазілі парасяты, грэбаліся куры, гулялі малыя, а пад бэзам на каменнях гутарылі бабы. Іхнія мужыкі з бутэлькамі нафты, селядцом, скрыначкай запалак неўзабаве меліся вяртацца п'янаватыя з Крынак, Бераставіцы ці Гарадка, і, покуль рыхтаваць вячэру, жанчыны са святочным настроем паціхеньку перабіралі сваё жыццё.

— Гляджу я на гэты бэз і ўспамінаю,— апавядала Чарнецкая.— Раней, калі яшчэ жыла ў мамы ў Плянтах, то з Гэляй Матрунішынай адправіліся мы аднойчы ў Крынкі на фэст — нашай царквы яшчэ не было. У Грыбоўшчыне падышлі да гэтаго бэзу, сталі ламаць. Фэлюсь Станкевіч якраз араў. Чалавек нас убачыў і стаў бегчы да дарогі. Уцякаць брыдко. «Нічога не зробіш,— кажу,— Гэля, стоймо ўжэ, што будзе!» А ён падляцеў і крычыць: «Маеш шчасце, што знаёмая, а то ў суд падаў бы або зубы выбіў бы!» Нядаўно заходзіў да маго Івана закурыць, а я яму і напомніла: «Фэлек,— кажу,— каб ты здох, з-за адной лапкі бэзу гэтак брыдзіцца! Ля, я табе, хадзі, цэлае бярэмя наламлю!»

— Ой, бабанькі, такі ён урэдны і цяпер! — падтрымала яе суседка.— Нядарам Клімовіч яго сторажам трымае — спуску не дасць ні брату, ні свату і калі возьме што — не падзеліцца!..

А на цвінтары ў гэты момант вакол збітага з грубых дошак стала, у цянёчку рассядала ядро Альяшовай абшчыны. Сярод гэтых людзей пераважалі мужыкі, таму гутарка ішла пра палітыку — свет ускалыхвалі ўжо грозныя падзеі, яны пранікалі і на вёску.

— Пад Кракавам мужыкі баставалі, і паліцыя іх расстраляла з кулямётаў,— прынёс навіну з Крынак Павел Бельскі.— А прэм'ер Складкоўскі ў сейме яшчэ і заявіў: «Паліцыя страляла і страляць будзе!..»

— У Беластоку ўсе цэрквы, кажуць, закрываць будуць! — уставіла Руселіха.— Крынкаўскія паліцыянты хваліліся: «Няхай ваш прарок паставіць свечку Мікалаю Угодніку, што ўдалосо яму пабудаваць, бо цяпер нікому не дазваляем, на веру вашу забарон вышаў!»

— І забароняць паны, што ім? — заўважыў Данілюк.— Толькі як жыць без яе будзем?!

— А ў Гішпаніі — вайна,— выкладваў Бельскі далей.— Самі на сваіх пайшлі!.. Брат ваюе з братам, сын — супроць бацькі, як было ў Расеі ў семнаццатым. Там цяпер такая разня, што па гарадах крывавыя рэчкі цякуць!.. Ужэ і немец туды сваіх салдатаў паслаў, самалёты направіў, а Саветы — з танкамі караблі накіравалі.

— У тую вайну таўклі адны адных тут, а цяпер — во дзе счапіліся,— паківаў галавой Ломнік.



— На ўсходзе — японец усё далей у Кітай залазіць,— уздыхнуў Майсак.— Спецыяльныя ка́ты па вёсках адсякаюць галовы непакорным кітайцам. У газетах здымкі паказваюць — шабля ў ката шырокая, бы цясак, а каля ног у яго, як качаны капусты, галовы валяюцца.

Хрысціна падала голас зноў:

— Не дай бог гэты японец яшчэ і сюды дойдзе, куды дзявацца нам? Што за пагібель валіцца на людзей, канец свету прыходзіць!

— Бо няма такога Саламона, каб сказаў народу: «Людзі, адумайцеса, жывіце ў міры, якога ражна вам яшчэ трэ?!» — кінуў Майсак.

— А чаго ты, Хрысціна, хочаш? — азваўся Альяш.— Хто ў тым павінен, што канец ідзе?.. Людзі самі вінаватыя. П'янкі, грахі, разбоі, ашуканства — кіем іх не загоніш маліцца да цэркв. Нават крынкаўскія жыды перасталі хадзіць у свае сінагогі... У бібліі сказано, што брат пойдзе на брата, зямля разверзнецца...

— А мы можам зараз прачытаць! — паспешліва пагартаў Данілюк біблію.— Во, слухайце: «Ибо восстанет народ на народ і царство на царство и будут глады и землетрясения по местам. Все это начало болезней. И тогда будет великая скорбь, какой не было от начала мира доныне».

— І будзе так, а што ты думаеш? — прамовіў Майсак і пагладзіў раскладзістую бараду.— У календары было напісана пра зацьменне месяца, і я падумаў — дай праверу. Прыйшоў вызначаны дзень — точно!

— Як ты, Пятрук, можаш спакойно яшчэ гаварыць аб гэтым, канец жа свету ідзе! — закрычала Хрысціна са страхам.

— Я ўжэ казаў, што меў відзенне калісь,— загаварыў Альяш зноў.— Быццам я ноччу іду і бачу: небо распаўзлосо, як перкалёва хустка, заблiскало, і ўсё ў Грыбоўшчыне загінуло: і людзі, і каровы, і хаты... Застаўсо толькі Вершалін. Горад такі, што нібы я пабудаваў на прыгорках пад Ляшчынной!.. Вокны ў ім блішчаць на сонцы, бялеюць платы, пабеленыя вапнай, жарабяты бегаюць і дым з каміноў валіць...

— Ілля, ты ж некалі ўратаваў нас ад Паўтарака? — прыстала да прарока Хрысціна. Так і цяпер ад светапрастаўлення ўратаваць можаш адно ты!..

— Ілля, дальбо, настаў час, каб ты зноў праявіў сваю сілу і цудатворную моц! — патрабавала Руселіха.

— Сам чую гэто...— уздыхнуў дзядзька.

— То чаго чакаеш?! Покуль д'ябальская сіла стане намі правіць?!

### 2

Вярнуўшыся дамоў, Альяш узяў пяро, абмакнуў у чарніліцу з раскіслымі мухамі і старэчым крывым почыркам стаў выводзіць загагуліны. Прарок пісаў «зварот да народа».

«Возвещаям Вам Народы
Втарое пришестве Господа
нашаго Исуса Христа на
Землю.
Объявляю я всему Миру Весть
най дражайшую тоесть
Найдрошую Весть. Дроцай

Вести за сию весть нет восем
Мире...»

І далей на поўным сур'ёзе ён апавясціў, што такога месяца, чысла затрасецца зямля, памеркне сонца, спадуць зоркі, пахіснуцца нябесныя сілы, і ўсе гарады і вёскі загінуць у геене вогненнай. Ва ўсім свеце застанецца толькі адзіная жывая мясціна — горад Вершалін, які бог даручае яму пабудаваць для сваіх аднадумцаў. Пасля канца свету Вершалін будзе ператвораны ў рай.

## 3

Увесь свой капітал, які Альяш паспеў сабраць к таму часу, ён вырашыў пусціць на пабудаванне Вершаліна і за справу ўзяўся з размахам.

У бліжэйшай вёсцы Ляшчыная Альяш купіў сорак гектараў зямлі, на гэтым абшары пачаў разбіваць садок, заводзіць сотні саджанцаў і каліваў трускалак. Зараз такім абшарам садавіны не здзівіш ні адзін калгас, але ў тыя часы саракагектарны садок мог сабе завесці не кожны абшарнік, таму слава аб ім адразу ўскружыла галовы сялян-багамольцаў.

Яшчэ Альяш запрудзіў крыніцы, завёў сажалкі, выбраў месца для ветрака. Затым у глухую і маленькую вёсачку, якую цяпер знойдзеш хіба толькі на вайсковай карце-кіламетроўцы, сярод пясчаных і камяністых узгоркаў ды хмызнякоў пацягнуліся сотні фурманак з дрэвам, цэглай, кафляй, валунамі, шклом і вапнай.

Яго цэркаўка атрымалася няўклюднай, цяпер Альяш улічыў і гэта — наняў самых лепшых майстроў.

І вось зацюкалі тапары, зашоргалі пілы, застукалі жалезныя молаты па клінках, якімі калолі граніт на фундамент, зазвінела ліставое жалеза, з якога скляпалі каркас пад ветраны млын...

Дзень за днём рос новы пасёлак. Мабыць, даўно ў тутэйшых вёсках не будавалі нічога ў гэткім тэмпе, не трацілі дарма сілы, матэрыял і свой талент слонімскія пільшчыкі, беластоцкія цесляры, ваўкавыскія бляхары ды каменшчыкі са старажытнага Крэва...

Нарэшце, будаўніцтва дзіўнага Вершаліна падышло к канцу. У першых дамах будучага «раю» размясціўся сам «прарок» з Тэкляй і «святой сядміцай». «Апосталы» пасяліліся са «святымі дзевамі», і засталіся без пáры хіба толькі Ломнік з Данілюком.

Тым часам няўмольна блізіўся вызначаны прарокам жудасны дзень канца свету. Веруючыя з хваляваннем чакалі другога прыходу Хрыста. Дзядзька Альяш мусіў паклапаціцца, каб споўнілася яго прароцтва.

Неабходна было знайсці адпаведную жанчыну, якая магла б нарадзіць «сына божага». Стаць ёю напрошваліся многія актывісткі, што атакавалі саборы ў вялікіх гарадах і праславіліся ў абшчыне. Святая рада кандыдатак аглядзела іх і забракавала — новая дзева Марыя мусіла быць нявіннай.

Апосталы аблазілі Заходнюю Беларусь, дайшлі нават да Валыні і ні на кога не натрапілі пад свой густ. Выручыла абшчыну цётка Хімка, яна ўгаварыла стаць другой мацеркай божай сінявокую і дзябёлую дзеўку з Забагоннікаў, што ткала ў нас дываны. Святая рада Нюрку агледзела і дала згоду.



Цяпер узнікла пытанне святога зачацця. Усе прыйшлі к вываду, што стары прарок да такой справы не падыдзе. Патрэбен быў малады і дужы «апостал». І ён знайшоўся — хлопец-атлет з дзіўнай мянушкай — «Архіпатрыцый».

## 4

І вось на цвінтары ў Грыбоўшчыне наступіла адказная часіна. З самай раніцы сюды сцякаліся ашалелыя багамолкі. Бабы згрудзіліся вакол асобнага дамка, пасталі на калені, зацягнулі спецыяльна складзены Вершалінскі гімн.

З'явіўся «прарок», і песня абарвалася.

Побач з Альяшом — ні то з таямнічай, ні то з лёгкадумнай усмешкай на здаровым твары, з кепкай на самай макаўцы, з запраўленымі ў высокія халявы нагавіцамі, лёгкай хадой крочыў рослы «апостал» — «Архіпатрыцый». Па натоўпе пракацілася іскра ажыўлення. Жанчыны з набожным жахам, іншыя са звычайнай бабскай цікавасцю зашапталі:

— Во, вядзе!

— Гэны?

— Гэ-эты!..

Народ пачціва расступіўся. Пачуліся воклічы захаплення:

— Ах, як у яго валасы кучара-авяцца!..

Альяш правёў малайца праз звар'яцелы натоўп і накіраваўся ў запаветны дамок, дзе чакала іх падрыхтаваная цёткай Хімкай «маці божая», якую дагэтуль «Архіпатрыцый» не бачыў і ў вочы.

Натоўп застыў у напружаным чаканні. Званары накруцілі на рукі вяроўкі і пільна цікавалі ўгару.

Праз мінуту да народа выйшаў адзін Альяш і спыніўся на ганку. У няласкавага панурага чалавека, якім «прарок» заўсёды бываў, на гэты раз твар прамяннеў цёплай усмешкай.

— Брацця і сёстры! — пачаў ён ціхім голасам.— Пастаньмо на калені і памолімсо богу, хай гасподзь праявіць міласць сваю, сатварыць святое таінство!

Людзі апусціліся на калені, выцягнулі рукі і ашалела закрычалі:

— Ісусе, прыдзі!

— Спашлі сваё знамение, сыйдзі з неба ў Нюрку, госпадзі!

— Выслухай сірот сваіх, госпадзі!

— Святы божа, святы моцны, святы бяссмертны, злітуйса над намі, грэшнымі!

— Дай ім лёгкае зачацце, госпадзі!

Людзей усё больш разбірала дрыготка, на тварах з'явілася нейкая сарамлівасць.

Раптам стоеную цішыню, як брытвай, паласнуў праразлівы жаночы віск:

— А-а!..

З грудзей у натоўпу вырваўся ні то ўздых палёгкі, ні то стогн:

— Усё-о, нарэ-эшце!..

— Бом!.. Цілім-цілім-цілім!..— скалыхнулі паветра і ўрачыста панеслі навіну ў бязмежную даль званы.

— Здзе-ейснілася!..

— Бом!.. Цілім-цілім-цілім!..

— Го-оспадзі, дзя-акуй табе, што ўва-ажыў нас!

— Бом!..

Ашалелыя бабы завішчэлі ад шчасця, паваліліся на траву, забіліся ў істэрыі. Альяш спакойна, нібы нешта такое ў яго Вершаліне адбывалася кожны дзень, устаў з каленяў, паглядзеў на ўвесь гэты гвалт і зноў патупаў у дамок.

Натоўп памалу ачынаўся. Бабаў пачала разбіраць ужо нейкая блазенская цікавасць. Яны памкнуліся да ганка, павыцягвалі шыі і церпяліва сталі чакаць.

## 5

Новая «маці божая» зажыла цяпер, бы каралева. «Святыя дзевы» Нюрку паілі, кармілі і ледзь не на руках насілі, а сотні сектантаў ад Беластока да Вільні, ад Бельска да Валыні маліліся за яе здароўе і паспяховае развіццё плода ў «святым чэраве».

— Ото ж смеху будзе, як дзеўку родзіць! — смяяліся ў Грыбоўшчыне мужыкі на прызбах.— Куды яе падзене тады?!.

— А то яшчэ трайня родзіцца!

— А што думаеш?.. Жарты — гэткі жарабец!..

Але багамольцы насмешак не слухалі, абшчына жыла ў сваім мікраклімаце.

У Вершаліне на свет рыхтаваліся з'явіцца цэлыя касякі «апасталят», прарок з гэтым зміры́ўся. Святая рада надумалася справы «прарока» падмацаваць тэхнічнымі сродкамі. Апостал Данілюк купіў амаль цалкам друкарні: Мішэндзіка — у Беластоку і Каплуна — у Гродне. Цяпер масавымі тыражамі пайшлі ў свет «шадэўры»: «Обращение Ильи к Народу», «Илья пророк в Польше строит город Вершалин», «Указание Отца Ильи Пророка о скором конце света, страшном суде и новом пришествии Господня...»

Не асобныя лістоўкі, як было дагэтуль, а цэлыя кіпы брашур— белых, сініх, жоўтых ды малінавых кніжачак з бязглуздзіцай перасылаліся па пошце, развозіліся фурманкамі, цягнікамі ва ўсе куткі Польшчы. Чакалі новай біблії з дапаўненнямі пра жыццё і вучэнне грыбоўшчынскага «прарока», але Рэгіс усё яшчэ не здаваў матэрыялаў у друкарню.

Гэтым часам сам «прарок» не сядзеў склаўшы рукі. Ужо лічаныя дні засталіся да той хвіліны, калі багамольцы будуць распінаць яго на дубовым крыжы. Папярэднія поспехі настроілі «прарока» на дабрадушны і шчодры лад, зрабілі яго бяспечным і ўпэўненым. Усе яму падпарадкоўваліся і — добра. Альяш нават не заглядваў у царкву, бо быў заняты будаўніцтвам. Ён падарожнічаў, пытаўся пра цэны, перабіраў кожную шыбіну і цвік у крамах, а час ад часу браўся ратаваць землякоў — тых блудных авечак, якія не прызнавалі яго веры, лёгкадумна грашылі і каціліся ў пекла. Паводле «навукі» Альяша толькі той удастойваўся збавення і мог трапіць у царства нябеснае, хто ўстрымліваў сябе ад раскошы і распусты, а гэтыя катэгорыі грыбоўшчынскі дзядзька разумеў па-свойму.

Аднойчы ў Крынках з'явіўся ён з вазамі, накупляў у крамах пячэння, адвёз за горад і вываліў у канаву.

— Капелюшы-ы!.. Капелюшы-ы збірае! — пранеслася аднойчы сярод усхваляваных гандляроў.

І праўда, дзядзька заглядваў у крамы гатовага адзення і купляў модныя капелюшы. Набраўшы іх цэлы воз, павёз за мястэчка на гасцінец і спаліў.

Калі ў Крынкі прыехаў ваяводскі тэатр, Альяш скупіў і парваў усе білеты. Трупа з поўнай касай, але без спектакля і апладысментаў вымушана была вяртацца ў Беласток.

Куды б Альяш ні заглядваў, ён цяпер выклікаў буру спрэчак, злосці і зайздрасці. Некаторыя — наадварот, чакалі яго, быццам анёла-збавіцеля.

## 6

Падарожжа сваё дзядзька Альяш пачынаў з заезда ў Крынкі. Там ён са славутай конскай торбай першым чынам заходзіў у рэстаран да Хайкеля. Сталыя яго лічыльшчыкі — зяць і сын рэстаранншчыка вялі старога за шырму ў закутак, там на стол вытрэсвалі з торбы паперкі з сілуэтамі польскіх каралёў і прыступалі да справы. І вось ужо хлопцы аж пацелі ад стараннасці — лічылі грошы ды ўзбуджана спрачаліся, а «прарок» недаверліва і насцярожана прыглядаўся да іхняй работы. Гнуткія, тонкія пальцы лічыльшчыкаў, акуратныя стосікі купюр, слаістыя валікі манет зачароўвалі Альяша. І наступаў момант, калі ён на работу сваіх памочнікаў глядзеў ужо загіпнатызаваны, раскрыўшы рот, і не заўважаў, як гэтыя жулікі з лоўкасцю цыркавых фокуснікаў запіхвалі банкноты сабе ў рукавы.

А ў гэты час у зале за прылаўкам стаяў стары Хайкель, задаволена прыслухоўваўся да ўзбуджаных галасоў за шырмай і чакаў кліентаў. Шустры ды чорны, як цыганё, падлетак майстраваў нешта ў шафе, што іграе. У дзвярах, якія вялі на кухню, тырчэла з посудам Хайкелева нявестка. Распараная маладзіца выцірала талеркі і слухала ўзбуджаныя галасы за шырмай з такой насцярожанай надзеяй, нібы там вырашалася справа яе жыцця.

У рэстаран увваліўся вялізны, у даўжэзным кажусе і стаўбунаватай капузе свяшчэннік з Вострава — айцец Якаў. Хайкель паляцеў госцю насустрач, гасцінна падставіў крэсла, а свая галава ў чорнай ярмолцы схілілася да пояса.

— Дзень добры, пане бацюшка! — сказаў ён з пашанай.— Прошэ, прошэ!.. О, як даўно пана бацюшкі не было ў нас!

З казлінай барадой, з грубымі рысамі твару, айцец Якаў нядбайна паціснуў рэстаранншчыку руку і густым басам паскардзіўся:

— Ад раніцы пякотка мучыць!.. Два піва, калі ласка!

— Сей мінуют! — патрусіў гаспадар за прылавак і залемантаваў на нявестку: — Голда, два піва дарагому госцю, чаго стаіш, як слуп солі?!. Яна не чуе — добры інтэрас!..

Бацюшка толькі паспеў апусціцца на крэсла, пакласці капузу на падаконнік і расшпіліць кажух, а Хайкель прынёс ужо заказ. Змахнуўшы фартухом са стала крошкі, ён з пашанай застыў ля кліента.

Айцец Якаў узяўся за куфаль, а ў гэты момант з чорнай, сточанай шашалем шафы з музыкальным апаратам, які яшчэ, напэўна, памятаў часы Напалеона, металічны голас прарэзліва заскрыгітаў:

О-чи че-ерные, о-чи жгу-учие, о-чи стра-стные...

Свяшчэннік адхлябнуў піва і пакруціў галавой.

— Мішугінэ, госцю непрыемна, выключ! — крыкнуў Хайкель і патрос цыганя за вуха.

Малы шчоўкнуў апаратам, і ў пустым памяшканні зноў запанавала цішыня. З-за шырмы даляцелі ўсхваляваныя галасы.

— Не засланяй мне стала!.. Айцец Ілля, пэўна, спяшаецца, і трэба хутчэй канчаць работу!..

— Хохэм балайлы!.. Табе і жыць перашкаджаю ўжо?!. Чуеце, пане Клімовіч?!.

— Думаеш, айцец Ілля — дурань, не бачыць, што ты ўлез у раму?
— Зноў прыехаў святы д'ябал? — патрос бацюшка бародкай.
— А мне — будзь ты святы, будзь — грэшны, абы плаціў!..
Бацюшка нядобразычліва кінуў вокам на Хайкеля.
— Зрэшты, я — бедны яўрэй, што магу зрабіць?!.— паправіўся рэстаранщчык.— Ай, і плата там такая — слёзы адны!..
Бацюшка зноў адхлябнуў піва.
— Айцец Якаў, што я вас хачу прасіць!.. Зрабіце ласку, растлумачце вы мне, беднаму яўрэю, які пражыў ужо вось столькі год і так нічога і не разумее!.. Ну, ёсць на небе гасподзь бог, ёсць вера, ёсць рэлігія — іудзейская, праваслаўная, каталіцкая!.. Ёсць і святыя недзе, вядома!.. Але пры чым тут гэты мужык, спытаю я вас?.. Мажліва, прыйдзе і Месія, толькі ён будзе ехаць на белым кані і пакідаць сляды на пяску, з яго будзе прамянець ззянне!.. Але якое ззянне ад гэтага мужыка, не разумею?!.
— Пра што вы гаворыце, пане Хайкель! — ажывіўся бацюшка.— Месія ўжо аднойчы прыходзіў і болей не з'явіцца да самага страшнага суда, а гэта — ашуканства і ерась!..
— І я тое ж хачу сказаць! — узрадаваўся рэстаранщчык.
— Некалі такіх на вогнішчах смажылі! — паказаў бацюшка за шырму. Перакуліўшы куфаль, ён загаварыў з затоенай крыўдай: — Калі спасіцель рабіў свае цуды ў Галілеі, і то не было тады такога стоўпатварэння, як у гэтай задрыпанай Грыбоўшчыне... І калі глядзіш на ўсю гэтую брыдоту, то і сам, здаецца, распяў бы старога д'ябла на крыжы, даруй мне госпадзі, калі я дрэнна падумаў! — перахрысціўся бацюшка.— Я б уласнымі рукамі цвікі яму забіваў бы, яшчэ раз даруй, госпадзі!
— Ой, што вы гаворыце, айцец Якаў?! Які б ні быў ён, але ж хіба можна заганяць цвікі ў жывога чалавека?
— Сатана, нячысты, толькі воблік чалавека мае!
— Вы адно так гаворыце. Ведаю па сабе—каб дайшло да гэткай справы, не хапіла б смеласці.
— Пане Хайкель, прашу не...— зняважліва зірнуў ён на рэстаранщчыка.
— І я так думаю,— вёў сваё Хайкель,— казка ўсё тое, што кажуць пра яўрэяў, нібы яны распялі Хрыста!.. Не маглі нашыя гэтага зрабіць. У жывога чалавека заганяць цвікі-і?!. О-вэй, мы нават курэй не рэжам самі, а робіць гэта шайхэт!.. У паласатым халаце шайхэт коле, а равін над ім чытае талмуд!
— Зрэшты, калі быць зусім дакладным, яўрэі і не распіналі. Яны толькі крычалі: «распні яго, распні!..» Распіналі рымскія салдаты. І ўсё гэта было ад госпада, бо ні пылінка, ні валасінка не ўпадзе без яго волі... І рымскіх легіянераў гасподзь наслаў!
— Я-ак вы сказалі, айцец Якаў?!.— надта здзівіўся рэстаранщчык.— Я-ак вы сказалі?! Рымскія салдаты?!.
З закутка ў зашмальцаванай світцы і ў заскарузлых ботах выйшаў Альяш. Ні на кога не пазіраючы, не прамовіўшы ні слова, ён паклаў перад Хайкелем пяць злотых і паваlок торбу на вуліцу. Спрачаючыся і махаючы рукамі, выскачылі Хайкелевы сын і зяць. Голда знікла на кухню. Хайкель на хвіліну забыўся пра бацюшку, з непрыхаванай зайздрасцю і захапленнем замахнуўся на хлопцаў фартухом і сказаў:
— Ай, мішугінэ коп, вы ба-ачылі такіх?!. Ідзіце абедаць!
Калі за імі зачыніліся дзверы, бацюшка загаварыў:
— Зноў папёр міласціню і слёзы веруючых!.. Поўную торбу!.. І пайдзі зразумей, што гэты д'ябал будзе цяпер з грашыма рабіць:





купляць цукар і сыпаць у пясок, abліваць яго нафтай?!. Выбіраць матар'ял з прылаўкаў і нішчыць? Бандыт!.. Усе цэрквы абрабаваў і — нічога!.. Чытаў, пане Хайкель, у газеце? Зноў нячыстага ўзнагародзіў урад ордэнам, другім ужо!..

— Начальству відней, мы — людзі маленькія! — ухіліўся рэстаранщчык ад небяспечнай тэмы і ўсё стараўся ўспомніць пра тое, што ж яго гэтак уразіла.

— І пісалі настаўнікі, фельчары, вецерынары, пісалі нават леснікі пра абармота самому Масціцкаму — ніякага толку!

Айцец Якаў пазіраў у акно. На вуліцы ля фурманкі з драўлянымі восямі тоўпіліся людзі. На воз, не звяртаючы ні на кога ўвагі, няўклюдна ўзбіраўся Альяш і масціў пад сябе торбу. Два паліцыянты адціскалі ад «прарока» жанчын ды ўважліва сачылі, каб гарадскія хуліганы не пакрыўдзілі старога абразлівым словам, каб багамолкі не скінулі «прарока» на брук. Бацюшка аж вар'яцеў.

— Божа правы, усё ты гэта бачыш, дакуль будзеш цярпець, каб тваю законную веру папіралі розныя абармоты?! Ціснуць, гіне праваслаўная вера, госпадзі!.. Пане Хайкель, яшчэ два кухлі, калі ласка!

— Сей мінют!..

### 7

Покуль у крынкаўскім рэстаране айцец Якаў заліваў сваё гора півам, Альяш тым часам ехаў у лясніцтва.

У буржуазна-клерыкальнай Польшчы лес быў дарагі. Сасну мужыкам прадавалі толькі трэцяй і чацвёртай катэгорыі, бо астатняе ішло на валюту. Аднаму Альяшу, нібы купцу з Бельгіі, адпускалася дрэва першага гатунку. Затое кожны прыезд «прарока» ў лясніцтва Пачапок прыносіў свята, і ляснічыя і іхнія жанкі гублялі ад шчасця галовы.

Было ім чаго радавацца.

Дома Альяш паводзіў сябе, бы скнара, лічыўся з кожным грошыкам. У лясніцтве раптам плаціў шчодра, не лічачы нават купюр, з тае самае торбы вывальваў на стол папяровыя стосікі ды металёвыя валікі.

— Во, маеце!..— казаў ён, і пануры яго твар кранала скупая ўсмешка.

Альяшу, мусіць, было прыемна паздзекавацца з паноў, якія раней не захацелі б нават ехаць з ім у адным возе, а цяпер гатовы былі лізаць яму непрыстойнае месца.

### 8

Але пра дзівацтвы Альяша ведалі не ўсе. Настаўніцкі штотыднёвік аднойчы змясціў артыкул аб цемрашальстве ды інтрыгах клеру на «Крэсах Усходніх», і на яго накінуліся каталіцкія газеты. Штотыднёвік абвінавацілі ў спробе накіраваць Польшчу «ў крывавае русла нешчаслівай Гішпаніі», а аўтараў абазвалі радыкаламі і камуністамі.

Афіцыёз Варшаўскай дыяцэзіі «Воскресный вестник» аднойчы апублікаваў пра Альяша матэрыял маладога крынкаўскага свяшчэнніка — Міхаіла Гапоніка. Бацюшка вельмі асцярожна пісаў пра мужыка з Грыбоўшчыны, які пабудаваў толькі царкву, а цёмны народ



робіць з яго святога. Але гэты артыкул Альяшу прыйшоўся даспадобы.

— Ну, што, і з вамі будзем сварыцца? — наваліўся ён на Гапоніка, спаткаўшы яго ў Крынках.

— Чаму, Ілля Лаўрэнцьявіч?

— Што вы там пра мяне напісалі?

— Усю праўду! Нават змясціў вашу дату нараджэння!

— Ну-у?!.— Альяш шчыра здзівіўся.— А дзе вы ўзялі яе?

— У метрычнай кнізе ў сябе!.. Апісаў вашага бацьку, маці!.. Цяпер і пра іх усе людзі будуць ведаць!..

— О-о, гэто до-обро!.. А Рэгіс мяне ў біблію ўпі-ісвае!..

Альяш пайшоў да фурманкі, радуючыся, бы хлопчык.

«Воскресный вестник» выпісвала адно духавенства, і той артыкул мала хто заўважыў. Свецкія газеты падрабязна размалёўвалі нават такія «важныя» падзеі, як жаніцьбу князя Люксембурга на князёўне Манака, пісалі пра банкеты і раўты ў сталіцы, змяшчалі рэпартажы з палявання міністраў, каралёў і прынцаў у Белавежы, толькі пра «прарока» і яго Вершалін маўчалі.

Ні ў якіх архіўных матэрыялах паліцыі вы не знойдзеце звестак пра Грыбоўшчынскую абшчыну, хоць усюды ляжаць справы пра баптыстаў, суботнікаў, трасуноў. Атрымаўшы інструкцыі, паліцыя дакументаў такіх не заводзіла.

## РАЗДЗЕЛ СЁМЫ

### 1

Ішоў час, а другая «маці божая» дзіцяці не нараджала. Па яе выглядзе і дурань мог вызначыць, што яна ўжо і не народзіць. Цвярозыя Альяшовыя памочнікі пачалі заўважаць, што дзеўка звар'яцела. Альяшу давялося змірыцца з фактам і рабіць выгляд, што нічога не здарылася. Зрэшты, яго цяпер займаў новы клопат — блізілася дата, калі меўся быць канец свету. Альяшовую абшчыну памалу агортвала ліхаманка.

За апошнія паўтара стагоддзі сотні тысяч сялян Заходняй Беларусі паехалі шукаць лепшай долі ў ЗША, Канаду, Бразілію і Аргенціну. Каму ўдалося там зачапіцца, той стараўся не парываць сувязі з радзімай і час ад часу што-небудзь прысылаў.

Найбольш біблію. Гэтай кніжкай — у папяровых, скураных, пластмасавых, палатняных вокладках эмігранты так наваднілі нашыя сёлы, што ў некаторых вёсках яе можна было знайсці ледзь не ў кожнай хаце. Найчасцей гэта была адзіная кніжка ў сям'і, шмат пакаленняў сялян па ёй вучылася чытаць і пазнаваць свет. Іншы дасціпны дзядзька вывучыў за святы і ў доўгія зімовыя вечары біблію ледзь не на памяць і, як калісьці Альяш, паверыў усяму, што было ў ёй напісана: паверыў па-мужыцку — раз і назаўсёды, і ніякая сіла потым не магла ўжо гэтую веру ў ім пахіснуць.

Пра канец свету чорным па белым было надрукавана ў кожнай бібліі. Нарэшце, вуснамі свайго «прарока» Іллі бог вызначыў і запаветны дзень. Успамінаючы тыя падзеі, дзівішся, якая страшная рэч вера. Яна нараджае духоўных нявольнікаў. Нездарма выдатныя людзі заклікалі ўсё разумець, а не верыць. Чым больш чалавек адсталы, тым больш лёгкаверны.

Напярэдадні вызначанай Альяшом даты, калі павінна была прый-

сці гібель свету, багамольцы з-пад Вілейкі, Гродна і Беластока пачалі прадаваць свае дамы, гаспадаркі, крамы і млыны — усё, што не возьмеш з сабой на той свет. Адурманеныя людзі запіхвалі грошы за пазуху, хапалі дзяцей, бралі харчы на дарогу і ў паніцы несліся ў Грыбоўшчыну — шукаць ратунак у святым Вершаліне.

Мабыць, такіх дзівакоў было шмат, бо спецыяльная машына адно паспявала вазіць мяшкі грошай у Сакольскую ашчадную касу, куды Данілюк угаварыў, нарэшце, Альяша іх аддаць. Ужо не Хайкелеў сын, а ўзброеныя наганамі чыноўнікі з Міністэрства скарбу лічылі і пакавалі грошы.

## 2

Розныя цуды бачыла Грыбоўшчына, ды такога яшчэ не бывала.

Страшная дата выпала на канец чэрвеня, калі стаяла цеплыня. Шмат адзення з сабой людзі не бралі. Усе былі ўпэўнены — якім прыйдзеш у рай, такім і застанешся назаўсёды. Туды ўвогуле збіраліся без нічога. Навошта браць вопратку? Там жа нават не трэба мыцца, бо каб і хацеў запэцкацца, то няма дзе.

У гэты дзень на выган перад вёсачкай сцякаліся і сцякаліся сотні людзей, садзіліся на мурог, развязвалі клункі і з ліхаманкавай узбуджанасцю апраналі чыстыя, спецыяльна для гэтага выпадку пашытыя кашулі, мылі ногі, нацягвалі самае лепшае адзенне дзецям.

Паголены, памаладзелы і падцягнуты, у вышыванай ды свежа выпрасаванай касабаротцы, у начышчаных да люстранага бляску ботах сярод гэтага тлуму з бібліяй у руках насіўся Данілюк. Нават лысіна яго блішчэла неяк па-іншаму — светла і высакародна.

Хоць грыбоўшчынцы мусілі касіць сена, капаць торф, аднак большасць з іх не магла стрымаць цікавасці і не пайсці на святы выган, каб паглядзець, што дзеецца там.

Ап'янелая і шчаслівая, як нявеста, бабка Піліпіха перад усімі хвалілася:

— І во, людке вы мае, настае той залаты час, калі гасподзь бог, нарэшце, кліча нас да сябе!.. І будзем там цяперака мы жыць, як тыя птушачкі палявыя, што не аруць, не сеюць і не жнуць, а ўсяго ім хапае, бо клапоціцца пра іх сам цар нябесны!

Грыбоўшчынцы былі так уражаны, што ніхто не прамовіў і слова. Зрэшты, гаварыць што-небудзь насупроць было небяспечна. Магутны сваёй масай, раз'ятраны натоўп, гэтыя сотні рашучых і дужых мужыкоў ды бабаў таго, хто адважыўся б перашкодзіць падрыхтоўцы да таінства, мабыць, разарвалі б на шматкі. Усе былі занятыя справай, не звярталі на зявак увагі. Толькі нехта з фанатыкаў спытаўся ў грыбоўшчынцаў са шкадаваннем:

— А хіба вы з намі не пойдзеце?

Уражаныя грыбоўшчынцы маўчалі.

Тады дзядзька ў кужэльнай, першы раз адзетай кашулі паківаў галавой:

— Няўжэ і застанецеса?

— Нічога, Іване, пакінь іх у спакоі! — параіў нехта.— Яшчэ ўспомняць пра гэта на тым свеце, ды позно будзе!..

— Усе-е яны ўспомняць, брацця і сёстры, усе-е!..— уставіў сваю заўвагу Данілюк.— Гэтак само калісь людзі елі, пілі, весяліліса, выходзілі замуж перад патопам сусветным, зусім не думалі пра бога, смяяліса з старога Ноя, абзывалі дурнем, калі той каўчэг свой збіраў!..

Вялізная гурба па-святочнаму апранутых багамольцаў, пакідаўшы



на выгане хусткі, світкі, посуд, клункі, чынна і ўрачыста накіравалася да святыні са спевам:

Ужэ к нам прыблі-ізілась міра канчы-ына,
І ты снова, прароча, не землю прышо-оў!..

Самыя заядлыя фанатыкі, прыйшоўшы на «святы ўзгорак», адразу распласталіся крыжам на цвінтары і ў здранцвенні чакалі пагібелі свету. Іншыя ж рыхтаваліся да яе дзелавіта і спакойна, як гаспадары рыхтуюцца да вяселля ці хаўтур.

— Глядзі, Соня, дзяцей, каб не надто перапалохаліса, як пачне грымець, бліскаць пярун і зямля валіцца!.. І сама не бойса!.. Калі ўжэ распачнецца ўсё, то стань і — ні з месца!..— павучаў жонку практычны дзядзька.— Народу будзе — пройма, але бог нас не кране.

Побач саракапяцігадовы няўклюда, першы раз цалуючы ў жыцці жонку, дрыготкім голасам казаў ёй:

— Ну, Нюрка, будзем развітвацца. Жылі мы з табой душа ў душу дваццаць гадоў, а цяпер давай... Хто ведае, ці ўбачымса на тым свеце?

— Выходзіць, мы там будзем не разам?!.— абуралася кабета.— Ты хочаш мяне пазбы-ыцца?!. Ці ў цябе е такі вялікі грэх, што адразу ў пекло ўжэ рыхтуешса? Маўчыш! Я перад табой чыстая, як перад госпадам богам!

Нехта разануў:

— Во, во, маеш!.. Скажу табе, брат, калі жонак там не аддзеляць ад мужыкоў, то і рай нам будзе не рай!

А другі дзівак пытаўся ў жонкі:

— А гэто што ў цябе?

— Маткі!

— Нашто іх бярэш?

— Буду вязаць там!

— У раі-і вяза-аць?! Ачмурэла!..

— Воўна надто харошая, паглядзі сам! Такая мяккая, і хварба добра ўзяласа, шкода выкідаць!

— Не смяшы людзей!

— А я там схаваюсо дзе-небудзь за смакаўніцу ці пальму!.. Бо сумно будзе нічого не рабіць!.. Ну, дзень-два адпачну, а потым?

— Нагарава-аласа за жызню, хо-опіць!..

— Яна вы-ыкіне, вы-ыкіне, не злуй ты ўжэ гэтак на жонку ў такую хвілю!..— пачала мірыць іх цётка Хімка.— Дай крыху ёй нацешыцца!..

— Ой, няўжэ я сваю маму пабачу?! — пыталася нейкая маладзіца.— Якая яна цяпер?! Мама памерла, калі мне было ўсяго пяць годзікаў! Цяпер у мяне і то дзеці старэйшыя!

— Што зробіш — на небе людзі не мяняюцца! — разважыў яе муж.— А я ўсё думаю пра бацькаваго дзеда. Яшчэ з турэцкай вайны прывёз, казалі, збаночак серабра і закапаў перад тым, як самого мядзведзь у Белавежы задраў. Я перарыў усё поле, усё збіраўса вогера купіць у мазура... Цікаво будзе спытацца, куды ж ён усё-ткі схаваў яго?!

Побач нейкая кабеціна ўспомніла, што замужам за ўдаўцом.

— Як я буду жыць на тым свеце: там жа з'явіцца і твая першая жонка?!.— напала яна на мужа.— Вядомо, Гандзя маладзейшая, і ты мяне кінеш, бяссорамны, га?!

— Маруся, пабойся ж бога, што ты ме-елеш!..

— А я кажу — кі-інеш, я ве-едаю!.. Ты яе праз сон успамінаў.

— А мяне разбірае страх, калі падумаю, што трэ будзе ляцець кудысь на небо,— прызнавалася цётцы Піліпісе дзябёлая жанчына.—

Я ж па драбінах нават на гарышча за бялізнай баялася лезці.

— Мілая сястры-ыца,— супакоіла яе Піліпіха,— анёлы возьмуць цябе за белыя рукі і панясу-уць, панясу-уць, бы тую каралеву ў ядвабнай шаце, увысь!..

— Хібо што!..— з рэшткамі страху, але ўжо з хваляваннем ад шчасця, якое яе чакала, расквітнела ад усмешкі дзябёлая кабета. — Дзякуй вам, цётка, што расказалі!

Але ў Піліпіхі была свая крыўда, і яна паскардзілася:

— Падумай толькі, сястрыца, нявестка ж мяне з хаты выганяла за дываны, што занясла я Альяшу!.. Я ёй казала: «Пацярпі, дачушка, на тым свеце ўсе-е перад табой ляжаць будуць!..» Дак не верыла. А во, спаўня-аецца тое маё прароцтва!..

Поруч нехта закрычаў:

— Во, дзіця ўлезло ў нешто!

Толькі цяпер дзябёлая кабета ўспомніла пра сына і кінулася да малога.

— Яначку, на каго ты падо-обны?!. Ці табе не гаварыла — не пэцкай касцюмчыка, не лезь нікуды! Дзе мне абмыць цябе на небе, калі там і карыта не знойдзеш!.. Во, маеш!..— адлупцавала яна малога.— Хадзі цяперака ўвесь свой век у раі замурзаны, як шмаравоз!..

— Не можа быць, каб там не знайшлосо ў што пераапрануць малых! Дажно, не карай яго. Глядзі, як вочы пасалавелі, яно спіць ужэ!..

Вечарэла. Стомленыя за дзень малыя пачалі капрызнічаць і румзаць. Ніякая сіла ўжо не магла іх утрымаць ад сну. Мужчыны навалаклі на выган саломы, і мацяркі пачалі ўкладваць дзяцей спаць.

## 3

Паступова людзей на цвінтары агарнуў містычны ажыятаж. Яны ўжо чакалі суднага дня і калаціліся ад страшэннай няўпэўненасці: кіне лёс іх у рай ці шпурне ў адхлань вечных пакут. Яны пападалі на калені, пачалі маліцца.

— Бом!..— трывожна і рэзка, нібы ўсадзіў нож у сэрца, прагучаў у вячэрняй цішыні галоўны звон.

— Цілім-цілім-цілім! — заўторылі яму меншыя.

— Госпадзі памілуй, госпадзі памілуй, госпадзі памілуй! — пранёсся па натоўпе шэпт, нібы вецер прашуршэў вялізнай гурбай сухога лісця.

— Бом!.. Цілім-цілім-цілім!..

— Госпадзі памілуй, госпадзі памілуй, госпадзі памілуй!..

У жахлівым чаканні сярод багамольцаў шаптаў малітву і Альяш. У яго «пасланні к народу» вызначаны быў толькі ракавы дзень, а цяпер людзям не цярпелася ведаць: калі ж наступіць той самы момант — уночы ці раніцой? Многія хацелі ўдакладніць, крадком прабіраліся да «прарока» і спрабавалі спытацца. Альяш толькі злаваў, нервова ўсхопліваўся і некуды бег. Піліпіха гаварыла:

— Ён там з усявышнім гаворыць!

— Вядомо, клопату цяпер у яго — бы ў генерала! — з гонарам вызначыў Данілюк.

— Галава задурана, не кажы, такое дзе-ело!..

Тым часам дзядзьку Клімовічу сапраўды было не да іх. Тое, што аб'явіў ён людзям і ў што, магчыма, паверыў нават сам, было з галіны фантазіі, гульні ці трызнення здзяцінелага старога чалавека. Практычнага мужыка цяпер разбірала вінаватая ўзбуджанасць і непакой — ён чакаў бяды і шукаў выйсця.



А ў гэты час Грыбоўшчына ўкладвалася да сну. Толькі ля плота на каменнях сядзела моладзь. Юнакі і дзяўчаты слухалі званы і з маладым рогатам абгаворвалі падзею.

— Ну, дзісь свінні мелі чым пажывіцца на выгане! Столькі хлеба, сыраў, яек багамольцы пакідалі там!..

— Цэлы тыдзень надворныя будуць мець што падбіраць!

— І шмаццця рознага колькі валяецца!..

— А наша цялушка ледзь не падавілася! Хустку засмактала. Добро, што матузы былі відаць, і тата выцягнуў. Добрая яшчэ шаляноўка...

— Будзеш мець да пасцірай... Пасцірай толькі, а то замуж не вазьму!..

— А ну яе!.. Яшчэ ўсялякую агіду стану падбіраць!.. Завалакла ў роў дый кінула.

— Наш малы навалок лахманоў... Крынкаўскі Пінкус каб убачыў, цэлую кішэню грошай даў бы!..

— Пакідалі, нібы ім нічога ўжэ не трэбо!.. Цікава, як заўтра падбіраць будуць?!.

— Вы-ыдумэлі — канец свету!..

— Ці толькі яны дурэюць?!. А як набожныя яўрэі ў Крынках пад свой новы год вар'ююць? Гэтак сама мітусяцца і пеўняў белых над галавой рэжуць, нічого не ядуць, адно мо-оляцца — нібы больш ужэ і свята не пабачаць...

У цікавых і смешных успамінах так і прайшоў для маладых вечар. Нагаварыўшыся ўволю і парагатаўшы, яны пачалі прыслухоўвацца да злавеснага гулу званоў. Ад яго, здаецца, аж трымцелі далёкія зоркі.

— Усё гуду-уць, там усё мо-оляцца!..— са спачуваннем прамовіла дзяўчына і пазяхнула: — Мусі, трэ адпраўляцца спаць, ліхо па яго!.. На жаль, таго канца свету не будзе і давядзецца заўтра зноў брысці да торфу!.. А вада хало-одная, аж ногі ломіць...

— А мне — выбіраць дурныя камені з канюшыны прымусіў тата!.. Выбіраеш, выбіраеш кожны год, крушні цэлыя назвальвалі ўжо на межах, а яны вырастаюць зноў, каб на іх чорт! — пажалілася тая дзяўчына, што гаварыла пра цялушку.

Хлапец, што над ёй падсмейваўся, сказаў:

— Эх, каб гэтых багамольцаў з вёдрамі запёр на поле, хутка поле ачысцілі б, нават — ад валуноў!

— Пойдуць яны табе, а як жа!..— са шкадаваннем уздыхнула дзеўка.— Ну, дабранач!..

Устаючы, хлапец у адчаі заспяваў:

Жынка мяне не ўзлюбіла
І за дзверы выкінула.
І за дзверы выкінула,
Рукі-ногі вывіхнула!..
Ы-ых, раздайса, ні-іва!..

З жартамі ды прымаўкамі хлопцы і дзяўчаты разышліся па хатах.

## 4

А ля царквы ішоў малебен. Людзі, хто на каленях, хто лежачы пластом на зямлі, маліліся ля храма і маліліся. Цэлую ноч на ўсю акругу білі і білі званы:

— Бом!.. Цілім-цілім-цілім!..
— Бом!.. Цілім-цілім-цілім!..

Нарэшце стала світаць. Развіднела.

Было халаднавата, сыра, але ніхто гэтага не адчуваў: вось-вось мелася адбыцца і нешта важнае, і нешта жаданае і вельмі страшнае. Сярод гэтай масы народу мо адна цётка Хімка прагна чакала ракавога моманту і з нецярплівай радасцю рыхтавалася праз хвіліну ўбачыць свайго Яшку і Маню ды трывожылася: як дзеці спаткаюць сваю маці, ці не адмовяцца ад яе, якія яны цяпер?! Сын калісьці гэтак перажываў, што надта малы. Ці падрос потым? Маня баялася гусей ды галава ёй вельмі кружылася, калі ехала ў цягніку, але ж тады голад быў...

Пасля ўсходу сонца людзі згрудзіліся яшчэ цясней. У нейкім першабытным і дзікім жаху, велічна-прыгожыя ад сваёй рашучасці і веры, яны паспешліва маліліся, украдкам зыркалі на неба ды калаціліся, як у ліхаманцы. Кожныя дзесяць мінут на званіцы мяняліся званары. Успатнелыя мужыкі да крыві націралі сабе рукі,— так заядла цягалі за вяроўкі. Усё гэтак жа гучна і прызыўна біў першы звон:

— Прыйдзі-і!.. Прыйдзі-і!..

Меншыя таропка дабаўлялі, нібы цвярдзілі:

— Мы цябе чакаем! Мы цябе чакаем!..

Усё гэтак жа шапталі людзі:

— Госпадзі памілуй, госпадзі памілуй, госпадзі памілуй!..

Паступова паміж званамі і народам устанавіўся музычны рытм. Як толькі наверсе прагучэла, ашалелы Данілюк ускінуў к небу рукі і грамавым голасам закрычаў:

— Госпадзі, сыйдзі!..

Агорнутыя такой жа раз'юшанасцю, адчайна, нібы жадаючы прымусіць занятага клопатамі бога на хвіліну адлучыцца ад сваіх нябесных спраў і зрабіць тое, што рабіць ён павінен, поўныя страху людзі паўтаралі:

— Госпадзі, сыйдзі!

— Бом!.. Цілім-цілім-цілім!..— адгукаліся званы.

— Сыйдзі да нас, госпадзі! — яшчэ мацней выгукнуў «апостал».

— Сыйдзі да нас, госпадзі! — ужо, як рыданне, вырваўся лямант з соцень грудзей.

— Бом!.. Цілім-цілім-цілім!..

— Ідзі да нас, госпадзі!..

Гэта былі рытмічныя і магутныя, як гром, выбухі чалавечага шаленства і адчаю.

У такім напружанні надышоў час снедання.

Папрачыналіся галодныя дзеці і палезлі шукаць бацькоў. Усе былі занятыя, малых білі, адганялі, але нішто не дапамагала — дзеці ўзнялі лямант. Нехта прапанаваў сабраць іх разам і, даўшы торбы з хлебам, пад назіркам мацярок з груднымі малымі і цяжарных маладзіц адправіць на балота збіраць кветкі. Чакаць запаветнага часу яшчэ трэба было, пэўна, некалькі гадзін, таму ўсе згадзіліся, і мацяркі пачалі даваць малым апошнія наказы.

— Манечка, калі загрыміць і заблiскае, адразу бяжы сюды, мілая! А калі згубішса — не плач, падыдзі да анёла і скажы яму: «Хачу да мамкі!..» Ён цябе і адвядзе!.. Толькі ветлівенька прасі, дачушка!..

— І ты, Міколка, глядзі, будзь ветлівы!.. А мо вас сам бог будзе пра што пытацца, то скажы яму, чый ты сынок, пакланіса ў ногі і



руку пацалуй яму. Ён будзе такі стары, барадаты, бы наш дзед Мікодым! Толькі не бойса, ён — добры. Адно з чортам не гавары ні пра што. Чорта таксамо ты адразу пазнаеш, ён з рагамі, хвастом, а на нагах будзе мецъ конскія капыты! Не бо-ойса яго, твой архангел у крыўду цябе не дасць!..

— А як захочуць вас, дзеткі, у анёлы браць, то вы адно не супраціўляйцеса! — умяшалася ў сямейную гаворку цётка Піліпіха.— Будзе вам добра, яшчэ і свайму татку з мамкай дапаможаце.

— І крыльцы нам дадуць? — дапытваўся дасціпны малы.

— А як жа! Святы Пятрук падрыхтаваў вам і белыя, і жоўценькія, і рабенькія.

— Назусім?..

— Назусім!..

— І з пёркамі?

— Вядомо!

— І можно будзе лётаць імі і зорачкі збіраць?

— Можно!

— Эк, добро як!..

Падскокваючы ад радасці, звонячы маладымі галасамі, шчаслівыя дзеці панесліся за праважатымі.

## 5

Мінуў час абеду, званы галасілі на ўсю моц, а людзі пад камандай ужо іншых крыкуноў-апосталаў прасілі, малілі, патрабавалі ў бога сысці да іх на зямлю.

Перад заходам сонца з вяночкамі на галовах, з конікамі ў кошыках ды скрыначках ад запалак вярнуліся з балота дзеці, зноў паднялі лямант, што хочуць есці. І толькі цяпер бацькі нібы працверазелі.

Людзі са здзіўленнем і з насцярожанай трывогай сталі кумекаць, што нічога не здарылася. Пастылы, ненавісны свет не толькі не разваліўся, ён нават не здрыгануўся. І дрэвы, і платы, і хаты стаялі гэтак сама, як заўсёды. Ні разу і не грымнула. Вунь сяляне вярталіся з поля. Грыбоўшчынскія пастушкі гналі ў хлявы кароў, якія важна неслі перапоўненыя вымі, за статкам лянiва цягнулася воблака пылу. Мужчыны з разакамі на плячах валакліся ад торфу. Нейкая фурманка плялася з Крынак...

— Дарагія брацця і сёстры, гасподзь бог спусціў нам вялікую міласць! — аб'явіў ахрыплы Данілюк.— У сваёй бязмернай дабраце ён дазволіў яшчэ несці нам крыж на грэшнай зямлі, каб яшчэ раз праверыць нашу любоў да яго!.. Радуймосо і лікуймо...

Людзей яго прамова раззлавала.

Адчуваючы, што натоўп пачынае гаманіць, бы градавая хмара, Альяш з «апосталамі» вышмыгнулі з тлуму. Грыбоўшчынскія мужчыны потым бачылі, як у кустах разлютаваная Тэкля адчытвала нявенчанага мужа:

— А-а, дык ты ўсё гэто вы-ыдумаў! Што ты, чорт стары, навычаўпляў? — накінулася яна з кіпцюрамі.

— Ах, Тэклячка, не трэ-эба так, айцу Ілле самаму сорамна, бачыш — перажывае чалавек! — упрошвала Хімка.— Ратуймо яго хутчэй, покуль не позно! Потым яго вылаеш, адвядзем яго адгэтуль, а то грэх будзе, калі людзі зробяць што-небудзь з ім!

Тым часам багамольцаў агарнула роспач: яны засталіся без гроша, без даху над галавой, з малымі дзецьмі на руках — як дурні.

Натоўп нібы прарвала, узняўся крык і лямант.
— Бо-ожа, забралі ўсенькія грошы, багацтво і кінулі на скананне!
— Ашуканец ён! — раптам уразіў нехта натоўп страшным адкрыццём.— Жулік! Ніякі ён не прарок!
— Разадраць яго мало! — паляцелі пагрозы.
— Паліцыю трэ выклікаць, бо ўцячэ!..
— Яны заадно-о!.. Паліцыя не паможа. Мы самі яго рошым, дзе той стары хлус?!
Разлютаваны натоўп рынуўся да «прарокавай» хаты.
— Пустая. Так ён нас тут і чакаў...— са шкадаваннем аб'явілі тыя, што дабеглі першымі.
— Нікуды не дзенецца... Недзе ён тут блізко! — крычалі заднія.
Людзі разбегліся шукаць Альяша. Тэкля з Хімкай паспелі яго завесці ў хвойнік.

## 6

Раптам пранеслася чутка, што «прарок» з Грыбоўшчыны — белагвардзейскі афіцэр з арміі Балаховіча.
Праведныя людзі знайшлі дакладныя дакументы, з якой ён часці, у якім чыне служыў у рэвалюцыю, колькі расстраляў людзей і як трапіў у вёску. Гэты «ваша благароддзя», каб пажывіцца на бедным і цёмным мужыку, купіў сабе ў Грыбоўшчыне чужое прозвішча і прыкінуўся святым, а ў самога было аж чатыры маладыя жонкі і цэлыя мяшкі золата з брыльянтамі, закопаныя ў гародчыку. Падумайце, столькі гадоў прыкідваўся непітушчым, а самому аж з самога Парыжа ды з Варшавы прывозілі рознае віно і лікёры...
Усе гэтыя падрабязнасці цяпер, як незвычайная сенсацыя, па тым самым бяздротавым тэлеграфе памчалі зноў з вёскі да вёскі і бударажылі лёгкаверных сялян.
— Ашукаў і гэты!.. Ах, як лоўко ён нас!..
— Зноў буржуі мужыка абдуры-ылі! Дакуль будуць паны з нас здзекавацца? А ўсё таму, бо мы не правучылі іх як след.
— І праўда!.. Няўжэ мы такія бэткі, не можам катораго прыцісънуць, каб другім было непавадно?!
Учарашняга куміра людзі гатовы былі чацвертаваць.
Альяш не ўмеў, не быў здольны на тое, каб з Сакольскай ашчаднай касы забраць свае скарбы і з каравокай Тэкляй уцячы кудынебудзь за граніцу. Упарты мужык жыцця сабе не ўяўляў па-за Грыбоўшчынай. Не могучы і мінуты пасядзець без работы, ён асцярожна пачаў начамі выязджаць на поле з плугам ці бараной, а на дзень адпраўляўся спаць да суседзяў, куды Тэкля насіла яму гаршчок з кашай.
Прайшоў дзень, другі. Мінуў тыдзень. Альяш ужо думаў, што небяспека мінула.
А ў гэты час пад Бельскам самыя заядлыя Альяшовы паклоннікі рыхтавалі «прароку» пакутніцкую смерць. На скрыжаванні дарог Белавеж—Гайнаўка—Заблудаў з адпаведнымі малітвамі і заклёнамі бяльчане спілавалі ноччу дуб, змайстравалі з яго крыж, і бабы завязалі пад перакладзіну фартушок. Тады некалькі соцень мужыкоў узвалілі крыж сабе на плечы і панеслі ў Крынкі.
Бяльчане ішлі якраз праз Міхалова, Гарадок, Случанку...
Сустрэчныя людзі пыталіся, куды яны валакуць гэтую ношу, але бяльчане маўчалі. Прызналіся аднаму Салвесю. Страшавец якраз ехаў з млына і спаткаў дзіўную працэсію.





— Што здарыласо, мужчынкі? — пацікавіўся дзядзька.
— Так трэбо! — кінуў Салвесю згорблены ад цяжару мужык.
— Куды ж вы з такім грузам маецеса, коней у вас не стало, ці што? — не адставаў ад іх дзядзька.
Малады хлопец не вытрымаў і пахваліўся:
— Ідзем у Грыбоўшчыну да Альяша. Пачакайце, дзядзька, хутко пачуеце...
Хімка са сваім прыданым была ўжо вярнулася ў Страшава. Калі Салвесь расказаў пра сустрэчу, братава сястра ўсхапілася з лавы:
— Ой, дальбо, яны там што-небудзь зробяць кепскае яму!.. Пабягу ў Грыбоўшчыну, Тэклі адной не справіцца, калі гэтак на яго ўз'еліса!..

## 7

Бяльчане з крыжам прыйшлі ў Вершалін на світанні. Дзядзька пры месяцы цэлую ноч акучваў бульбу, толькі што распрог змакрэлага буланчыка і збіраўся ісці на сняданне. У гэты момант яго і злавілі. Адны бяльчане пад ліпай пачалі капаць ямку, іншыя вывалаклі «прарока» з падворка, паставілі ў круг.
Мажны і высокі Іван Антанюк з белавежскай вёскі Масева Другое быў за старэйшага, ён «прароку» аб'явіў:
— Ілля, не злуй на нас, але ўсе людзі гавораць, што ты — белагвардзеец. Чуў пра гэто, нябось?
Перапалоханы Альяш не разумеў нават, чаго ад яго хочуць.
— Так усе кажуць,— апраўдваўся бяльчанін.— І мы прыйшлі праверыць. Бо хочам па справядлівасці, каб нікому не было крыўды — ні табе, ні нам. Цябе мы зараз укрыжуем. Калі на самай справе ты святы, то няма чаго табе баяцца — уваскрэснеш на трэці дзень, як Ісус Хрыстос...
— А калі не, то — здохнеш на бервяне, бы сабака! — не вытрываў, крыкнуў з пагрозай нехта з гурбы мужыкоў.
— Але! — з затоенай пагрозай пацвердзіў і старэйшы.— А гэтыя тры дні мы павартуем ля крыжа, паназіраем за табой і нікого не падпусцім.
— Няхай толькі хто падлезці паспрабуе!..— папярэдзіў з натоўпу ўсё той жа крыкун.
Наступіла доўгае маўчанне. У вёсцы зарыкалі сонныя каровы, якіх павыганялі на вуліцу пастухі. Побач двое мужчын, шоргаючы лапатамі, капалі ямку, нібы збіраліся ўкопваць слуп каля плота. Яны сварыліся:
— Казаў табе — тут много каменняў!
— Там дарога, і зямля злежалая. Не будзь такім панам!
— Яна ўжо на паўтары аршыны. Хопіць, крыж будзе стаяць. Хлопцы, падайце яго!..
Добры дзесятак мужыкоў дружна ўзнялі дубовае бервяно з перакладзінай ды палатняным фартушком і, узнімаючы перакладзіну, пасунулі тоўсты канец у ямку. Было чуваць, як цяжкі камель грузна гупнуў на дно.
— Лявей яго, лявей!.. О, так, ры-ыхтык! Прысыпай!
На іх закрычаў Антанюк:
— Стоп, сто-оп!.. Трэ прымерыць, ці не будзе даставаць нагамі да зямлі.
Мужчыны хапілі Альяша пад пахі і павалаклі да крыжа.
— Во-о, яшчэ запасу колькі! — болей, як паўаршына!..— сказаў той бяльчанін, каторы гаварыў пра каменні.— Цяпер ужо можна і



прысыпаць. На, Іване, патрымай яго, а то дзед то дзед, а возьме і ўцячэ, халера. От смеху будзе. Мікалай, а ты глядзі, каб не пакасіло крыж, покуль прысыплем!
Мужчыны, не надта спяшаючыся, сталі кідаць у ямку пясок ды ўтрамбоўваць нагамі зямлю, а тым часам Іван Антанюк моцна трымаў за локаць амярцвелага «прарока». Гэты здаровы і валасаты дрывасек з Белавежы, які і з зубрам мог бы падужацца, свабоднай рукой з кішэні світкі вывалак малаток, вострыя, новенькія цвікі-вухналі і паказаў Альяшу:
— Нічого, я табе быстро гэто зраблю, балець надто не будзе, не бойса!..

## 8

Якраз у гэтую хвіліну Тэкля ў спорных гладышах несла Альяшу снеданне і надышла на перапалоханых пастушкоў. Хлопчыкі збіраліся выганяць кароў і не ведалі, што рабіць.
— Цётка, а там вашага дзядзьку хочуць на крыж прыбіваць!..— закрычалі яны здалёк.
— Прышло мно-ого нейкіх людзей і ўжо крыж укопваюць!
— Цвікі падаставалі і малато-ок!..
Жанчына выпусціла гладышы, кінулася да Курзы Сцяпана. У Курзаў чамусьці было насцеж адчыненае акно, расхіленыя фіранкі. Жанчына прасунула паміж вазончыкаў галаву, прыгледзелася.
Апрануты Сцяпан сядзеў на ўслоне і чапляў сабе на шыю казённую бляху.
— Хопіць, што ўляцела тады за Юзіка ад паліцыі... Крычалі на пастарунку — нашто замальдаваў,— гаварыў ён жонцы. А халера іх ведае, як ім і дагадзіць!..
— І я памятаю, як цябе сам стараста палохаў і абзываў,— падхапіла жонка.— Правільно, на гэты раз не лезь, разбяруцца самі! Прыедзе паліцыя, тады і выйдзеш.
Да ўзбуджанай Тэклі яшчэ не даходзіў сэнс іхняй гутаркі.
— Сцяпа-ан, Ні-інка!..— закрычала яна.— Што гэто ро-обіцца?! Хутчэй адчыніце хату!..
Адпак Тэклі давялося доўга барабаніць у дзверы, покуль выйшла ў начной кашулі солтысіха.
— Нінка, кліч свайго Сцяпана!..— выдыхнула яна і памкнулася ў сені.— Няхай збірае хутчэй людзей, бо там з Альяшом хочуць...
Солтысіха, прытрымліваючы дзверы, заступіла ёй дарогу.
— Сцяпан прыхварэў крыху. Хай сабе паспіць яшчэ... Ты мо збегай па другіх, яшчэ ўсе до-ома...
Тэкля заўважыла праз Нінчына плячо, як солтыс без агляДкі сігае ў свіран. Толькі цяпер да яе дайшло, чаму ў Курзаў было насцеж расчыненае акно, дайшоў і сэнс пачутай раней гутаркі. Тэкля са здзіўленнем глянула на Нінку і прамовіла:
— А-а, твой муж умывае ру-укі?!. Адразу б і сказала гэтак!
— Што ты, Тэклечка... Ён ніколі іх раніцою не мые, а — вечарам, пасля рабо-оты! Я толькі кажу — прыхварэў ён, галава яму...
Солтысіха пабачыла, што няма сэнсу больш прыкідвацца і выбухнула:
— Ану яго, з тваім Альяшом!.. Сцяпан ужо адзін раз умешваўса ў вашыя справы, а потым адкараскацца не мог!.. Нават я чула, як сам стараста Вайцяховіч на яго крычаў!.. А што, хібо ён кепскае тады хацеў каму? Цяпер стараста няхай і разбіраецца едзе, хай ратуюць

адзін аднаго, калі так спараваліся! Ідзі сабе адгэтуль — не пушчу я яго!

Тэкля кінулася да Альяшовага зяця. Уварваўшыся ў хату, пачала яго ўпрошваць:

— Волесь, Волесь, уставай! Глядзі, што з тваім цесцем хочуць зрабіць! Вольга, скажы ты яму, хай устае, будзіць мужчын і ратуе бацьку. Што ў вас там паміж сабой было, цяпер не ўспамінайце. Даруйце старому дурню, будзьце хоць вы разумнейшыя... Такі ўжэ чалавек радзіўся. Ён усё ж такі ваш сваяк, дзед вашых дзяцей!..

І покуль Аляксандар апранаўся, Тэкля з Вольгай кінуліся ў суседнія хаты будзіць людзей.

## 9

Нарэшце крыж быў падрыхтаваны. Бяльчане ў напружанні чакалі, што перад смерцю скажа «прарок».

Альяш доўга маўчаў. Стары быў аднак не без здольнасцяў, і прыроджаны талент падказаў яму выйсце. Ён нейкім мяккім, спакойным ды бясхітрасным голасам, якім, здавалася, і з людзьмі ніколі не гаварыў, прамовіў:

— На крыж?.. Можна і на крыж. Для кожнага з нас найвялікшае шчасце прайсці па цярністаму шляху сына божага і быць за народ укрыжаваным! — уздыхнуў ён.— Але ж я — адно што з поля вярнуўсо, прыехаў дадому каня карміць. Во яшчэ і рукі ў зямлі. Акучваў бульбу з расой і не маю цяпер у сабе святасці, з уваскрасеннем нічога не выйдзе...— дзядзька нібы разважаў, нібы заклікаў іх у сведкі, запрашаў падумаць над складанай праблемай.

Наступіла клапатлівае маўчанне.

— Дайце мне памаліцца пару гадзін, увабраць божую сілу і тады рабіце са мной, што сабе хочаце. На ўсё воля боская...

Мужыкі, глянуўшы адзін на аднаго, задумаліся. Мабыць, чалавек і праўду кажа. Хіба, калі захочаш, адразу святым можаш стаць? З зямлёй на руках і ў гэткай зашмальцаванай вопратцы? О-го, занадта было б добра!..

Урэшце, які ён, к д'яблу, афіцэр? Што за дурань выдумаў гэта? Заскарузлыя, як капыты, рукі. Такая самая, як і на іх, кужэльная кашуля. Ды і жыве ўсё тут. Хітры белагвардзеец так і чакаў бы нас да гэтай пары?

Не ашукае — ён свой. Мабыць, усё ж такі святы, вунь як гаворыць. Аднак, халера яго ведае, калі прыкідваецца? Не пашкодзіла б і праверыць... Ну і што такое? Праверым! Пару гадзін пазней — якая розніца?!.

Адным словам, уважыўшы Альяшовыя словы, мужчыны яго паслухаліся. Цеснае кола сялян расступілася. Сектанты яшчэ паназіралі праз вокны, як Альяш, увайшоўшы ў хату, бухнуўся перад абразамі на калені і пачаў маліцца. Тады супакоеныя бяльчане выставілі варту, паваліліся на мурог і, змучаныя доўгай дарогай, заснулі.

## 10

Сабраліся грыбоўшчынскія мужчыны і сталі падкрадвацца да Альяшовай хаты. Там стаяла цішыня, на падворку ўпокат ляжалі чужыя мужыкі і храплі як пшаніцу прадаўшы. Грыбоўшчынцы разабраліся, што да чаго, і кінуліся на вартаўнікоў.



— Чаго вы ўчапіліся да старога?!.

Вартаўнікі захацелі захаваць павагу той незвычайнай місіі, дзеля якой прыйшлі, таму маўчалі.

— У вас — што, няма дома работы, жанок, абібокі вы?

— Во, і крыж прывалаклі для дзеда!.. Ці падумалі, што вас паліцыя пазабірае і судзіць будзе? Вам жа прышыюць крымінальную справу!

— А чаго ён байкі брэша? — не вытрымаў, агрызнуўся адзін бяльчанін.

— Скажы мне, які стары не трэпліць баек? — адразу прычапіўся да яго Чарнецкі Банадык.

— Хто цябе застаўляе верыць? — дапамаглі Банадыку.

— Ты лепш прызнавайся,— не адставаў Чарнецкі,— не было чаго рабіць, ты і паверыў яго казкам, а цяпер вінаватага шукаеш?!. Гадко, людзі!..

— Совесці няма!.. Бо пазашываліся ў сваю пушчу, жывеце адно з зубрамі і не думаеце!.. Во, ты ж нават і не ўмываўсо ад вялікадня!..

— Нашто, мядзведзь жыве і так!..

Покуль грыбоўшчынцы так спрачаліся з гасцямі, Альяшоў зяць са старым Базылём Аўхімюком праніклі ў хату. Блакіраваны дзядзька Клімовіч усхапіўся з падлогі.

— Халера на цябе, ці я не гаварыў, што дажывеш, калі яны табе галаву скруцяць за твае выдумкі? — аблаяў яго Базыль.— Ці не казаў — не дражні людзей?!.

— Казаў ты, Базыль, было гэто...

— Дзе твае апосталы?!. Дзе тыя жулікі — Рогусь, Данілюк, Бельскі? Дзе святыя дзевы? Пакінулі цябе аднаго з ашалелымі сектантамі, паўцяка-алі! Во колькі храпе іх там — цэлае войско. Ты іх спарадзіў, а яны цябе рошаць. От смеху будзе — на ўсё ваяводства. І не ўратуе цябе твая матка боска Чанстахоўска.

— Дальбо, праўда, Базыль, дальбо!.. Гэтым людзям, падумай, я усю душу, усяго сябе... Я ім... Я для іх найлепшыя званы раздабыў, толькі ў Кракаве такія ў касцёлах. Адваліў па пяць з паловай тысяч за адзін. Хай сабе, думаю, маюць... Гэто папы іх наслалі!..

Сямідзесяцігадовы Альяш з крыўды раптам расплакаўся.

— Ты зноў за сваё?!.— паківаў галавой Базыль.— Эх, сівая барада, а — ёлуп ёлупам, і нічого, мабыць, цябе не зменіць ужэ!..

— Ёлуп, Базылька, яшчэ й які!.. Я для іх Вершалі-ін будаваў стараўса, і на высокім падмурку зрубы клаў, і на вапне, як панскія двары. Майстроў самых лепшых раздабыў і нават шкло каляровае прывёз з Бярозаўскай гуты, а яны папам прадаліса!..

Увесь гэты час Волесь рваў акно, якое дагэтуль ніколі ніхто не адчыняў. Нарэшце, адчыніў і выглянуў на падворак. Там стаяла Тэкля і махала рукою.

— Дзядзька Альяш,— шапнуў Волесь.— Вартаўнікам Чарнецкі Банадык зубы загаворыць, а вы покуль што — уцякайце!.. Вунь цётка Тэкля вас чакае...

— Ну, давай, скоранька, як злодзей,— усё здзекаваўся Базыль.— Лезь, я дапамагу!..

Клімовіча пасадзілі на падаконнік і адтуль асцярожна спусцілі ў гародчык. Тэкля яго падхапіла. Вывела за гумны і там ужо расплакалася.

— Ці я табе не казала — не начуй у сваёй хаце! Чаму да Вольгі не пайшоў? Во, маеш, во табе!..

— Я ж не спадзяваўсо... Пачакай, Тэкля,— ухіляўся Альяш.

— Ці не прасіла цябе яшчэ нават учора — вы-ыедзем адгэтуль, усяроўно звар'яцелыя сектанты жыць нам не дадуць!..— не адставала разлютаваная Тэкля.— Ці дваццаць, сто разоў не маліла цябе? Чаму не слухаўса? Ледзьве не памерла я ад страху. На, атрымлівай у мяне і памятай!

Тэкля размахнулася і пляснула старому па твары. Мужчынам давялося яшчэ раз заступацца за Альяша.

### 11

На другі дзень Альяш вярнуўся з Гродна пад аховай узброеных дубальтоўкамі малойцаў. Атрад з пяці чалавек даў пару залпаў у паветра і кінуўся разганяць сектантаў, якія яшчэ не трацілі надзеі знайсці «прарока».

Прыляцеўшы ў Грыбоўшчыну, нашая Хімка чула гэтую страляніну і, спалохаўшыся, прасядзела ў хвойніку, а потым пайшла распытваць, што здарылася.

— Пастраля-аю!..— хадзіў па апусцелым Вяршаліне разлютаваны Альяш і, нікога не пазнаючы, цвярдзіў:

— Усіх пастраляю, і мне нічога не будзе — гродзенскія паліцыянты мне далі права!..

## РАЗДЗЕЛ ВОСЬМЫ

### 1

Альяш Клімовіч зноў ашаламіў людзей. Надзя Чарнецкая апавядае, што пачалося гэтае дзіва так:

— Пайшла я з кумой лён палоць, і чуемо мы з поля, што ў царкве нешта — трэсь-трэсь!.. трэсь-трэсь!.. «Кума,— кажу я,— паглядзім, што там робіцца!..» Прылятаемо на ўзгорак — званоў няма! Заходзім у царкву, а там — разгром поўны!.. Райскія вароты вывалены. Прастол звернуты. Свечкі на падлозе валяюцца, на сценах — ні абразка! Па залі ходзяць у шапках нейкія маладыя мужыкі і свішчуць сабе факстрот!.. «Бяжым, кажу, кума, паднімаймо народ, бо і нашыя ж бацькі для царквы столькі стараліса!..» Але дзе вы бачылі, толку не выйшла з нашага старання!

А гэта Альяш помсціў за сваю крыўду.

Першым чынам ён наняў рабочых, паздымаў званы, завёз іх у Студзянку і кінуў у сажалку. Тады павыдзіраў з царквы ўсе атрыбуты, перавалок на хутар у Вяршалін і адкрыў там малельню, а ўсім аб'явіў, што царкву прадае на злом. Падвярнулася нейкая жанчына, заплаціла вызначаную суму, і Альяш зараз жа аформіў на яе купчу.

Але аказалася, што купчыху падаслала гродзенская кансісторыя. Праз пару дзён Альяшу сказалі, што ў яго будыніне ходзіць ігумен Серафім. «Прарок» ускіпеў:

— А-а, то вы та-ак? Папы ўсё падстроілі мне?!. Ну, пачакайце ж, кудлатыя, вы ж мяне яшчэ не ведалі!

З узброенымі малойцамі Альяш прыехаў да жанчыны, сілай выраў купчу і адправіўся ў Саколку. Там зайшоў у ашчадную касу і палову царкоўных грошай перавёў каталіцкім місіянерам і на будаўніцтва шпіталя святога Роха.

— Во, паскачаце цяпер, пузачы, калі даведаецеса! — пагразіў ён папам і, завітаўшы да сакольскага дэкана, папрасіў яго прыняць царкву пад касцёл — насельніцтва ў Грыбоўшчыне па веры было мяшаным. К таму часу на свеце пахла порахам, кардынал Хлёнд пераставў цікавіцца Альяшом, таму сакольскі дэкан даў загад крынкаўскаму ксяндзу зараз жа апрыходаваць праваслаўны храм.

Бабкі нават войкнуць не паспелі, як з купалоў іхняй святыні іншаверцы выдралі праваслаўныя крыжы, уставілі каталіцкія, а ў былую цэркаўку, куды яны столькі ўклалі душы і надзеі, «Жывыя Ружанцы» ўвалаклі халодныя гіпсавыя скульптуры, масіўныя чорныя лаўкі з дубовых дошак, а да сцяны прыладзілі амбону.

Альяш на кужэльную старэнькую світку паначапляў польскія ордэны і ў такім выглядзе пачаў выходзіць да людзей.

— Альяш, чаму ж ты царкву аддаў палякам? — пыталіся ў яго аднасяльчане.

— Сам аддаў, сам і вазьму!.. — коратка адказваў ён.

Прыйшлі да яго суботнікі з Ваўкавыска. Мужчыны адкрылі біблію і пачалі яму чытаць радочкі аб здрадніцтве. Альяш вырваў у іх кніжку, кінуў на падлогу і пачаў таптаць.

— Бойса ж бога, брат Ілля, гэто ж — Біблія! — аслупянелі яны.

— Пляваў я на вас!..— кіпеў стары.— Кніжнікі і фарысеі! Дзе вы ўсе былі, калі мяне папы распяць хацелі? Вы абаранялі мяне тады? А гэто вы бачылі? — паказаў ён на свае рэгаліі.— Вон з маёй хаты, бо паліцыю паклічу!

Баптысты адзін перад другім вышмыгнулі на вуліцу. Альяш адправіўся распраўляцца з памочнікамі.

Рэгіс атабарыўся ўжо ў Грыбоўшчыне грунтоўна. Іншыя яго паклонніцы нават купілі ў гаспадыні ваду, у якой Мікалай мыўся. Гладкі і шыкоўна апрануты галоўны лекар прыпадачных дзевак цяпер завёў звычай хадзіць з абсмаленым ядлоўцавым кіёчкам.

Альяш спаткаў Рэгіса на вуліцы.

— Ну, то дзе тая біблія? — спытаўся стары.— Усё друкуецца ў Гродні?.. Ты глядзі, які кіёчак!.. Ану, ану, пакажы!..

Разгублены Рэгіс аддаў кіёк.

— Вон, сабака, з Грыбоўшчыны! — пачаў раптам лупцаваць яго сукаватым кіем Альяш.— Вон, каб і твайго следу не было тут!..

Гэтак жа прапёр Альяш Бельскага і Ломніка.

Рэгіс адкрыў сваю секту ў Жабінцы, а Ломнік неўзабаве прастудзіўся і памёр. Павел Бельскі на яго магільным крыжы высек: «Здесь плотно уснув пастырь всех правых овец», а сам наняўся ў пахавальную фірму ў Гродне складаць надпісы на помніках.

### 2

Збыўшы царкву і расправіўшыся з памочнікамі, Альяш спакою не меў. Яго грызла злосць.

Ён наняў адвакатаў — у Саколцы павятовага, у Беластоку — акружнога. Юрысты цяпер ад яго імя за абы-якое глупства цягалі людзей па судах.

Убіліся каровы Банадыка Чарнецкага ў Альяшовыя трускаўкі, і суд адразу пакараў Банадыка штрафам.

Памерла Альяшова ўнучка. Неслі цераз вёску нябожчыцу, два хлопцы Івана Чарнецкага штосьці ўслых сказалі вясёлае, і ім уляпілі па тры месяцы турмы.

Браты Фёдар і Аляксандар Галамбоўскія пасварыліся за нешта з Тэкляй. Выскачыў з хаты Альяш і хлопцаў аблаяў.

— Дзядзька, грэх вам так брыдзяцца! — заўважыў старэйшы брат.

Павалаклі ў суд і абодвух Галамбоўскіх.

Наша Хімка, нарэшце, атрымала ад дзяцей вестку. Разам з пісьмом у канверце з Расіі цётцы прыйшла фатаграфія бравага Яшкі ў лётнай форме з бліскучымі кубарамі на пятліцах. Здзяцінеўшы ад радасці, Хімка некалькі дзён малілася на фотакартачку ды паказвала страшаўцам. Польская прэса падрабязна апісвала, як рускія авіятары ваююць у Іспаніі. Сімпатыі рэдактараў былі на баку генерала Франко, і газеты не шкадавалі фарбаў ды выводзілі, як забіваюць рускіх, як гараць іхнія самалёты. Раптам Хімка ўзяла сабе ў галаву, што і яе сын за Пірынеямі, таму доўга і не пісаў. Цётка прыбегла ў Грыбоўшчыну, сунула Альяшу фота і папрасіла:

— Памаліса за яго, святы чалавек, хай ніводная куля праклятаго фашыста не кране яго! Паглядзі, які ён у мяне прыгожы... Не было чым карміць у разруху, не рос, малым быў, а цяпер — глядзі, як вылюдзіўса. Памаліса, у цябе лёгкая рука...

— За каго?.. За бальшавіка-а?!..— ашалеў стары.— Цацаліста?! Камісара?!. Бязбожніка?!.

І Хімку, якая звяла яго з Тэкляй, хавала ад разлютаванага натоўпу, карміла і даглядала, Альяш прагнаў з вёскі.

— Паліцыі аддам, калі швэндаць сюды будзеш!..— паабяцаў.

Тэкля папаўнела і яшчэ больш пахарашэла, але варта было камунебудзь з мужчын пажартаваць з яе — адвакаты адразу браліся за гумарыстаў — прысылалі павесткі ў суд.

Часамі сыходзіліся пасля работы грыбоўшчынскія мужчыны ды пачыналі гаворку:

— Чысты Паўтарак стаў наш Клімовіч, дыхнуць не дае нікому.

— Той хоць улады не меў такой. А паспрабуй, чапі гэтаго?..

— Не дай бог, калі з хама зробіцца пан, яшчэ даўней пра гэта гаварылі!..

## 3

Чырвоная Армія вызваліла Заходнюю Беларусь. У вёсках забурліла новае жыццё. Энергія шматпакутнага народа, які дагэтуль трациў яе так неразумна, нарэшце, атрымала накіраванне. Людзі шуганулі хто ў школы, хто — на будаўніцтва, хто — завербаваўся ў Данбас. Бабкі лёталі па магазінах і, ледзь не ашалелыя ад радасці, пудамі куплялі соль, цукеркі-падушачкі, па сотні скрыначак запалак, па вядры нафты — за ўсе пакаленні, што жылі ў нэндзы і нястачы.

Альяшом перасталі зусім цікавіцца, патрэба ў Вершалінскім «раі» адпала.

У самой Грыбоўшчыне Альяшовы будынкі сяляне разабралі і перавезлі ў суседнія вёскі на школы ды сельсаветы. Застаўся толькі адзін дом і стайня. У доме дажывалі старыя багамолкі, якім не было куды дзецца, а ў стайні мужыкі ставілі нанач коней, калі зімой прыязджалі на лесанарыхтоўкі.

Ад бельскіх сектантаў застаўся яшчэ дубовы крыж. Прыземісты і здаровы, стаіць ён там па сённяшні дзень, як маўклівы сведка той эпохі.

## 4

У адзін час дзядзьку Клімовіча арыштавалі органы НКВД, бо на яго адусюль пасыпаліся скаргі — пісьмы ішлі нават з Валыні. Калі



стала відочным, што спрыяльных умоў для рэлігійнага фанатызму і сектанства ўжо няма, «прарока» выпусцілі. Знямоглы сямідзесяцітрохгадовы Альяш пасля арышту паказвацца ў сваёй вёсцы баяўся, і верная Тэкля павяла яго ў свае Празнікі. Заядлыя багамолкі павыкідалі з царквы атрыбуты, на купалы зноў узвалаклі праваслаўныя крыжы, але помсціць «прароку» ў Празнікі не пабеглі.

Напэўна, яшчэ многія з нас памятаюць той дзень 1940 года, калі з вёсак Прынёманшчыны пажылыя дзядзькі і бабкі кінуліся ў гарады купляць у кіёсках і паштовых аддзяленнях адзін нумар абласной газеты. На мантажы мастак накрэсліў контуры некалькіх асоб — прадстаўнікоў народа. У барадачы, які, мабыць, на думку аўтара, павінен быў прадстаўляць селяніна, веруючым здаўся нібы Альяш. Са слязьмі шчасця на вачах бабкі цалавалі паперу і ўміляліся:

— Ах, наш ты Альяшку, наш сако-олік! Як ты высоко ўзня-аўсо!..

Больш стрымана, але таксама акрылены наш сусед, дзядзька Кірыла, паказваў газету свайму сыну і з гонарам папракаў:

— Ага, ты ўсё смяяўсо з мяне і з мацеры, усё не верыў, казаў,— Альяш ў турме сядзіць. Во, глядзі, дзе наш Ілля.

Так было не толькі ў хаце цёткі Кірылíхі. І разумныя людзі на гэты раз смяяліся, бо ўбачылі, што старыя ўспрымаюць новае жыццё па-свойму. І ў сваіх душах гэтак пракладваюць ужо да новага мосцік.

Не знаходзячы захаплення газетай у дзяцей, старыя збягаліся і па-святочнаму радасна і ажыўлена абмяркоўвалі навіну:

— Ого, хібо такі чалавек будзе табе парыцца без дзела ў такі час?.. Можно было сказаць адразу — пры такой уладзе ён далёка пойдзе!

— Яшчэ пачуем мы пра яго не раз!.. Падняць у Грыбаве такое — трэ мець кепалы!..

— І скажы ты, які разумны Альяш! Гэткіх людзей так і цягне да сябе! — захапляўся перада мной Рыгарулька.— Справы цяпер у нас, Алёшанька, пойдуць яшчэ і не гэтак, от паглядзіш!..

— Дачакалі жызні, дзякуваць богу, лепшай і не трэ!..— падхапіла шчаслівая Сахарыха. Успомніўшы сына, якога забілі пару гадоў таму назад, яна ўсхліпнула: — Не дажыў, не дажы-ыў да гэтай хвілі мой бедны Юлячак!..

Назіраў я гэтую з'яву і дзівіўся — дык жа побач Грыбоўшчына, зусім недалёка і Празнікі, можна лёгка праверыць, толькі сесці на веласіпед. Але як тыя бабкі, што цвярдзілі пра абноўленую ікону, так і гэтыя людзі ніякіх разумных доказаў не ўспрымалі. То была частка маіх землякоў амаль страчанага для чалавецтва пакалення — бы цётка Хімка.

Цётка Хімка якраз сабралася ехаць да дзяцей, але весткі аб іх бедную жанчыну збілі з панталыку. Маня яе развялася з мужам і выпіла атруту, а Якаў не захацеў маці прыняць. Яму ўвялі ў вушы, што маці кінула іх з-за каханага.

Хімка прымусіла мяне купіць газет, павыразала з іх партрэты, паразвешвала ў сваёй каморцы і цэлымі днямі то малілася на іх, то плакала. Ёй можна было даруваць — ужо надта збіла яе з панталыку жыццё.

Аднак многія, здавалася, зусім нармальныя дзядзькі павыразалі з газет тыя малюнкі і пахавалі ў патаемныя месцы. А некаторыя з іх потым клалі сабе пад галовы перад смерцю і з радасцю чакалі сваёй апошняй хвіліны...

## РАЗДЗЕЛ ДЗЕВЯТЫ

### 1

Неўзабаве на СССР напалі немцы.

Цераз Празнікі і бліжэйшыя белавежскія вёскі вялікіх дарог не было. Фронт прайшоў стараною.

У наступны дзень Тэкля з бацькам яшчэ з раніцы пагнала ў Белавежскую пушчу хаваць быдла, Альяша пакінула вартаваць хату. Стары ў сіцавай касаваротцы і ў апорках на босую нагу выйшаў на двор, пагаспадарыў крыху, уладкаваўся на сонейку ля парога ды пачаў майстраваць сабе граблі. Раптам старога нехта паклікаў з гарода:

— Папа-ша!..

Альяш узняў галаву — са сланечніку была відаць пілотка з чырвонаю зоркай.

— Старык, немцаў у вас няма? — з юнацкай неасцярожлівасцю баец ужо ўстаў на ўвесь рост і, падтрымліваючы праваю рукой левую, пайшоў да старога.

— Я ўцёк з калоны палонных!.. Нас гналі па шашы ў Ваўкавыск. Ды во фрыц стрэліў наўздагон... Глупства, не надта баліць... І косць, здаецца, цэлая... Бабы твае дома? Перавязаць бы!..

Насустрач хлопцу нёсся раззлаваны Альяш.

— Папа-шу сабе знайшоў! — віскнуў ён ды з маладым спрытам аперазаў салдата граблішчам па маладых, у тонкай гімнасцёрцы, плячах.— Воўк табе папаша, цацаліст ты, а не я!.. Во, маеш яшчэ!..

Прыкрываючы параненую руку, адступаўся ў сланечнік перапалоханы хлопец:

— Будзь чалавекам, дзядуля, што табе кепскае зрабіў я?!.

— А ты — чалавек, думаеш?!. Ты — бальшавік!.. Ты — чорт!.. Ідзі да свайго Сталіна, няхай цябе ратуе і перавязвае!.. Цара скінулі і думалі, што так вам гэто пройдзе?!.

— Но, но, дзед, ты што-о!?.

— Звязду пачапіў?!. У немцаў на пражцы выбіто «бог з намі!». «Анё-олы», сатанінскія звёзды паначаплялі!..

Да іх падляцела Тэкліна суседка, тоўстая цётка Макарыха і, засланіўшы хлопца, заенчыла:

— Ах, сыночак, ах, золатца, ці такі табе дапамо-ожа?! У такога і снегу летам не выпрасіш, ён роднаго сына калісь на верную смерць паслаў, уласныя дочкі адракліса былі!..

— Даруй, мамаша, не ведаў!.. Бачу, з барадой чалавек...

— О-о, вылюдак гэты!.. І-ірад!.. Ідзі ў той будынак, я зараз туды вады прынясу... Перавяжам цябе, сынок, і адправім куды трэ!..

Макарыха абрынулася на старога:

— А ты, дурань, прэч адгэтуль!.. Яшчэ і Тэклі пра ўсё раскажу, то яна грабліско гэта на табе паломіць, будзь пэўны!.. Начмуціў у сваёй Грыбоўшчыне і да нас прыехаў?! Тут не дамо табе развярнуцца, запамятай!.. У-у, жыў столькі на свеце і нічому не навучыўся!..

Макарыха павяла байца ў гумно.

### 2

К абеду ў Празнікі заглянулі немцы. На чале з афіцэрам салдаты другой лініі прыйшлі шукаць трафеяў. Мужчыны пахаваліся, у апусцелых хатах засталіся толькі старыя і дзеці.



На гародах і падворках немцы назбіралі процівагазаў, плашч-палатак, касак, снарадных гільзаў. Сярод выгану стаяла вайсковая павозка. Салдаты барахло паскідвалі ў павозку, і афіцэр загадаў гаспадыні з бліжэйшай хаты:

— Як вернецца твой муж, паненка, каб адразу ў Свіслач вёз. Фэрштэйн?..

— То завязе-е, завязе-е! — паабяцала ні жывая ні мёртвая цётка.

Афіцэр паклікаў бабак:

— Кто знает комуністэн унд юдэн? — спытаўся ў іх, блытаючы нямецкія, польскія і рускія словы.— Альзо, комуністэн унд юдэн?

— Э-э, паночку, адкуль жа яны ў нас? — схітравала Макарыха.— Усе камуністы ў Маскве, мабыць. Там іх шукайце. І юдаў у нас ніколі не было... Па гарадах яны ўсё больш круцяцца...

— Яйкі, млеко?..— расчараваны немец вырашыў хоць якую-небудзь карысць выцягнуць з іх.

Каб чужынцы адвязаліся, каб хутчэй пайшлі, цёткі папрыносілі ім яек, напаілі яшчэ і малаком. Ужо афіцэр сабраўся весці ўзвод у суседняе сяло, ды бабка Піліпіха ўспомніла:

— Пане, затое ў нас антыхрыст е!.. Цацаліст!..

Людзі ў недаўменні пазіралі на бабку.

— І праўда! — падхапіла другая.— Выракса свае веры... У той хаце жыве!..

— Хаваецца там! — паправіла Піліпіха.— Як выпусцілі яго бальшавікі, так і хаваецца ўсё!..

— Ды маўчыце ж вы, цётко, што гэто малоць языком уздумалі! — цыкнула на абедзвюх Макарыха.— Не слухайце вы дурных бабаў, пане, яны нічого не фарштэюць!.. От, жыве тут адзін такі сабе чмут!..

Але жанчына гэтым толькі паддала жару. Зморшчаная, як сушаная груша, Піліпіха, якая некалі рабіла стаўку на Вершалінскі рай ды гэтак ужо блізка была да вечнага збавення, цяпер разлютавалася:

— Цацаліст ён! Хрыстапрадавец!.. Каб ён у пекле на самым дне гарэў! Чэрці даўно па ім сумуюць там, пане!.. Я — старая, ілгаць вам не стала б!..

— А колькі маўчаць?!.— выбухнула іншая бабка.— Мала і я слёз выліла, малячы, каб дачка выздаравела ад сухотаў?.. І авечкі самыя лепшыя аддала яму, як дурная, і грошай столькі ўбухала, а для чаго?.. Каб прапілі яго апосталы разам з Рогусем!

— Ох, і папілі-і ж яны, а людке ж вы мае, папілі-і!..

— Тыднямі, бывало, не цверазелі, з дзеўкамі пазакрываўшыса!..

— Правільно гаворыць Піліпіха. Дзе гэто бачыў хто, каб так людзей абдурыць?!. Столькі народу ўзбунтаваў, задурыў усім галовы — і ўсё дарма!?. Бярыце яго, пане, ён — анціхрыст, дальбог. І ўсыпце яму бізуноў па самае годзі, няхай адрыгнуцца слёзы нашыя старому д'яблу...

Не хаваючы сваёй гідлівасці на бабак, немец доўга і паблажліва ўсміхаўся ды моршчыў лоб — усё стараўся зразумець.

— Вось у гэтай хаце ён жыве! — падказала Піліпіха.— Хапайце гіцля, покуль не ўцёк.

— Ён прыткі на ногі яшчэ...

Немец глянуў, куды паказвала бабка, і ўбачыў старога на парозе.

— Ком, ком! — паклікаў яго.

Дзядзька Альяш ці прыкідваўся, ці і праўду не пачуў, што яго клічуць—ён стругаў зубы да грабель і не азіраўся.

— Во, нехта і паверыць яму, што не чуе! — пакпілі бабкі.

— Хітры надто!
— Ком, антыхрыць!..— паманіў Альяша афіцэр ужо пальцам і зарагатаў, як у яго смешна вымавілася новае слова.
— Ком!..
Не надта спяшаючыся, Альяш падняўся, у шчыліну сцяны ўсадзіў лязо нажа, прыставіў недакончаныя граблі, і згорбленая яго постаць у апорках з шэрымі, як зямля, нагамі, накіравалася да весніцаў.
— Ну, что деляль? — з нядобрай усмешкай спытаўся афіцэр.
Альяш недаўменна глянуў на немца.
— На чтё деляль, расказаць, лёс!..
— Ну, гавары, калі пан начальнік цябе пытае, чаго набычыўса і маўчыш!..— падганяла Альяша Піліпіха.
— Нябось, як пры кім, то і язык праглынуў!..— раззлаваліся бабкі.
Гэтым часам дзед не выказваў ніякага ні страху, ні хвалявання.
— А нічого такого...— загаварыў стары сумным голасам.— Яна пайшла раніцою, а я каля хаты цэлы дзень таўкуса... Гуркі паліваў, капусту... За граблі ўзяўсо... Потым са сланечніка вылазіў гэты... Я яго прапёр з агарода... Ён сабе думаў, што я яму...
Дзядзька ўлавіў суровы позірк Макарыхі і змоўк.
— Паглядзіце, як прыдурваецца яшчэ! — бушавала Піліпіха.
— Пане, але каб вы бачылі, які ён быў раней... Ці ён так гавары?!— дапамагала бабцы тая цётка, што шкадавала авечак.— Я да яго з хворай дачкой паўзла, то ён мяне крыжам сваім так і ўдарыў па галаве!.. Во, сюды!..— зняўшы хусцінку, борзда паказала яна, а голас ад жалю задрыжаў: — Жалезным!..
— Нам казаў маліцца, а сам з апосталамі — ні ў бога ні ў чорта не верыў!.. З Парыжа віно ды лікёр выпісваў!..
— Папілі-і, пабалява-алі нашым коштам, а людке-е вы мае! — гаварыла дробная, з высушанымі, як кіпцюры ў курыцы, рукамі, Піліпіха.— Ён нават каханку сабе завёў!..
— Так, та-ак, пане, і маладу-ую!..
— Мужа яе забіў, і паны яму за гэто нічого не зрабілі!..
— Бо заадно быў з імі!..
— Заадно-о, дальбо, заадно!.. Анціхрыст няшчасны!..
Покуль наіўныя бабкі гэтак жаліліся фашысту, афіцэр меў свой клопат. Для справаздачы немцу мала было процівагазаў і гільзаў, неабходна было знайсці і жывую сілу праціўніка. Лёгка сказаць! За сённяшні дзень лейтэнант пертатрос пятую лясную вёсачку, але ніхто яму не трапіў — хоць ты не вяртайся ў часць. Афіцэр умомант сябе ўпэўніў — у крайнім выпадку і гэты можа сысці за таго, хто патрэбен. Так дружна цвярдзяць пра яго бабкі, як аб злачынцу, недарма.
Немец паклікаў двух салдатаў, паказаў на гумно і кінуў:
— Эрледіген! *
— Яволь, гэр комендант! — стукнулі абцасамі падцягнутыя салдаты.

## 3

Маладым фашыстам, якім афіцэр выдаў даручэнне, рукі аж свярбелі да справы. Яны ахвотна і з юнацкай жвавасцю павялі дзеда за старыя будынкі. Пра тое, што фашысты гэтак скорыя на расстрэлы,

* Прыкончыць яго!..



тады ў нашых краях ніхто яшчэ не ведаў, і бабы нават не падумалі, чаго павялі Альяша. За імі пабеглі хлапчукі.
За гумном удавы Макарыхі, з якога праз шчыліну глядзеў на ўсё ні жывы ні мёртвы паранены баец, будучы партызан, немцы спыніліся і загадалі Альяшу прайсці крыху наперад. Дзядзька Клімовіч паслухмяна зрабіў крокаў з дзесяць і спыніўся сярод высокай лебяды, якая буяла на леташніх бульбяных ямах, і азірнуўся. Салдаты ўскідвалі на рукі аўтаматы.
— Вэг! — крыкнуў немец маломy, каторы забег наперад і апынуўся на адной лініі з дзедам.
Альяш падумаў, што крычаць на яго, і памкнуўся бліжэй да будынка, чым угнявіў немцаў яшчэ больш.
— Цурык, фэрфлюхтэ, абэр шнэль!..*
Дзядзька пакорна вярнуўся ў лебяду.
Альяша прымусілі доўга чакаць. І наогул усё гэта было надта падобнае на тое, як фатограф у Крынках расстаўляў перад аб'ектывам кліентаў. Дзядзька Альяш нават узняў галаву і глядзеў, не міргаючы вейкамі,— сухі, маршчыністы, бы паточаны мурашкамі, нікому не патрэбны кавалак кары старой асіны, з іржавым рабаціннем, якім былі ўсыпаны яго старэчыя шыя, лоб, твар і нават вушы, з сівой раскладзістай барадой, у новай касаваротцы з шэрага корту, у апорках на босую нагу, з фіялетавымі пражылкамі на азызлай скуры чалавека, які ўсё жыццё пераядаў. Салдаты яшчэ толькі меліся карміць вошай у акопах, мерзнуць на холадзе, рваць пазногцямі і грызці зубамі абледзянелую зямлю, хаваючыся ад абстрэлу «кацюш» і штурмавікоў, сцякаць крывёю да страты прытомнасці і галадаць, а покуль што для гэтых бязвусых юнакоў вайна ўяўлялася экзатычнай рамантыкай і цікавай гульнёй. Каб пакрасавацца перад хлопчыкамі, адзін немец у апошнюю хвіліну ўздумаў мяняць ражок аўтамата і зашчоўкаў зажымамі, быццам бы ў яго нешта заела.
Нарэшце салдаты падрыхтаваліся. Каб выстраліць разам, адзін з іх стаў адлічваць:
— Айнс, цвай, драй! **
— Пр-р-р!..— пругка тыркнулі два аўтаматы.
Перапалоханыя да смерці хлопчыкі нырнулі за гумно. Дзядзька Альяш пахіснуўся, ногі ў яго падкасіліся, і ён мякка асеў у лебяду.
— Фэртых! *** — з палёгкай кінуў старэйшы.
Салдаты нават не кінулі ў лебяду вокам, завярнуліся і пакрочылі ў вёску.

## 4

Калі немцы з Празнікаў пайшлі, са схованкі павылазілі мужчыны і сталі збягацца за гумно, дзе ў высокай лебядзе ляжаў забіты Альяш.
— І трэба ж было Піліпісе язык уткнуць!..— абураўся нехта.— А цяпер дома кленчыць перад яго партрэтам і раве!
— Думала, што толькі напалохаюць старого!
— Напало-охалі, нічого не скажаш... Ну ж і немцы!.. Пасадзі ты чалавека, калі ён вінен, пабі, пашлі на цяжкую работу ці яшчэ як пакарай, а то — бабах, і годзе!.. Фашысты!..

* Назад, ліха на цябе, хутчэй!..
** Раз, два, тры!
*** Гатовы!..

— Праўду пра іх пісалі, як у Іспаніі людзей нявечылі...

У натоўпе бабаў падзею абмяркоўвалі па-свойму. Нейкая цётка загаварыла першаю:

— Жыў-жыў чалавек, нечага дабіваўся і людзям нават дабра хацеў, і — няма яго ўжо!..

І бабы адразу пад цётку падстроіліся:

— От чалавек быў... Ні табе з'еў што смачнае, ні табе роскаш якую адведаў, хоць мог!.. Ні сябе, ні дзяцей сваіх не шкадаваў, усё для народа стараўсо!..

— Ні дня ні ночы не меў спакою, усё на нагах, на нагах!..

— Для людзей стараўсо, а яны яго і прадалі... От і праўду кажуць — як ты людзям не спрыяй, а ім усё адно кепско!

— Памёр, бы той Хрыстос на Галгофе...

— У яго і выгляд святога. Нават і ляжыць так — ні табе крывінка пацякла, нібы спаць лёг. А мо святы і е?

Тут з мужчын нехта не вытрываў:

— Цьфу... вашу маць, Хрыста знайшлі!.. Што вы трэплецеса? Каб ён такі быў добры, нашто ж вы яго немцам выдалі?

Напалі на бабаў і астатнія мужчыны:

— Ме-елюць, ме-елюць, ліха іх ведае нашто, языкамі!.. Чулі, як раніцой ваш «святы» байца лупцаваў? Гэты «анёл» біў параненага вашага сына, унука сваго, замест, каб накарміць. У Макарыхі спытайце!..

— Шчасце, што немцам не расказаў!

— Бо не паспеў!.. Урэдны быў стары!

— Не дай бог, які ўрэдны!.. Ён нават ніколі не засмяяўсо... Адная наша Тэкля з ім і ладзіла неяк.

— Такі там быў той лад — вазілаcа, бы з калекам!..

Пасаромленыя бабы маўчалі.

Тым часам мужчыны задумаліся, пачалі закурваць. Адчувалі, якая бяда на іх навальвалася.

Раптам аднекуль прыляцела растрапаная, успатнелая Тэкля, і натоўп пачціва расступіўся. Жанчына глянула ў вытаптаную лебяду, спатыкнулася на роўным месцы і застыла. Нерухомая, глядзела яна мінуту, другую.

— Тэклечка, гэто — дурная Піліпіха! — пачала апраўдвацца нейкая цётка.— Мы, дальбо, нічого не казалі, яна ўсё натварыла!

— Праўда, праўда! — падхапілі іншыя.

— З рэўнасці!.. Бо яго, кажуць, любіла вельмі...

Але Тэкля іх не слухала. Яна спакойна загаварыла да мужчын:

— Дапамажыце, занясем яго дахаты... І труну трэба рабіць, мужчынкі... Дошкі ляжаць у бацькі на вышках, а гэблікі ў сенях!..





*уладзімір фамін*



ПАЭЗІЯ



## Школьны парк

Школьны парк,
я да цябе іду
З хваляваннем,
Нібы на спатканне.
Сярод дрэў
Я і сваё знайду,
Што садзіў калісь
на развітанне.

Тут увосень рыжыя лісты
Падаюць,
нібы ляцяць паштоўкі
З Ангары,
з далёкай Варкуты,
З Мурманска, Камчаткі і Каховкі.

Што ні год —
мацнее лістапад.
Парк не тужыць па гасцях ніколі.
А вясною кожнай
дрэўцаў рад
Выбягае ўсё далей у поле.

## Крывашы

Цурчыць рачулка між алешын,
Звініць на струнах асакі.
На берагах ля хатак
летам
Сядзяць бабры,
як рыбакі.

Я ўсё тут помню да драбніцы:
Як свет гукнуў мяне у шлях,
Як я баяўся аступіцца
На гнуткай кладцы ў Крывашах.

Не ўпаў.
Сысці на бераг правы,
Нібы рукой, вяз дапамог.
З тых дзён
мне тая пераправа —
Як старт
усіх маіх дарог.

Я кладку і дагэтуль помню,
Хоць побач лёг асфальт шашы.
Спыні, вадзіцель—
Я і сёння
Пайду
па кладцы ў Крывашы.







ЯЎГЕН ПУТКІН

# РАЎБІЦКІ ПЕРАВАЛ

АПАВЯДАННЕ

● Мал. К. ЦІХАНОВІЧА.

Перавал неўпрыкметку пусцеў. Пакідалі месца фінішу балельшчыкі, пакрысе раз'язджаліся гоншчыкі. Мірон бачыў няроўны рознакаляровы ланцужок людзей, што цягнуўся з гары ў бок шашы. Ён то сціскаўся, паўзучы выгібамі ў цень рэдкіх кустоў, то расцягваўся на пясчаных выспах. Раз-пораз у ланцужку нібы бліскавіца ўспыхвала — гэта сонцам праменіліся спіцы.

З раніцы вяршыня выглядала акуратнай і некранутай. Цяпер яе было не пазнаць. Карэнні счэзлай у спякоце травы, што нейкім дзівам яшчэ трымаліся, учапіўшыся ў гэты пясок, знясілелі, скарыліся пад цяжарам ног і націскам веласіпедных шын. Травы зараз не было відаць: стаўклі. Быў толькі пясок, сухі, сыпчасты, нібы перакапаны кратоўкамі. Быццам праскакаў па ім, выбіў яго капытамі табун коней. Але не было чуваць ні тупату капытоў, ні тых неразборлівых, крыху дурнаватых воклічаў балельшчыкаў, што так падбадзёрвалі на фінішы. Заціх разамлелы на сонцы перавал, быццам чакаў вечара і з ім прахалоды. І нішто ўжо не нагадвае пра нядаўнюю «баталію», што адбылася на гэтым перавале.

Двое голых па пояс мужчын з бронзавымі па выраз майкі шыямі няспешна і ленавата накручваюць на дрэўка чырвоны кумач са словам «фініш». Куды ім спяшацца — ведаюць, што апошнім пакіне гэта месца аўтобус-радыёвузел і яны паспеюць ушчаміцца ў яго. Але аўтобус нікуды не дзенецца, пакуль па радыё не прагры-

міць спіс кандыдатаў у зборную рэспублікі. І першым — ягонае, Міронава прозвішча. Яшчэ б — пераможца, якому выпалі сёння ўсе віншаванні. Яго віншавалі, ціскалі ў абдымках і, наогул, захвалілі.

— Міронік, з перамогай цябе! — сакаталі дзяўчаты з іхняй каманды.— Не думалася, што ты такі баец. За гэта і пацалаваць не грэх. Ах, ты наш чумазік! — Нехта выціраў ягоны твар ці то адпораным ад майкі нумарам, ці то брудцай хусцінкай.

— Дык ён жа сёння яшчэ і майстра адхапіў,— праціскаліся да Мірона хлопцы.— Дай хоць мужную лапу паціснуць!

— Здзівіў ты, Міроне, здзівіў свет,— трасучы ягоную гарачую і ўспатнелую руку, гаварыў трэнер.— Ну, рывок! Ну, фініш! Не рывок, а бляск. Малайчына! Трынякін ураз адстаў. Не хапіла, значыць, пораху. А гэта ж Трынякін, не абы-хто ў кросе.

Мірон разгублена адказваў на віншаванні, а вочы яго некага шукалі ў натоўпе.

— Ты каго глядзіш, Мірон? Нявесту прывёз балець?

Ён толькі махнуў рукой: яму было не да жартаў.

— Сашу Трынякіна гляджу. Не бачылі, дзе ён?

— Здаецца, паехаў.

— Куды? Да ручая? Дык тут жа ў аўтобусе вада ёсць. Для яго знойдзецца.

— Казаў, што ў Мінск пакаціў.

— У Мінск? Адразу? Вось і не...— Мірон шукаў нейкую думку і не мог вось так адразу знайсці яе. Ён прыплюшчыў вочы і як бы ўбачыў учарашняга Трынякіна, спачатку ўпэўненага і лагоднага, затым рэзкага, з нейкай непаразумелай і таямнічай усмешкай.

Мірон выбраўся з натоўпу, прайшоў шчыльным калідорам, што ўтварылі яму, да свайго аўтобуса. Шафёр падхапіў ягоны веласіпед, прыладзіў вісець бліжэй да кабіны.

— Машына ж не абы-якая, — сказаў ён. — Чэмпіёнская. А раз так — дагледзім. А ты, давай, адпачывай. Бачыў, як уюнамі звіваліся на гэтых кручах. Колькі важу красменаў, а такой сыпучкі не бачыў...

— Ды не, я пайду,— перапыніў шафёра Мірон,— скажыце, каб не чакалі. Прыехалі па мяне на легкавушцы. Дык я з імі. Толькі трыко захаплю.

Непрыкметна ён аддаліўся ад гаманкога натоўпу, адшукаў больш разгалісты куст і лёг пад ім у цяньку. І вось колькі ўжо часу заставаўся ў гэтай схованцы сам-насам са сваімі думкамі.

З раніцы ў яго быў добры настрой. Сон, які прысніўся перад самай пабудкай, вяртаў да прыемных успамінаў, і не трэба было шукаць нейкага занятку ці вымушаць сябе думаць аб нечым іншым — абы не аб спаборніцтвах! У сне Мірон нібы наведаў дом. Быццам прыехаў ён туды пасля доўгіх і цяжкіх спаборніцтваў на некалькі дзён адпачыць. Днепр з цёплай, амаль што летняй вадой, тая частка вуліцы, што вядзе ад ракі да іх канцавога дома і па якой можна, не баючыся сустрэцца з незнаёмым, прайсці ў плаўках да самага агародчыка, дзе ў зацішку гудуць над пахучымі кустамі парэчак пчолы, выцеснілі ўсялякія думкі пра будучыя старты. Быццам няма на гэты год больш спаборніцтваў і ён, як і ўсялякі чалавек у адпачынку, заняты толькі адным гэтым адпачынкам. Бадзёры пасля купання, ён ідзе басаноэк разамлелай ад спякоты, зарослай рамонкам, гусінымі лапкамі і трыпутнікам вуліцай. Ідзе павольна і асцярожна, бо не хочацца палохаць матылькоў, што прыгрэліся на шырокіх лісцях трыпутніку. А побач, абняўшы яго за плечы, крочыць дзяўчына. Мірон радуецца, што гэта



менавіта іх вуліца, дзе ў гэты час не сустрэнешся з чалавекам... Дзяўчына быццам бы знаёмая, але ён не можа ўспомніць, дзе сустракаўся з ёю.

Сёлетняе спартакіяднае лета выматала Мірона. Бясконцыя трэніроўкі з павышанай нагрузкай, частыя старты, прыкідкі, вечныя напамінкі, што ён павінен выканаць майстарскі нарматыў. Як кожны добра трэніраваны спартсмен, Мірон не адчуваў фізічнай зморанасці. Але бесперапынныя пераезды з месца на месца, заўсёдныя гасцініцы і сталоўкі, строгі рэжым нават у ежы — абяссілілі нервова, змарылі маральна.

І вось у кароткім сне ён адпачыў ад усяго гэтага.

Дні, што патрабаваліся б для адпачынку, замяніў яму гэты сон. Аж да апошніх мінут перад стартам Мірон успамінаў яго і радаваўся свайму настрою, упэўненасці.

Яшчэ ён думаў пра дзяўчыну, якую сасніў. Ён уявіў яе твар, вялікія вочы, што глядзелі на яго са здзіўленнем і пяшчотай. Ён запомніў іх, а вось прыгадаць, чые яны, так і не змог.

Цяпер ён зноў успамінаў тое, што бачыў у сне. Думаў пра Сашу Трынякіна, а ўспамінаў сон. І адчуваў, што ёсць у гэтым нейкая ўзаемасувязь. Толькі якая? І раптам успомніў.

У Сімферопаль іх выклікалі нечакана. Тут ім за кароткі час трэба было «перакваліфікавацца» ў трэкавікоў, засвоіць некаторыя спецыфічныя элементы і прывыкнуць да прасторнага палатна сімферопальскага трэка. Прывыкнуць! Быццам ёсць у Беларусі нейкі свой, толькі іншы, чым тут! Кавалак асфальтанкі—вось табе і беларускі велатрэк.

На першай трэніроўцы Мірон зразумеў, што трэкавіком яму не стаць. Не сказаць, каб ён збаяўся крутых віражоў, ці той шалёнай хуткасці, з якой даводзілася «ўпісвацца» ў гэтыя віражы. Было нешта іншае, чаго ён не мог пераадолець у сабе. Яго раздражнялі і дашчаны бар'ер, за якім яны былі нібы ў клетцы, і шматлікія, па ўсяму палатну, рознакаляровыя лініі і лічбы разметкі, і заўсёдныя балельшчыкі. На трэку ён адчуваў сябе нібы ў вялікім збане. І разумеў, што не пазбавіцца яму гэтага адчування, бо адразу, як толькі ўбачыў трэк, успомніў іншы збан-гарлачык.

У вёсцы, дзе яны жылі ў вайну, гарлачыкам называлі невялікае азярцо на лугавіне за крайнімі хатамі. Ніхто з вяскоўцаў не мог прыгадаць, калі і адкуль яно тут і хто яго так назваў. Вада ў «гарлачыку» была заўсёды аднаго колеру — чорная, густая, нібы каламазь. Нават твару свайго не ўбачыш, калі нагнуцца. Казалі, што дна ў ім не дастаць. Прыгадалі, як нехта, каб памераць глыбіню, звязаў некалі дваццаць пяць аброцяў, але так і не дастаў дна. А яшчэ хадзілі чуткі, што ў пачатку вайны фашысты тапілі ў «гарлачыку» нашых ваеннапалонных. Таямнічым вокам нейкага страшыдлы здаваўся Мірону той «гарлачык», і ён ні разу не пасмеліўся акунуцца ў ім, хоць і плаваў някепска. Ён не збаяўся б глыбіні, каб гэта было на рацэ ці на вялікім возеры. Там можна плыць і плыць, у «гарлачыку» трэба было круціцца бадай што на адным месцы над гэтай чорнай провай. І на трэку — газуй толькі ў адным напрамку і кругамі.

Якое дзіўнае параўнанне, які недарэчны ўспамінак!

— Нічога,— супакойваў трэнер.— Так пасля шашэйкі здаецца. Там раздолле, а тут, як бы вавёрчына кола. Ды звыкнешся, і ўсё пойдзе ладам. Ты ў добрай форме, а яно — галоўнае. А збан знікне, разаб'ецца.

Мірон трэніраваўся разам з усёй камандай, але без ахвоты, як бы

па інерцыі... На спаборніцтвы ён быў заяўлены запасным. І не шкадаваў аб гэтым. Да таго часу, пакуль не ўбачыў яе.

Стартавала фінальная спрынтэрская пара жанчын. Заварушыліся і прыціхлі балельшчыкі.

— Ну і пара,— зашаптаў сусед побач.— Спецыяльна і не падабраў бы.

Мірон падаўся корпусам да бар'ера, каб бліжэй разгледзець фіналістак.

— Смех,— адказаў суседу.— Адна, што камель, другая — вецер садзьме.

Ён назіраў за кволай і бялявай другой, і яму хацелася ўбачыць яе твар.

Яна зірнула на Мірона, калі, седзячы ўжо ў сядле, разагнулася, каб паправіць шлем. Салатавая майка—Мірон адзначыў, што яна была велікаватая гоншчыцы і ўшытая збоку — шчыльна аблягала станістую дзяўчыну. Калі яна падняла да падбародка рукі — майка туга нацягнулася на грудзях. Ён як бы засароменуся і перавёў позірк на рукі гоншчыцы ў бяспалых скураных пальчатках. Убачыў тонкія і белыя пальцы, здзівіўся, як блішчэлі перламутрам пазногці.

Запомніліся і яе вочы, вялізныя, чорныя (што вада ў тым «гарлачыку», чамусьці падумалася Мірону). Яны, убачыўшы Мірона, здзіўлена пашырыліся. А можа яму толькі так падалося? Праверыць не было магчымасці: да старта заставаліся секунды і гоншчыцы нагнуліся ніжэй да руляў. Ён паспеў толькі яшчэ заўважыць вострыя канцікі ўздоўж рукавоў — ад праса — і матава-белую палоску ніжэй загарэлай у вырaзе майкі шыі. Суха шчоўкнуў стрэл — старт. Мірон заглянуў у праграму спаборніцтваў, па стартаваму нумару адшукаў яе прозвішча — «Ала Баянава, Харкаў».

Суперніцы, відаць, сустракаліся і дагэтуль і гонку павялі без разведкі, хутка выскачылі на апошні віраж. Ала — уверсе, амаль што ля самага бар'ера. Зручная пазіцыя для фінішу. А тактыка цяпер адна: імчаць, як толькі здатны на гэта, кожны дакладна па свайму «калідору».

Шалёная хуткасць.

Гоншчыцы ідуць кола ў кола.

Вось бялявая, здаецца, выходзіць уперад...

І тут... Скрыгоча жалеза, стрэлам бухае шына, нехта з гоншчыц ляціць на бар'ер. Мірон не адразу ўцяміў, што здарылася — усё адбылося так хутка і нечакана. А калі зразумеў, яго аж страсянула: суперніца бялявай вільнула перад самым фінішам. Забаронены прыём!

Тады Мірон адразу пабег у гасцініцу, па тэлефоне са свайго нумару адшукаў бальніцу, у якую адвезлі Алу Баянаву, і на веласіпедзе, хутчэй бы не дабраўся, паімчаў туды. Яго не пусцілі. Сказалі, што дзяўчыну доўга трымаць тут не будуць, але пакуль што да яе нельга. Па некалькі разоў на дні ён пытаўся па тэлефоне пра яе здароўе і ці можна прыйсці.

— Не, пакуль што нельга,— чуў адказ.

Праз некалькі дзён яны адлятаілі ў Мінск. Усе, акрамя Сашы Трынякіна, які трапіў у зборную таварыства. З раніцы Мірон пабег у бальніцу.

«Можа пусцяць. Павінны пусціць, калі людзі»,— разважаў ён па дарозе.

У прыёмным пакоі ён убачыў Трынякіна.

— Ты? — здзівіўся Саша.— Чаго тут?

— Я... Я хацеў даведацца, як там тая. Памятаеш спрынт?



— Ала! Заўтра выходзіць. Зборнікі на некалькі дзён у Ялту паехалі. Мяне пакінулі, каб Алу прывёз...

А праз год Мірон пачуў, што Трынякін збіраецца жаніцца на харкаўскай гоншчыцы.

Яго ўспамін перарваў голас дыктара:

— Перадаем спіс кандыдатаў зборнай рэспублікі па веласіпеднаму спорту. Мужчыны:

Аляксандр Трынякін, майстар спорту, пераможца індывідуальнай і групавой гонкі па шасэ.

Мірон Маламерны, першаразрад... просім прабачэння, цяпер ужо майстар спорту, чэмпіён Беларусі па велакросу.

Анатоль... — У дынаміку нешта шчоўкнула, і ён змоўк.

Мірон аж прыўзняўся, каб не прапусціць чаго, калі ён загаворыць зноў. У баку, над узлессем, стралой мільгануў рэактыўны самалёт. Гул яго рухавікоў заглушыў усё навокал. Калі ён заціх, з дынаміка данасілася:

— ...У космасе зноў савецкі чалавек. З новай перамогай у асваенні касмічнай прасторы! — Ля аўтобусаў закрычалі «Ура!» «Ур-...-р...а» — адгукнулася рэха. «Ура»,— у думках паўтарыў ён, адчуваючы нейкую вялікую гордасць, якая напаўняла ўсяго яго.

Мірон да драбінкі памятаў той вясновы дзень, калі ў космас узляцеў Гагарын. Яны варталіся з трэніроўкі. Снег сагнала амаль што поўнасцю. Ён толькі дзе-нідзе ляжаў у лагчынах ды праглядваўся бруднымі лапінамі ў дарожных прысадах. У калюжынах моршчылася ад халоднага і пранізлівага ветру каламутная вясновая вада.

На шашы, на дзіва, не было аніякага руху. Толькі на выездзе з горада ім сустрэўся адзін грузавік. Шафёр, яшчэ да таго, як параўняцца з імі, высунуўся з кабіны. Мурзаты твар — відаць, непаладка нейкая выйшла ў дарозе і ён запэцкаўся каля машыны і памыцца забыўся, а мо спяшаўся некуды — і бліскучыя, як у цацачнага плюшавага медзведзяняці, вочы і ўскінутая ўгору рука.

— Сiганулі! — разабралі яны радасны вокліч шафёра.

Сонца, якое не адчувалася на ветранай шашы, аблашчыла іх сваімі цёплымі промнямі, калі яны ўехалі на гарадскую вуліцу. Яна была ажыўлена ў той дзень як ніколі. Нейкую незвычайную радасць паспеў улавіць Мірон і на тварах гараджан. І тады зразумелай стала радасць шафёра. У тыя гады лёталі ўжо вакол зямлі штучныя спадарожнікі і гэтага чакалі з дня на дзень. Значыць, здзейснілася! Значыць, «сiганулі!»

Яны, не згаворваючыся, заспяшаліся на базу. Кожнаму хацелася хутчэй пайсці да людзей, каб пачуць, што гавораць яны, і выказацца самому. З большага абціралі веласіпеды, не затрымліваліся доўга ля рукамыйніка — хутчэй на вуліцу! Мірон збіраўся ўжо сказаць усім «да пабачэння», калі да яго падышоў Трынякін.

— Трэба недзе прысесці,— прагаварыў ён.

— Як прысесці? Навошта?

— Мне трэба. Давай у забягайлаўку. Там даведаешся, навошта.

Трынякін і тады ўжо лічыўся сярод іх фаварытам. А для Мірона ён быў яшчэ і шчаслівчыкам, якому ўсё лёгка, з першага разу, удаецца, якому ён тайна зайздросціў і за якім гнаўся з першага дня, як ведаў Трынякіна. Сашу ён ні ў чым не пасмеліўся б адмовіць. І тады згадзіўся пайсці ў забягайлаўку — драўлянае кафэ, што тулілася на ўзбочыне шашы. Тут заўсёды было гаманліва, але не тлумна. Вадзіцелі машын не заседжваліся, як наведвальнікі ў звычайных кафэ, падоўгу і, вядома ж, не раскаркоўвалі патайком бутэлек з гарэлкай. Тут



ніколі не было вялікай чаргі з бясконцымі піўнымі кухлямі, спрэчак ля стойкі і варылі добрую каву. Калі-нікалі яны забягалі сюды пасля трэніровак, каб выпіць шклянку гэтай кавы.

Цяпер у кафэ было таксама малалюдна. Яны селі за кутні столік, і Саша дастаў з-за пазухі вучнёўскі сшытак і падручнік анатоміі.

— Дапамагай, стары, рабіць кантрольную. Гару ў тэхнікуме, а ў касцях гэтых і жылах, сам ведаеш, як я разбіраюся. А ты — выдатнік.

Мірон і сапраўды заканчваў у той год дзесяты клас. Трынякін вучыўся пасля сямігодкі ў фізкультурным тэхнікуме. Паступіў ён туды досыць лёгка, бо такіх, як ён, гатовых чэмпіёнаў — бралі ў тэхнікум з вялікай ахвотай. Шчаслівы ды і толькі! Яму, Мірону, яшчэ трэба думаць, куды падацца пасля школы, а ў Трынякіна ўсё вырашана. Тады ён захапіўся кантрольнай так, што не адразу зразумеў, чаго зноў хоча ад яго Саша. А той, тузаючы Мірона за рукаў, гаварыў:

— Расслабся, стары. Ды можа піўка пасмакуем?

— Ты як хочаш, табе можна. Гэта табе, як слану шрацінка. А мне — тыдзень трэніровак скінь.

— То як ведаеш, а я вазьму сабе.

— Бяры, бяры. Такому здаравяку шклянка піва ў год — нішто. Гэта мне...

У працалюбстве Трынякіну нельга адмовіць, і трэніраваўся ён не менш за астатніх. Толькі не кожны мог вытрымаць такія нагрузкі, якія ні па чым былі Трынякіну. Не пакрыўдзіў яго, як кажуць, бог здароўем. Мірон, з галоднага пасляваеннага дзяцінства не здаравяк, і ў гэтым зайздросціў Трынякіну. І мажліва кінуў бы аднойчы спорт, каб не тайная надзея дагнаць Трынякіна, перамагчы і збіць Сашыну ганарыстасць, якая ўсе гэтыя гады не-не, ды і адчувалася, якую ён не мог дарабаць яму з першага знаёмства.

Яго прыхсду ў веласіпедную секцыю здзівіліся ўсе спартсмены. Кволы, невысокі ростам, нязграбны і нясмелы, ён заявіў трэнеру, што хоча займацца ў іхняй секцыі.

— Да нас у секцыю? Слабаваты ты, гляджу. — Трэнер, малады яшчэ і белазубы, з абветраным тварам мужчына, у якім угадваўся нядаўні спартсмен, гаварыў, як бы разважаючы сам з сабой.— Можа счакаеш гадок, падгадуешся, а потым і прыдзеш!

Лагодны і разважлівы голас падбадзёрыў Мірона, надаў яму смеласці.

— Я — жыльны. Мама гаворыць, што з гумы я. Прыміце.

— Жыльны, кажаш? Ну, раз так, дык, мабыць, вазьму. Мне такія во як патрэбны!

Нехта хіхікнуў ззаду. Мірон азірнуўся: на яго з насмешкай глядзеў высокі і па-жаноцку прыгожы з твару хлопец.

— Трапіш у струну *, дык цябе ветрам дзьмух і ў кювет! Х-хы! Гумавы...— Незнаёмец смяяўся адкрыта і з'едліва.

Тады Мірон змаўчаў. Моўчкі пераносіў ён падобныя здзекі і пасля. Суцяшаў сябе, што некалі ён дакажа Трынякіну, на што здатны.

Ён схамянуўся, калі ад'ехалі ўсе аўтобусы, калі на месцы спаборніцтваў не было ўжо ніводнага чалавека.

«Вядома ж, касмічная падзея паскорыла ад'езд. Кожны спяшаўся ў горад, каб даведацца там пра падрабязнасці. А яго і не шукалі, сам жа сказаў, што паедзе на легкавушцы. То і добра. Неяк дабярэцца да Мінска».

Да сённяшняга дня не задумваўся неяк Мірон над тым, ці ведае Трынякін пра яго мару, ці падазрае ягоную зайздрасць. Нават учарашняя размова з Трынякіным не навяла яго на такую думку. Саша падышоў да яго пасля вячэры, адазваў убок, загаварыў першы.

— Ведаеш, Мірон, колькі мы разам сцежак-дарог перамералі коламі? Не адну тысячу кіламетраў.

— Ты пра што?

— А ўсё пра тое. Час і табе ў майстрах хадзіць.

— Майстрам стаць — не цукерку з'есці.

— Ну, хопіць! Заўтра можаш выйсці ў «генералы».

— Паспрабую.

— Ды ты мяне паслухай, не гарачыся. Шкада мне цябе. Ты, калі ўсё добра пойдзе, абыйдзеш,— Трынякін назваў некалькі прозвішчаў майстроў спорту.— Зараз ты ў добрай форме, выйграеш у гэтых. Застаюся я. Табе не ўзяць мяне. Заўтра я саступлю. Мне першае месца не патрэбна, а ты — майстар спорту. І ніхто ніколі не здагадаецца.

— Даць бы табе за такія словы па карку.— Мірон плюнуў і, крута павярнуўшыся, пайшоў прэч.

Учора і сёння з раніцы Мірон быў перакананы, што ягоныя апошнія словы не менш як раз'ярылі Трынякіна, ударылі па яго ганарыстасці, а той не даруе такога. І не скончыцца яго нябачная пагоня за Трынякіным, які нічога не падазрае.

Сон, што прынёс Мірону адпачынак і добры настрой, падбадзёрыў, у яго зноў з'явілася надзея.

Стартавалі з глыбокай, падобнай на варонку ад бомбы, пясчанай ямы на схіле гары. Адразу са старта Мірон паімкнуўся каціць веласіпед, але пярэдняе кола гразла ў пяску, яго матляла, кручасты, як рогі, руль вырываўся з рук. Машына ўпарцілася. Быццам добра дагледжаны бычок-аднагодак. Тады ён падхапіў веласіпед за раму, ускінуў яго на плячо. З ямы ён выбраўся разам з першымі. І адразу ж пачаўся пад'-ём угору. Мірон бачыў, як некаторыя ўскоквалі на веласіпеды, узнімаліся на нейкае імгненне з сёдлаў, каб рыўком кінуць машыну ўперад і набраць хоць самы малы ход. Але абсоўваўся пад коламі пясок, яны буксавалі. Мірон нават і не спрабаваў асядлаць машыну. Задоўга да старту ён не спяшаючыся, адзін, агледзеў трасу і цяпер добра ведаў, дзе можна садзіцца на веласіпед, а дзе лепей бегчы. Да перавалу

* Нацягнуць струну—размоўнае ў веласіпедыстаў. Гэта значыць пастроіцца ў час гонкі так, каб пазбавіць суперніка магчымасці схавацца за каго-небудзь ад ветру і не даць яму адпачыць.



на веласіпедзе не ўздзярэшся, і Мірон бег размерана і эканомячы сілы. Злева і справа таксама беглі, быццам бы салдаты ланцугом атакавалі перавал. Мірон касавурыўся то ў адзін, то ў другі бок: ніяк нельга адстаць і прапусціць наперад. За перавалам, наўскасяк па схілу, пачыналася сцяжынка, і важна было выскачыць на яе ў ліку першых. Бліжэй да перавалу першы ланцуг радзеў, спартсмены цісну́ліся да сярэдзіны, з адстаючых утвараўся другі і трэці, менш роўныя ланцугі.

— Ху-ух, ху-ух! — Дыханне было глыбокім і рытмічным.— Трынякін! Ён не бег, а стоячы націскаў на педалі, крута нахіляючы веласіпед то ў адзін, то ў другі бок. Мірон толькі паспеў заўважыць вядучую шасцяронку ў машыне Трынякіна — значна меншую, чым звычайныя.

«Хітрун, сам зрабіў!» Як Мірону не прыйшло гэта ў галаву! Хаця хто ведаў... Гаварылі, што Раўбіцкія вышыні — не жартачкі. Але каб такое. Хто мог думаць. А Трынякін ведаў. А можа перад стартам памяняў вядучую? Значыць, была яна ў Сашы.

Калі Мірон выскачыў на вяршыню, Трынякін набліжаўся ўжо да таго месца, дзе сцяжынка крута паварочвала ўлева.

Паміж Трынякіным і Міронам імчаў гоншчык у жоўтай майцы. Мірон хутка дагнаў яго, але абысці на вузкай сцяжынцы ніяк не ўдавалася. Ведаў: звернеш з бітай сцежкі і згубіш хуткасць, зноў давядзецца наганяць. І Мірон трымаўся за пярэднім, прыкідваючы, у якім месцы можна апярэдзіць яго. Мірону ў азарце пагоні не думалася, што можна адважыцца на шалёнай хуткасці пайсці на віраж, і ён быў гатовы ў любое імгненне ўслед за пярэднім націснуць на тормаз. Спадзеўка на разважлівасць свайго лідэра і падвяла Мірона. Гоншчык у жоўтай майцы пачаў паварот на поўнай хуткасці.

«Уліп дурань!» — мільганула думка, калі ўбачыў, як кінула ў бок веласіпед пярэдняга. Грыб пылу, бы дымавая завеса, выбухнуў перад Міронам. Ён машынальна і рэзка ціскануў на тармазныя рычагі. Яго падхапіла, і разам з веласіпедам ён паляцеў праз галаву ў тую дымавую завесу. Інстынктыўна ведаў, што можа ўпасці на гоншчыка ў жоўтай майцы, струшчыць і ягоны і свой веласіпед. І, падаючы на спіну, паспеў выкінуць угору ногі — абы ўтрымаць машыну. Пеканула ў правую лапатку.

«Узбіўся на чужы веласіпед! Хаця б не шасцяронкай шахнула!»

— Ну, чаго разлёгся! Можа і мая калымага шчэ круціцца,— бурчаў гоншчык у жоўтай майцы.

Мірон, дацягнуўшыся рукой да туклепса *, расшпіліў рэмень і, вызваліўшы адну нагу, хуценька падхапіўся, радуючыся, што яго веласіпед не папсаваны.

Некалькі чалавек праскочылі ўперад, цяпер Трынякіна не было і відаць.

«Не панікаваць,— загадаў сабе Мірон,— уперадзе тры кругі».

Траса выскачыла на прырэчную лугавіну, цягнулася колькі па ёй і віляла да ракі. Раніцай Мірон праскочыў яе, не злазячы з веласіпеда. Але цяпер, пасля завалу, ён сумняваўся.

«Рашай, Мірон, рашай хутчэй! Ці рызыкуй, ці загадзя расшпільвай рамяні, каб выслабаніць ногі».

Ён выскачыў да ракі, так нічога і не вырашыўшы.

— Давай смялей!

— Праскочыш!

* Туклепс—прыстасаванне, якім гоншчык прымацоўвае ногі да педаляў.

— Не рызыкуй, злазь!

І яшчэ, толькі нельга было разабраць што, выкрыквалі балельшчыкі, якіх тут сабралася бадай больш, чым на ўсёй трасе.

Нехта з гоншчыкаў, з тых, хто абышлі Мірона на пяску, боўтаўся ўжо ў вадзе. Упаў на самай сярэдзіне, там, дзе глыбіня не меней як на кола.

Мірон узяў правей. Быццам нос тарпеднага катэра разанула кола ўскаламучаную ваду. Фантан пырскаў ахаладзіў грудзі і твар. Да яго, каб падхапіць, выштурхнуць, кінуліся балельшчыкі.

— Назад! — у нейкай шалёнай злосці закрычаў Мірон.— Назад! Здымуць з дыстанцыі! — І адчуў, што пранесла.

Трынякіна ён убачыў у канцы першага круга, на тым самым схіле, дзе яны стартавалі, на перавале якога быў фініш. Саша педаліраваў стоячы.

За перавалам — знаёмая сцежка, знаёмы пясок і страшэнная рэчка, пасля якой зноўку трэба было штурмаваць гэты праклят Раўбіцкі перавал. І так круг за кругам у гэтай шалёнай пагоні за Трынякіным. Не было б надзеі, што нагоніць, абы дзе, мусіць, і сышоў бы з дыстанцыі. На апошнім крузе паміж Трынякіным і Міронам нікога ўжо не было. Уперадзе Трынякін, за ім — Мірон. Імчаў за лідэрам амаль што ўшчыльную, бо верыў у яго і не баяўся, што зноў можа трапіць у завал. А ўрэшце-рэшт, калі і ляцець, дык разам з лідэрам. А там — каму пашанцуе. Не ўсё ж Трынякіну аладкі!

Трынякін вёў гонку ўпэўнена. Ён нават ні разу не азірнуўся, каб хаця паглядзець, хто за ім. І на фініш пайшоў упэўнена, без рыўкоў, прыгожа. За ім націскаў з усіх сіл на педалі Мірон.

«Яшчэ нямнога за Трынякіным, а там, перад самай вяршыняй,— рывок! Абавязкова рывок! Павінен ірвануць!!!»

Гула ад вокрыкаў вяршыня — там паспелі сабрацца балельшчыкі з усяе трасы. Іграла музыка — толькі і весяліцца. Але і ў гэтым тлуме ён учуў знаёмы кожнаму гоншчыку шчаўчок — Трынякін пераключыў перадачу.

— Здурэў ён, ці што! На такім пад'ёме перадачу... Не падобна на яго... Нешта хітрыць.

Мірон бачыў, як увагнуўся паміж заднімі шасцяронкамі ланцуг у Трынякінавым веласіпедзе. Саша крутануў педалямі назад — і ланцуг зляцеў. Трынякін імгненна нагнуўся, каб расшпіліць рэмень і выхапіць нагу. Тады Мірон саскочыў з веласіпеда, і, падхапіўшы яго на плячо, пабег на фініш.

За ім фінішаваў Трынякін, фінішаваў у сядле. Праязджаючы міма Мірона, ён кінуў:

— Віншую, майстар! Ды ведай нашых! — Саша ўсміхнуўся.

Усміхнуўся, як чалавек, якому нешта ўдалося. Але Мірон не надаў значэння ні словам Трынякіна, ні гэтай усмешцы. Ён успомніў пра іх толькі пасля, калі ўчуў, што Саша так начакана паехаў з Раўбіч, калі ўспомнілася ўчарашняя размова і сённяшняе «ведай нашых».

— Значыць зрабіў Трынякін па-свойму, саступіў яму. Наўмысна і ланцуг скінуў. Не прыдзярэшся. Як падачку кінуў. На табе, пераможца, ад непераможанага.

...Згасаў дзень. Сонца ўжо не праменілася. За перавалам, куды яно скацілася, было толькі святлей, чым на гэтым баку гары, дзе ў адзіноце сядзеў Мірон. Па вячэрняму вусцішна выглядала наваколле...



***уладзімір кунцэвіч***

*

ПАЭЗІЯ

*

■

Не бядую, што недзе блудзіў,
Не паблудзіш—нічога не знойдзеш...
Не бядую—не ўсім дагадзіў,
Бо усім аніколі не ўгодзіш.

Не бяда, што паранены быў
Грубым шротам нядобрага слова...
Можа сам незнарок прычыніў
Боль другому зусім выпадкова.

Але страціў усё той, хто здрадзіў зямлі,
Што бацькоўскай завецца спрадвеку.
Ні травінкі яе, ні пылінкі раллі—
Пад нагамі таго чалавека.

■

Не, не забыты бераг глейкі,
Зара на гладзі люстраной.
Адно самкну на хвілю вейкі—
І родны кут перада мной.

І паўстаюць абрысы вёскі,
А на траве качыны пух!..
Ідуць мужчыны на дакоскі,
На вышыты расою луг...



*уладзімір аляхновіч*

# САД У ФАНІПАЛІ

**БЫЛЬ**

● Мал. В. ШРАМЯКОВА.

Зранку рэдактар выклікаў мяне да сябе і сказаў: «Паедзеце ў камандзіроўку, у Фаніпаль». Ну, што ж, Фаніпаль дык Фаніпаль...

Фаніпаль... Нейкая дзіўная, рамантычная назва. У маім уяўленні паўстала старое мястэчка са званіцамі, замшэлымі мурамі і возерам, якое блішчыць, як вока, сярод зараснікаў трыснягу і лазы.

І вось уздыхнуў парай і загрукатаў коламі цягнік. Я стаю на платформе і акідваю позіркам вёску: невялікі будынак станцыі, заснежаныя дахі дамоў, шэрая стужка шашы, што адным канцом паўзе высока ўгару, а другім губляецца ў густым алешніку. Але гэта толькі першы, бліжэйшы пейзаж. Далей, куды ні кінь вокам, аж да самага небасхілу цягнуцца роўныя рады яблынь. Яны акружаюць вёску з усіх бакоў.

На імгненне я ўявіў, як тут вясною. У маі накрыюцца белымі прасцінамі яблыні. Кругом цішыня. Толькі паветра лёгенька дрыжыць ад пчалінага гулу. Час ад часу гэтую цішыню прарэжа цяжкі лёт майскага жука, ці больш пранізлівы — чмяля. І зноў цішыня, дрыжачая, ласкавая, злітая ў адно з цёплым веснавым сонцам. І над усім гэтым пах мёду.

Пастаяўшы, я рушыў і неўзабаве быў на шашы. Наперадзе, не спяшаючыся, крочыў чалавек у доўгай чорнай ватоўцы. У руцэ ў яго вялікая сетка, у сетцы батоны, кансервы, бутэлькі з малаком. Я паскорыў крок і дагнаў чалавека. Гэта быў даволі пажылы мужчына.

Прывітаўшыся, я прапанаваў паднесці сетку. Незнаёмец змераў мяне позіркам, усміхнуўся.





— Н-е-е, хлопча, я ўжо прывык да гэтага багажу, нават з ім зручней. А за ўвагу дзякую.

Запомніліся вочы гэтага чалавека: чорныя і глыбокія, як віры, глядзяць з-пад калматых броваў насмешліва і разам з тым пранізліва.

Некаторы час ішлі моўчкі. Я не ведаў, з чаго пачаць гаворку, а мой спадарожнік задумліва глядзеў на сад і таксама маўчаў.

— Зіма няўдалая,— нарэшце загаварыў дзядзька.— Такая цяплынь стаіць. Калі пабудзе так яшчэ з месяц, сады пачнуць распускацца. А шкада, загінуць...

Дзядзька ішоў, насупіўшы бровы, і глядзеў сабе пад ногі, на мокры ад расталага снегу асфальт. Гаварыў ён задумліва, не ўзнімаючы галавы, толькі зрэдку кідаў на мяне позірк.

— Вось тут цяпер малады сад расце. А ці ведаеце вы, што ў гэтых

мясцінах і сто і дзвесце гадоў назад сады цвілі? І насадзілі тыя сады, кажуць, Фаня і Поля.

— Фаня і Поля? — здзівіўся, не паверыў я.

Мой спадарожнік весела ўсміхнуўся, яго цёмныя вочы пасвятлелі, заіскрыліся.

— Фаня і Поля сады насадзілі,— зноў паўтарыў ён.— Ад іх і пайшла назва нашай вёскі — Фаніпаль.

Гэтага я не чуў і папрасіў дзядзьку расказаць.

Мой спадарожнік яшчэ раз зірнуў на сад і пачаў:

— Жыў тут калісьці вельмі багаты пан. Быў ён жорсткі і бязлітасны да сялян, прымушаў ад цямна да цямна гнуць спіну на яго палетках, нават за нязначнае непаслушэнства біў да крыві плёткамі... Было ў пана некалькі сыноў і дзве дачкі — Фаня і Поля. Жылі ўсе панскія нашчадкі, вядома, у палацы. Пан нават выпісваў з Германіі і Францыі настаўнікаў, каб тыя вучылі яго дзяцей замежным мовам і звычкам.

Сыны ў пана былі як сыны, звычайныя панскія атожылкі. А вось дзяўчынкі раслі іншымі. Калі яны сталі большымі, то пачалі бегаць у вёску і гуляць з сялянскімі дзецьмі, елі разам спечаную на вогнішчы бульбу, гулялі ў лапту і хованкі, кажуць, нават лазілі з сялянскімі хлапчукамі ў гарод да свайго бацькі па агуркі...

На некаторы час дзядзька змоўк, і было толькі чуваць, як бразгаюць бляшанкі ў сетцы.

— Пан стараўся памяшаць гэтаму сяброўству,— стральнуўшы некуды ўдалячынь зноў пацямнеўшымі вачыма, працягваў дзядзька.— Надоўга адвозіў Фаню і Полю ў другія маёнткі, зачыняў пад замок у пакоях. Але гэта нічога не давала. Дзяўчынкі марнелі і сохлі і, як толькі ім удавалася выйсці з палаца, беглі хутчэй на выган. Так і выраслі Фаня і Поля непаслухмянымі да свайго бацькі-пана і добрымі да простых людзей.

Калі пан паміраў, то ўсе свае маёнткі раздаў сынам і толькі дзве невялічкія вёсачкі падараваў дочкам: адну Фані, другую — Полі. Фаня і Поля, кажуць, і тады засталіся такімі ж, як і былі, гавораць, нават з сялянкамі хадзілі ў поле жаць жыта. А незадоўга да смерці сёстры пасадзілі вялікі яблыневы сад, развялі пчолы...

Не спяшаючыся, мы ішлі і ішлі, а саду не было канца. Маладыя моцныя яблыні лёгенька гайдалі галінкамі, быццам давалі знаць, што яны жывыя, растуць і дыхаюць.

— Калі абедзве жанчыны памерлі,— глуха працягваў свой расказ дзядзька,— сяляне назвалі адну вёску «Фаня», а другую «Поля». Ішоў час, вёскі будаваліся, разрасталіся, а затым зліліся ў адну. Вось так і з'явілася вось тут, непадалёк ад былога Койданава, Фаніпаль. І з таго часу вакол Фаніпалі вясною цвітуць сады, а над кветкамі гудуць пчолы... Праўда, сады старэлі, некаторыя дрэвы вымярзалі, але людзі зноў і зноў насаджвалі іх. Як і цяпер, калі тут калгас стаў.

Дзядзька змоўк, і мы доўга, аж да самай развіліны дарогі, ішлі і маўчалі. Струны майго сэрца балюча кранула гэтая няскладаная і сумная гісторыя.

Калі мы развіталіся, я збочыў з шашы і ціхенька пайшоў паміж пабеленых вапнай дрэў. Ішоў, а перад вачыма ўсё стаялі вобразы дзвюх дзяўчынак з сівой даўніны.

Уладкаваўшы справы, я вяртаўся на станцыю падвечар. Па лужынах браўся лядок. «Значыць, будзе мароз, і нішто яблыням не пашкодзіць,— падумаў я.— А вясною яны зноў накрыюцца белымі прасцінамі, і над імі будуць гусці пчолы...»





***фрыдрых шылер***



ПАЭЗІЯ



## *Кубак*

**БАЛАДА**

**«Гэй, верныя рыцары, світа мая,**
**Хто смелы ў бездань нырне?**
**Залаты туды кубак кідаю я,**
**І Харыбда яго праглыне.**
**Хто знойдзе мой кубак, з прадоння дастане,**
**Той возьме яго сабе ў карыстанне».**

**Сказаў так кароль і ўзышоў на абрыў,**
**Што над чорнай прорвай навіс,**
**Дзе вір шалёны шумеў і бурліў,**
**І кубак шпурнуў уніз.**
**«Хто кінецца ў мора, яшчэ раз пытаю?**
**Няўжо я адважных у свеце не маю?»**

**Прыціхлі, прымоўклі і чэлядзь і знаць:**
**«Няхай нас ратуе бог!»**
**На дзікія хвалі з кручы глядзяць,**
**І ніхто з іх рашыцца не мог.**
**І ў трэці раз кароль запытаўся:**
**«Няўжо тут натоўп баязліўцаў сабраўся?»**

Але ўсе маўчалі, як і раней.
І раптам знайшоўся смяльчак:
Рассунуўшы кола знямелых людзей,
Выходзіць шляхетны юнак,
Прыгожы паж наперад выходзіць,
І ахнула світа, вачэй не адводзіць.

Ён скінуў плашч і над прорвай стаў,
Зірнуў на бурлівую плынь:
Паток, што вір усмоктваў, глытаў,
Назад вяртаўся з глыбінь,
Разрэзваў з грукатам чорныя нетры,
І пыркі фантанам віліся ў паветры.

І плёскат, і булькат, і клёкат, і шып —
Нібы стрэўся агонь з вадой,
І хвалі, уздыбіўшы ўспенены хіб,
Імклівай плылі чарадой.
Навокал усё бушавала, дрыжала,
Быццам мора яшчэ адно мора раджала.

Нарэшце прыліў адступіў, адышоў,
Прыціх, наталіўшы гнеў,
І пашчу Харыбда ашчэрыла зноў,
Таемны разявіла зеў,
І туды, як у лейку, з гулам і свістам
Вада палілася струменем іскрыстым.

Але юнак апярэдзіў прыбой,
Надзеі на бога усклаў
І кінуўся ўніз са скалы крутой,
Нырнуў і ў прорве прапаў.
І агарнула прыдворных трывога,
Шкада ўсім стала хлапца маладога.

І прорва стуліла свае берагі,
Здабычы адчуўшы смак.
І шэпт пракаціўся, поўны тугі:
«Бывай, адважны юнак!»
Штосьці глуха шумела, пасля перастала,
І жудасная цішыня настала.

Каб нават карону ўкінуў ён
І сказаў: «Хто яе прынясе,
Таму аддам і карону і трон»—
Адмовіліся б усе.
Харыбда скарбаў сваіх не пакажа,
Пра дзівы марскія ніхто не раскажа.

Нямала ахвяр праглынула яна,
Караблёў патрушчыла шмат,
Ні адзін чалавек з магільнага дна
Жывым не вяртаўся назад.
Тым часам прорва зноў бушавала,
Бліжэй і бліжэй падступала навала.

І плёскат, і булькат, і клёкат, і шып —
Нібы стрэўся агонь з вадой,
І хвалі, уздыбіўшы ўспенены хіб,
Бягуць адна за адной,
Імчацца з грукатам несціханым,
І пыркі ў паветра ўзлятаюць фантанам.

І раптам бліснула нешта з вады:
То не лебедзь крыламі б'е,
Змагаецца з хвалямі паж малады.



Ён правай рукою грабе,
А ў левай кубак высока трымае.
І крык захаплення над прорвай лунае.

Ён дыхае доўга, шчаслівы стаіць,
Хоць твар і збялеў ад пакут.
Народ на героя з пашанай глядзіць:
«Ён жывы! Ён з намі! Ён тут!
З жахлівае бездані вырваўся ўдала —
Такога на свеце яшчэ не бывала».

Узрушаны двор пераможцу вітаў.
Ён укленчыў перад каралём
І кубак падаў, і кароль загадаў
Напоўніць кубак віном.
Сама каралеўна хлапца частавала,
І сэрца яго ад любві раставала.

«Жыві і красуйся, магутны ўладар!—
Прамовіў пачціва юнак,—
Жыццё на зямлі—найвялікшы дар,
Нябеснае літасці знак,
А там — жах і цемра, схавана глыбока
Адвечная тайна ад прагнага вока.

І вір мяне пацягнуў, павалок
З нястрымнай сілай на дно,
А знізу сустрэчны імчаўся паток,
І яны зліліся ў адно.
І так мяне біла, круціла, вярцела:
Я думаў, душа адарвецца ад цела.

Але бог не пакінуў мяне ў бядзе,
Не адвярнуў вачэй,
Заўважыў я выступ каменны ў вадзе
І ўчапіўся аберуч хутчэй.
Там і кубак вісеў на галінцы карала,
Ненажэрная прорва яго не забрала.

Пада мною была пурпуровая глыб,
Нібы шлях у пякельную мглу.
Я ўбачыў безліч дзівосных рыб
І між імі рыбу-пілу.
І зборышча гадаў агідных, мясістых
Паўзло, варушылася ў нетрах барвістых.

Саламандры, яшчары, змей вадзяны...
Пачвары звіваліся ў клуб:
То клюшні тырчалі з шурпатай спіны,
То востры высоўваўся зуб.
І ўжо да мяне падплывала акула,
Драпежніца кроў сваім носам пачула.

І стала мне жудасна, ледзь не самлеў,
Мой дух агарнуўся тугой:
Ніхто не ўратуе, я ў прорве вісеў
Сам-насам са смерцю ліхой,
Не чуючы добрага слова людскога,
Сярод страшыдлаў прадоння марскога.

І тут на мяне з багровай імглы
Накінуўся спрут-васьміног,
Прыцягвае, смокча!.. Прэч ад скалы
Я рвануўся, трываць больш не мог.
І вір падхапіў мяне ў тое ж імгненне
І вынес наверх, бог паслаў мне збавенне.»

Падзівіўся кароль: «Дагадзіў ты нам,
Мы чулі цікавы расказ.
Кубак—твой, але ж я і персцень аддам,
У якім неацэнны алмаз,
Калі зноў у падводнае царства адважна
Нырнеш ты і ўсё агледзіш уважна».

Каралеўну спалохаў бацькаў загад:
«Калі ласка, я вельмі прашу,
Зазнаў ён і так небяспекі шмат,
Не губіце жывую душу,
Не прымушайце юнага пажа,
Няхай хто з рыцараў храбрасць пакажа».

З усмешкай кароль на абрыў узышоў,
І кубак знік пад вадой:
«Калі ўдасца табе адшукаць яго зноў,
Будзеш першым у свіце маёй,
І будзе жонкай тваёю тая,
Што гэтак шчыра табе спагадае».

І прасвятлела душа юнака,
Каханне адолела страх.
Румянцам палае ў красуні шчака,
І слёзы ў яе на вачах.
І кінуўся хлопец у вір галавою,
Каб шчасце знайсці ці пакончыць
з сабою.

Прыбой наступае, бушуе, раве
І коціцца з шумам назад.
Глядзіць каралеўна: ён, можа, ўсплыве,
А сэрца гаворыць—наўрад.
І спадзяванні гаснуць паволі,
Няма юнака і не будзе ніколі.

Пераклад з нямецкай
**Юркі ГАЎРУКА.**



---

У арыгінале гэта балада называецца «Der Taucher», што азначае «ныральшчык», «вадалаз». Назва «Кубак», шырока вядомая ў нас, узята з перакладу В. Жукоўскага.

# ПУБЛІЦЫСТЫКА



- Барыс ПАСТАРНАК
- Уладзімір ХАЗАНСКІ
- Валянцін ЖДАНОВІЧ
- Аляксандр САВАСЦЕНКА
- Міхась ТКАЧОЎ
- Віктар ВАЛОШЫН
- Яўген РАМАНОВІЧ
- Ларыса КАРОТКАЯ
- А. БЯЛЯЕЎ
- Б. СЫРАМЯТНІКАЎ
- В. УГРЫНОВІЧ
- Алесь БОЛСУН
- Ян МЕЙСТАРС
- Леанід ЗДАНОВІЧ
- Мікалай ДУБОЎСКІ





**У Інстытуце атамнай энергіі імя І. В. Курчатава вядуцца даследаванні па стварэнні высокатэмпературнай плазмы на ўстаноўках «Такамак». На здымку «Такамак-6».**

● **Барыс ПАСТАРНАК**

# ШТО ТАМ, У БУДУЧЫМ?..

Амаль сто пяцьдзесят гадоў назад малады французскі інжынер Садзі Карно апублікаваў працу пад назвай «Роздум аб рухаючай сіле агню і аб машынах, якія здольны развіваць гэтую сілу». З таго часу чалавек даведаўся пра рухаючую сілу многа больш, чым было вядома Карно. Тэмпература новага агню — кіруемай ядзернай рэакцыі — віруе сёння ў «топках» атамных электрастанцый. Зусім блізка падышоў чалавек да ажыццяўлення кіруемай тэрмаядзернай рэакцыі — стварэння штучнага сонца на зямлі. Нязгасным полымем гарыць у руках чалавека-творцы факел ведаў, запалены Праметэем...

●

У паэме Нізамі «Сем прыгажунь» упамінаецца імя Муканы — легендарнага важака «руху людзей у белым адзенні». У доказ сваёй цудатворнай сілы ён, ні многа ні мала, запусціў штучны спадарожнік Зямлі! Гэта быў зроблены з ртуці Месяц. Кожны вечар Мукана ўзнімаў яго ў неба з калодзежа, які знаходзіўся недзе на поўдзень ад Бухары, і ён плыў па небе побач з Месяцам сапраўдным. Плыў над старадаўнімі бухарскімі скляпеннямі, над беласценнымі маўзалеямі цароў — людзей-асілкаў, але якія спадарожнікаў запускаць не ўмелі... Цары, як і простыя людзі, тварылі свае «цуды» доўга і цяжка.

Піраміду Хеопса, як сцвярджае Герадот, сто тысяч чалавек будавалі дваццаць гадоў. Не адзін з гэтых людзей, разагнуўшы спіну пасля цяжкай працы і пазіраючы на свяціла, якое хавалася за пустэльны гарызонт, прасіў, напэўна, свайго тэрмаядзернага бога: «Дапамажы, Ра! Уздымі каменную глыбу...»

Чалавек марыў аб сіле, ён складаў пра яе легенды і міфы. Праўда, і акрамя легенд, ён ствараў цікавыя рэчы.

Больш дзвюх тысяч гадоў назад вялікі Герон, які зацьміў славу Ктэзібія і Філона і дзяліў яе з Архімедам, напісаў працу па пнеўматыцы — пра ўласцівасці сціскаемага паветра. У другім томе гэтай працы апісваецца эаліпіл — першая дзеючая паравая машына, далёкі продак сучасных рэактыўных турбін. Пара з катла трапляла ў рухома замацаваны шар з дзвюма прыпаянымі да яго трубкамі, загнутымі пад прамымі вугламі так, што іх адтуліны глядзелі ў супрацьлеглыя бакі. Як толькі пара выходзіла з трубак, шар пачынаў вярцецца.

Александрыйцы забаўляліся гэтай цацкай, але ні да чаго карыснага прыстасаваць яе не змаглі. Так эаліпіл на доўгі час і застаўся проста ілюстрацыяй таго, што, паставіўшы пасудзіну з вадой на агонь, можна прымусіць шар вярцецца.

Адно з пнеўматычных вынаходстваў Герона знайшло і практычнае прымяненне. Гэта славутая канструкцыя для адкрывання дзвярэй храмаў. У бронзавым ахвярніку распальваўся агонь, уступала ў дзеянне добра адрэгуляваная сістэма сіфонаў і грузаў, і натоўп людзей, якія нічога не ведалі пра ўласцівасць паветра пры награванні, у захапленні заламвалі рукі, назіраючы, як «па волі багоў» павольна расчыняліся цяжкія форткі дзвярэй...

Далей механічных фокусаў справа тады не пайшла. Аднак трэба ведаць, што ўяўляла сабой у той час александрыйская навуковая школа. Яшчэ задоўга да нараджэння Герона быў створан Александрыйскі музей — буйнейшы навуковы цэнтр антычнасці. Вучоныя жылі разам, за дзяржаўны кошт. У іх распараджэнні была бібліятэка ў 700 000 тамоў. Сучасны гісторык фізікі Марыа Льоцы піша: «Гэта першы ў гісторыі прыклад калектыўнай арганізацыі навуковых даследаванняў. Нешта падобнае было зноў дасягнута толькі ў нашым стагоддзі».

Калі ў Александрыйскім музеі паравая турбіна вярцелася ўхаластую, то, відаць, яе час яшчэ не настаў.

Настаў гэты час праз васемнаццаць (!) стагоддзяў. У 1698 годзе англійскі слесар Томас Ньюкомен атрымаў першы патэнт на цеплавую машыну для падняцця вады. Пасля таго, як пара паднімала ў цыліндры поршань, цыліндр ахалоджваўся струменямі вады... Машына спажывала велізарную колькасць цеплыні і была вельмі павольная ў рухах. Але гэта была машына.

Шмат вады сплыло з таго часу, шмат ператварылася ў пару. Энергія згараўшага паліва сілай гэтай пары вярцела колы турбін і ротары генератараў, рухала поршні і абагравала жыллё. Гарэлі дровы, вугаль, нафта, газ, сланец... І гарэць бы ім яшчэ доўга-доўга, калі б не адна акалічнасць...

●

На адной з сусветных выставак канца мінулага стагоддзя дэманстраваўся «Дом будучага». Верхам камфорту ў гэтым доме лічылася спецыяльны ліфт для пад'ёму вугалю на верхнія паверхі.

Сёння, у сярэдзіне XX стагоддзя, мы маем падставы меркаваць, што да канца стагоддзя вугаль стане ў энергетыцы перажыткам мінулага. У будучым вычарпаюцца яго запасы на Зямлі гэтак жа, відавочна, як запасы нафты і газу. Вось прыблізныя разлікі. У 1960 годзе сусветная вытворчасць усіх відаў паліва склала $0{,}4 \times 10^{10}$ тон.

У 2000 годзе чалавецтву для задавальнення яго энергетычнай патрэбы неабходна будзе прыблізна $30\times10^{10}$ тон паліва. Сусветныя запасы ўсіх відаў паліва складаюць прыкладна $750\times10^{10}$ тон.

Відаць, толькі міфічнага бога з яго здольнасцю стварацъ усё з нічога мала цікавіла — ці хопіць у пекле дроў для таго, каб падсмажваць грэшнікаў? Чалавецтва ж, натуральна, не магло задаволіцца перспектывай патраціць усё паліва за некалькі дзесяцігоддзяў.

Але чалавецтву патрэбна было выйсце. І яно знайшлося. Гэткае, што людзям, якія ўбачылі яго ў твару самых першых, давялося і на самой справе ўспомніць бога.

У 1939 годзе нямецкі фізік Ота Хан, даведаўшыся аб перспектывах выкарыстання энергіі новага віду, усклікнуў:

— Бог гэтага не дапусціць!..

У 1947 годзе, калі бог ужо дапусціў, амерыканскі вучоны Юліус Роберт Апенгеймер прамовіў:

— Мы зрабілі работу за д'ябла.

Гаворка ішла аб атамнай энергіі.

Пра атамную структуру матэрыі здагадаўся, як вядома, яшчэ Дэмакрыт, сучаснік Герона. Многа пазней выявілася, што ўся шматграннасць рэчываў, якія акружаюць нас, вызначаецца малекуламі — камбінацыямі розных атамаў. Атамы ў малекулах і малекулы між сабой трывала змацаваны. Але іх можна перагрупаваць так, каб для счаплення спатрэбілася менш намаганняў. Энергія, якая вызвалілася ў працэсе перагрупоўкі, выдзяляецца ў выглядзе цеплыні і святла. Гэта і ёсць энергія гарэння.

На рубяжы двух апошніх стагоддзяў чалавек зазірнуў у матэрыю яшчэ глыбей, і «непадзельны» атам уявіўся яму такім, нібы ён складаўся з дадатна зараджанага атамнага ядра і адмоўна зараджаных электронаў. Прычым аказалася, што сілы ўзаемадзеяння паміж імі — прыцягненне і адштурхоўванне — намнога пераўзыходзяць сілы малекулярнага счаплення. Наколькі? Выдатна адказаў на гэтае пытанне нобелеўскі лаўрэат Рычард Фейнман: «Калі б у вашым целе або ў целе вашага суседа (які стаіць ад вас на адлегласці выцягнутай рукі) электронаў аказалася б усяго на адзін працэнт больш, то сіла вашага адштурхоўвання была б надзвычай вялікая... Дастатковая, каб падняць небаскроб? Больш! Дастатковая, каб падняць гару Эверэст? Больш! Сілы адштурхоўвання хапіла б, каб падняць «вагу», якая роўная вазе нашай Зямлі!».

Пасля чалавек зазірнуў яшчэ глыбей і даведаўся, што атамнае ядро, у сваю чаргу, складаецца з дадатна зараджаных пратонаў і нейтронаў, якія не маюць электрычнага зараду. Але што ж тады трымае пратоны разам? Усе ж яны зараджаны аднолькава і павінны, як мы ведаем, адштурхоўвацца адзін ад другога са страшэннай сілай. Аказваецца, у ядры атама, акрамя электрычных сіл, дзейнічаюць яшчэ і іншыя сілы, якія называюцца ядзернымі. Яны яшчэ больш магутныя, чым электрычныя — прыблізна ў мільён разоў, — і «перасільваюць» іх.

Аднак ядзерныя сілы вельмі хутка слабеюць з павелічэннем адлегласці — у сто тысяч разоў хутчэй за электрычныя. Таму атрымліваецца, што пратоны і нейтроны асабліва моцна «прывязаны» да сваіх бліжэйшых суседзяў, а сілы іх узаемадзеяння з «дальнімі сваякамі» прыкметна слабейшыя. Пры вельмі вялікай колькасці пратонаў і нейтронаў у ядры (напрыклад, у ядры ўрану, дзе пратонаў 92), ядзерныя сілы прыцягнення і электрычныя сілы адштурхоўвання амаль ураўнаважваюцца. Ядро робіцца няўстойлівым. Варта яго злёгку «штурхнуць», і яно распадзецца на дзве часткі. Ядро, якое распалася, «штурхне» суседнія ядры — і яны таксама распадуцца. Пачнецца атамны пажар — ланцуговая рэакцыя дзялення, якая суправаджаецца выдзяленнем велізарнай энергіі.

Ёсць славутая формула Энштэйна, якую ў наш час можна сустрэць не толькі на старонках навуковай літаратуры, але нават на сценах маладзёжных кафэ — $E=mc^2$. Энергія, якая заключана ў рэчыве, эквівалентная масе рэчыва, памножанай на квадрат хуткасці святла. Як сказаў акадэмік Аляксандраў, «у гэтай халоднай эйнштэйнаўскай формуле схавана атамная гарачыня». Калі мы ўзважым усе прадукты дзялення ядра, то атрымаем значэнне крыху меншае, чым яго першапачатковая вага — частка масы рэчыва, у адпаведнасці з формулай, перайшла ў энергію. Гэтую энергію мы і называем атамнай.







Графічная кладка першага ў Еўропе савецкага даследчага атамнага рэактара «Ф-І». Рэактар працуе ўжо больш як 25 гадоў.

Гісторыя захавала для нас фатаграфію: вялікі італьянскі фізік Энрыка Фермі ля сцяны закрытага тэніснага корта Чыкагскага ўніверсітэта. На сцяне — мемарыяльная дошка: «Тут 2 снежня 1942 года чалавек упершыню ажыццявіў ланцуговую рэакцыю дзялення і гэтым паклаў пачатак авалодання вызваленай атамнай энергіяй».

Вызваленай? Так. Авалодання? Бадай, пра гэта гаварыць было яшчэ ранавата... Рэактар у Чыкага быў пабудаваны па праграме стварэння атамнай бомбы. І было б кашчунствам лічыць, што чалавек прыступіў да авалодання ядзернай энергіяй, узарваўшы над светам некалькі бомб нечуванай сілы.

Сапраўднае авалоданне энергіяй ядра пачалося ў той дзень, калі рукой чалавека была пушчана атамная электрастанцыя. Адбылося гэта 27 чэрвеня 1954 года ў падмаскоўным гарадку Обнінску, дзе быў выпрацаваны першы кілават электраэнергіі, народжаны новым палівам — уранавым.

За ўсю эксперыментальную частку работ і за пуск станцыі адказваў А. К. Красін — цяпер лаўрэат Ленінскай прэміі, акадэмік, дырэктар Інстытута ядзернай энергетыкі АН БССР. Ён расказвае пра той дзень:

— У момант пуску станцыі я стаяў на пульце кіравання побач з Ігарам Васільевічам Курчатавым — палымяным энтузіястам і натхняльнікам будоўлі. Калі ток пайшоў, ён павярнуўся да мяне і сказаў: «Выдатная справа зроблена!»

Як тут не прыгадаць зноў сумныя словы «бацькі атамнай бом-

бы» Апенгеймера: «Мы зрабілі работу за д'ябла»...

З таго дня прайшло ўжо больш паўтара дзесяцігоддзя. Сямейства ядзерных электрастанцый памнажаецца і мацнее. Ствараюцца гіганты атамнай энергетыкі — накшталт Нова-Варонежскай АЭС — і атамныя станцыі-малюткі — накшталт устаноўкі «Север», якую можна выкарыстаць у неабжытых раёнах краіны. Распрацоўваюцца новыя, усё больш дасканалыя і эканамічныя віды рэактараў. За стварэнне аднаго з іх — ІХР (імпульснага хуткага рэактара) — вялікая група вучоных і інжынераў удастоена Дзяржаўнай прэміі СССР 1971 года.

У рэактарах старога тыпу ядзерная рэакцыя «тлела». Яе стрымлівалі спецыяльнымі замаруджвальнікамі. Калі замаруджвальнік зняць, то можа адбыцца атамны выбух, бо агульная маса ўрану або плутонію ў «сэрцы» рэактара стала больш неабходнай для выбуху так званай крытычнай масы.

У імпульсным хуткім рэактары замаруджвальнікі знялі. Але і масу ядзернага паліва падзялілі на тры часткі. Адна з іх прымацавана да дыска, які верціцца з велізарнай хуткасцю. Як толькі дыск «уносіць» прымацаваную да яго частку паліва ў шчыліну паміж дзвюма іншымі часткамі, агульная маса ядзернага гаручага становіцца больш крытычнай, і пачынаецца... выбух. Але дыск, які страшэнна хутка верціцца, паспявае «выхапіць» з ачага выбуху свой «кавалак» гаручага. «Выбух» гасне...

Дыск робіць каля пяці тысяч абаротаў у мінуту. Пяць тысяч ядзерных выбухаў адбываецца за гэты час! Цяпер ужо з поўнай падставай можна сказаць, што чалавек утаймаваў «самую» атамную бомбу і запрог яе ў энергетычную фурманку.

Ну дык што ж? Можна рабіць прагнозы наконт жылых дамоў наступнага стагоддзя з «атамным» ацяпленнем? Будуць дзяліцца ў атамных рэактарах уран і плутоній, выдзяляючы цеплыню, награваючы ваду, верцячы колы турбін і ротары генератараў...

Напэўна, так магло стацца, калі б зноў не ўзнікла адна акалічнасць...

●

Упершыню нябачны агонь радыяцыі апёк рукі адважнай даследчыцы атама Марыі Складоўскай-Кюры. У апошнія гады жыцця яна бывала на людзях у чорных пальчатках — рукі яе былі з'едзены невылечнымі язвамі прамянёвай хваробы.

У жніўні 1945 года прамянёвая хвароба паразіла жыхароў Хірасімы і Нагасакі, якія ўцалелі ад ударнай хвалі і агню. Так свет даведаўся яшчэ пра адну жудасную пагрозу чалавечаму жыццю.

І ўсё ж ядзерны распад, які суправаджаецца магутным радыеактыўным выпраменьваннем, выкарыстоўваецца сёння як крыніца энергіі. Чаму гэтакая неасцярожнасць? Гэта ж небяспечна! «Не», — гавораць вучоныя. Сам працэс дзялення ядзернага гаручага бясшкодны. Чалавека засцерагае надзейная браня супрацьрадыяцыйнай аховы. Небяспека ў іншым. Пры рабоце атамных рэактараў накапліваюцца радыеактыўныя адыходы, якія трэба пастаянна выкідваць. У зямлю, у акіян? Радыяцыя атруціць усё жывое. Яе крыніцы павінны захоўвацца за сямю свінцовымі і бетоннымі «замкамі». Сёння гэта яшчэ рэальна, але калі такія станцыі набудуць значную вагу ў энергетыцы, атамных «магільнікаў» можа стаць занадта многа...

Вось калі б удалося выкарыстаць ядзерную энергію такім чынам, каб не заставалася адыходаў... Аматары памарыць тут жа дадалі б — «і каб паліва было надзвычай танным. Ну, напрыклад, як вада!»

Вучоныя вынайшлі і такі спосаб. Гэта кіруемая тэрмаядзерная рэакцыя.

Для таго, каб уявіць сабе, якія фізічныя ўмовы неабходны для ажыццяўлення тэрмаядзернай рэакцыі, нам зноў давядзецца «паглыбіцца» ў нетры атама.

Ядзерная энергія выдзяляецца не толькі пры распаданні цяжкага ядра, але і пры зліцці некалькіх







**Пульт кіравання рэактарам і турбінамі Белаярскай атамнай станцыі.**

Фотахроніка ТАСС і АДН.

лёгкіх ядзер у адно. Ядро атама гелію, утворанае з чатырох ядзер атамаў вадароду, прыблізна на восем дзесятых працэнта лягчэй, чым гэтыя чатыры ядры, разам узятыя. «Недахоп» масы, па эйнштэйнаўскай формуле, ператвараецца ў энергію. На Сонцы і іншых зорках адбываецца іменна такі працэс. Якая энергія выдзяляецца пры гэтым, бачна кожнаму — усе мы, як кажуць, пад Сонцам ходзім. Але ўсё ж прывядзем некаторыя лічбы. Энергія, якая выдзяляецца пры ператварэнні аднаго грама вадароду ў гелій, прыкладна роўна энергіі, якая выдзяляецца пры згаранні адной тоны вадароду, г. зн. пры хімічным злучэнні яго з васмю тонамі кіслароду. Разлікі паказваюць, што запасаў вадароду на Сонцы дастаткова для падтрымання яго выпраменьвання на цяперашнім узроўні на працягу, прынамсі, ста мільярдаў гадоў.

У зямных умовах лягчэй за ўсё ажыццявімы сінтэз ядраў дэйтэрыю і трытыю — двух ізатопаў вадароду.

Як дабіцца «зліпання» двух ядраў? Прыгадаўшы разважанні аб электрычных і ядзерных сілах у атамах, лёгка зразумець, што задача зводзіцца да таго, каб ядры атамаў як мага зблізіць. Куды бліжэй, чым гэта дазваляюць электронныя абалонкі ў звычайных умовах. Незвычайныя ўмовы, якія неабходны для сінтэзу, існуюць у плазме.

Мінулым летам жыхары Мінска маглі ўбачыць сваімі вачыма, што ўяўляе сабою плазма. Многія, напэўна, памятаюць мадэль атама, што ўзвышалася на плошчы Якуба Коласа насупраць ЦУМа. Аднойчы

раніцой сюды прыйшлі рабочыя з аўтагенным разаком. Яны акуратна разрэзалі на часткі металічныя дугі «арбіт», вызвалілі ад туга напятых тросаў ядро і звалілі ўсе гэтыя «асколкі матэрыі» побач з клумбай. З мадэлі атама атрымалася мадэль плазмы.

Але перамяшаць электроны і ядры — гэта яшчэ не ўсё. Для таго, каб у такім «месіве» ядры зліпаліся, неабходна нагрэць плазму да тэмпературы ў 40 мільёнаў градусаў і ўтрымаць яе на працягу прыкладна адной дзесятай долі секунды. Тады пачнецца тэрмаядзерная рэакцыя.

Застаецца дадаць, што дэйтэрый — паліва гэтай рэакцыі — утрымліваецца ў вадзе. На кожныя шэсць тысяч атамаў звычайнага вадароду прыпадае адзін атам дэйтэрыю. Па энергаёмкасці адзін кубак вады можа замяніць 100 літраў лепшага бензіну.

Выходзіць, задача зводзіцца да таго, каб нагрэць і ўтрымаць плазму. Над гэтым і працуюць цяпер фізікі ўсяго свету. Як пісаў нядаўна амерыканскі часопіс «Ньюсуік», «у СССР дасягнут выдатны прагрэс на шляху рашэння гэтай неверагодна цяжкай навуковай праблемы». «Ньюсуік» меў на ўвазе эксперыменты на ўстаноўцы «Такамак».

Стваральнікі «Такамака» — група вучоных і інжынераў з Інстытута атамнай энергіі АН СССР імя І. В. Курчатава на чале з акадэмікам Львом Арцімовічам — таксама сталі лаўрэатамі Дзяржаўнай прэміі СССР 1971 года.

Назва трыумфальнага «Такамака» — так яго ахрысцілі ў зарубежнай прэсе — расшыфроўваецца наступным чынам: «ТАраідальная КАмера з МАгнітнай КАтушкай». У назве заключана і сутнасць справы. З якога матэрыялу павінна быць зроблена камера, у якой будзе захоўвацца гарачая плазма з тэмпературай прыблізна ў 100 млн. градусаў? Самы тугаплаўкі метал пры такой тэмпературы імгненна выпарыцца. Калі ж плазмы будзе нямнога, яна астыне, дакрануўшыся да сценак сваёй «турмы». У «Такамаку» ролю сценак адыгрывае магутнае магнітнае поле. Яно сціскае плазму ў вогненны шар у цэнтры камеры і не дае ёй дакрануцца да металу. Каб плазма «не ўцякала» і не астывала з канцоў шнура, камеры надалі тараідальны выгляд — як абаранак. Абаранак канцоў не мае.

Для награвання газу ў камеры выкарыстоўваецца электрычны разрад выключнай магутнасці.

На «Такамаку» плазму з тэмпературай у дзесяць мільёнаў градусаў змаглі ўтрымаць на працягу адной пяцідзесятай долі секунды. Гэтага яшчэ мала для пачатку тэрмаядзернай рэакцыі, але, як пісаў часопіс «Фрайе вельт» (ГДР), «савецкім фізікам, мяркуючы па ўсім, удалося прыадчыніць дзверы ў наступнае стагоддзе». Прафесар Прынстанскага ўніверсітэта (ЗША) Мелвін Готліб, выступаючы на навуковай канферэнцыі ў Дубне, выказаўся менш эмацыянальна, але больш пэўна: «Мы цяпер упершыню пераканаліся, што кіруемая тэрмаядзерная рэакцыя сапраўды магчыма. Раней мы ў гэтым не былі ўпэўнены».



Мінулае стагоддзе называлі стагоддзем пары, цяперашняе называюць атамным. Як называць будучае стагоддзе? Тэрмаядзерным? Бадай, гэта назва была б правільнай, калі б не адна акалічнасць...

Вадзяная пара рухала шар геронавага эаліпіла. Вадзяная пара штурхала поршань цеплавой машыны Ньюкомена. Вадзяная пара верціць турбіны генератараў электрычнага тока на вугальных ЦЭЦ і на атамных электрастанцыях. Калі кіруемая тэрмаядзерная рэакцыя здзейсніцца, то, напэўна, і яе цеплынёй будзе на першым часе саграваца «старая добрая» вадзяная пара, якая прывядзе ў рух колы турбін. Па сутнасці, з гадамі і вякамі мянялася толькі паліва пад катлом Герона, а пара, як і раней, служыць чалавеку. Век пары прадаўжаецца.

Калі і каму паравая турбіна ўступіць сваё месца гегемона ў энергетыцы? Пра гэта можна было б нафантазіраваць, але гэта тэма зусім іншага расказу...



# ЖЫЦЦЁВЫ ПАРОГ

## РУКА ВЕТЭРАНА

Іх калектыўнае пісьмо паявілася ў шматтыражцы швейнай фабрыкі «Сцяг індустрыялізацыі». Ветэраны працы і вайны, якія даўно павыгадоўвалі сваіх дзяцей, выказалі жаданне стаць шэфамі навічкоў-падлеткаў.

Шэфства... З чаго яно пачынаецца і дзе канчаецца? Як уплываць на маладых, каб не быць ім у цяжар, не стрымліваць іх актыўнасці?

Тады, калі яны, бывалыя людзі, пачыналі сваё настаўніцтва, многае яшчэ ім самім было не ясна. Але быў у іх цвёрды намер «заўжды быць побач з моладдзю, жыць яе інтарэсамі».

Заўжды — гэта ў першую чаргу на рабоце, там, дзе чалавек перш за ўсё праяўляе сябе як асобу.

Камісія па рабоце сярод падлеткаў накіравала ў падрыхтоўчы цэх семнаццацігадовую Наташу Ткачову. Наташа старанная, паслухмяная дзяўчынка. Уважліва слухае тлумачэнні вопытнай работніцы Ганны Трафімаўны Хатулёвай. Мінае час, і яна самастойна пачала авалодваць сакрэтам раскрою тканін, і ў яе праз нейкі час — ніводнай памылкі, ніводнага выпадку браку.

Здавалася б, настаўніцы толькі радавацца. Цяпер быццам бы можна і канчаць сваё шэфства. Але не. Ганне Трафімаўне не падабаецца настрой дзяўчыны, якая лічыць, што на фабрыцы яна часова.

Як жа дапамагчы Наташы пазбавіцца ад такога настрою? Патрэбна даць магчымасць, каб яна адчула сябе ў калектыве сваёй, роўнай з усімі. Не адразу гэта ўдалося Ганне Трафімаўне. Былі і гутаркі, і запрашэнні на кватэру, і размовы з майстрам наконт таго, каб Наташы даць адказную работу.

Настрой у Наташы змяніўся. З'явілася акрэсленая мара: стаць інжынерам-швейнікам, паступіць у тэхналагічны інстытут.

Яшчэ больш цяжкая роля настаўніка-выхаваўцеля была ў Аляксея Іванавіча Пушкіна. Мікалая Бокіша ніхто за ім не замацоўваў. Проста працавалі побач — стары рабочы і падлетак. Коля — хлапец кемлівы. Пасябраваў хутка з моладдзю цэха. Запісаўся і затым стаў адным з актыўных завадатараў клуба «вясёлых і знаходлівых». А са школы пачалі паступаць сігналы: прапускае заняткі, нахапаў двоек. І вось аднойчы, зусім нечакана для Мікалая, у клас заходзіць Аляксей Іванавіч. Садзіцца на свабоднае месца. А тут якраз настаўнік выклікаў Колю да дошкі. Стары рабочы з дакорам слухаў, як хлопец блытаўся.

Дамоў ішлі ўдвух. Аляксей Іванавіч не папракаў, не чытаў натацый. Ён прыгадаў свае юнацкія гады, станаўленне фабрыкі, якую пабудавала моладзь у гады першай пяцігодкі на пустэчы, успомніў, як вучыўся сам.

Быццам нічога не адбылося. Але падлетак з нейкім новым пачуццём пачаў ставіцца да старога чалавека. У іх наладзілася ўзаемаразуменне, дружба. Дагэтуль хлопец чысціў гатовую прадукцыю. Стары рабочы параіў яму навучыцца кіраваць прасам і сам ахвотна перадаваў яму сваё майстэрства, свой рабочы «сакрэт».

І Мікалай падцягнуўся ў вучобе, паспяхова закончыў восьмы клас, затым дзевяты і адначасова авалодаў новай спецыяльнасцю.

Вельмі важна, калі побач з падлеткам у адказны час станаўлення яго характару, духоўнага ўзмужнення знаходзіцца старэйшы. Яго сяброўскае плячо, падтрымка, парада асабліва неабходны для тых, хто збочвае, цяжка шукае сваю дарогу.

Алег Лавішак перамяніў некалькі месцаў работы, але нідзе не мог утрымацца. Маці, работніца швейнай фабрыкі, уладкавала яго ў сваім калектыве, каб трымаць пад прыглядам. Але Алег і тут працаваў дрэнна, пазніўся на работу, прагульваў. А потым, калі маці ўзяла адпачынак, Алег рашыў пакінуць фабрыку. Членам камісіі выканкома Кастрычніцкага райсавета па справах непаўналетніх абгрунтаваў свой крок так: швейная справа падыходзіць больш для жанчын, а ён хоча набыць сабе мужчынскую прафесію. З райвыканкома пазванілі на фабрыку, звярнуліся да старшыні фабрычнай камісіі па рабоце сярод падлеткаў Л. С. Кавалеўскай.

Ёй, здавалася б, прасцей за ўсё было задаволіць просьбу падлетка. Як-ніяк, ён даўся ўсім на фабрыцы — менш будзе клопатаў. Але Лідзія Сямёнаўна падумала: «А ці ўсё зрабілі мы, каб Алег адчуў сябе сваім у калектыве?» Тое ж самае падумала і начальнік цэха Клара Андрэеўна Баранава. У цэху не адна сотня рабочых. Зразумела, яна не можа кожнага трымаць на відавоку. Але ж Алег — навічок. Лічылі, што ён пад прыглядам маці...

Як утрымаць хлопца ад няправільнага кроку? Перш чым пагутарыць з Алегам, Клара Андрэеўна рашыла пацікавіцца яго жыццём, інтарэсамі. Пайшла ў камітэт камсамола. Высветлілася, што Алег захапляецца турызмам, нядрэнна спявае. Была неяк моладзь у двухдзённым турысцкім паходзе. Давалі канцэрт у калгасе. Выступаў і Алег. Аднойчы — ці то жартам, ці то ўсур'ёз — заўважыў: «На суседняй фабрыцы ёсць эстрадны аркестр, ці не перайсці мне туды?»

Нялёгкай была першая шчырая размова начальніка цэха з маладым рабочым. Не адразу ён адкрыўся. Але Клара Андрэеўна пераконвала яго не толькі словамі. Яму даручылі работу на прасе, а неўзабаве запрасілі ў камітэт камсамола і прапанавалі запісацца ў эстрадны аркестр, які ствараўся на фабрыцы. Зразумела, не толькі для Алега быў створаны гэты аркестр. У камітэце даўно выношвалі думку пра аркестр, але ўсё ніяк не маглі знайсці кіраўніка. Новы начальнік цэха за гэту справу ўзяўся больш настойліва. Фабком выдзеліў грошы для набыцця музычных інструментаў. Студэнт музычнага вучылішча Віталь Раўзо стаў кіраваць аркестрам, які цяпер з'яўляецца лепшым у горадзе, а Алег — самы актыўны яго саліст. Палюбіў ён і сваю работу. Пайшоў вучыцца ў дзесяты клас вячэрняй школы. Так з дапамогай і пры падтрымцы старэйшага таварыша юнак знайшоў сваё месца ў калектыве.

У тым пісьме ветэранаў у газету пра шэфства над падлеткамі свае подпісы паставілі і многія з тых, хто ўжо знаходзіцца на заслужаным адпачынку. Пенсія не вызваліла ад грамадскіх абавязкаў М. І. Мацэнку, М. Я. Шакурава, Т. В. Данілава і іншых. Ветэраны-пенсіянеры ўдзельнічаюць у вечарах пасвячэння моладзі ў рабочыя, уручаюць навічкам працоўныя кніжкі і пропускі, выступаюць на ленінскіх уроках, праводзяць гутаркі ў чырвоных кутках і інтэрнатах.

Асабліва ў гэтых адносінах хочацца адзначыць ініцыятыву былой работніцы фабрыкі ганаровай грамадзянкі горада Героя Сацыялістычнай Працы М. І. Мацэнкі. Марыя Ільінічна была ў ліку тых, хто будаваў першыя фабрычныя карпусы, у часе фашысцкай акупацыі была падпольшчыцай, а пасля вызвалення Віцебска ўдзельнічала ў аднаўленні фабрыкі, узначальвала партыйную арганізацыю, потым пайшла ў цэх.

Неяк фабрычны савет падлеткаў запрасіў Марыю Ільінічну на свой чарговы сход. Тэма сходу была такая: «Табе старэйшыя пакінулі ў спадчыну».

Многа магла расказаць гераіня працы пра сябе і сваё пакаленне, пра тое, што зрабілі яны і пакінулі ў спадчыну маладым. Але яна прапанавала:
— Давайце пройдзем па фабрыцы і я сёе-тое вам пакажу.





Марыя Ільінічна была іх экскурсаводам. Здаецца, усё гэта яны бачылі кожны дзень, але цяпер нейкімі новымі вачамі глядзелі на тыя карпусы, што будавалі камсамольцы першых пяцігодак, на алею ліп, якую пасадзілі тады маладыя энтузіясты. А гэта добрыя справы камсамольцаў пасляваеннага часу — помнік героям вайны — былым рабочым фабрыкі: спартыўны гарадок, пладовы сад і парк імя 40-годдзя ВЛКСМ.

На фабрычным двары Марыя Ільінічна затрымлівала юных сяброў ледзь не ля кожнага дрэва.

— Было б нядрэнна, — выказала думку Марыя Ільінічна, — каб кожнае дрэва мела свайго шэфа.

Думка юнакам спадабалася. Яны ахвотна згадзіліся даглядаць фабрычны сад. Гэта ж спадчына старэйшых, і ім яе трэба захоўваць. Але хочацца і нешта сваё пакінуць для тых, хто прыйдзе пасля. Так узнікла калектыўнае рашэнне пасадзіць сваю алею ў парку. Паехалі ў лес, накапалі саджанцаў, разбілі пляцоўку, пасадзілі.

Было гэта два гады назад. Краіна адзначала 100-годдзе з дня нараджэння У. І. Леніна. Таму і сваю алейку падлеткі назвалі Ленінскай. Як і ў пладовым садзе, у кожнага дрэўца Ленінскай алеі — свой шэф, сябар, які яго пасадзіў.

## ХТО ЯНЫ, «ЦЯЖКІЯ»?

Існуе думка, што падлеткі, якія не давучыліся ў дзённай школе і якіх уладкоўваюць на работу з дапамогай камісій па справах непаўналетніх, «цяжкія». На самай справе гэта не так. Рана ідуць падлеткі на працу па розных прычынах: адны імкнуцца хутчэй набыць самастойнасць, другіх захапляе нейкая канкрэтная справа, у трэціх так складваюцца сямейныя абставіны. Возьмем тую ж фабрыку «Сцяг індустрыялізацыі». Тут працуе 159 падлеткаў, а, як сцвярджае старшыня фабрычнай камісіі па рабоце сярод падлеткаў Л. С. Кавалеўская, «цяжкіх» з іх толькі сем. І на іншых прадпрыемствах Кастрычніцкага раёна так званых «цяжкіх» падлеткаў адзінкі.

Але прыгледзімся да тых, каго залічылі ў разрад «цяжкіх». Хто іх пазначыў такім ярлыком і чаму?

Часта «цяжкім» лічаць таго, хто хоць раз пабываў у дзіцячым пакоі міліцыі. Ярлык «цяжкі» іншы раз начапляюць і самі бацькі, якія не знаходзяць агульнай мовы з сынам альбо дачкой. Нядобрая слава акружае і тых, чые першыя працоўныя крокі бываюць няўдалымі.

— «Цяжкія» яны часам таму, — гаворыць начальнік аддзела кадраў абутковай фабрыкі «Чырвоны Кастрычнік» Людміла Максімаўна Калашнікава, — што мы не ведаем іх, не знаходзім ключа да іх сэрцаў. Яны ж на пачатку жыццёвай дарогі. Толькі-толькі шукаюць сваю сцежку. Іншы раз памыляюцца, бо адчуваюць сябе няўпэўнена. І многае залежыць ад таго, хто з імі побач у адказны час.

Гэта не проста словы. Гэта перакананні, што прыйшлі пасля шматгадовых назіранняў, роздуму, практыкі работы з падлеткамі і моладдзю. Звыш 20 гадоў працуе Людміла Максімаўна на фабрыцы, і ўсе гэтыя гады яна — выхавацель маладых. Яна нязменны член савета падлеткаў, што працуе пры камітэце, і намеснік яго старшыні. Яна таксама член камісіі па справах непаўналетніх Кастрычніцкага райвыканкома.

Сама маці двух сыноў (дарэчы, яны працуюць тут жа, на фабрыцы), Людміла Максімаўна імкнецца ў кожным падлетку ўбачыць, выявіць лепшае ў характары. Яна імкнецца зразумець складаны характар гарэзлівых хлапчукоў і дзяўчынак, адрозніць знешнюю браваду ад таго, што можна лічыць сур'ёзнымі хібамі натуры. Не заўсёды гэта ўдаецца адразу. Але яна не шкадуе часу, калі, як кажуць, ставіцца на карту лёс чалавека. Тыя, каму аддае яна цяпло сваёй душы, адказваюць ёй удзячнасцю і любоўю. Многія, хто па розных прычынах паехаў з Віцебска альбо хто пайшоў служыць у армію, пішуць ёй, расказваюць аб сваім жыцці. Адно з апошніх пісем прыйшло з Ленінграда ад былога рабочага фабрыкі Віктара Колесава, некалі былога «цяжкага». Некаторыя на яго ўжо махнулі рукой. Але

Людміла Максімаўна знайшла да яго свой падыход, і хлопец акрыяў, паверыў у свае здольнасці, паступіў на завочнае аддзяленне музычнага вучылішча.

Цяпер Віктар — студэнт Ленінградскай кансерваторыі. У яго акрэслены лёс, але ён не забывае пра тых, хто дапамог яму ў час, калі ён апынуўся на раздарожжы. «Хачу, — піша ён у сваім пісьме, — выказаць удзячнасць калектыву фабрыкі за ўсё добрае і светлае, што ён унёс у маё жыццё».

Лінія на выяўленне лепшых якасцяў у «цяжкім» падлетку іншы раз знаходзіць праціўнікаў, асабліва з ліку тых, хто лічыць самым лепшым выхаваўчым сродкам — строгія, крутыя меры. Так атрымалася, напрыклад, калі Лёня Шэкаў, адзін з «цяжкіх», свавольнічаючы, парваў плашч адной дзяўчынкі.

На пасяджэнні савета падлеткаў разгарэліся спрэчкі. Лёню прыпомнілі ўсе яго ранейшыя грахі. Але Людміла Максімаўна, слухаючы абвінавачанні, чамусьці ўсміхалася. Не, яна не апраўдвала хлопца. Яе ўразіла ў яго характары нешта такое, чаго раней яна не заўважала. Па-першае, сумленнасць. Хлопец не стаў апраўдвацца, адмаўляць сваёй віны. Па-другое, балюча перажываў свой учынак. Для Лёні гэта быў урок. Потым, калі ён пайшоў у армію, на фабрыку сталі прыходзіць пісьмы-падзякі за добрага салдата. А ў адным з пісьмаў і ён сам піша пра сваю заклапочанасць паводзінамі малодшага брата і просіць парады, як на яго ўздзейнічаць.

Мае рацыю Людміла Максімаўна: крутымі мерамі не перавыхаваеш «цяжкага» падлетка. Галоўнае — умець абудзіць у ім добрае, даць яму ўсвядоміць яго адказнасць перад калектывам.

І тут вельмі многае могуць зрабіць старэйшыя. Матрона Ігнатаўна Дзенісенка стала добраахвотным шэфам над навічком Мішам Пажарыцкім у цэху № 7. Яна пакажа, як рабіць тую альбо іншую аперацыю, і пацікавіцца яго захапленнямі, і раскажа пра сябе. А ёй ёсць што расказаць. Яна звыш двух дзесяткаў гадоў на фабрыцы, ударнік камуністычнай працы.

Аднойчы Міша не выйшаў на работу. Таварышам, якія выпадкова сустрэлі яго на вуліцы, сказаў, што захварэў і ідзе ў паліклініку. Не прыйшоў ён на работу і на другі дзень, на трэці. Матрона Ігнатаўна пайшла праведаць хворага. А яго дома няма. Бацькі здзівіліся: ніякі ён не хворы, ім кажа, што кожны дзень ходзіць на работу.

Як потым высветлілася, пад уплывам некаторых «сяброў» Міша адзін дзень прагуляў, а потым сорамна было яму прыйсці і прызнацца ў сваёй віне. Так і пайшлі прагул за прагулам.

Старая работніца не толькі вярнула яго на фабрыку, але і выклікала на роздум аб правах і абавязках, дапамагла ўсвядоміць яму сутнасць сваёй віны.

Многія хістанні падлеткаў часам бываюць з-за незадаволенасці работай. Зразумела, любоў да яе трэба выхоўваць. Але ніякія выхаваўчыя меры не прынясуць карысці, калі падлетак не будзе бачыць перспектыўнасці сваёй работы, магчымасці расці і ўдасканальвацца як спецыяліст.

У цэху № 4 абутковай фабрыкі, дзе раней працаваў Жэня Маеўскі, яго лічылі «цяжкім», бо ён вызначаўся ўпартасцю, непаслухмянасцю, і начальнік цэха хацеў было з ім развітацца. А для Жэні проста не па душы была справа, якою ён займаўся: з дня ў дзень ён выконваў адну і тую ж аднастайную аперацыю — чысціў цвікі. Калі ж яго перавялі ў рантавы цэх, паставілі на канвеер — Жэню захапіла новая работа. Нядаўна хлопцу прысвоілі шосты разрад. Ён член народнай дружыны фабрыкі, энтузіяст мастацкай самадзейнасці.

Жэню Маеўскага збіраліся звольніць, а Сяргей Багамолаў сам наважыў пакінуць завод. Ён тады таксама значыўся ў спісе «цяжкіх», нават пабываў у дзіцячай калоніі. Паставілі Сяргея працаваць падсобнікам. Праходзіў месяц, другі, трэці, і ніякіх перамен. Не бачачы перспектывы, ён рашае звольніцца. Пайшоў падпісваць абхадны ліст у камітэт камсамола. І толькі тады ў камітэце камсамола ўстрывожыліся. Відаць, і на сакратара камітэта камсамола зрабіла ўплыў мінулае хлопца. Але добра, што хаця са спазненнем, але прадузятасць была пераадолена. Выявілася, што Сяргей марыць аб прафесіі слесара. Па просьбе камітэта камсамола яго ўладкавалі вучнем у рамонтна-механічны цэх.

Сяргей Багамолаў стаў добрым рабочым. Уступіў у камсамол. Камсамольцы цэха выбралі яго сакратаром цэхавай камсамольскай арганізацыі. Паступіў у станка-інструментальны тэхнікум, пасля яго заканчэння быў вылучаны на пасаду тэхнолага.

Вывучэнне запатрабаванняў, схільнасцяў і інтарэсаў — важная асаблівасць у рабоце з падлеткамі. Але выбраць работу па гусце, навучыць спецыяльнасці — яшчэ не ўсё. Важна стварыць належныя ўмовы для паспяховай працы падлеткаў.

У практыцы работы савета падлеткаў завода гадзіннікавых дэталяў — яго ўзначальвае паліроўшчыца, член камітэта камсамола Галіна Тараборкіна — сістэматычнае абмяркоўванне пытанняў працы, побыту, вытворчага росту, тэхнічнай вучобы непаўналетніх.

Тое ж самае можна сказаць і пра савет падлеткаў на фабрыцы «Чырвоны Кастрычнік», які ўзначальвае намеснік сакратара камітэта камсамола Эма Аксёнава. Тут асаблівая ўвага ўдзяляецца прафесійнай вучобе падлеткаў, ёсць тэхнічны кабінет, створаны курсы па перадачы перадавых прыёмаў працы.

Саветы падлеткаў працуюць у цесным кантакце з камітэтамі прафсаюзаў. І гэта дае свой плён. Скажам, на швейнай фабрыцы «Сцяг індустрыялізацыі» ёсць яшчэ і камісія пры фабкоме па рабоце з падлеткамі, якая займаецца працоўным уладкаваннем, вытворчай і агульнаадукацыйнай вучобай падлеткаў. Савет жа абмежаваў сваю ролю пытаннямі выхавання.

Не бярэмся меркаваць, наколькі апраўдана такое размеркаванне абавязкаў. Але больш дыферэнцыраваны, паглыблены падыход да праблем работы і жыцця падлеткаў патрэбен.

Ідзе падлетак у жыццё. З марай сваёй, з імкненнямі і планамі. І важна, вельмі важна, каб першыя яго крокі былі ўпэўненыя і цвёрдыя.

**Уладзімір ХАЗАНСКІ.**

г. Віцебск.

# БЕГ З БАР'ЕРАМІ



1975 год прынясе нам доўгачаканы масавы аўтамабіль, «вялікі аўтамабіль», як яго яшчэ называюць. Бо ў завяршаючым годзе бягучай пяцігодкі на поўную магутнасць запрацуе Волжскі аўтазавод, і 55 тысяч «Жыгулёў» штомесячна пачнуць накіроўвацца з заводскіх канвеераў на дарогі і вуліцы нашай краіны.

За легкавушкамі ў агульны транспартны паток уваль'юцца сотні тысяч цяжкіх грузавікоў з маркай Камскага завода.

Ветэраны аўтаіндустрыі: ЗІЛ, ГАЗ, МАЗ, КРАЗ—тым часам таксама павялічаць выпуск машын.

І тады кожны з нас на ўсю моц адчуе, што такое аўтамабілізацыя.

Многім людзям, якія сёння нават і не ўяўляюць сабе, як кіраваць машынай, давядзецца сесці за баранку. Скажам, паштальёнам, экспедытарам, кур'ерам, рамонтнікам, урачам, журналістам,—словам, усім, чыя работа звязана з частымі раз'ездамі. Яны навучацца вадзіць аўтамабіль, бо шафёраў-прафесіяналаў і цяпер не хапае.

Пешаходам стане цяжэй. Пешаход вымушаны будзе саступаць месца на вуліцы аўтамабілю. Ён ужо саступае: у Заходняй Еўропе, на Амерыканскім кантыненце, у Японіі—вельмі інтэнсіўна, у нас—яшчэ марудна, але няўхільна. «Вялікі аўтамабіль» прымушае чалавека перасякаць вуліцы пад зямлёй, тратуарныя бар'еры агароджваюць пешахода ад праезда, і для яго, як і для аўтамабіля, светафор становіцца атрыбутам бяспекі.

Так, яшчэ толькі становіцца.

Мінская дзяржаўная аўтаінспекцыя рэгулярна выступае з лекцыямі па радыё і тэлебачанні. У газеце «Вячэрні Мінск» і ў заводскіх шматтыражках друкуюцца артыкулы, на ўсіх буйных прадпрыемствах працуюць агіткалектывы, у 96 мінскіх школах арганізаваны спецыяльныя заняткі для дзяцей, пры мінскім гарвыканкоме дзейнічае камісія па барацьбе з дзіцячым транспартным траўматызмам, выпускаюцца плакаты, лістоўкі, арганізуюцца рэйды—усё з адной мэтай: навучыць мінчан правільна хадзіць па вуліцах.

А з кожных ста выпадкаў наездаў на пешаходаў 62 адбываюцца па віне саміх пешаходаў. Ратуючы чалавека, шафёры часта ахвяруюць машынай і сваім жыццём. Адзін няцвёрды крок рэстараннага гулякі—і маршрутны аўтобус пачынае збіваць вулічныя ліхтары. Дзіця даганяе мячык на дарозе—і бліскучы «Масквіч» ляжыць у кювеце дагары коламі, не «Масквіч» ужо, а гармонік...

Падземныя пераходы рэзка зніжаюць колькасць вулічных катастроф. У 5—6 разоў знізілася аварыйнасць на Маскоўскай вуліцы. Лягчэй стала вадзіцелям і пешаходам на плошчы Якуба Коласа, ля парку Чалюскінцаў, на Партызанскім праспекце. Здавалася б, надземныя пераходы трэба будаваць усюды, дзе перасякаюцца вялікія патокі транспарту і людзей,—тады ўсім будзе лягчэй. Але вялікая выгода патрабуе і немалых грошай. Падземны пераход на плошчы Якуба Коласа абышоўся Мінску ў 1,5 мільёна рублёў. Будаўнічы трэст № 15 працаваў там 18 месяцаў! Асноўныя сродкі і час паглынуў не сам пераход—пры сучаснай будаўнічай тэхніцы гэта нескладаная задача,—а перакладка камунікацый: вадаправода, каналізацыі, газу, электрычных і тэлефонных правадоў.

Да гэтага часу ў Беларусі не было спецыялізаваных будаўнічых арганізацый для такіх работ. На збудаванне пераходу ля парку Чалюскінцаў запрашаліся рыжскія спецыялісты. Хуткасць, з якой рыжане зрабілі гэты пераход, пераканала гарадскія ўлады ў неабходнасці такой арганізацыі для нашай сталіцы. І цяпер пры Міндарбудзе ствараецца 3-е спецыялізаванае ўпраўленне. З яго дапамогай да 1975 года мінчане атрымаюць пяць пераходаў на скрыжаваннях вуліц Казлова і Алега Кашавога, Нямігі і Рэспубліканскай, Валгаградскай і Ленінскага праспекта, на Партызанскім праспекце каля мотавелазавода і ля аўтазаводскага ўнівермага.

Усё часцей надрыўна вішчаць тармазы на перакрыжаваннях цэнтральнай часткі Мінска: ля ГУМа, ля кафэ «Вясна», каля галоўнага паштамта. Перасячэнне вуліцы Казлова з Ленінскім праспектам, бадай, самае інтэнсіўнае—тут сутыкаюцца галоўныя транспартныя артэрыі горада. Вось дзе ў першую чаргу трэба капаць зямлю. А капаць нельга: пад праспектам пойдзе лінія метрапалітэна, а вышукальныя работы, звязаныя з праектаваннем метро, толькі пачаліся.

Пешаходам нязручна. Транспарту—яшчэ горш. З кожным годам хуткасць руху на праспекце зніжаецца, асабліва на адрэзку ад вуліцы Валадарскага да Цэнтральнай плошчы. У гадзіны пік сітуацыя робіцца крытычнай. Праўда, пробкі яшчэ не ўзнікаюць. Але ж і «вялікі аўтамабіль» яшчэ толькі нараджаецца. Значыць, гады праз тры...

У такіх выпадках рэгуліроўшчыкі вулічнага руху прымяняюць «зялёную хвалю». Гэта такая сістэма светафораў, якая звязвае адразу некалькі суседніх перакрыжаванняў. Дачакаўшыся зялёнага сігнала на Валадарскага, шафёр набраў бы хуткасць 40 км у гадзіну. На вуліцах Урыцкага, Камсамольскай, Леніна, Энгельса яго ўсюды чакаў бы зялёны сігнал. Яго правяла б аўтаматыка. «Зялёнай хваляй» даўно карыстаюцца на вуліцах Масквы і іншых гарадоў.

Гадоў дзесяць прайшло, як Мінская ДАІ імкнецца прымяніць «зялёную хвалю». І ўрэшце вымушана адмовіцца ад яе. Паміж нашымі перакрыжаваннямі занадта малыя праезды: 150—200 метраў. А трэба хаця б 300. Праекціроўшчыкі пасляваеннага Мінска не ўлічылі, што будзе з транспартам праз дваццаць гадоў.

Перад праекціроўшчыкамі цяперашнімі стаіць нялёгкая задача. Ім трэба разгрузіць Ленінскі праспект, на які выходзіць 35 тралейбусных і аўтобусных маршрутаў, ліквідаваць такую «вузіну», як перасячэнне вуліцы Казлова з праспектам, дапамагчы плошчы Перамогі, якая прапускае ў паўтара раза больш транспарту, чым гэта неабходна для бяспекі.

Выйсце ў гэтым становішчы адно: прабіць праз жывы горад дублёры праспекта. Дублёраў будзе два. Заходні пройдзе з Брэсцкай шашы па вуліцах Маскоўскай, Мяснікова, Нямізе, Горкага на Зялёны Луг і Маскоўскую шашу. Усходні пачнецца з вакзала і праз Ульянаўскую, Першамайскую і Чапаева выйдзе таксама ў бок Маскоўскай шашы.

Такім чынам, транспартнае напружанне на Ленінскім праспекце аслабне, павялічыцца хуткасць руху, зменшыцца аварыйнасць.

Хуткасць мае асноўнае значэнне для аўтатранспарту. У Мінску цяпер існуюць толькі дзве магістралі, дзе дазволена 70 км у гадзіну,—вуліца Якуба Коласа паміж Валгаградскай і Зялёным Лугам і Паркавая. Праекціроўшчыкі мяркуюць пачаць будаўніцтва другога, унутранага кальца, якое звяжа паміж сабой раскіданыя мінскія мікрараёны на Ракаўскай шашы, на Арлоўскай, у Зялёным Лузе, Серабранку і Харкаўскую. Мінскбыццам бы падпяражацца хуткаснай магістраллю, па ёй пойдзе грамадскі транспарт і грузавікі ў абход цэнтра. Каб прабіць дзве новыя трасы—дублёры праспекта, давядзецца знесці яшчэ многа жылых дамоў, а можа і прадпрыемствы.

Што пасляваенныя дойліды не ўлічылі, якім стане Мінск праз 20 год,—факт відавочны. Праўда, можна ім даравацъ іх непрадбачлівасць: тады не было ні часу, ні камп'ютараў, ні навуковых цэнтраў па будаўніцтве. Былі руіны, папялішчы, аплаўленая і акрываўленая цэгла.

Цяпер ёсць дзесяткі навукова-даследчых інстытутаў, створаны вылічальныя цэнтры, ёсць магчымасць грунтоўна і ўсебакова абмеркаваць кожную праблему.

Горад—арганізм складаны ва ўсіх адносінах. У эканамічных—асабліва складаны. Тут мноства прадпрыемстваў і ведамстваў, і іх эканамічныя інтарэсы часта не супадаюць з інтарэсамі ўсяго горада. 60-кіламетровая кальцавая дарога вакол Мінска звязвае ўсе шасейныя дарогі: Слуцкую, Брэсцкую, Заслаўскую, Лагойскую, Маскоўскую, Магілёўскую. Вялікае кальцо для таго, каб слуцкі аўтамабіль мог праехаць у Барысаў, мінаючы Мінск. Дзяржаўная аўтаінспекцыя раіць таксама і мінскім вадзіцелям карыстацца кальцавой, калі трэба праехаць, напрыклад, з аўтазавода на праспект Пушкіна. Вадзіцелі ведаюць—такі шлях хутчэйшы. Але ўпарта едуць праз цэнтр. Маўляў, марудней, затое—карацей, кіламетраж меншы, большы даход іх аўтакалоне. А горад? Гораду ад гэтага цяжэй.

Работнікі інстытута Белдзіпрадор падлічылі, што ад бездарожжа кожны раён рэспублікі ў сярэднім губляе штогод адзін мільён рублёў.

Па насычанасці ўсіх дарог БССР займае пятае месца сярод саюзных рэспублік, а дарог з цвёрдым пакрыццём—дзевятае.

Цвёрдае пакрыццё—гэта брук, гравій, пясок з гравіем. Брукаваць стала цяжка: каменных кар'ераў у нас няма, фонды на прывазны камень зусім нязначныя. Каб рамантаваць стары брук, збіраюць каменне на палях. І брукаванне, і збор камення дрэнна механізуюцца. На бруку і аўтамабілю нездарова. Будаўніцтва гравеек лягчэй механізаваць. Затое пад коламі грузавікоў гравейкі хутка ператвараюцца ў пыл і пясок.



Мінскі завод «Ударнік» вырабляе магутныя машыны для дарожнага будаўніцтва. На здымку: снегаачышчальнік ДЭ-214С.





Праз лясы, палеткі і балоты праляглі беларускія дарогі.

Сучасная аўтастрада пакрыта асфальтам ці бетонам. І таму ў гэтай пяцігодцы тры тысячы кіламетраў дарог пакрыюць асфальта-бетонам, а чатыры тысячы кіламетраў мясцовых дарог атрымаюць цвёрдае пакрыццё.

На Беларусі многа рэчак, ручаін, балотаў, азёр. На кожным кіламетры беларускай дарогі 3—4 штучныя збудаванні—масток ці труба, а насып робяць на 30—40 сантыметраў вышэй, чым на поўдні СССР.

«Вялікі аўтамабіль» настойліва патрабуе рэканструкцыі старых асфальтавых дарог. А гэта двухпутная шаша з плаўнымі віражамі, мяккімі пад'ёмамі і спускамі, каб бачнасць была не менш як 380 метраў, а хуткасць—150 кіламетраў у гадзіну. Яму падавай шырокія масты і скарасныя шлюзы—расшырэнні з правай часткі шашы на стаянках, каб, разагнаўшыся ў шлюзе, ён на поўным газе мог ускочыць у паток машын.

Такія дарогі ў нас ёсць. Адна ідзе з Мінска на Брэст, другая пачынае перабудоўвацца са старой «Магілёўкі».

Стрымліваюць шырокае будаўніцтва першакласных аўтастрад не кліматычныя ўмовы, не адсутнасць адмысловых праектаў. У Белдзіпрадоры створана генеральная схема развіцця беларускіх дарог да 1980 года. Нашы праекціроўшчыкі апярэдзілі сваіх калег з іншых рэспублік. Аднак матэрыяльна-тэхнічная база не адпавядае планам. Абсталяванне мала, і яно зношана. Матэрыялаў не хапае.

Нашы дарожнікі пачалі будаваць гравійна- сартавальныя заводы. Пад Віцебскам стане завод актывізаванага парашку, які вырабляецца з мясцовага даламіту і патрэбны для вытворчасці асфальта-бетону. У Фаніпалі мадэрнізуецца завод жалезабетонных маставых канструкцый. І што вельмі радуе—комплексная механізацыя: яна амаль ліквідуе ручную працу.

У капіталістычных краінах аўтамабіль увесь час—сродак нажывы, прадмет раскошы. Цяпер ён стаў бічом цывілізацыі, анархічным элементам, на яго ўправы няма. Ён атручвае атмасферу, пад коламі машын гіне больш людзей, чым на якой вайне.

«Вялікі аўтамабіль», які ідзе да нас, мае зусім іначшае значэнне. Ён скароціць вялізныя адлегласці, дапа-

**Маладыя спецыялісты інстытута Белдзіпрадор Міхась Сыс і Людміла Чарнышова.**



можа прамысловасці і сельскай гаспадарцы. Аўтамабіль у нас—сродак перамяшчэння.

Ён ужо пачаў свой бег. У 1975 годзе Беларусь атрымае чатыры працэнты гадавога выпуску «Жыгулёў». Стольні машын было ў Мінску гадоў дзесяць назад.

А шлях яго чакае нягладкі. Шлях з бар'ерамі. Яшчэ нізкая дысцыпліна вадзіцеляў, асабліва маладых. Статыстыка паказвае, што самыя небяспечныя шафёры тыя, якім 18—25 гадоў. Самыя небяспечныя пешаходы—школьнікі. Значыць, камсамолу абедзвюма рукамі трэба ламаць бар'ер псіхалагічнай непадрыхтаванасці моладзі да аўтамабілізацыі.

Бар'еры матэрыяльныя таксама трывожаць. Дарогі, вуліцы, гаражы, рамонтныя базы—праекты, праекты... Суцяшае толькі адно: калі ён, аўтамабіль, пойдзе, калі стане фактам, з ім давядзецца быць ветлівым і гасцінным . Ён пробак не пацерпіць. Яму—зялёную хвалю! А інакш—нашто ён?

**Валянцін ЖДАНОВІЧ.**

Фота аўтара.

■■■

# ЭКЗАМЕН ПА ГІСТОРЫІ

**Для вас, дзесяцікласнікі**

Гісторыя СССР — гэта не толькі мінулае нашага народа, гэта — важнейшая частка сусветнай гісторыі, бо менавіта наша краіна ўпершыню пад кіраўніцтвам Камуністычнай партыі разарвала ланцугі рабства, пабудавала развітае сацыялістычнае грамадства і ўпэўнена будуе камунізм.

Веданне гісторыі неабходна для атрымання вышэйшай адукацыі па шэрагу гуманітарных навук. Аналіз уступных экзаменаў паказвае, што асноўныя этапы развіцця нашай краіны абітурыентамі засвойваюцца добра, хоць па некаторых тэмах ёсць хібы і тыповыя памылкі.

Для прыкладу возьмем уступныя экзамены 1971 года ў нашым інстытуце замежных моваў. Усяго здавала гісторыю СССР 1333 чалавекі. З іх адзнаку «5» атрымала 667 чалавек, ацэнку «4» — 557. Усяго толькі двое атрымалі нездавальняючую адзнаку. Адзнакі, атрыманыя на ўступных экзаменах, у большасці выпадкаў адпавядаюць тым, якія выстаўлены ў сярэдняй школе.

На ўступных экзаменах па курсе гісторыі СССР абітурыенты давалі поўныя і змястоўныя адказы на большасць пытанняў. Мяркуючы па гэтых адказах, можна сказаць, што ў школах горада Мінска і рэспублікі выкладанне гісторыі СССР вядзецца кваліфікавана, з выкарыстаннем многіх дадатковых матэрыялаў. Асабліва добрыя веды па гісторыі СССР і гісторыі БССР паказалі абітурыенты Брэсцкай вобласці, выпускнікі школ Бабруйска, магілёўскай школы № 5.

Разам з тым на ўступных экзаменах высветлілася, што некаторыя важныя тэмы курса засвоены выпускнікамі школ не глыбока.

Не заўсёды правільна абітурыенты разумеюць, што такое класы, як яны ўзніклі. Ф. Энгельс даказаў, што падзел грамадства на класы быў гістарычна непазбежным вынікам развіцця грамадства. Першабытны чалавек быў слабы, не мог існаваць, не аб'ядноўваючыся з іншымі людзьмі ў калектыў. Усе віды работ выконваліся супольна. Адасабленне жывёлагадоўлі ў самастойную галіну гаспадаркі, прымяненне металічных прыладаў працы дазволіла атрымліваць прыбавачны прадукт, гэта азначае, што работнік вырабляў больш, чым сам спажываў. З'явілася магчымасць прысвоіць працу іншых. Так пачалі зараджацца элементы класавага грамадства, адносіны панавання і падпарадкавання, якія, як паказаў Ф. Энгельс, узніклі дваякім шляхам: 1) шляхам ператварэння старэйшын, жрацоў і іншых службовых асоб, абшчынных слуг грамадства ў паноў над грамадствам; 2) шляхам ператварэння ў рабоў ваеннапалонных або даўжнікоў.

Навуковае вызначэнне класа дадзена У. І. Леніным у рабоце «Вялікі пачын»: «Класамі называюцца вялікія групы людзей, якія адрозніваюцца па іх месцы ў гістарычна пэўнай сістэме грамадскай вытворчасці, па іх адносінах (большай часткай замацаваных і аформленых у законах) да сродкаў вытворчасці, па іх ролі ў грамадскай арганізацыі працы, а, значыцца, па спосабах атрымання і размерах той долі грамадскага багацця, якую яны маюць. Класы, гэта такія групы людзей, з якіх адна можа сабе прысвойваць працу другой, дзякуючы розніцы іх месца ў пэўным укладзе грамадскай гаспадаркі». У. І. Ленін указвае тут чатыры асноўныя прызнакі, якія характарызуюць той ці іншы грамадскі клас і адрозніваюць яго ад іншых класаў.

1. У грамадстве не было і няма класаў наогул, у ім дзейнічалі і дзейнічаюць канкрэтныя класы. Узнікшы на пэўнай ступені развіцця грамадства, яны таксама непазбежна знікнуць у пэўных гістарычных умовах.

2. Адносіны да сродкаў вытворчасці — галоўны прызнак, па якім адрозніваюцца грамадскія класы адзін ад другога. Розныя адносіны розных класаў да сродкаў вытворчасці абумоўлены прыватнай уласнасцю на сродкі вытворчасці. Таму ў грамадстве той клас камандуе, падпарадкоўвае сабе іншыя класы і эксплуатуе іх, які валодае сродкамі вытворчасці. Адсюль непазбежны вывад, што знішчэнне класаў можа быць дасягнута ўстанаўленнем грамадскай уласнасці на сродкі вытворчасці.

Прынцыповае значэнне мае заўвага, зробленая У. І. Леніным у дужках. Ён гаворыць аб тым, што кожны эксплуататарскі клас, захапіўшы сродкі вытворчасці ў свае рукі, імкнецца гэты захоп замацаваць у законах, канстытуцыі і да т. п., імкнецца надаць грабяжу выгляд «законнасці», «апраўдаць», і «асвяціць» гэты захоп, а разам з тым паставіць сваю ўласнасць пад ахову дзяржавы і права. Паколькі дзяржава і права абараняюць гэтую ўласнасць на сродкі вытворчасці, то яе ліквідацыя ляжыць праз барацьбу з гэтай дзяржавай, праз барацьбу палітычную.

3. Адрозненне паміж класамі па іх ролі ў грамадскай арганізацыі працы вызначаецца адносінамі гэтых класаў да сродкаў вытворчасці. Капіталісты з'яўляюцца кіраўнікамі прамысловасці. Пралетарыят — клас вялікіх творчых магчымасцяў,— але ён не мае сродкаў вытворчасці і вымушан жыць толькі продажам сваёй рабочай сілы.

4. Розныя класы атрымліваюць даход рознымі спосабамі і ў розных размерах. Але эксплуататарскія класы па сутнасці маюць адну крыніцу даходу — эксплуатацыя працоўных. Гэты прызнак таксама з'яўляецца вытворнай ад галоўнай — «адносіны да сродкаў вытворчасці».

Такім чынам, ленінскае паняцце класаў ускрывае прычыну расколу грамадства на класы, выяўляе сутнасць класавага антаганізму, падкрэслівае непрымірымасць класавых інтарэсаў і тым самым даказвае заканамернасць і непазбежнасць класавай барацьбы ў антаганістычным грамадстве і, нарэшце, указвае шлях да знішчэння класаў.

Як вядома, рабаўласніцкі лад на тэрыторыі нашай краіны атрымаў сваё развіццё ў Закаўказзі, Сярэдняй Азіі і Паўночным Прычарнамор'і. Ва ўсходніх славян паяўленне класавага грамадства таксама было звязана з паяўленнем рабоў, хоць рабства тут насіла спецыфічны характар. І ўсё ж у далейшым славяне мінулі рабаўласніцкую сістэму. Абітурыенты адчуваюць цяжкасці ў вызначэнні прычын таго, чаму разлажэнне родаплемяннога ладу ў славян стварыла непасрэдныя перадумовы для пераходу да феадалізму. Тут трэба ўлічваць наступнае: аж да пачатку 1 тысячагоддзя н. э. ў значнай часткі ўсходнеславянскіх плямён панавала падсечнае аблогавае земляробства. Яно было працаёмкім працэсам, патрабавала сіл вялікіх калектываў людзей. Таму разлажэнне першабытна-абшчыннага ладу праходзіла вельмі замаруджана.

Пад гэты час, калі ў шэрагу народаў рабаўласніцкі лад перажываў крызіс, старажытныя славяне былі перадавым земляробчым насельніцтвам, умелымі будаўнікамі. Узровень развіцця прадукцыйных сіл ва ўсходніх славян аказаўся дастаткова высокім і даваў магчымасць непасрэднага пераходу да феадалізму. Параўнаўча высокі ўзровень рамёстваў быў несумяшчальны з незацікаўленасцю рабскай працы. Да таго ж трэба заўважыць, што ўсходнія славяне самі адыгралі пэўную ролю ў крушэнні рабаўласніцкіх адносін у Візантыі. Усё гэта і вызначыла своеасаблівасць гістарычнага развіцця ўсходніх славян.

Аналізуючы ўзнікненне і развіццё феадалізму на тэрыторыі нашай краіны, трэба кіравацца ленінскай характарыстыкай асноўных рыс феадальнай (паншчыннай) гаспадаркі. Па-першае, гэта панаванне натуральнай гаспадаркі, па-другое, надзяленне непасрэднага вытворцы сродкамі вытворчасці і зямлёю. Феадалы захоплівалі і абшчынныя землі і перадавалі іх у карыстанне сялянам, праца якіх была больш прадукцыйнай, чым праца раба, бо селянін, які меў сваю рабочую жывёлу і інвентар, вёў гаспадарку самастойна і меў пэўную зацікаўленасць у выніках сваёй працы. Далей У. І. Ленін адзначае такія асаблівасці, як асабістая залежнасць селяніна ад памешчыка і нізкі, руцінны стан тэхнікі. Селянін знаходзіўся ў прыгоннай залежнасці ад феадала, але ўжо не быў яго поўнай уласнасцю, як, скажам, раней раб.

Вельмі важным з'яўляецца пытанне аб прычынах аб'яднання рускіх зямель у адзінай цэнтралізаванай дзяржаве. Ліквідацыя феадальнай раздробленасці з'явілася заканамерным вынікам росту грамадскага падзелу працы, развіцця таварна-грашовых адносін, устанаўленнем эканамічных сувязяў паміж асобнымі абласцямі краіны. Гэты працэс быў цесна звязаны з вызваленнем ад татарскага прыгнёту. Гэтыя фактары поўнасцю склаліся ў другой палавіне XIV — першай палавіне XV стагоддзя.

Аб'яднанне Русі ўзначаліла Масква, якая ў сярэдзіне XIV стагоддзя ператварылася ў буйнейшы эканамічны цэнтр. Тут хутка развіваўся гандаль і рамёствы, сюды сыходзіліся важныя гандлёвыя шляхі. Маскве належыць таксама ініцыятыва ў барацьбе са знешнімі ворагамі рускага народа і перш за ўсё мангола-татарскім нашэсцем. Масква стала цэнтрам рускай (вялікарускай) народнасці, якая пачала складвацца ў гэты час.

Да XIV—XV стагоддзяў адносіцца таксама фарміраванне беларускай народнасці. Гэты працэс праходзіў у складанай барацьбе з нацыянальным і рэлігійным прыгнечаннем у Літоўскім княстве. На аснове мясцовых гаворак склалася беларуская мова, развілася беларуская культура са сваімі жывапісам, архітэктурай, фальклорам. Паміж рускімі, украінцамі і беларусамі было многа агульнага, бо яны ўзніклі ад аднаго продка — старажытнарускай народнасці.

Паступаючыя павінны паказаць гістарычнае значэнне сялянскіх войнаў. Феадальная эксплуатацыя, якая ўсё больш узмацнялася, абвастрала сацыяльныя супярэчнасці. Пачынаўся стыхійны рух мас. Вышэйшай формай класавай барацьбы сялянства ў перыяд феадалізму з'явіліся сялянскія войны пад кіраўніцтвам І. Балотнікава, С. Разіна, Е. Пугачова. Гэта былі буйнейшыя падзеі ў гісторыі Расіі, якія мелі значэнне для ходу грамадскага развіцця. Паўстаўшыя сяляне накіроўвалі свае ўдары супраць асновы феадалізму — уласнасці памешчыкаў на зямлю. Рух ахопліваў вялікія тэрыторыі, у ім удзельнічалі прадстаўнікі розных нацыянальнасцяў Расіі, якія ўмацоўвалі сваю дружбу ў сумеснай класавай барацьбе. Сяляне хацелі знішчыць прыгонніцтва паўсюдна, але новая ўлада ўяўлялася ім, з прычыны адсталасці сялянскай ідэалогіі, у выглядзе «добрага» цара. У тагачаснай Расіі не было грамадскага класа, здольнага павесці за сабой сялянства і надаць руху арганізаваны і свядомы характар. У ходзе сялянскага руху з асяроддзя народных мас вылучыліся выдатныя палкаводцы.





Разглядаючы гісторыю вызваленчага руху, трэба ведаць ленінскую перыядызацыю. У аснове гэтай перыядызацыі ляжыць даследаванне класавай прыналежнасці ўдзельнікаў барацьбы. У. І. Ленін вылучаў тры асноўныя этапы барацьбы ў расійскім вызваленчым руху: дваранскі (прыкладна 1825—1861 гг.), разначынны, або буржуазна-дэмакратычны (прыкладна 1861—1895 гг.), і пралетарскі (з 1895 г.).

У эпоху прыгоннага ладу амаль тры чвэрці ўсіх удзельнікаў вызваленчай барацьбы складалі дваране. Аднак дваранскія рэвалюцыянеры змагаліся не для свайго класа, а выступалі супраць асноў прыгонніцкай дзяржавы. Ажыццяўленне мэт іх барацьбы павяло б краіну па капіталістычным шляху.

Разначынцы з'яўляліся рэвалюцыйнымі дэмакратамі, выразнікамі інтарэсаў сялянства. Самым выдатным дзеячам гэтага перыяду, ідэолагам і правадыром разначыннай інтэлігенцыі быў М. Г. Чарнышэўскі. Ён паслядоўна праводзіў ідэю сялянскай рэвалюцыі, горача абараняў інтарэсы шырокіх мас сялянства. Рэвалюцыйныя перакананні М. Г. Чарнышэўскага склаліся пад уплывам умоў прыгонніцкай рэчаіснасці. Ён ясна бачыў, што ў Расіі набліжаецца сялянская рэвалюцыя, і рыхтаваўся прыняць у ёй непасрэдны ўдзел. Свае рэвалюцыйныя ідэі ён праводзіў праз друк, умела мінаючы рагаткі цэнзуры. У. І. Ленін не раз падкрэсліваў, што ад твораў М. Г. Чарнышэўскага павявае духам класавай барацьбы. М. Г. Чарнышэўскі быў сацыялістам-утапістам, ён меркаваў, што да сацыялізму можна перайсці праз сялянскую абшчыну, і не змог зразумець, што толькі ва ўмовах капіталізму ўзнікаюць неабходныя перадумовы для сацыялізму.

Да пачатку XX стагоддзя ў Расіі было не менш 3-х мільёнаў чалавек, занятых у прамысловасці, і каля 7 мільёнаў, якія працавалі ў сельскай гаспадарцы, на транспарце і ў будаўніцтве. Рабочы рух працягваў развівацца стыхійна. Унясенне сацыялістычнай свядомасці ў рабочы рух з'явілася галоўным у дзейнасці расійскіх марксістаў. Выдатную ролю адыграў у гэтым У. І. Ленін, які восенню 1895 года аб'яднаў каля 20 пецярбургскіх марксісцкіх гурткоў у «Саюз барацьбы за вызваленне рабочага класа» — зародак рэвалюцыйнай марксісцкай партыі пралетарыяту. «Саюз барацьбы...» падрыхтаваў і правёў шэраг забастовак, разгарнуў шырокую агітацыйную дзейнасць. За паўтара года было выпушчана звыш 70 лістовак, якія У. І. Ленін назваў першым рабочым друкам у Расіі.

Дзейнасць пецярбургскага і мясцовых «саюзаў барацьбы», забастовачны рух у 90-х гадах азначалі наступленне новага этапу ў гісторыі Расіі — перыяду падрыхтоўкі народнай рэвалюцыі. Расійскі пралетарыят, які выступіў пад кіраўніцтвам сацыял-дэмакратычнай арганізацыі, ператварыўся ў сур'ёзную палітычную сілу. Цяпер надзённай задачай пралетарскага руху стала пытанне аб стварэнні рэвалюцыйнай марксісцкай партыі.

Не заўсёды ўдала ў адказах на экзамене раскрываецца сусветна-гістарычнае значэнне першай рускай рэвалюцыі. У гэтым пытанні трэба абавязкова падкрэсліць наступныя моманты. Па-першае, рэвалюцыя паказала, што Расія стала цэнтрам сусветнага рэвалюцыйнага руху. Па-другое, пад уплывам рускай рэвалюцыі актывізаваўся рабочы рух у Францыі, у Германіі, Італіі, ЗША і іншых краінах. Гэта быў штуршок для ўздыму нацыянальна-вызваленчага руху ў радзе краін Еўропы і Азіі.

Буржуазна-дэмакратычная рэвалюцыя 1905—1907 гадоў была сапраўды народнай, актыўны ўдзел у ёй рабочых і сялян вызначаў яе характар, даў багацце форм барацьбы. У ходзе рэвалюцыі пацвердзілася сапраўднасць ленінскага вучэння аб гегемоніі пралетарыяту, ідэі саюзу рабочага класа і сялянства. Рэвалюцыя змацавала брацкі саюз рускага і іншых народаў Расіі. Рэвалюцыйная творчасць мас стварыла новую форму палітычнай улады — Саветы. Вопыт рэвалюцыі даказаў, што партыя бальшавікоў з'яўляецца адзіна рэвалюцыйнай і адданай справе народа. Набыты палітычны і арганізацыйны вопыт аблегчыў далейшую вызваленчую барацьбу. Паводле слоў У. І. Леніна, першая руская рэвалюцыя была «генеральнай рэпетыцыяй» Вялікага Кастрычніка.

Экзамены мінулага года паказалі, што недастаткова глыбока засвоен перыяд пераходу ад лютаўскай буржуазна-дэмакратычнай рэвалюцыі да сацыялістычнай. Пасля лютаўскай рэвалюцыі ў краіне стварылася своеасаблівае становішча: існавалі дзве ўлады — буржуазная ў асобе Часовага ўрада і дыктатура рабочых і сялян у асобе Петраградскага Савета, прычым першая была намінальнай, а другая — фактычнай, за ёю былі ўзброеныя масы. Петраградскі Савет меў усе магчымасці стаць паўнаўладным і адзіным органам народнай улады. Але меншавікі, якія аказаліся ля руля Саветаў, пайшлі на змову з буржуазіяй. Прычыны двоеўладдзя заключаліся ў тым, што гіганцкая

дробнабуржуазная хваля захліснула і падавіла свядомы пралетарыят не толькі колькасна, але ідэйна. Рабочы клас у тыя дні аказаўся недастаткова свядомым і менш арганізаваным, чым буржуазія. Дзеянні рабочага класа паглыбілі буржуазна-дэмакратычную рэвалюцыю. Яна не толькі дала ўладу буржуазіі, але і дайшла ўшчыльную да рэвалюцыйнай дыктатуры пралетарыяту і сялянства.

Пытанне аб пераходзе ад буржуазна-дэмакратычнай рэвалюцыі да сацыялістычнай было ўсебакова распрацавана У. І. Леніным у славутых Красавіцкіх тэзісах. Галоўная рухаючая сіла ў сацыялістычнай рэвалюцыі — пралетарыят у саюзе з сялянствам. Менавіта ён павінен узяць уладу ў свае рукі і ажыццяўляць яе праз Саветы. Быў абвешчаны лозунг «Уся ўлада Саветам!». Пры суадносінах класавых сіл, якія склаліся ў краіне, адкрывалася магчымасць паступова сканцэнтраваць усю паўнату ўлады ў Саветах без прымянення насільных метадаў барацьбы. Такая магчымасць у гісторыі бывае вельмі рэдка, але ў той момант яна была рэальнай. Таму ў тэзісах не было заклікаў да неадкладнага звяржэння Часовага ўрада, гутарка ішла аб тым, каб яго не падтрымліваць. Абвяшчаючы лозунг аб перадачы ўсёй улады Саветам, У. І. Ленін быў цвёрда ўпэўнены, што бальшавікі здолеюць выкрыць згоднікаў, заваяваць большасць у Саветах і выкрыць антынародны характар Часовага ўрада.

Красавіцкія тэзісы прадугледжвалі шэраг мер у эканамічнай галіне: нацыяналізацыя ўсіх зямель у краіне пры канфіскацыі памешчыцкай зямлі, зліццё ўсіх банкаў у адзін нацыянальны банк і ўвядзенне кантролю над ім Саветаў, кантроль над грамадскай вытворчасцю і размеркаваннем прадуктаў. Ажыццяўленне гэтых наспеўшых крокаў падарвала б пазіцыі эксплуататарскіх класаў.

Тэзісы давалі ясны шлях вырашэння пытання аб вайне: спыненне яе, выхад з імперыялістычнай бойні.

Красавіцкія тэзісы адыгралі вялікую ролю, стаўшы праграмай практычнага дзеяння бальшавіцкай партыі, тэарэтычнай асновай новага палітычнага курсу.

Прыемна, што паступаючыя, як правіла, добра ведаюць матэрыялы з'ездаў Камуністычнай партыі Савецкага Саюза, правільна вызначаюць палітыку партыі ў розных умовах. І ўсё ж хацелася б, каб пры падрыхтоўцы да экзаменаў абітурыенты звярнулі асаблівую ўвагу на матэрыялы апошніх з'ездаў партыі. Асаблівае месца ў гісторыі зойме мінулы год — год XXIV з'езда КПСС, які намеціў грандыёзную праграму дзейнасці савецкага народа ва ўсіх галінах камуністычнага будаўніцтва, у барацьбе за далейшае ўмацаванне міру на зямлі. На паспяховае ажыццяўленне задач новай пяцігодкі накіроўваюцца намаганні партыі і народа.

У гэтым годзе будзе адзначацца 50-годдзе Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік. Ва ўтварэнні і ўмацаванні гэтага магутнага саюза раўнапраўных народаў адыгралі сваю ролю ўсе нацыі і народнасці нашай краіны і перш за ўсё вялікі рускі народ. Камуністычнае грамадства будуецца намаганнямі ўсіх брацкіх народаў. У іх сумеснай працы і агульнай барацьбе ўстанавіліся новыя адносіны паміж класамі і сацыяльнымі групамі, паміж нацыямі і народнасцямі — адносіны брацтва, дружбы і супрацоўніцтва. Узнікла новая гістарычная супольнасць людзей — савецкі народ,— спаяных марксісцка-ленінскай ідэалогіяй, высокімі мэтамі будаўніцтва камуністычнага грамадства. Паступаючыя павінны ўмець раскрыць сутнасць ленінскай нацыянальнай палітыкі нашай партыі, на канкрэтных прыкладах паказаць яе клопаты аб росквіце ўсіх нацый і народнасцяў, ведаць гістарычны шлях, які прайшоў беларускі народ, якіх поспехаў дасягнула наша рэспубліка ў братнім саюзе рэспублік свабодных.

Напаследак хочацца адзначыць яшчэ наступнае. Для добрага адказу трэба не толькі ведаць фактычны матэрыял, але і ўмець яго аналізаваць, высвятляць прычынназалежныя сувязі паміж фактамі, рабіць вывады і абагульненні. Гістарычныя падзеі знайшлі яскравае адлюстраванне ў мастацкай літаратуры, таму дарэчы будзе выкарыстанне гістарычных літаратурных твораў, што засведчыць эрудыцыю паступаючага. А для таго, каб лепш ведаць падзеі сучаснасці, неабходна, апрача падручніка, рэгулярна слухаць радыё, чытаць газеты і часопісы.

**Аляксандр САВАСЦЕНКА,**
загадчык кафедры навуковага камунізму Мінскага педагагічнага інстытута замежных моваў, кандыдат філасофскіх навук.




## 1972

## МАЙ

**1**

**Дзень міжнароднай салідарнасці працоўных.**

70 гадоў назад (1902) у Мінску адбылася масавая дэманстрацыя рабочых пад лозунгам «Далоў царскае самадзяржаўе».

**5**

**Дзень друку.**

60 гадоў з часу выхаду (1912) першага нумара агульнарасійскай легальнай бальшавіцкай газеты «Правда». Цяпер штодзённая газета, орган ЦК КПСС.

**6**

45 гадоў назад (1927) Савет Працы і Абароны СССР прыняў пастанову аб пабудове ў Беларусі магутнай электрастанцыі на Асінаўскім тарфяным масіве.

**7**

70 гадоў з дня нараджэння (1902) Язэпа Пушчы (І. П. Плашчынскага), вядомага беларускага паэта. Памёр у 1964 г.

**9**

**Свята Перамогі.**

**10**

80 гадоў з дня адкрыцця (1892) у Мінску конкі.

**11**

75 гадоў з дня нараджэння (1897) А. М. Тычыны, беларускага мастака-графіка.



Язэп Пушча.



А. М. Тычына.



Пятро Васілеўскі.



У. Я. Галубок.

**15**

50 гадоў з дня нараджэння (1922) П. С. Васілеўскага, беларускага пісьменніка і кінарэжысёра.

90 гадоў з дня нараджэння (1882) У. Я. Галубка, беларускага драматурга, народнага артыста БССР. Памёр у 1937 г.

**19**

50 гадоў з дня ўтварэння (1922) арганізацыі юных піянераў.

**22**

10 гадоў назад (1962) уступіў у строй першы ў рэспубліцы атамны рэактар Інстытута энергетыкі Акадэміі навук БССР.

**25—26**

50 гадоў назад (1922) праходзіў IV з'езд камсамола Беларусі.

**27**

40 гадоў назад (1932) ЦК КП(б) Беларусі прыняў пастанову «Аб перабудове літаратурна-мастацкіх арганізацый БССР».

**Май**

30 гадоў назад (1942) у акупіраваным Мінску пачала выходзіць падпольная бальшавіцкая газета «Звязда»— орган Мінскага гаркома КП(б) Беларусі.



● Міхась ТКАЧОЎ



# З ЗАДАННЯ НЕ ВЯРНУЎСЯ

## РАЗДЗЕЛЫ З ДАКУМЕНТАЛЬНАЙ АПОВЕСЦІ

**Ён марыў стаць капітанам дальняга плавання. Хацеў навучыцца вадзіць вялікія караблі па морах і акіянах. Але не збылася яго мара. Трынаццацігадовы беларускі піянер Расціслаў Агейчык пасмяротна застаўся ў спісах партызанскага атрада імя Суворава...**

### ГРЫМЕЛІ СТРЭЛЫ І ПАДАЛІ ХЛАПЧУКІ

...Аўтаматная чарга балюча разанула слых і звонкім пошчакам рассыпалася па зарослым палыном і лебядой полі.

— Та-та-та!—трывожна і басавіта павісла рэха над сінеючым краем лесу. Каля Росціка, які ішоў наперадзе, зашчоўкалі кулі, уздымаючы фантанчыкі рыжага пылу.

— Лажыся!

— Высачылі, гады, высачылі!—злосна прамармытаў Росцік.

Прыўзняўшыся на локці, ён імгненна ацаніў абстаноўку: зялёныя постаці фашыстаў, маскіруючыся чэзлымі кустамі ядлоўцу, пачалі перабягаць справа. І Росцік зразумеў: фашысты імкнуцца адрэзаць дарогу да балота, зарослага непралазнымі кустамі вербалозу, алешніку. Кароткая чарга паласнула па бягучых фашыстах. Яны пападалі на зямлю.

«Прама не прабіцца,—сумна падумаў Росцік.—Трэба перапаўзаць назад, да балота. Пяць, дзесяць мінут прамарудзім—і тады будзе позна. Калі фашысты паспеюць заняць ускраіну лесу, давядзецца прымаць бой на адкрытым полі».

— Адыходзьце лагчынай,—коратка скамандаваў Росцік.—Косця, пакінь некалькі дыскаў, я прыкрыю вас. Толькі хутчэй, хутчэй...

Ён не бачыў, як пачалі адпаўзаць яго баявыя сябры. Уся ўвага была прыкавана да кустоў ядлоўцу, дзе прытаіліся фашысты: галоўнае зараз—не даць ім узняць галавы, не даць магчымасці заняць ускраіну... Ён не ведаў, што фашысты прадпрымуць у гэтую мінуту, проста рыхтаваўся да ўсяго. У невялікую ямку вылажыў гранаты. Дыскі тут.

За спіной пачуўся шолах, сухі трэск палыну, цяжкое перарывістае дыханне.

«Ці не фашысты абышлі?»—мільганула думка. Азірнуўся, з палёгкай уздыхнуў. Гэта быў Кастусь Ярмак.

— Ты чаму вярнуўся? Зараз жа назад!

І калі б гэта не была вайна, калі б не свісталі над галовамі кулі, было б страшна глядзець на хлапчукоў, заляпаных гразёю, якія сутаргава сціскаюць аўтаматы. Страшна слухаць іх недзіцячыя размовы. Бо гэта былі не юнакі і не дарослыя, а проста хлапчукі суровага ваеннага часу.

— Не пайду,—глуха адказаў Ярмак.—Ты павінен ісці, Росцік. Яшчэ не позна, ты патрэбен там.—Ярмак махнуў рукой у бок вёскі Кавалевічы.—Заданне камандзіра павінна быць выканана. Сам ведаеш, як чакаюць партызаны ўзрыўчатку.

Але было ўжо позна... Падняліся фашысты.

— Та-та-та!—Росцік, не цэлячыся, выпусціў доўгую чаргу. Але тут жа папракнуў сябе: трэба эканоміць патроны. Хто ведае, колькі часу давядзецца тут ляжаць сярод чэзлых ялінак.

Ззаду Росціка ліхаманкава трашчаў аўтамат Ярмака. Але нечакана ўсё сціхла, і на некалькі мінут устанавілася цішыня. Яна гняла, па-свойму трывожная і чулая да любога шолаху і гуку. Фашысты, відаць, не чакалі тут сустрэць моцны адпор і пасля такой шалёнай страляніны баяліся ўзняць галовы.

— Ярмак, ты чуеш, а нашы адарваліся ад фашыстаў. Вось малайцы!

— Рус! Партызанен, здавайся! Вы акружан,—пачуўся ламаны голас з ядлоўцу.

— Бач, чаго захацеў,—усміхнуўся Росцік.

— На вось, атрымлівай!—Ярмак даў кароткую чаргу.

— Не гарачыся, Косця! Беражы патроны. Пратрымаемся да цемнаты. Не з такіх пераплётаў выкручваліся.

Раптам аднекуль збоку ўдарыў кулямёт. Росціку апякло нагу. «Паранены, трэба было б перавязаць»,—мільганула думка.

— Косця, паўзі да каменя. Там схаваемся.—Перасільваючы боль у назе, Росцік папоўз да невялікага шэрага валуна.

— Косця, ты чаму не паўзеш? Адзавіся ж ты, нарэшце! Адзавіся, адзавіся!—ужо не крычыць, а просіць Росцік.

Косця, раскінуўшы рукі, нерухома ляжыць на зямлі. Па кашулі распаўзлася вялікая чырвоная пляма. Росцік зразумеў: кулямётная чарга прашыла грудзі Косцю. Ён больш не падымецца з зямлі, не прыцісненца гарачай шчакой да аўтамата, не скажа, як звычайна раніцой у партызанскім лагеры: «Ну як спалася, «стары»? Ён назаўсёды застанецца ляжаць тут, каля гэтага ляснога балотца, дзе яны яшчэ раніцой пілі сцюдзёную крынічную вадзіцу...

Росцік застаўся адзін. Палымнеў захад. Неба чыстае-чыстае. Ні хмурынкі, ні ветрыку. І ўсё ж вельмі страшна заставацца аднаму сярод гэтай цішыні, у акружэнні ворагаў. Няхай нават ты і шмат разоў бываў у пераплётах, ды яшчэ ў якіх! Але тады былі побач баявыя сябры, а зараз...

Кулямётная чарга прайшлася па валуне. Высякаючы іскры, з візгам зрыкашэцілі кулі. Росцік ціха ўскрыкнуў. Ён адчуў, як пацяжэла левае плячо і за кашулю пацяклі цёплыя струменьчыкі крыві. Ён апусціў аўтамат і прыпаў галавой да зямлі.

«Цяпер усё скончана,—туманіцца ў галаве.—Але як цудоўна пахне зямля. І чаму ён раней не заўважаў гэтага паху гаркаватага палыну...»

«Не, не, не! Прыўзнімі галаву, Росцік! У цябе яшчэ два дыскі патронаў, ёсць гранаты. Ты яшчэ зможаш націснуць на спускавы кручок аўтамата, зможаш кінуць гранаты. Вось толькі праклятая слабасць, ды і галава. Яна цяжкая і непаслухмяная. Малаточкі нейкія стукаюць: тук-тук-тук. І ціхі звон стаіць, быццам шэпчуцца маленькія лясныя званочкі. А можа гэта б'юць фашысцкія аўтаматы? Тады чаму яны не падыходзяць да яго? Чаму? Відаць, баяцца, баяцца яго, які сыходзіць крывёю...»

І раптам усё сціхла: перасталі страчыць аўтаматы, на паўслове змоўк кулямёт. І званочкі паплылі далёка, далёка. Можа фашысты пайшлі? Але не! З-за кустоў да Росціка кінулася некалькі чалавек. І зноў адышла цішыня. Росцік не чуў аўтаматнай чаргі, ён толькі адчуў моцную аддачу ў плячо і паспеў заўважыць, як два фашысты, узмахнуўшы рукамі, паваліліся на зямлю.

— Папаў, папаў! Цяпер вы мяне не скора возьмеце. Чуеце, не скора...

## «НЕ БЯДУЙ, СЫНОК! МЫ ХУТКА ВЕРНЕМСЯ»

А ўсё пачалося з той страшнай і не вельмі зразумелай для Росціка раніцы 1941 года. У тую раніцу ён збіраўся лавіць рыбу. Была самая пара, калі раніцой добра клявалі ляшчы і язі, а на пясчаных перакатах гулкімі ўсплёскамі білі жэрахі. Росцік з вечара падрыхтаваў свае немудрагелістыя рыбацкія снасці: тры вуды з лескамі з конскага хваста, вядзерца, прынаду. Але на рыбалку яму не давялося ісці. Раней звычайнага з работы вярнуўся бацька. Ён ужо шмат гадоў ахоўваў мост праз раку Пціч. Бацька нічога не сказаў. Але Росцік зразумеў усё. Усюды спяшаліся людзі, і па шашы, якая праходзіла побач з вёскай, пацягнуліся абозы. Ішлі старыя, жанчыны, дзеці. Грозна вуркочучы, спяшаліся машыны. Падвечар наляцелі самалёты. Гэта былі не савецкія самалёты і не савецкія лётчыкі, якія часта праляталі над вёскай Іржышча. Убачыўшы іх, вясковыя хлапчукі і дзяўчынкі заўсёды крычалі ўслед:

«Самалёт, самалёт,
Забяры мяне ў палёт...»

Гэта былі фашысцкія самалёты з чорнымі крыжамі на баках. З непрыемным жахлівым выццём яны ірваліся туды, да моста. Росцік стаяў з бацькам на пагорку. Адсюль вельмі добра праглядаўся мост і пікіруючыя самалёты. Ад бяссільнай злосці Росцік сціскаў кулакі і гразіў фашысцкім сцярвятнікам: «Што вам тут трэба? Пачакайце, пачакайце, пачакайце! Вось прыляцяць нашы, яны дадуць вам». Але нашы самалёты чамусьці не прыляталі. Толькі на трэці дзень вайны, падвечар, над мостам пранёсся маленькі савецкі ястрабок. Яго тут жа заўважылі фашысцкія знішчальнікі і ўзмылі насустрач. Маленькі ястрабок спікіраваў да зямлі і зноў узмыў да хмар. Фашысцкія сцярвятнікі кінуліся за ім і схаваліся за кудлатымі хмарамі. Што адбывалася там, за хмарамі, Росцік не бачыў. Ён толькі чуў трэск кулямётаў, і хутка з-за хмар вынырнуў адзін самалёт. Ён zavaліўся на крыло і крута пайшоў да зямлі, цягнучы за сабой густы шлейф чорнага дыму. Сэрца Росціка трывожна забілася: няўжо наш? Але ён тут жа заўважыў чорныя крыжы на баках і радасна запляскаў у далоні: так іх, так іх, фашысцкіх гадаў!

Недалёка ад моста глуха ўскалыхнулася зямля і вышэй дрэў узвілося полымя. Росцік яшчэ доўга ўглядаўся ў неба, але яму так і не давялося больш убачыць маленькага савецкага ястрабка.

Аднойчы на вуліцы спыніўся чырвонаармеец з забінтаванай рукой.

— Вадзіцы, сынок, вадзіцы б папіць!

— Я зараз, зараз...

Росцік з усіх ног кінуўся дадому. Ён падбег да склепа і выцягнуў збанок халоднага малака. Салдат не адрываючыся прагна піў. Па яго зарослым жорсткай шчэццю падбародку сцякалі кроплі малака. Ён іх не змахваў, проста не заўважаў.

— Дзякую, малы, у жыцці не піў такога смачнага малака.

— Дзядзечка салдат, вы не ідзіце, нельга ісці!—прасіў яго Росцік.—Нельга, каб сюды прыходзілі немцы...—Росцік нават заплакаў. Салдат нізка апусціў галаву і доўга нічога не гаварыў. Адчувалася, што і яму балюча і цяжка.

— Эх, сынок!—салдат уздыхнуў.—Сілішча ж якая прэ! Ты яшчэ не шмат разумееш. А пакуль не бядуй, малы. Не нарадзілася яшчэ на свеце сіла, якая змагла б зламаць рускую сілу. Зразумеў? Вось так, малы! А зараз марш дахаты. І носу з хаты не высоўвай. Фашысты не разбіраюць—вялікі ты ці маленькі. Ім усё роўна, каго забіваць. А мы хутка вернемся, абавязкова вернемся.

Салдат, цяжка перастаўляючы ногі, пайшоў за Пціч. Але Росцік назаўсёды запомніў яго твар, змораную хаду, цвёрдую пераконанасць у тым, што ён і сотні тысяч савецкіх салдатаў абавязкова вернуцца сюды. Таму што спрадвеку гэта зямля, гэтыя лясы і блакітныя рэкі належалі ім: Росціку, яго бацьку, аднавяскоўцам, усяму народу. І гэтыя людзі ў шэрых шынялях абавязкова павінны вярнуцца сюды. Бо тут засталіся іх сем'і, дзеці... І яны вернуцца...

Натужна равучы, да моста пад'ехала пяць аўтамашын. З пярэдняй палуторкі саскочыў вусаты капітан з чырвонымі ад бяссонніцы вачыма, у пакамечанай і запыленай гімнасцёрцы. Ён падняў руку ўверх, і машыны з'ехалі ўбок, саступаючы дарогу падводам, markназагалосаму патоку людзей.

Капітан паклікаў да сябе шафёраў і некалькі мінут пра нешта раіўся з імі. Пасля ён заспяшаўся да шашы. Капітан ускокваў на падножкі аўтамашын, якія марудна рухаліся, і ахрыплым голасам маліў:

— Браткі, выручайце! Бензін кончыўся, а мы зброю вязём. Дайце хоць пару дзесяткаў літраў!

— Не можам гэтага зрабіць, таварыш капітан. У саміх канчаецца. Не ведаем, як і дабярэмся да месца.

Капітан сцскокваў з падножкі і зноў спяшаўся да другіх машын. Нарэшце ён безнадзейна махнуў рукой і пайшоў да сваіх грузавікоў.

— Нічога не атрымліваецца,—зморана развёў ён рукамі. Немец на хвасце сядзіць. Хутка ўзарвуць мост праз Пціч: сапёры ўжо даўно гатовы і толькі чакаюць сігналу.

І сапраўды, на мосце з'явіўся нізенькага росту старшына і пачаў падганяць людзей:

— Таварышы, хутчэй, хутчэй...

— Што ж нам рабіць?—спытаў адзін з шафёраў. Не пакідаць жа ўсё гэта фашыстам...

— Прыйдзецца тры машыны спаліць, а бензін раздзяліць на дзве машыны. Другога выхаду няма.

— А вінтоўкі? Што з імі рабіць?—з трывогай спытаўся адзін з вадзіцеляў.—На двух машынах іх не завезці.

— Як быць са зброяй?—капітан на імгненне задумаўся.—Частку пагрузім на нашы машыны, астатняе знішчым.

— Таварыш камандзір, не трэба знішчаць зброю.—Рассоўваючы локцямі вадзіцеляў, да капітана прабіраўся жвавы хлапчук. Ільняныя ўскалмачаныя валасы, кепачка з разадраным брылем насунута амаль на самыя вочы. Байцы здзіўлена паглядзелі на хлапчука.

Тут падаспеў і бацька Росціка.

— Праўду кажа. Навошта зброю знішчаць. Частку можна перадаць нам,—і ўбачыўшы, як адразу насцярожыўся вусаты капітан, Сцяпан Іванавіч паспешліва дадаў:—Не хвалюйцеся, у надзейныя рукі пераправім. У самога вінтоўка захоўваецца. Ды толку ў ёй, абойма патронаў засталася...

— А ты хто такі будзеш?—заклапочана спытаўся капітан.

— Я мясцовы жыхар, вартаўніком працаваў, мост гэты ахоўваў.

Капітан пачухаў патыліцу. У душы ў яго змагаліся два пачуцці: з аднаго боку, калі б ён быў дакладна ўпэўнены, што зброя сапраўды трапіць у надзейныя рукі, то можна з радасцю аддаць, а з другога...

— Паслухай, бацька, дакуменцік у цябе які-небудзь ёсць?

— Вядома, ёсць...

Капітан доўга вярцеў у руках даведку Сцяпана Іванавіча, блізка падносіў яе к вачам, пасля, рашыўшыся на нешта, махнуў рукой.

— Эй, старшына, у цябе ўсё гатова?

— Так точна, таварыш капітан. Засталося толькі запалку паднесці.

— Вось што, старшына, выдай гэтаму чалавеку частку вінтовак. Ды хутчэй. І на патроны не скупіся. Усё не зможам завезці.

Бацька і Росцік падышлі да апошняй машыны.

— Колькі вінтовак трэба?

— Ды колькі не шкода.

Росцік тут жа ўзабраўся ў кузаў грузавіка і пачаў перадаваць бацьку вінтоўкі, каробкі з патронамі. На дапамогу ім падышлі два байцы і старшына.

— Давай, бацька, паможам. Куды насіць іх?

— Ды вось у гэтыя кусты. Пасля мы іх перахаваем у лесе.

Праз паўгадзіны ўсё было скончана. Апошнія дзве машыны пераправіліся на другі бераг. Бязлюднай стала шаша. З мінуты на мінуту павінны паказацца фашысты.

Каля моста засталіся толькі сапёры. Яны з трывогай пагледалі на другі бераг: ці не пакажуцца ўдалечыні адстаўшыя машыны, падводы, байцы... Але дарога была пустая. Толькі ўдалечыні нарастаў і набліжаўся цяжкі нудны гул. Гэта ўжо ішлі фашысцкія танкі. Адзін з сапёраў паднёс запалку да шнура. З трэскам і шыпеннем папаўзло змейкай полымя. І праз некалькі секунд зямля здрыганулася ад узрыву. Мост на імгненне ўздыбіўся ў паветры і тут жа рухнуў у ваду.

## ЗАХОЎВАЛА ЗБРОЮ ПЦІЧ

Росцік выйшаў на двор і азірнуўся па баках: нікога. Імжэў дробны дождж, на другім канцы вёскі забрахаў сабака. Яшчэ перад самым заходам сонца Росцік заўважыў, як грузілі фашысты на падводы зерне, адабранае ў сялян, курэй, гусей. Пасля яны таропка выехалі з вёскі і пагналі коней на Пухавічы. Значыць, фашысты цяпер не скора зазірнуць у Іржышча.

Вузкая сцяжынка віляе па невялікім алешніку і выходзіць да самага берага Пцічы. Сіратліва і адзінока тырчаць палі разбуранага моста.

Росцік спыняецца і доўга ўглядаецца ў чорную ваду. У ёй купаюцца зоркі, зрэдку выгляне з лахматых хмар шчарбаты месяц. Распрануўшыся, Росцік асцярожна ўваходзіць у ваду. Вада апякае цела. Але гэта не страшна: Росцік нырае з галавой. Цяпер робіцца крыху цяплей.

Росцік робіць некалькі крокаў. Недзе павінна быць яма. Трэба ісці асцярожна. Крыху лявей ляжаць маткі калючага дроту. Ды і ці мала што можа ляжаць зараз на дне маўклівай Пцічы? Нездарма вясковыя хлапчукі ўжо даўным-даўно перасталі хадзіць сюды. Купаюцца цяпер у старыцы, на лузе. Няхай там вада пахне цінай і ілам, няхай ногі па калені ўваходзяць у тарфяную жыжку, ды затое няма там мін, калючага дроту, неўзарваных гранат.

Сюды Росцік прыходзіць не першы раз. І вабіць яго не начная рамантыка спячай ракі: тут, каля моста, на дне ракі засталіся ляжаць аўтаматы і вінтоўкі, патроны і гранаты, яны ляжаць тут з самага пачатку вайны.

Росціку тут знаёма ўсё. Ён нядрэнна разведаў дно ракі. Вось і зараз ён спыняецца, вада даходзіць да падбародка. Далей ісці нельга. Кароткімі сажонкамі ён выплывае на сярэдзіну ракі, адфыркваецца, робіць глыбокі ўдых і нырае...

Колькі можна пратрымацца пад вадой: трыццаць секунд, мінуту...

Росцік выныравае, глытае свежае паветра, нырае зноў. Рукі ліхаманкава шараць па пяску. Стоп, штосьці жалезнае. Росцік абмацвае рукамі: аўтамат. Адной рукой ён бярэ аўтамат за ствол, а другой памагае сабе ўсплыць на паверхню. З аўтаматам намнога цяжэй плысці супраць цячэння. Росцік выходзіць на бераг, кладзецца на халодны пясок і адпачывае.

І зноў нырэц за нырцом.

У той вечар Росціку пашанцавала: ён дастаў з дна ракі вінтоўку і аўтамат, невялікую цынкавую каробку патронаў. Перапраўляе ў лес. Там у яго замаскіраваны тайнік. Хаця і тайнікам яго называць не зусім правільна. Гэта хутчэй склад боепрыпасаў: вінтоўкі, аўтаматы, гранаты, патроны.

Заўтра раніцой ён разбярэ аўтамат і вінтоўку, пратрэ іх ад пяску і ілу. Пра гэты тайнік ніхто не ведае. Нават самыя блізкія сябры. Толькі бацька ведае. Яны разам перацягвалі сюды вінтоўкі. На яму зверху наклалі бярвенняў, накрылі яловымі лапкамі, зверху наклалі дзёрану. Недасведчаны чалавек пройдзе па гэтым дзёране і нічога не заўважыць.

## «ДЗЯКУЕМ, ХЛОПЕЦ!»

Ледзь чутна скрыпнулі веснічкі, і да вакна мільгануўся цень чалавека. Росцік, адсунуўшыся да вушака, моўчкі сачыў за незнаёмым.

«Хто гэта! І што яму трэба ў такі позні час? Калі ён надумаў што-небудзь сцягнуць, дык дарэмна. У двары, акрамя пачарнелай кучы галля, нічога няма».

Незнаёмы асцярожна падышоў да акна і забарабаніў па шкле.

Росцік пабаяўся адчыняць дзверы незнаёмаму і ціха паклікаў бацьку.

— Тат, прачніся. Да нас стукаюць.

Бацька хутка апрануўся і асцярожна падышоў да дзвярэй.

— Хто тут?

— Адчыніце, бацька, свае,—ціха адазваўся чалавек.—Немцы ёсць у сяле?

— Няма. Вечарам паехалі ў Пухавічы. Ды вы заходзьце ў дом. Якая можа быць размова на вуліцы?

Незнаёмы нерашуча прайшоў у хату. Росцік уважліва агледзеў увайшоўшага. Сярэдняга росту, шырокі ў плячах. На скураным афіцэрскім рамяні некалькі гранат. Незнаёмы паставіў аўтамат у кут, зняў шапку і далоняй выцер успацелы лоб.

«Аўтамат не наш»,—адразу заўважыў Росцік.

— Нас некалькі чалавек. У акружэнне пад Пружанамі трапілі. А цяпер прабіраемся на ўсход. Памажыце пераправіцца праз раку.

— Не ведаю, як памагчы вам,—развёў Сцяпан Іванавіч рукамі.—Лодкі ў мяне няма. Ды і ў сяле днём з агнём не адшукаеш. Хто прыхаваў у дальніх затоках, а хто і затапіў у надзейным месцы. Самі разумееце...

Бацька задумаўся, пасля спытаў:

— Шмат вас?

— Восем чалавек. Адзін цяжка паранены. Сёмы дзень блукаем у гэтых месцах. І ўвесь час на хвасце фашысты сядзяць. Рана ці позна яны прымусяць нас уступіць у бой. Але патронаў у нас малавата, ды і людзі змораныя. Выратавалі прабірацца лясамі. Паспрабуем збіць іх са следу.

— Росцік, адзявайся,—ціха сказаў бацька.—Сам я не магу, учора нагу падвярнуў. Распухла, як палена, ледзь соваюся.

— Слухай уважліва, Росцік. Там, насупраць дуба, што вершаліна знесена снарадам, у старыцы схавана лодка дзеда Цілюха. Чаротам замаскіравана. Пераправіш на другі бераг, сцежку пакажаш. Тую самую, што цягнецца да Казельскага логу.—І да незнаёмага:—Яна прывядзе вас да лесніковай хаты. Сын у яго камандзірам у Чырвонай Арміі служыць. Перадайце яму паклон ад Агейчыка. Далей ён вам дарогу пакажа.

— Дзякуем, бацька! Не забудзем тваю дабрату...

— Пасля дзякаваць будзеш, калі фашыстаў прагонім,—нахмурыўся бацька.—А зараз вось вам на дарогу падмацавацца крыху.—Ён дастаў з печы чыгунок бульбы, высыпаў яго ў палатняную торбачку, сунуў туды паўбуханкі хлеба і кавалак парыжэлага сала.

— Чым багаты, тым і рады,—развёў рукамі бацька.

Росцік накінуў на плечы бацькаў пінжак і выйшаў з хаты.

— Трымайцеся мяне. Я тут кожную ямку ведаю.

Росцік перабраўся цераз агароджу, за аселіцу. Незнаёмы склаў далоні рупарам.—«Кра! Кра! Кра!»—прыглушана павісла над ахутанай туманам нізінкай.

«Кра! Кра! Кра!»—адазваліся з ускраю лесу.

Росцік прыслухаўся: краканне не адрозніш ад сапраўднага, качынага. Відаць, незнаёмы да вайны любіў паляванне.

— Пароль у вас няправільны,—ціха заўважыў Росцік.

— Гэта чаму ж?—здзіўлена спытаў камандзір.

— Зараз жа глыбокая восень. І не сёння дык заўтра снег ляжа. Якія ж у гэты час качкі?

— Вось рассудзіў, дык рассудзіў,—здзівіўся камандзір.—Сапраўды: якія могуць быць качкі ў гэты час? Трэба перамяніць пароль.

...З алешніку пачуўся шолах рассоўваемых галінак, трэск ламачча, а потым паказалася некалькі чалавек.

Два пярэдніх неслі на разгорнутай плашч-накідцы параненага. Астатнія крыху адсталі. Паранены глуха стагнаў. І ўвесь час прасіў піць.

— Супакойся, Васіль, скора да сваіх выйдзем. У шпіталь цябе пакладзем. Там скора на ногі паставяць,— супакойваў параненага камандзір.

Сцяжынка пятляла па забалочаным алешніку. Часта сустракаліся кладкі. Тады Росцік спыняў байцоў, сам асцярожна ступаў па жэрдках. За ім ужо смялей ішлі салдаты. Чулася цяжкое дыханне ды чаўканне балотнай твані.

Павеяла рачной свежасцю, туман стаў гусцейшы і халаднейшы. Наперадзе заблішчэла серабрыстая стужка ракі.

— Вось тут і спынімся,— прагаварыў Росцік.— Лодка тут непадалёк, метрах у дваццаці ад берага.

— Васільеў, Астравец, Сапейчык, памажыце хлапчуку лодку перацягнуць. Ды хутчэй, світаць хутка будзе...

Глухі гук, і лодка плаўна лягла на ваду.

— Адразу усе не памесцімся,— заўважыў Росцік.— Давядзецца два рэйсы рабіць.

Ціха плешчацца вада за бортам, лодка ціха слізгае па соннай рацэ. Прыкметна пасвятлеў усход. Здаецца, быццам хтосьці прыўзняў белую заслону над лесам, над палямі. Напрасткі, праз скошаны луг, вядзе Росцік байцоў.

— Вось па гэтай сцежцы пойдзеце. Там на ўзгорку хаціна лесніка. З аднаго боку да яе ўшчыльную падступае лес, з другога—шырокая прасека. Толькі вы адразу не ідзіце да лесніка. Там фашысты часта засады ўстрайваюць. Абавязкова паглядзіце—метрах у пяцідзесяці ад хаціны, каля невялікага ручайка, будзе стаяць лазня. Калі да яе прыстаўлена высокая абадраная жэрдка, то можаце смела заходзіць. А калі не—абыходзьце хаціну бокам.

— Дзякуем, хлопчык. Выручыў нас. А ты часам пра партызан нічога не чуў?

— Не чуў,— прызнаўся Росцік.— Кажуць, што ёсць недзе ў гэтых мясцінах. Але я не ведаю...

— Яшчэ раз дзякуем. Калі застануся жывы, абавязкова адшукаю цябе. Вось пабачыш. Мяне завуць Жорам Астраглядам... Запомні!..

— Шчаслівай дарогі, — амаль скрозь слёзы прамовіў Росцік.— Толькі вяртайцеся хутчэй.

Шорах крокаў паступова заміраў, і вось ужо салдаты прапалі ў смузе бялявага туману.

●

Ён вярнуўся, Росцік! Так, той самы Жора Астрагляд. Вярнуўся тады, калі ўжо цябе не было ў жывых...

У ліпені 1944 года па вуліцах вёскі Іржышча прапыліла чорная бліскучая эмка. Яна спынілася каля тваёй хаты. Невысокага росту маёр вылез з кабіны і накіраваўся да веснін. Але хата была замкнута на замок. Бацька кудысьці адлучыўся па сваіх справах. Тады маёр зайшоў да суседзяў і спытаў:

— Мне трэба было б пабачыць хлапчука з гэтай хаты. Невысокі такі, рухавы і белакуры.

— Няма хлапчука. Загінуў у партызанах... Смелы быў хлопец,— сказалі суседзі.

Маёр зняў фуражку і доўга глядзеў на старую хату.

## ПАСЛУГА ЗА ПАСЛУГУ

— Трэба ісці, ісці, ісці,— упарта цвердзіць Росцік. А куды? Росцік спыняецца. Зноў гэта гнілое балота, куды ні павярні—вада, твань, дрыгва. Пачакай, а што гэта такое? Сасна на ўзгорку? Надта ж знаёмае месца. Дык гэта ж ён быў тут учора! Вось тут адпачываў. Значыць, Росцік кружыць вакол аднаго і таго ж месца. Але павінны ж быць недзе партызаны. А ногі сталі цяжкімі і зусім не слухаюцца. Росцік упарта ідзе наперад. І трэба ж было яму ўчора правесці ноч пад сасной. Паленаваўся адшукаць капу сена і вось захварэў: слабасць ва ўсім целе, ломіць рукі, спіну. Толькі б не ўпасці.

Росцік стараецца ні пра што не думаць і ісці. Няхай нават павольна. Усё-такі тут павінны быць партызаны. Але больш за ўсё яго непакоіла адна думка: ці возьмуць яго? Ён прапануе партызанам зброю, але з умовай, каб яго прынялі ў атрад. Інакш ён будзе шукаць такіх партызанаў, якія абавязкова прымуць яго. Ад гэтых думак на душы ў Росціка стала цяплей. Вось толькі голад даймае. Але і яго можна перабіць маладымі почкамі ліпы. Хоць і гаркаватыя яны на смак, але есці можна...

— Стой! Хто ідзе?

Росцік здрыгануўся ад нечаканасці, але ў тую ж хвіліну рвануўся за куст.

— Ні з месца! Буду страляць!— раздаўся ўладарны голас.

«Няўжо напароўся на паліцаяў? Гэтага толькі не хапала. Учора ж тут нікога не было...»

З-за кустоў ядлоўцу выйшаў невысокі чалавек, трымаючы напагатове аўтамат. На шапцы —чырвоная стужка.





— Хто такі? Куды шлях трымаеш? Ведаеш, што тут хадзіць нельга?

— Я, дзядзечка, тутэйшы. З вёскі Іржышча. Росцікам завуць. А ішоў я да вас...

Незнаёмы ўсміхнуўся, павесіў аўтамат на плячо і падышоў да Росціка.

— А адкуль ты ведаеш, хто мы?

— Гэта адразу відаць,— усміхнуўся Росцік.— Па шапцы з чырвоным бантам.

— Якая ў цябе справа да нас? У атрад хочаш?

Росцік заківаў галавой. І тут жа здзівіўся: адкуль ён ведае? Вядома, у атрад.

— Я вас ужо двое сутак шукаю.

— А ці ведаеш ты, што тыдзень назад камандзір адправіў такога ж, як ты, ваяку дахаты? Вось так. Камандзір у нас наконт гэтага надта строгі. Лепш паварочвай і ты назад. Дарогу мы табе пакажам і правядзем крыху.

Росцік заматаў галавой.

— Не, дахаты я не пайду. Не для гэтага я два дні па балоце гразь месіў. Ды і да камандзіра справа ёсць. Вельмі важная. Ён павінен абавязкова выслухаць мяне.

Незнаёмы заклапочана пачухаў патыліцу: што яму рабіць з гэтым упартым хлапчуком? Не адчэпіцца ж... Адвесці ў атрад, дык камандзір будзе сварыцца. Скажа: колькі вам гаварыць, што партызанскі атрад —гэта не дзіцячы сад! І людзі там сабраліся не для забаў. Але, з другога боку, хлапчука шкада: двое сутак лазіў па балоце. Змарыўся, абадраўся ўвесь, ды і выгляд у яго хваравіты. А, будзь што будзе!

— Пайшлі!—коратка кінуў ён.— Па баках не азірацца, глядзець толькі пад ногі, зразумеў?..

— Зразумеў...

— Каго ты затрымаў, Сцяпанавіч?—аднекуль з вершаліны сасны пачуўся голас.

Росцік паглядзеў на сасну. Там сярод галін, амаль ля самай вершаліны, прытаіўся дазорны.

— Ды вось да камандзіра просіцца. Важная справа, кажа, у яго.

— Ну што ж, вядзі...

Камандзір партызанскага атрада імя Суворава задумёна пахаджваў паміж соснаў. Вось ужо трэці дзень, як пасланыя на заданне партызаны не падавалі ніякіх вестак. Ці то іх схапілі фашысты, ці то яшчэ якая прычына не дазволіла ім своечасова вярнуцца ў атрад.

— Таварыш камандзір, хлапчук тут вось хоча нешта сказаць.

— Хлапчук? — здзівіўся Шапілаў.— Яшчэ хлапчук? Як ён сюды трапіў? І колькі разоў можна паўтараць: усіх хлапчукоў адпраўляць дахаты!

— Кажа, важная справа ў яго да вас...

Камандзір падышоў бліжэй.

— Адкуль будзеш, хлопчык?

— З вёскі Іржышча. Росцікам завуць.

— За чым прыйшоў у госці?

Росцік сумеўся, пачырванеў. Ён падумаў, што калі зараз пачне прасіцца ў партызанскі атрад, то камандзір адразу ж адправіць яго дахаты.

І Росцік вырашыў дзейнічаць хітрасцю.

— Зброя ў мяне ёсць. Шмат зброі. Вінтоўкі, аўтаматы, патроны, гранаты. Хачу вам перадаць усё...

— Зброя?— недаверліва спытаў камандзір.—Адкуль яна ў цябе...

— Калі пераправу бамбілі, тады шмат усякай зброі патанула. Пасля я некалькі месяцаў ныраў і даставаў. Пасля чысціў і змазваў. У мяне сабраўся цэлы склад. Мне бацька яшчэ памагаў...

— Ды ты ведаеш, што нам пазарэз патрэбна зброя?—ужо цяплей прагаварыў камандзір.—А ты не маніш?— насцярожыўся ён.—З такімі рэчамі не жартуюць...

— Чэснае піянерскае! Навошта мне гаварыць няпраўду? Адзін не змагу прынесці. Давайце людзей. Я іх правяду і пакажу месца.

— Ды цябе за такое расцалаваць мала!—расчуліўся камандзір.

— Толькі ў мяне да вас просьба...

— Якая просьба?—насцярожыўся камандзір.

— У атрадзе пакіньце. Ваяваць хачу з фашыстамі, каб хутчэй іх з нашай Беларусі выгнаць. Дахаты вяртацца мне нельга. Староста ўжо даўно пагражаў у Германію адправіць.

Камандзір нахмурыўся.

— Я і страляць умею. У школе з дробнакаліберкі лепш за мяне ніхто не страляў. Ды і з аўтаматам знаёмы. А калі не возьмеце, то я да другіх партызанаў пайду. Ім жа і перадам зброю,—на ўсякі выпадак прыгразіў Росцік і сам спалохаўся сваёй дзёрзкасці.

Камандзір не вытрымаў і зарагатаў. Ды так моцна, што з зямлянак пачалі выглядваць здзіўленыя партызаны. Росцік са страхам глядзеў на камандзіра: цяпер напэўна прагоніць яго дахаты. Хіба можна гаварыць так дзёрзка? Ды яшчэ каму? Партызанскаму камандзіру?

— Ну і хітры малы. Пабачыў я вашага брата шмат. Але такога ўпершыню бачу. Як гэта кажуць—баш на баш. Ты нам зброю, а мы цябе прымаем у партызаны. Ха-ха-ха! Добра, няхай будзе па-твойму. Эй, Сакольчык, накармі хлапчука, і няхай адпачне. А пасля запрагай Шалага, узвод пар-

тызан вазьмі і з'ездзі па зброю. Ды асцярожна перапраўляйцеся праз шашу. Фашысты там пачалі пашальваць.

Росцік стаяў і не верыў сваім вушам: яго прынялі ў партызаны! Гэта было тое, чаго так даўно ён чакаў...

## БЫВАЛА І ТАКОЕ

За дзве гадзіны да ўмоўленага часу Росцік з'явіўся ў прызначанае месца. Неба, зацягнутае шэрымі хмарамі, пачало праясняцца. І хутка зусім ачысцілася ад хмар, і на зямлю весела пырснулі яркія промні сонца. З высокага берага Пцічы добра праглядалася мясцовасць. Росцік здалёк пагляДаў на сцежку, якая пятляла з лесу да самага берага ракі. На гэтай сцежцы партызанскія сувязныя павінны былі правесці вельмі важнага госця. Хто ён такі, Росцік не ведаў. Пра гэта нельга пытаць. Але ў атрадзе гаварвалі, што чакаюць госця з Вялікай зямлі. І камандзір даручыў сустрэць яго Росціку. Яму тут вядома кожная сцежка, кожны кусцік.

Росцік зручна ўладкаваўся ў кустах алешніку. Насек трафейным нямецкім штыком яловых лапак і спакойна ўлёгся на іх.

Сонца хіліцца на захад. З мінуты на мінуту павінен з'явіцца госць. Яго прывядзе Марынка. Яна жыве на тым баку Пцічы. Росцік яе ведае даўно: кароткія рыжыя коскі, задзёрты, гузікам, носік, аблеплены рабацiннем. Нікому і ў галаву не прыходзіць, што гэта партызанская сувязная. Дарма, што яна дзяўчынка, а смеласці і знаходлівасці ёй не пазычаць. Яшчэ не было такога выпадку, каб Марынка не выканала задання.

Пачуўся трэск матацыклаў. Росцік насцярожыўся: гэта яшчэ што за фокусы? Адсюль кіламетры паўтара ўніз па цячэнні Пцічы—шасэйка. І па ёй часта ездзяць фашысцкія матацыклісты. Але трэск матацыклаў набліжаўся. Росцік рассунуў кусты алешніку і абамлеў. Па супроцьлеглым беразе Пцічы ехалі чатыры матацыклы з калясками. Хутка яны параўняліся з Росцікам. Першы заглушыў матор, а за ім і астатнія. Абтрусіўшы пыл, фашысты зацягнулі матацыклы ў кусты, а самі спусціліся з абрыва і на невялікім зялёным пятачку склалі аўтаматы, знялі рамяні. Двое вярнуліся назад, выцягнулі з каляскі нейкія скруткі, сумкі.

Да Росціка даносіліся іх картавыя галасы, смех. І тады ён зразумеў, што фашысты збіраюцца тут наладзіць невялікую п'янку.

«Зусім зрабіліся нахабнымі»,—падумаў Росцік. Ужо колькі разоў партызаны прапаноўвалі наладзіць засаду на гэтай шашы. Але камандзір увесь час не дазваляў. «Навошта прыцягваць увагу фашыстаў да гэтага месца? Няхай думаюць, што партызанаў тут і ў паміне няма. А прыйдзе час, тады стукнем...»

«Зараз па іх з аўтамата б разануць,—мільганула думка.—Вельмі зручна. Ні адзін бы не ўцёк. Але што скажа камандзір? Парушыў загад. А за гэта вельмі сурова караюць у партызанскім атрадзе».

Росцік раптам спахапіўся. Але ж з мінуты на мінуту на сцяжынцы павінен паказацца госць з Марынкай. Яны адразу ж наткнуцца на фашыстаў.

Трэба іх неяк папярэдзіць. Але як? Калі пераправіцца на той бераг, тады ўсё стала б значна прасцей. Росцік сустрэў бы іх у метрах двухстах ад берага. Але як пераправіцца на той бераг? Не бегчы ж уніз па цячэнні і там шукаць пераправу. Тады ён не паспее папярэдзіць іх.

А што, калі... Росцік прыкінуў шырыню ракі: бадай, метраў трыццаць будзе. Што ж, трэба паспрабаваць.

Росцік схаваў аўтамат і вопратку ў кустах, а сам зараснікамі алешніку спусціўся метраў на 50 уніз па цячэнні. Спыніўся. Вачыма намеціў сабе кусты лазняку на тым беразе. Вось там і трэба вынырнуць. Марудзіць нельга ні хвіліны.

Асцярожна рассоўваючы асаку, Росцік пралез па ілістым дне да таго месца, адкуль глыбіня дазваляла нырнуць без усякага ўсплёску. Счакаў хвіліну другую, крыху супакоіўся. Потым, набраўшы поўныя лёгкія паветра, нырнуў. Узмоцнена працуючы рукамі і нагамі, ён хутка пайшоў наперад.

Яшчэ да вайны ў вясковых хлапчукоў было такое спаборніцтва—хто далей за ўсіх нырне. Тады яму не было роўных у вёсцы. Але гэта было тады, а зараз...

Росцік адчуваў, што ён ужо праплыў пад вадой да сярэдзіны ракі. Яшчэ крыху, зусім нямнога. Але пасярэдзіне ракі цячэнне намнога мацнейшае. Гэтага якраз і не ведаў Росцік. Ён зразумеў гэта тады, калі адчуў, што яго адносіць у бок.

«Не разлічыў сіл,—мільганула думка.—Што ж, яшчэ не ўсё страчана. Трэба асцярожна высунуць твар наверх і дыхнуць паветра. Цела трэба трымаць пад вадой».

Росцік зрабіў некалькі рухаў. Ён не чуў: ці быў усплёск, ці заўважылі яго немцы. Пад вадою дабраўся да берага, прыслухаўся.

Моцна калацілася сэрца. Вось-вось птушкай выпырхне з грудзей. Паступова Росцік супакойваўся.

Фашысты па-ранейшаму гергеталі на беразе. Відаць, яны нічога не заўважылі. Росцік, прыгнуўшыся, перабег дарогу і знік у кустах. Не паспеў ён прабегчы і ста метраў, як убачыў Марынку з госцем.

— Туды нельга, зараз там фашысты піруюць. Трэба крыху пачакаць. Яны хутка павінны паехаць...

Марынка і незнаёмы са здзіўленнем глядзелі на Росціка: без зброі і вопраткі, у адных трусах, ён быў падобны на ўскалмачанага пеўня, якога нядаўна выцягнулі з вады.

Позна ўвечары Росцік з доўгачаканым госцем шчасліва прыбылі на партызанскую стаянку.

## І ЛЯЦЕЛІ ПАД АДХОН ЦЯГНІКІ

Ужо ўсё падрыхтавана да ўзрыву: міна—партызанская самаробка-лавушка—падкладзена пад рэйкі і акуратна прысыпана гравіем і пяском. Ад яе непрыкметнай змейкай адыходзіць шнур.

У невысокіх кустах вербалозу, якія падыходзяць да чыгункі, ляжаць Росцік з Калінковічам. Хутка павінен прайсці гружаны састаў з Пухавіч.

— Ці ўзарвецца наша «самаробка»?—парушыў маўчанне Росцік.— Учора з пустымі рукамі вярнуліся падрыўнікі з-пад Талькі. Падвёў узрывальнік.

— Не хвалюйся. У нас рване, ой як рване! У Мінску пачуюць.

— Добра было б,—уздыхнуў Росцік.

— Я, дружа да вайны ўздоўж і ўпоперак схадзіў гэту жалезку. Пуцявым абходчыкам працаваў. Устанеш, бывала, раненька і ідзеш сабе па пуцях, малаточкам пастукваеш. Ты не думай, што рэйкі—гэта ўсяго толькі жалеза. Не. Яны лепш любога музычнага інструменту гучаць. Стукнеш малаточкам, цудоўная музыка ідзе ад гэтых рэек. Заслухаешся. Якая трэшчынка з'явіцца, адразу ж рэйка знаць дае. Гук такі выдае жаласны. Быццам папярэджанне робіць: захварэла, маўляў, я, замена патрэбна. Вельмі да спадобы прыйшлася мне гэта работа. І не думаў і не марыў я, што хутка давядзецца такімі справамі займацца. Нават зараз, калі бачу, як ляцяць пад адхон цягнікі, аж сэрца заходзіцца. І ведаю, што трэба іх пусціць пад адхон, бо фашысцкія яны, на фронт зброю, боепрыпасы вязуць, а ўсё роўна душа баліць. Бо ўсё гэта наша. І не век жа так будзе, аднаўляць прыйдзецца. Вось закончыцца вайна, пуцейцам зноў пайду.

Злева ад павароту чыгункі раптам пачуліся галасы. Росцік адхіліў галінкі: проста па шпалах ішлі трое паліцаяў.

— Патруль, — ціха прашаптаў ён.—Няўжо адчулі нядобрае? Па данясеннях жа партызанаў, у гэты час тут ніякага патруля не павінна быць...

Росцік перавёў засцерагальнік аўтамата ў баявое становішча. Зрэзаць іх аўтаматнай чаргой не складала цяжкасці. Але стрэлы прыцягнуць увагу фашыстаў, і тады аперацыя праваліцца.

Паліцэйскія ішлі не спяшаючыся, уважліва пpаглядаючь кожны метр чыгуначнага пуці. Яны ўжо знаходзіліся блізка: чуваць, як шоргае шчэбень пад нагамі.

Заўважаць ці не заўважаць? Гэта нямое пытанне можна было прачытаць у вачах Росціка і Калінковіча.

— Калі заўважаць, рванем шнур. Няхай фашысцкія служакі ўзлятаюць у паветра.

Але паліцэйскія нічога не заўважылі і спакойна прайшлі міма. Міна была замаскіравана па-майстэрску.

Патруль ужо схаваўся за паваротам, як зноў з боку Пухавіч пачуўся нейкі шум. Ішла дрэзіна.

— І чаго гэта яны раз'ездзіліся?— занепакоена спытаўся Росцік.—Нешта задумалі.

— Нічога яны не задумалі,— усміхнуўся Калінковіч.—Проста іх папярэдзілі, што чакаецца важны састаў. Вось і правяраюць дарогу.

— А і праўда ж,—ажывіўся Росцік.—І як я да гэтага не дадумаўся...

— Цягнік ідзе, ідзе, даражэнькі!— прашаптаў Калінковіч. Ён увесь быццам сціснуўся ў камяк, вочы заіскрыліся, рукі неспакойна пацягнуліся да шнура.

— Нічога не чую,—разгублена прагаварыў Росцік.

— Ідзе, мілы, ідзе! Зямля падказвае. Я яго за дзесяткі вёрст чую.

Росцік прыціснуўся вухам да зямлі, але нічога не пачуў. Пахла мінулагоднім прэлым лісцем, гаркаваты пах палыну дурманіў галаву.

Надта ж стамляе апошняя мінута чакання! Зараз і Росцік пачуў далёкі перастук колаў. З кожнай секундай ён набліжаўся і набліжаўся. І вось ужо з-за павароту паказаўся паравоз, а за ім вагоны. Росцік паспеў заўважыць на адкрытай пляцоўцы зачахлёныя гарматы. І ў тое ж імгненне асляпляльная ўспышка балюча ўдарыла па вачах, здрыганулася зямля, і моцны ўзрыў скалануў навакольле. Паравоз, быццам запалкавы карабок, падскочыў уверх і тут жа зваліўся.

Што было далей, Росцік не бачыў. Разам з Калінковічам яны прадзіраліся скрозь калючы кустарнік, імкнучыся хутчэй уцячы ад месца дыверсіі.



**Георгі ПАПЛАЎСКІ. Жняя.** З цыкла «Браслаўшчына — край азёрны». Літаграфія. 1971.



Янка Купала і Пятрусь Броўка на адпачынку ў Кіславодску. 1940 год.



Інтэр'ер кафэ «Планета».



Фае кінатэатра «Піянер».

Фота В. Ждановіча.

Уладзімір СЯРОЎ. У. І. Ленін абвяшчае Савецкую ўладу.

### А ЦІ СПРАЎЛЮСЯ?

Ствол доўгі, быццам і сапраўды труба нейкая, драўляны прыклад. Росцік здзіўлена разглядаў незнаёмую зброю. На вінтоўку не падобна, але і кулямётам назваць нельга. Цікава...

Падышоў да незнаёмага байца, гаспадара дзівоснай зброі.

— Што гэта за гармата ў цябе.

Незнаёмы партызан загадкава ўсміхнуўся і падняў галаву.

— Гэта, братка, тое што трэба. Больш бы іх нам, тады не страшны будуць ніякія фашысцкія танкі. Аўтамат у параўнанні з ім усяго толькі дзіцячы пугач. А называецца гэта супрацьтанкавым ружжом. Зразумеў, братка? Вось так.

Партызан з любоўю правёў далонню па ложы свайго супрацьтанкавага ружжа і сумна ўздыхнуў:

— Шкада, вядома, што малавата іх у нас. Але камандзір сказаў, што хутка яшчэ падкінуць з Вялікай зямлі.

Размову з незнаёмым партызанам перапыніў дзяжурны па лагеры.

— Росцік, цябе камісар кліча!

— Іду, зараз іду!

Росцік не спяшаючыся накіраваўся да зямлянкі камісара атрада. Ішоў і думаў: навошта гэта ён спатрэбіўся камісару атрада? За апошні час ён быццам бы нічога не натварыў...

Рыгор Давыдавіч Юркевіч стаяў каля зямлянкі і размаўляў з групай партызанаў, якія адпраўляліся на чарговае баявое заданне.

— Таварыш камісар, партызан Агейчык з'явіўся па вашаму загаду.

— Зараз, Росцік, зараз. Пройдзем у маю зямлянку. Размова сур'ёзная ў мяне ёсць. Гляджу я на цябе, узмужнеў ты, хлопец. Ды і папраўіўся на партызанскіх харчах,—з усмешкай сказаў Рыгор Давыдавіч.—Я цябе вось па якой справе выклікаў. Думаем у нашым атрадзе стварыць перасоўную маладзёжна-знішчальную групу. Хлопцаў смелых падбяром. Узброім іх супрацьтанкавымі ружжамі, ручнымі кулямётамі. Фашысты зараз сталі намнога хітрэйшыя. Лес пачалі высякаць уздоўж чыгункі. Нашым падрыўнікам амаль немагчыма прабіцца да жалезкі. А вось гэта група і павінна супроцьтанкавымі ружжамі выводзіць са строю паравозы, падпальваць машыны, знішчаць дрэзіны. Мы тут параіліся ў штабе і вырашылі камандзірам гэтай групы прызначыць цябе.

— Мяне?—Росцік ад здзіўлення нават адступіў на крок ад камісара. Ці не жартуе Рыгор Давыдавіч? Але твар камісара быў сур'ёзным.

— Рыгор Давыдавіч, ды які ж з мяне камандзір? У атрадзе вунь колькі баявых рабят. Яны старэйшыя за мяне і больш вопытныя... А ружжо супрацьтанкавае я толькі сёння ўбачыў...

— Не гарачыся, Росцік. Навучышся і страляць, усё зразумееш. Хлопец ты кемлівы. Ды і смеласці табе не пазычаць. Ну, як, згода?

— Хай будзе па-вашаму,—збянтэжана прагаварыў Росцік.

— Хлопцаў мы табе ўжо падабралі. Сёння ж і прыступайце да заняткаў. Час не чакае...

### БОІ НЕ ЗАКОНЧАНЫ, БОІ ПРАЦЯГВАЕЦЦА

... Сонца хіліцца на захад. Разбуджаную стрэламі зямлю ахутвае сівы змрок. Але бой не закончаны, бой працягваецца...

«Галоўнае—пратрымацца да цемнаты, а там будзе відаць»,—вяла думае Росцік. Ён ужо перастаў адчуваць боль у плячы, нагах, можа, ад страты крыві, а можа, ад слабасці.

Фашысты перасталі страляць. Але Росцік адчуваў, што яны знаходзяцца побач, вось за гэтымі кустамі ядлоўцу.

Чаму яны перасталі страляць? Відаць, хочуць узяць жывым. Не, гэта ім не ўдасца. У Росціка яшчэ пад рукамі два дыскі патронаў і дзве гранаты. «Проста мяне не возьмеце. Не! Не!»

Потым здалося яму, што знаходзіцца ён у партызанскім лагеры і грэецца ля вогнішча. Дым пахне сасновай хвояй і смалой. І побач з ім сядзяць яго баявыя сябры. Толькі чаму яны маўчаць? Росцік спрабуе паварушыцца, але цела тут жа пранізвае вострыя боль. Росцік ускрыквае, і ў той жа час з боку фашыстаў паветра прарэзвае аўтаматная чарга. Кулі злосна цокаюць па валуне...

У гэты хмуры вечар жыхары вёскі Кавалевічы доўга не маглі заснуць. За ваколіцай вёскі гулка стукалі аўтаматы, рваліся гранаты, і толькі позна вечарам усё змоўкла...

Раніцай бачылі жыхары, як пагрузілі фашысты на падводы трупы сваіх ваякаў і паспешліва павезлі ў невядомым напрамку. Смельчакі падышлі да месца бою і ўбачылі каля валуна акрываўленага хлапчука. Ніхто не здагадваўся, з якіх краёў трапіў сюды юны мсцівец. І толькі праз некалькі дзён яны даведаліся, што гэта быў Расціслаў Агейчык, юны піянер з вёскі Іржышча.

■■■



# МІНСКІ ІНТЭР'ЕР



Рэстаран «Мінск».

**Яшчэ якіх дзесяць-пятнаццаць гадоў таму назад мы, уваходзячы ў кафэ, магазін, кінатэатр, не зважалі на ўнутраны выгляд памяшкання, або, як кажуць, на інтэр'ер. Поспехі, якіх дасягнулі ў апошні час беларускія архітэктары і мастакі ў праектаванні і збудаванні грамадскіх памяшканняў, не могуць не цешыць нас. Менавіта ў вырашэнні інтэр'ераў якраз і сутыкаюцца архітэктар з мастаком, каб найлепшым чынам спалучыць функцыянальнае і мастацкае ў адно ўражлівае цэлае.**

**Не парушаючы ўтульнасці, так неабходнай не толькі ў жылым, але і ў грамадскім памяшканні, мастакі-архітэктары скарыстоўваюць колер і фактуру аздабляльных матэрыялаў, спалучаюць іх з арганізацыяй святла і абсталявання, каб эстэтычнае ўздзеянне інтэр'ера было найвышэйшым і не замінала яго функцыянальнаму прызначэнню.**

**У сучасных інтэр'ерах грамадскіх будынкаў беларускай сталіцы можна сустрэць і натуральныя, і штучныя аздабляльныя матэрыялы. Імкненне некаторых аўтараў выявіць у інтэр'еры нацыянальнае не замінае скарыстанню як новых, так і традыцыйных матэрыялаў.**

**Адной з найстаражытнейшых аздобаў на Беларусі была кераміка. Яшчэ ў XII стагоддзі паліваная кераміка складала аснову інтэр'ера ў Пінску, Гродне і іншых гарадах. Розныя сацыяльныя эпохі па-рознаму дыктавалі свае патрабаванні да гэтага матэрыялу, але ён дажыў да нашых дзён у сваёй першароднай аснове. І тое, што апошнім часам цікавасць да керамікі вырасла, сведчыць пра новыя магчымасці тэхналогіі, якія даюць падставы пашырыць сферу скарыстання керамікі.**

**У старажытныя часы кераміка ішла галоўным чынам для аздобы фасадаў—арнаментальныя маты, устаўкі, крыжы (Каложская царква ў Гродне). Потым яна перайшла і ў інтэр'ер. Характэрным прыкладам тут з'яўляецца маялікавая падлога Ніжняй царквы ў Гродне, што збудавана ў XII стагоддзі. Пазней скарыстанне керамікі абмежавалася вырабам кафлі для abліцоўкі печаў і пліткі на сцены і падлогу. У такім выглядзе кераміка дажыла да нашых дзён, калі архітэктары і мастакі пачалі ўсур'ёз задумвацца над выяўленнем у інтэр'еры выключных магчымасцяў гэтага трывалага, прыгожага і таннага матэрыялу.**

**Паліваная і непаліваная, глазураваная і неглазураваная плітка цяпер ідзе як на abліцоўку сцен, калон, так і для чыста эстэтычных мэт—на дэка-**

ратыўныя ўстаўкі і мастацкія пано. Сучасная тэхналогія дае магчымасць вырабляць керамічныя дэталі самых розных памераў, рознага колеру, рознай фактуры. Варта спыніцца ў вестыбюлі гасцініцы «Мінск» (другі яе корпус), завітаць у кнігарню «Падпісныя выданні» ці ў магазін «Ласункі», што па Ленінскім праспекце сталіцы, каб пераканацца, як скарыстанне розных каляровых суадносін буйнай і дробнай пліткі, керамічных пано і шамотных уставак, а таксама адпаведнага абсталявання (керамічныя вазы) ствараюць цэласны эстэтычны комплекс, які не можа быць незаўважаны.

Не менш традыцыйным, толькі можа менш старажытным, у нас з'яўляецца такі аздабляльны матэрыял як дрэва. Вытокі традыцый варта шукаць у даўніх, рубленых з нечасаных бярвенняў зрубах, якія пазней прымалі на сябе элементы аздобы ў выглядзе пілаванай дошкі, што ішла спачатку на зашчыткі, на ліштвы вокнаў, а пазней і на шалёўку (абшыванне сцен). З цягам часу на ліштвы і абліцоўку зашчыткаў, на дзверы пачала скарыстоўвацца дошка з выпілоўваннем і выразаннем прымітыўных узораў. Шалёўка сцен носіць вельмі разнастайны характар — гарызантальны, вертыкальны, наўскасяк і «ў ёлачку». Час пакінуў вельмі мала старажытных жылых пабудоў, а яшчэ менш грамадскіх, якія раней былі, галоўным чынам, культавага прызначэння (цэрквы, капліцы). Вялікі выбар парод дрэва ў беларускім лесе, параўнаўча простая і лёгкая апрацоўка драўніны, зручнасць і трываласць эксплуатацыі, высокія дэкаратыўныя якасці (колер, тэкстура) даўно звярнулі ўвагу майстроў на неабходнасць скарыстання гэтага матэрыялу ў інтэр'еры. Да нашых дзён захаваліся найвышэйшыя ўзоры разбярскай апрацоўкі дрэва ў інтэр'еры Георгіеўскай царквы ў Давыд-Гарадку і Міхайлаўскай у Слуцку або выразаныя з дрэва калоны Мікалаеўскай царквы ў Кажан-Гарадку.

Вывучэнне захаваных помнікаў драўлянага дойлідства на Беларусі прывяло сучасных мастакоў і архітэктараў да адраджэння ў інтэр'еры такога прыгожага і зручнага матэрыялу як дрэва. Праўда, вялікія патокі людзей у грамадскіх будынках гандлёвага тыпу (магазіны, кафэ) не дазваляюць рабіць падлогу з дрэва. Затое як удала карыстаюцца гэтым матэрыялам для аздобы сцен і столі.

Дошкі, рэйкі і брускі рознага памеру і профілю — гэта ў руках сучаснага майстра матэрыял, які дае магчымасць будаваць інтэр'еры вельмі арыгінальныя (кафэ «Планета», магазін «Адзенне» і інш.). У кнігарні ж «Палітычная кніга» (вул. К. Маркса) аўтары пайшлі яшчэ далей, скарыстаўшы дрэва для разбянага тэматычнага пано, каб раскрыць у ім шматвяковы гістарычны шлях беларускага народа.

Некалі, побач з разбярствам, у інтэр'ерах былі пашыраны роспіс па дрэве, інкрустацыя, залачэнне. Цяпер толькі пры аздабленні ўнікальных інтэр'ераў можна пайсці на такую раскошу. Звычайна ж танныя і дасканалыя спосабы апрацоўкі дрэва (механічнае пілаванне, струганне, шліфаванне, пакрыццё бясколернымі лакамі ці празрыстымі фарбамі, каб выявіць тэкстуру; паліроўка з воскам) даюць найшырэйшую прастору для творчай фантазіі архітэктара і мастака. Шкада, што добрыя задумы часам натыкаюцца на дрэннае выкананне іх будаўнікамі.

Вельмі пашыраным было на працягу некалькіх гадоў захапленне драўнінавалакністымі і драўнінастружкавымі плітамі для аздаблення. Гэтыя пліты не супярэчаць эстэтыцы толькі тады, калі апрацаваны адпаведным чынам, каб прыхаваць аднастайную невыяўную паверхню ці пакрыццём клеявымі або эмалевымі фарбамі, ці фанераваннем, ці нанясеннем каменнай крошкі на клеевую аснову. Калі ж пліты пакрываюцца бясколерным лакам або празрыстай фарбай — яны зніжаюць эстэтычныя вартасці нават найлепшым чынам спланаванага і арганізаванага інтэр'ера. Доўгі час даўно пажоўклыя дэкаратыўныя элементы з пліт «аздаблялі» вітрыны і сцены магазіна «Паўлінка». Тое ж самае вы напаткаеце, зайшоўшы ў магазін «Лянок».

Выбар аздабляльных матэрыялаў не можа не ўлічваць як тэхніка-эканамічныя паказчыкі, так і эстэтычныя вартасці ў момант збудавання інтэр'ера, абавязкова з прыкідкай — а ці доўгатрывалыя гэты матэрыял у натуральным і маральным сэнсе? Ад удалага выбару матэрыялу залежыць не толькі эстэтычнае ўспрыманне інтэр'ера як цэлага, але і тэрміны яго нармальнай эксплуатацыі. Мастацкія вартасці матэрыялаў выяўляюцца кожны раз канкрэтна ў залежнасці ад функцыянальнага прызначэння інтэр'ера, выяўляюцца праз колер, фактуру і тэкстуру, з улікам асвятлення і іншых умоў. Вось чаму далейшае развіццё архітэктуры інтэр'ера так шчыльна звязана з выкарыстаннем шырока ўжываных будаўнікамі матэрыялаў — бетону, шкла, металу, керамікі, дрэва, пластмасы і г. д., з выяўленнем іх эстэтычных вартасцяў.

У многа якіх грамадскіх будынках сталіцы побач з традыцыйнымі аздабляльнымі матэрыяламі скарыстаны і новыя, сучасныя: на падлозе паркет сутыкаецца з тэраца, на сценах — ка-







Чаканка ў кафэ «Планета».

мень з мармуровай крошкай і г. д. Гэта ўзмацняе зрокавае ўспрыманне. Зайдзіце ў фае кінатэатра «Піянер»: як ажыўляюць традыцыйна аздобленыя сцены выкананыя ў кераміцы манументальныя кампазіцыі «Шчаслівае дзяцінства» і металічныя агароджы балконаў! У некаторых інтэр'ерах удала гарманіруюць вітрыны і металічныя рашоткі. Або кераміка спалучаецца з металам у выглядзе рашотчатых дзвярэй, як у кафэ «Журавінка».

Кафэ «Журавінка» — добры прыклад скарыстання традыцыйнага і новага ў вырашэнні інтэр'ера. Шкада толькі, што такая выключна беларуская назва не знайшла адпаведнага нацыянальнага падмацавання ў архітэктуры. Хоць умовы, у якіх ставіўся будынак, давалі для гэтага шырокія магчымасці. Што кідаецца ў вочы, дык гэта ўдалае фарміраванне вонкавай прасторы на падставе прынятых унутраных вырашэнняў. Як і ў кінатэатры «Піянер».

Абодва гэтыя будынкі маюць шмат падабенства — падлога залаў і пляцоўкі перад будынкамі вырашаны ў адным ўзроўні. Тэрацавай падлозе залаў па разрэзцы і па колеры адпавядае пакрыццё пляцоўкі перад уваходам. У кожным разе яны не кантрастуюць. А скарыстанне шкла па ўсёй плошчы фасада кінатэатра «Піянер» надае ўспрыманню лёгкасць — ты ў будынку, але адчуваеш сябе не адгароджаным ад вонкавай прасторы. Гэта вельмі важна для абодвух будынкаў, вокны якіх арыентаваны на поўнач.

У кінатэатры «Піянер» сувязь інтэр'ера з экстэр'ерам падкрэсліваецца кампазіцыяй касавай залы і фае з невялікім вадаёмам, акаймаваным зялёнай. Уражанне ўзмацняецца скарыстаннем рванага (неапрацаванага) каменя, якім аконтурана зялёная выспачка з басейнам унутры будынка і падпорная сценка ад вуліцы.

Тое самае і ў кафэ «Журавінка». На фасадных плоскасцях бачна абліцоўка сцяны плітамі з шамота. На гэтых плітах — маскі скамарохаў, стылізаванае сонца, казачныя птушкі і інш. Водгалас гэтых выяўкаў мы сустракаем і ў банкетнай зале на першым паверсе. Цокаль будынка абліцаваны рваным каменнем. Гэтая тэма, вырашаная матэрыялам, як бы прыводзіць наведвальніка ў фае. Тэрацавая падлога фае і залаў набіта квадратамі з пліт «брэючыя», каб парушыць аднатоннасць і падкрэсліць натуральнасць, адпаведную вонкавай прасторы перад кафэ. Калоны фае і залаў атынкаваны мармуровай крошкай, каб надаць адпаведную стройнасць.



Кафэ «Журавінка».

Фота В. Ждановіча.

Тынкаванне паверхняў вядома з глыбокай старажытнасці, хоць на працягу стагоддзяў матэрыялы для тынку і сам змест яго неаднаразова мяняліся, удасканальваліся. Цяпер для аздабляльных мэт карыстаюцца разнастайным тынкам (некалькі дзесяткаў відаў), які па фактуры бывае гладкі і шурпаты. Асобна вылучаюць тынк з графіту — шматколерны, дэкаратыўны, ён пакуль не атрымаў вялікага пашырэння ў нашай сталіцы (можна назваць хіба што інтэр'еры вытворчага цэха шчацінна-шчоткавай фабрыкі, рэстарана кэмпінга, аздабленне фасада вучэбнага корпуса ўніверсітэта).

Намаганні архітэктараў грамадскіх будынкаў скіраваны ў правільным рэчышчы — выявіць найлепшым чынам дэкаратыўныя ўласцівасці аздабляльных матэрыялаў, скарыстоўваючы для гэтага кантраснае супастаўленне фактур (люстраная паверхня шкла і рваная фактура каменя), выяўленне прапорцый цэлай плоскасці і не часта, актыўнае ўмяшанне колеру ў стварэнне аб'ёмна-прасторавай кампазіцыі. У дадатак да ўсяго ўвага архітэктараў скіравана на дасягненне як мага больш арганічнай сувязі інтэр'ера з навакольлем, як гэта зроблена ў будынку гарвыканкома, магазіне «Сінтэтыка», дзе інтэр'еры як бы раскрыты насустрач гарадскому краявіду. Лаканічнасць канструктыўных прыёмаў і прадуманы падбор мастацкіх сродкаў выражэння забяспечваюць пэўны прагрэс у развіцці сучаснага інтэр'ера.

Шкада, што многія задумы архітэктараў не знаходзяць удалага выканання будаўнікамі, асабліва калі справа датычыць рэканструкцыі старога інтэр'ера. Фізічнае і асабліва маральнае састарэнне інтэр'ера надыходзіць значна раней (праз 10—12 гадоў), чым будаўнічых канструкцый і ўсяго будынка. Мінскія архітэктары маюць шмат удач у рэканструкцыі старых інтэр'ераў. Акрамя ўспомненых ужо кнігарняў «Падпісныя выданні» і «Палітычная кніга», магазіна «Ласункі», варта прыгадаць кафэ «Бярозка», дзе ўмела скарыстана дывановая керамічная плітка, акругоўы Дом афіцэраў. Праўда, выкананне многіх інтэр'ераў, дзе збіраюцца вялікія масы людзей (фае кінатэатраў, канцэртных залаў, палацаў культуры), з шырокім выкарыстаннем белай мармуровай крошкі нельга аднесці да станоўчых прыкладаў вырашэння. Матэрыял гэты хутка забруджваецца ад самага лёгкага дотыку да сцяны, і эстэтычныя якасці інтэр'еру зніжаюцца ледзь не адразу пасля ўводу яго ў эксплуатацыю.

Хімікі, работнікі прамысловасці будаўнічых матэрыялаў распрацавалі шмат новых прапаноў, якія пакуль што вельмі марудна пераходзяць у практыку будаўнікоў. Сінтэтычныя ворсавыя дываны для пакрыцця падлогі мяккія, бясшумныя, маюць высокія цеплафізічныя якасці і вельмі зручныя ў эксплуатацыі. Але... Але пакуль што яны застаюцца далёкай ад здзяйснення марай. У людных месцах (магазіны, вестыбюлі) галоўнае ўпраўленне па будаўніцтве Масквы прапанавала мазаічныя пліты памерамі да паўметра. Навукова-даследчы інстытут будаўнічых матэрыялаў у Мінску распрацаваў мазаічную шклокерамічную плітку, якую можна з поспехам скарыстоўваць для інтэр'ераў і фасадаў. Але... Пакуль што гэты матэрыял не дайшоў да будаўнікоў.

Архітэктары знаходзяць выйсце ў самых складаных сітуацыях, што дыктуюцца сённяшнімі ўмовамі тэхналогіі будаўніцтва. Не дачакаўшыся новых матэрыялаў, яны імкнуцца скарыстаць эстэтычныя ўласцівасці самых пашыраных у наш час будаўнічых дэталяў з бетону. Пры дапамозе фактурнай апрацоўкі бетоннай паверхні можна дамагчыся ўражання лёгкасці і дынамічнасці самых грувасткіх канструкцый. Усё залежыць ад якасці выканання саміх канструкцый, асабліва ад апрацоўкі паверхні бетону і стыкавання паасобных элементаў. Каб думкі архітэктара ці мастака былі найлепшым чынам увасоблены ў матэрыяле, неабходна няспыннае павышэнне кваліфікацыі будаўнікоў, занятых на апошнім этапе будаўніцтва — на аздабляльных работах.

Інтэр'еры грамадскіх будынкаў у беларускай сталіцы, калі не зважаць часам на нізкі тэхнічны і эстэтычны ўзровень іх выканання будаўнікамі (магазін «Хлебны» па Маскоўскай вуліцы), сведчаць пра пэўны прагрэс у архітэктуры, а таксама ў манументальна-дэкаратыўным і выяўленчым мастацтве. Мы заходзім у фае рэстарана «Мінск» (другая чарга) і не можам не захапіцца прыгожымі сцэнамі, якія аздоблены сярэдніх памераў галькай з удала размешчанымі шамотнымі ўстаўкамі. Той, хто зойдзе ў магазін «Тканіны, абутак, адзенне», што па вуліцы Талстога, абавязкова заўважыць, як прыгожа абліцаваны калоны непаліванай керамічнай пліткай. Традыцыйны класічны вітраж усё часцей запаўняе пустыя праёмы каля маршаў лесвіц і, як правіла, удала. Прыгадаем хоць бы вестыбюль радыётэхнічнага інстытута, што на Падлеснай вуліцы.

Большасць інтэр'ераў Мінска вырашана ў традыцыйным матэрыяле ці праз удалае спалучэнне традыцыйнага і новага аздабляльнага матэрыялу. Адпаведны нашаму часу і яго запатрабаванням мастацкі ўзровень інтэр'ера залежыць ад сумесных узгодненых намаганняў архітэктараў, мастакоў і будаўнікоў. Мінскі інтэр'ер ужо набыў правы мастацкай самастойнасці.

Віктар ВАЛОШЫН.

| Май | НА КІНАЭКРАНАХ РЭСПУБЛІКІ |
|---|---|

## «Бацька»



У аснову гэтай шырокаэкраннай мастацкай кінакарціны, створанай рэжысёрам Барысам Сцяпанавым на кінастудыі «Беларусьфільм» па сцэнарыі Расціслава Шмырова, ляглі сапраўдныя падзеі, якія адбываліся на тэрыторыі Беларусі ў часе Вялікай Айчыннай вайны. Карціна расказвае пра партызанскага важака Міная Піліпавіча Шмырова (Бацьку).

У галоўнай ролі здымаўся заслужаны артыст РСФСР Юры Гарабец. Гэта першая яго вялікая работа ў кіно. Роль сябра Бацькі — Патапава выконвае заслужаны артыст БССР Барыс Уладамірскі, у ролі камісара Бірылы здымаўся народны артыст БССР Віктар Тарасаў, у ролі Ніны — беларуская кінаактрыса Любоў Румянцава, добра знаёмая гледачам па кінастужках «Альпійская балада», «Прыгодны да нестраявой», «Ганнычка» і інш.

Здымкі фільма праходзілі ў мясцінах, дзе разгортваўся партызанскі рух. У лясах там яшчэ часта можна натрапіць на паўразваленыя зямлянкі, на сляды баёў. Жыхары тутэйшых мясцін добра памятаюць падзеі тых гадоў. Многія з іх былі ў партызанскіх атрадах і цяпер актыўна дапамагалі здымачнай групе, удзельнічалі ў здымках.

## «Джэнтльмены ўдачы»

...Банда злачынцаў абакрала археалагічную экспедыцыю, якая знайшла ўнікальныя залатыя рэчы сівой старыны. Злодзеі схоплены, сядзяць у турме, але не хочуць прызнавацца, куды схавалі скарб. Начальнік экспедыцыі выпадкова сустракае ў Маскве чалавека, вельмі падобнага на важака банды «Дацэнта», фатаграфію якога яму паказалі ў крымінальным вышуку аднаго з сярэднеазіяцкіх гарадоў. Ён спрабуе затрымаць злачынцу, але...



Новая каляровая кінакамедыя «Джэнтльмены ўдачы», пастаўленая рэжысёрам Аляксандрам Серым на кінастудыі «Масфільм» па сцэнарыі Георгія Данелія і Вікторыі Токаравай, развенчвае ілжэрамантыку, якая граніцуць з дзеяннямі, «апісанымі» ў Крымінальным кодэксе, паказвае нікчэмнасць асобы дробных хуліганаў, якія стараюцца быць падобнымі на адважных герояў, расказвае пра смеласць і мужнасць сумленных людзей.

Вобразы галоўных персанажаў карціны ствараліся спецыяльна для папулярных камедыйных акцёраў — Яўгена Лявонава, Георгія Віцына і Савелія Крамарова. У карціне заняты таксама Эраст Гарын, Алег Відаў, Наталля Фацеева.



## «Здабытак рэспублікі»



У 1918 годзе Народнаму Камісарыяту маёмасцяў маладой Савецкай рэспублікі была даручана рэквізіцыя і захаванне ўсіх прыватных калекцый і збораў мастацкіх каштоўнасцяў. Славутыя палотны майстроў пэндзля і скульптуры перадаваліся ў дзяржаўныя музеі. Але было нямала выпадкаў, калі белаэмігранты і іншы зброд імкнуліся рознымі шляхамі вывезці гэтыя калекцыі за мяжу. Вось на гэтай аснове з многіх гісторый і створаны сюжэт двухсерыйнай шырокаэкраннай мастацкай кінакарціны «Здабытак рэспублікі» вытворчасці Маскоўскай кінастудыі імя М. Горкага. Сцэнарый фільма напісалі драматургі Авенір Зак і Ісай Кузняцоў, добра знаёмыя гледачам па кінастужках «Калыханка», «Прапала лета», «Ранішнія паязды» і інш. Паставіў карціну рэжысёр Уладзімір Бычкоў, які раней працаваў на кінастудыі «Беларусьфільм» і стварыў тут кінастужкі «Увага! У горадзе чараўнік» і «Горад майстроў». У фільме «Здабытак рэспублікі» гледачы пазнаёмяцца з сапраўднымі шэдэўрамі заходняга і рускага мастацтва — помнікамі архітэктуры, жывапісам вядомых майстроў, драўлянай архітэктурай. Натурныя здымкі праводзіліся ў Кірылаве, Волагдзе, у Шарамецеўскім палацы ў Кускове, у Ленінградзе, Таліне, Ялце і Маскве. У галоўных ролях заняты папулярныя кінаакцёры Алег Табакоў, Андрэй Міронаў, Спартак Мішулін, Юры Талубееў, Яўген Еўсцігнееў.

## «Поезд у далёкі жнівень»

Фільм расказвае пра гераічную абарону Адэсы ў гады Вялікай Айчыннай вайны. Знятая на Адэскай кінастудыі, гэтая рамантычная кінакарціна расказвае пра мінулае і сучаснае горада-героя і яго абаронцаў. Сцэнарый фільма напісаў удзельнік абароны Адэсы, былы ваенны марак, адважны разведчык Рыгор Пажанян. Пасля вайны гэты паэт і кінадраматург напісаў шэраг сцэнарыяў — «Смага», «Ніколі», «Бывай».

Пастаноўку карціны ажыццявіў рэжысёр Вадзім Лысенка. Галоўныя ролі выконваюць Армен Джыгарханян, Алена Казялькова, Рыгор Гай, а таксама ўдзельнікі абароны горада. У здымках прымалі ўдзел воіны Чырванасцяжнай Адэскай ваеннай акругі.

## «Вяртанне ў жыццё»



Гэтая двухсерыйная шырокаэкранная мастацкая кінастужка створана на кінастудыі «Масфільм» па матывах папулярнай кнігі эстонскага пісьменніка Ахта Леві «Запіскі Шэрага Воўка». Яна расказвае пра лёс чалавека, які скаціўся быў на самае дно жыцця, а затым паступова набыў веру ў сябе, у людзей.

Рэжысёр - пастаноўшчык фільма — Уладзімір Басаў. Кінакарціны, якія ён ставіў («Цішыня», «Шчыт і меч») і ў якіх іграў («Я крочу па Маскве», «Злачынства і пакаранне»), добра вядомыя кожнаму з нас. Сцэнарый напісалі М. Ерзінкян і У. Басаў. У галоўных ролях здымаліся Л. Цітова, Т. Логвінава, К. Забелін, П. Рыне, Р. Раотарс і іншыя.

## «Тэлеграма»

Два сцэнарысты Сямён Лунгін і Ілля Нусінаў — два сааўтары, якія напісалі сцэнарыі для фільмаў «Мічман Панін», «Хмары над Борскам», «Сардэчна запрашаем, або пабочным асобам уваход забаронены», «Увага, чарапаха!». «Чарапаха» атрымала залаты прыз на III Маскоўскім кінафестывалі дзіцячых фільмаў. А даведаўся пра гэта ўжо адзін Лунгін. Вось ужо два гады, як Іллі Нусінава няма. Цяпер на экраны рэспублікі выпускаецца мастацкая кінастужка «Тэлеграма» вытворчасці кінастудыі «Масфільм», дзе ў цітрах у апошні раз будуць напісаны побач два імені: Сямён Лунгін і Ілля Нусінаў.

Паставіў фільм рэжысёр Ралан Быкаў. Ён скончыў тэатральнае вучылішча імя Шчукіна, іграў на сцэне Маскоўскага тэатра юнага гледача, працаваў галоўным рэжысёрам Ленінградскага тэатра імя Ленінскага камсамола. На экране Ралан Быкаў дэбютаваў у ролі Перца ў «Педагагічнай паэме». Затым былі «Шынель», «Жаніцьба Бальзамінава», «Звоняць, адчыніце дзверы», «Мёртвы сезон», «Карона Расійскай імперыі, або зноў няўлоўныя» і інш.

У апошнія гады галоўным у творчасці Ралана Быкава становіцца рэжысура, і ўсе яго фільмы адрасаваны дзецям.

## «Прысвоіць званне героя»



Фільм створаны рэжысёрам Інай Туманян на Маскоўскай кінастудыі імя М. Горкага па сцэнарыі, напісаным ёю ў садружнасці з драматургамі Б. Мядовым і В. Смірновым.

Карціна расказвае пра кароткае, але яркае жыццё юнага героя Вялікай Айчыннай вайны Сашы Чэкаліна, яго бяспрыкладны подзвіг. У ролі Сашы Чэкаліна здымаўся Раймондас Баніёніс. Раймондас — сын вядомага літоўскага акцёра Данатаса Баніёніса. Яму 14 гадоў.

Выпускаюцца на экраны рэспублікі таксама новая мастацкая кінастужка «Ох, ужо гэта Насця» вытворчасці Маскоўскай кінастудыі імя М. Горкага і грузінская мастацкая кінакарціна «Жыў пеўчы дрозд».

З зарубежных кінафільмаў будуць дэманстравацца: «Злачынец сядзіць на стадыёне «Уэмблі» (ГДР), «Я ўмею скакаць цераз лужыны» (Чэхаславакія), «Разбег» (ГДР), «Мяцела» (Італія), «Дзве любімыя» (Японія).



Яўген РАМАНОВІЧ

# ТАК ПАЧЫНАЛАСЯ...

Уявіце сабе 1918 год, горад Мінск.

Добра ўзброеная, абмундзіраваная, забяспечаная харчаваннем армія пілсудчыкаў рынулася на беларускія землі, пацясніўшы на ўсход маладое чырвонае войска. Белапольскія легіёны пачалі наводзіць тут свае парадкі, вынішчаючы ўсё, што было здабыта беларускім народам пасля Вялікага Кастрычніцкага буралому. Хто не змог эвакуіравацца і застаўся ў Мінску, адразу спазнаў, што такое акупацыя. Не стала хлеба, паліва, святла. Хто не мог прыстасавацца да акупанцкага гвалту, не ведаў польскай мовы, не знаходзіў сталай працы, мусіў сяк-так існаваць. Мы з маткай хадзілі перакопваць чужыя агароды, каб назбіраць хоць гаршчэчак бульбы, цягалі з лесу сасновае галлё, абаграваліся, гатавалі пусты булён. Бацька разам з Чырвонай Арміяй быў за лініяй фронту на ўсходзе, маці засталася з дзвума дзецьмі (я і брат Нікадзім). Яна прадавала ўсё з хатняга ўжытку, каб хоць як харчавацца. Цяжка стала і з вучобай, за яе трэба было плаціць, а грошы, дзе іх узяць, грошы? Я сядзеў дома. Тым часам на Аляксандраўскай (зараз імя Горкага) вуліцы, недалёка ад піўзавода Лекерта (цяпер «Беларусь») адкрылася Беларуская гімназія. Там навучалі бясплатна і нават штодня вучням выдавалі міску гарачага бобу і лусту хлеба. Маршал Пілсудскі вельмі спадзяваўся на тое, што беларускія памешчыкі і буржуазія дапамогуць яму заняволіць наш край і ператварыць яго ва ўсходнія крэсы панскай Польшчы, а таму рабіў сёе-тое, каб выклікаць прыхільнасць жыхароў. Была створана Беларуская рада і розныя іншыя нацыянальныя інстытуты, якія заняліся вельмі складанай гульнёй, як у камедыі Гальдоні «Слуга двух паноў», стараючыся дагадзіць акупантам і ў той жа час не надта бянтэжыць народ. Адным словам, калі маці даведалася пра гэтую гімназію, яна адразу ж павяла мяне туды, і я быў прыняты ў пяты клас. Я апынуўся на адной парце з невысокага росту хлапчуком. Гэта быў Андрэй Александровіч. Яго ў Беларускую гімназію таксама ўладкавала яго маці. Ён быў на дзіва жывы і таварыскі хлопец, мы адразу ж пасябравалі і пасля заўсёды трымаліся адзін аднаго, хоць Андрэй жыў на Старажоўцы, а я быў з Камароўкі, а хлопцы той і другой ускраіны заўсёды ваявалі між сабою. Можа гэтаму паспрыяла і тое, што яго айчым і мой дзед былі шаўцамі, і ў нашых дамах стаялі варштаты і заўсёды таўкліся падшыванцы-чаляднікі, якія вучыліся шавецкаму рамяству. Мы часта хадзілі адзін да аднаго рыхтаваць урокі і вельмі любілі пасядзець у шавецкай, бо там можна было пачуць аб усім, што адбываецца на свеце, паслухаць аб розных жыццёвых здарэннях і гісторыях. Шаўцы лушчылі гарбузікі, спявалі песні: «У суседа ціснуць боты, а яму скакаць ахвота», круцілі казіныя ножкі з махоркі, так што ў шавецкай можна было падхапіць «бычка» і пасля, забраўшыся ў кветнік ці якое іншае зацішнае месца, са смакам пакурыць.

Тым часам жыццё ішло сваім парадкам. Вучоба цягнулася сяк-так, настаўнікаў не хапала, вучняў таксама было не многа, некалькі дзесяткаў хлопцаў і дзяўчат з наваколля ды дзеці з дзіцячых прытулкаў — адным словам, мінскія галадранцы. Вучыліся мы таксама не надта каб, абы трымалі. Час быў такі, што ні ў школе, ні дома не сядзелася, усіх цягнула на вуліцу, у народ, дзе можна было пачуць шмат цікавага, даведацца, што робіцца на фронце. А там, пад Барысавам, ішлі баі, і Чырвоная Армія вось-вось магла вызваліць Мінск, гэта адчувалася па змрочным настроі акупантаў, па тым, як нерваваліся мясцовыя крамнікі ды розная іншая буржуазія. Прадчуваючы свой блізкі канец, беглі з вёсак шляхцюкі ды абшарнікі, верныя памагатыя пана Пілсудскага.

За гады першай імперыялістычнай вайны, рэвалюцыйных пераваротаў і акупацый мы так разбэсціліся з вучобай, што сястра Андрэя Алеська толькі рукамі разводзіла.

— Што з вас будзе, мае вы хлопцы, як вырасцеце? Вы ж усё безнадзейна страцілі і не нагоніце.

— Нашто нам матэматыка альбо латынь,— пярэчылі мы,— калі ні купцамі, ні ксяндзамі быць не збіраемся, а па літаратуры і гісторыі ў нас пяцёркі.

Алеся крывіла губы і махала рукою — маўляў, ат, што з вамі зробіш. Яна была на два гады старэйшая за кожнага з нас, але па складзе свайго развіцця, характары і дарослацці падыходзіла нам у настаўніцы. Я глядзеў на яе з патаемным замілаваннем і павагай, асабліва, калі яна спявала на клірасе старажоўскай царквы ў хоры Тэраўскага, апранутая ў чорную доўгую сукенку і па-манашаму павязаная хусткай. Алеся стаяла ў царкоўным хоры ў нейкім містычным экстазе і спявала велічныя харалы. Засяроджаная, як анёл з царкоўных фрэсак, яна здавалася незямной у сваім глыбокім задуменні. Шустры, як вецер, Андрушка ў царкоўным сціхары шмыгаў сярод веруючых і непрыкметна частаваў мяне прасвіркамі. Ён прыслужваў папу, падносіў яму раздзьмутае кадзіла, прыбіраў у прытвор евангелле. Калі хавалі каго-небудзь, то, ідучы наперадзе пахавальнай працэсіі, нёс драўляны крыж з медзяным Хрыстом і падпяваў хору. Жывучы каля старажоўскіх могілак у невялічкай старой хацінцы, што тулілася ў садку, сястра і брат Александровічы падзараблялі ў царкоўным хоры невялікія грошы, чым вельмі ганарыліся, бо гэта было падтрымкай сям'і ў тыя галодныя часы. А аднойчы, калі свяшчэннік захварэў, а дзяк нечага адлучыўся ў рызніцу, Андрэй паклікаў мяне ў прытвор, і мы там паспрабавалі з бутлі царкоўнага віна. Мы так гэтым захапіліся, што не заўважылі, як увайшоў дзяк. Ён закрычаў на нас і выгнаў з царквы. Андрэй страціў свой заробак. Але Уладзімір Васільевіч Тэраўскі не пакрыўдзіў свайго харыста. Андрэй разам з Алеськай па-ранейшаму спявалі ў яго хоры, які набываў усё большую вядомасць у мінчан.

Хоць прыслужванне ў царкве скончылася, але старажоўскія могілкі былі па-ранейшаму нашым улюбёным месцам, дзе мы, асабліва ў час летніх канікулаў, маглі праводзіць час. Цішыня і веліч магутнага старажоўскага парку з волатамі-дрэвамі зачароўвалі. Пышная, густая зеляніна хавала нас ад чужых вачэй, моцны водар крыху кружыў галаву, тлустыя кветкі на магілах цешылі сваёй рознакаляровай прыгажосцю.

У зацішных кутках парку мы часам натыкаліся на Алесю з Міхасём Кудзелькам, яны звыкла сядзелі пад цяністымі клёнамі і чыталі кніжкі. Міхась Кудзелька спяваў у хоры Тэраўскага і іграў на сцэне ў спектаклях «Беларускай хаткі», ён быў шырока вядомы і як паэт Міхась Чарот, баявыя рэвалюцыйныя вершы якога ведалі жыхары мінскіх ваколіц. Выступаючы разам з хорам Тэраўскага ў канцэртах, ён не толькі спяваў ладным барытонам, але і дэкламаваў свае вершы, выклікаючы захапленне ў маладой аўдыторыі:

**Я шумлівы чарот, я мяцежны бунтар,**
**Я балота буджу гучным шумам.**
**У вадзе я жыву і абмыт дажджом хмар,**
**Але змоўкнуць не дам сваім струнам!**
**Уздыму дух людзей, прабуджу іх ад сну,**
**Славу, будучнасць я ім прарочу...**
**Я мяцежны бунтар, клічу жыццяя вясну,**
**Клічу к працы свабоднай і творчай!**

Задуменны, з пышнай шавялюрай цёмна-каштанавых кудзераў, у высокіх, пад чорнымі галіфэ, бліскучых ботах, у белай, падперазанай вузкім раменьчыкам, кашулі, Чарот вабіў да сябе нават сваім знешнім выглядам. Побач з ім Алеська ў сваім просценькім шэрым плацці і палатняных туфельках на босых нагах выглядала звычайнай гарадской дзяўчынай. Прыкрытыя вуалеткай светла-шэрыя вочы заўсёды свяціліся ясна і прывабна, у іх было нешта натхнёнае, паэтычнае, яны вабілі нейкай невыказнай таямнічай сілай. Міхась глядзеў на яе з шчырым пачуццём захаплення.

Міхась падабаўся не толькі дзяўчатам, а і нам, хлопцам, якія былі вялікімі прыхільнікамі яго паэтычнага таленту. Калі мы сыходзіліся разам, то Чарот часцей за ўсё дэкламаваў вершы Багдановіча, Купалы, Блока, Ясеніна, якія вельмі любіў. Свае ён чытаў неахвотна, баючыся суровых заўваг Алесі, якая крытычна да іх ставілася. Мы ж з Андрэем — наадварот, вельмі імі захапляліся. Нам падабалася і тое, што іх чытае сам аўтар, ды яшчэ такі баявы, рамантычны і дужы.

Пісаць вершы ў тыя часы было не дзіва, асабліва сярод вучнёўскай моладзі. Калі вам падабалася дзяўчына, то вы пісалі ёй на памяць у альбом экспромт, часцей падрыхтаваны дома, і дзяўчаты глядзелі на вас з удзячнасцю, асабліва, калі вершы былі з прысвячэннем і свае ўласныя. Але вядома, гэтыя альбомныя творы былі часцей за ўсё наіўныя і слабыя. А тут у Міхася Чарота палымяныя словы пра барацьбу і вызваленне народа, пра рэвалюцыю і светлую будучыню, што ў тыя часы захапляла ўсіх нас. Мы ведалі, што за Міхасём Чаротам ганяюцца канарчыкі-экзекутары з польскай дэфензівы і ён часта мяняе кватэру, выязджае з трупай Галубка на гастролі ў раёны і вёскі і там выступае пад псеўданімам, густа загрыміраваны і ў парыку. Яго аднаактавыя камедыі «Мікітаў лапаць», «Слуцкая варона», «Сварыліся ды пажаніліся», у якіх ён сам іграў некаторыя ро-





лі, мелі поспех у гледача. Але больш за ўсё яго любілі як палымянага паэта-барацьбіта. Казалі нават, што ён піша свае вершы з наганам у руцэ.

Часам, седзячы з Алеськай на могільніку, Міхась даставаў зараджаны рэвальвер і любіў ім пафарсіць, падкідваючы яго ў паветра. Алеська заўсёды злавалася за такое блазенства, крычала на Міхася і ўцякала ад бяды. Тады ён хаваў сваю зброю і, дагнаўшы Алесю, прасіў у яе прабачэння.

Міхась не ведаў, што на спатканні з Алесяй ці ў «Беларускай хатцы» мы яго непрыкметна ахоўвалі, сачылі за публікай і таксама насілі ў кішэнях свае самаробныя пісталеты. Гэта былі набітыя порахам і насечанымі цвікамі жалезныя трубкі, прымацаваныя да драўляных ручак. Яны мелі выгляд старых дуэльных пісталетаў. Але нам здавалася, што мы маем надзейную абарону ад магчымага на Чарота нападу, хоць забіць чалавека з такой «гарматы» было нельга, а напалохаць — у самы раз.

●

Андрэй па сваім характары быў хлопец гарэзлівы і незалежны. Дзяўчаты яго мала цікавілі, хаця, як сапраўдны рамантык, ён усё ж часам марыў аб сваёй неспадзяванай і тайком ад усіх складаў ёй вершы. Але, захапляючыся палітычнай страснасцю Чарота, якога вельмі любіў, ён следаваў яго эмацыянальнаму ладу і больш пісаў аб народнай барацьбе і рэвалюцыі, аб яе пафасе. Я аднойчы заўважыў на парце сшытак і пагартаў яго. Вершы былі досыць наіўныя, але поўныя мар і надзей. Ён вельмі баяўся, каб яны не трапілі на вочы сястры Алесі, сароме́ўся. Мы ў гімназіі вывучалі і дэкламавалі на ўроках вершы беларускіх і польскіх паэтаў, рускую класіку. Захапляліся сучаснай паэзіяй, многа чыталі Бальманта, Маякоўскага, Сяргея Ясеніна. Стаўшы дзе-небудзь на высокі пастамент помніка на могільніку, Андрэй палка грымеў рыфмамі. Было цікава глядзець на яго куртатую фігуру ў чорным, перашытым з нечага пінжака фрэнчы, з накладнымі кішэнямі, у парусінавых гамашах, шэрых картовых штанах, з ссунутай на патыліцу кепкай, з-пад казырка якой выбіваўся захаваты чуб і іскрыліся агністыя вочы. Не зважаючы на «аўдыторыю», гэта значыць на мяне, ён чытаў, крыху падпяваючы сабе на высокіх нотах, нешта блізкае да пазнейшых яго вершаў:

**Чуе сэрца гул падземны,**
**— Сей агонь!**
**Падымайся, пад'ярэмны,**
**— Сей агонь!**

Час бег, мы дужэлі, раслі, жаданні нашы ўсё больш пашыраліся, шукалі выйсця ў канкрэтных справах. Мы часта хадзілі ў кіно, на галёрку ў тэатр, многа чыталі рознай літаратуры, знаёміліся з новымі людзьмі. У гэтым сэнсе «Беларуская хатка» была нашай грамадскай школай.

У «Хатцы» працавалі вялікія энтузіясты мастацтва, якія часам не толькі нічога не атрымлівалі за свае выступленні, але і прыносілі з дому ўсё неабходнае для спектакля — рэквізіт, вопратку, гатовыя ў любы момант зрабіць усё, што трэба для справы. Акцёры вельмі любілі свайго кіраўніка рэжысёра Фларыяна Ждановіча, харысты — Уладзіміра Тэраўскага. Гэта былі адданы калектыву людзі, якія адчувалі сябе бацькамі ў вялікай сям'і «Хаткі». Артысты, харысты, танцоры, музыканты — усе былі аматары сваёй справы, маладыя людзі з працоўнай інтэлігенцыі і рамеснікаў мінскіх ваколіц. Яны аддавалі «Хатцы» ўвесь свой вольны ад асноўнай работы час і з захапленнем выступалі ў спектаклях, спявалі, танцавалі, ігралі на розных інструментах. Іх глыбока непакоіла тое, што да «Хаткі» папрыліпалі розныя палітычныя махляры, спекулянты, якія шукалі тут вясёлага адпачынку ад сваіх цёмных спраў і ўсё больш настойліва патрабавалі задавальнення сваіх густаў. На сцэне замест п'ес Купалы, Караленкі, Крапіўніцкага пачалі з'яўляцца фарсы ды аперэты, адсоўваючы сацыяльна змястоўны рэпертуар. У гэтым ім вельмі спрыяў драматург і рэжысёр Францішак Аляхновіч. Яго п'есы запаланілі сцэну «Хаткі». Ён выпінаўся перад чынамі з Беларускай рады, акупацыйных войск і рознай гарадской буржуазіі, якая магла пачаставаць аўтара і рэжысёра французскім каньяком і польскімі цыгарэтамі. Нездарма ж, калі Чырвоная Армія падышла да Мінска, Аляхновіч і яго прыхільнікі сіганулі на захад, па-зладзейску захапіўшы з сабою найбольш каштоўнае з маёмасці «Хаткі».

**Эх, сасоніца — сасна,**
**дні суровыя,**
**Бервяно да бервяна —**
**Хата новая.**
**Гаратлівасці былой**

**Час пазбыцца нам,**
**Забудуем шыр балот**
**Камяніцамі.**
**Свой будуем светлы лёс,**
**Цемру гонячы,**
**Мы кладзем да шчасця мост**
**Шляхам сонечным —**

усклікне неўзабаве Андрэй Александровіч у радасным узбуджэнні, а прайшло ўсяго некалькі год, як чужынцаў павыганялі з Мінска і зноў заквітнела жыццё, поўнае вольнага дыхання, радасці вызвалення, стваральнай працы. Непазнавальнымі сталі людзі, зусім другія вочы, рукі, усмешкі. Ужо не трэба хадзіць аглядаючыся, гаварыць шэптам, гледзячы з кім і аб чым. Спаць спакойна, не прыслухоўваючыся да начных стрэлаў і шорахаў.

Яшчэ было цяжка жыць, многага не хапала, але ў Мінску, у лепшым тэатральным будынку горада ўжо адкрыў заслону Першы дзяржаўны тэатр рэспублікі, пайшла «Паўлінка» Янкі Купалы, «Раскіданае гняздо». Трупа «Беларускай хаткі» разам з Фларыянам Ждановічам і хорам Тэраўскага перайшла ў Першы тэатр, у цэнтр горада. «Хаткай» завалодалі маладыя актывісты і адкрылі там клуб беларускай пралетарскай моладзі.

Хто ж яны былі, гэтыя хлопцы? Усё тыя ж Міхась Чарот, Андрэй Александровіч. Да нас неўзабаве прыйшлі Барыс Платонаў, якога дэмабілізавалі з Чырвонай Арміі,— вайна на нашай зямлі скончылася. Прыйшоў Язэп Чайкоўскі, Тацяна Бандарчык, Вольга Вашкевіч, якія пазней, пасля вучобы ў беларускай тэатральнай студыі ў Маскве, сталі акцёрамі Другога Беларускага дзяржаўнага тэатра, цяпер драматычнага тэатра імя Якуба Коласа. Прыйшлі многія другія хлопцы і дзяўчаты, якія з гарачай душой і творчай прагаю перабудавалі былую камерцыйную харомiну ў маладзёжны культурны цэнтр з драматычным, харавым і танцавальным гурткамі. Пачалі даваць спектаклі і вечары-канцэрты на сцэне клуба, адкрылі бібліятэку-чытальню, пры якой была створана літаратурная секцыя. І хоць наш клуб камароўцы па-ранейшаму называлі «Беларускай хаткай», але само паветра ў ім стала зусім іншае, чыстае, пазбаўленае ўсякага махлярства, палітычнага авантурызму, як было пры Аляхновічу. Клубам кіраваў Галоўпалітасвет, які ставіў перад новай «Хаткай» пэўныя выхаваўчыя задачы. Распараджалася ў клубе праўленне, старшынёй яго быў Міхась Чарот, Андрэй Александровіч узначальваў бібліятэку, мяне прызначылі загадчыкам клуба.

Хоць Міхась Чарот праводзіў у «Хатцы» амаль кожны свой вольны вечар, але ўсё ж гарадскія партыйныя арганізацыі ўсё больш нагружалі яго рознымі даручэннямі. Так што фактычна кіраваў і хутка стаў душою ўсяго літаратурнага жыцця клуба Андрэй Александровіч. Ён дабіўся папаўнення бібліятэкі кнігамі, газетамі, часопісамі і быў вельмі шчаслівы і ўсім паказваў першы нумар нашага самадзейнага часопіса «Маладзік», адціснутага на шапірографе. Гэты яшчэ падпольны шапірограф захоўваўся ў часе акупацыі ў надмагільным склепе. Яго прынёс Міхась Чарот, ён жа быў і рэдактарам часопіса. У «Маладзіку» друкаваліся вершы і апавяданні членаў нашага літаратурнага гуртка. Вядома, на першым месцы былі творы Чарота, але ўсё больш пачалі з'яўляцца і вершы Андрэя Александровіча, які да таго ж выступаў з імі ў канцэртах, ездзіў з хорам Тэраўскага па іншых клубах і ў навакольныя вёскі. Вершы Андрэя карысталіся добрым поспехам. Пісаў Андрэй аб вызваленым Мінску, аб аднаўленні савецкай краіны, аб камсамоле. Вершы яго былі напоўнены пафасам жыцця, чытаў ён іх з вялікім запалам.

Пазней, калі рэдактарам «Савецкай Беларусі» стаў Міхась Чарот (газета тады выходзіла на беларускай мове), у ёй часта друкаваліся творы маладога Александровіча. Літаратурных згуртаванняў у тыя часы яшчэ не было, кожны пісаў самапасам і насіў у рэдакцыі газет і часопісаў.

●

Ярка свяціла сонца Кастрычніка, агністыя промні зіхцелі ў вокнах «Хаткі», прыцягваючы пад утульны дах камароўцаў. Мы любілі наш клуб і былі ў ім увесь свой вольны ад вучобы час. Як толькі цямнела, загараліся агні нашай «Хаткі», рассоўвалася заслона, гучэлі маладыя, звонкія галасы, сярод якіх вылучаўся голас Барыса Платонава, таленавітага акцёра, які ўжо ў тыя гады чараваў усіх сваім сцэнічным талентам, а пазней стаў вядомым майстрам беларускага тэатра, лаўрэатам многіх прэмій, народным артыстам Савецкага Саюза, дэпутатам Вярхоўнага Савета БССР.

У нашу «Хатку» часта прыходзіў Янка Купала са сваёй нязменнай спадарожніцай цёцяй Уладзяй, яго жонкай. На сцэне клуба ішлі «Раскіданае гняздо», «Паўлінка» і іншыя купалаўскія п'есы, і ён уважліва глядзеў на іх сцэнічнае ўвасабленне, даваў парады. Купала любіў і пасядзець у чытальні, пагаварыць з чытачамі. Андрэй заўсёды стараўся пакласці перад ім свежы нумар нашага «Маладзіка». Аднойчы Купала, які ведаў Андрэя, як і яго сястру Алеську, даўно, прачытаўшы «Маладзік», запытаў яго:

— А яшчэ ў цябе ёсць?

— Ёсць, ёсць, — узрадаваўся Андрэй. — Толькі ў сшытках.

— Дык вазьмі свае сшыткі і прыходзь да мяне дадому, у садок, там і пачытаем. Ведаеш, дзе я жыву?

— Ведаю!

— Прыходзь!

— Дзякую, Іван Дамінікавіч, абавязкова прыду.

Відаць, для бадзёрасці Андрэй запрасіў і мяне пайсці разам з ім да Купалы, і на другі дзень мы накіраваліся да яго хаціны, што стаяла сярод пышных кустоў шыпшыны і жоўтых акацый на Крашчэнскай вуліцы (цяпер імя Янкі Купалы).

Быў цёплы надвячорак. Купала хадзіў у расхінутым фрэнчы з палівачкай у руках і апырскваў кветкі. Заўважыўшы нас праз невысокі парканчык, запрасіў зайсці, і мы селі на лаўцы ў кветніку.

Андрэй разгарнуў сшытак і пачаў дэкламаваць свае вершы, але Купала яго хутка спыніў:

— Не, братка, давай я лепш сам пагляджу — чытаеш ты блага, енк нейкі, а не чытанне.

Купала пачаў праглядаць сшытак, часам мармычучы нешта сабе. Многія вершы ён ухваліў, але зрабіў шмат заўваг і папраўак алоўкам.

Мне не цярпелася запытаць у Купалы, як ён ацэньвае нашы спектаклі па яго п'есах. У «Хатцы» гэтыя размовы былі выпадковыя, а тут, у спакойных абставінах, можна было пачуць што-небудзь больш грунтоўнае. Урэшце, калі мне здалося, што пра вершы Андрэя ўсё сказана, я запытаў у Купалы, ці не занадта спрошчана мы ставім «Паўлінку», і наогул, што ён можа сказаць аб нашым маладым калектыве.

Купала крыху падумаў і сказаў, як заўсёды разважліва і задумена:

— Ведаеце што, хлопцы. Справа ваша добрая, але яна была б яшчэ большая, калі б вы пачалі ставіць спектаклі для дзяцей. Я бачыў дзетвару на вашых спектаклях, яны глядзяць ва ўсе вочы, затаіўшы дыханне. Але што яны глядзяць? Хіба гэта для іх розуму «Паўлінка»? Не, вядома, ім бы казку якую. Хочаце, я пагавару са Змітраком Бядулем, з Канстанцыяй Буйла, ды і сам збяруся можа. Га? Што скажаце? Столькі дзетвары бадзяецца па вуліцах, і мала іх вучаць. А казка, ды яшчэ на сцэне, ды ў добрым выкананні, ды ў прыгожых дэкарацыях, га? Гэта ж цуд! Там усё ясна: вось чорнае, вось белае, вось праўда, а вось крыўда, вось гэта добра, а гэта блага. Дзеці падрастуць і вам дзякуй скажуць.

Купала паглядзеў на нас сваімі светлымі вачыма, у якіх разгарэўся агонь захаплення, і чакаў адказу.

Мы, прызнацца, не былі падрыхтаваны да гэтай размовы і не ведалі, што і адказаць. Выручыла нас Уладзіслава Францаўна, яна запрасіла ўсіх у хату піць чай. У прасторнай сталовай на стале ўжо шумеў самавар.

За гаманкім самаварам гаварылі мы пра нашы магчымасці ў пастаноўцы дзіцячых п'ес. Паколькі я меў ужо невялікі вопыт выступленняў у дзіцячых спектаклях, то і ўхапіўся за прапанову Купалы, нават выказаў некалькі практычных меркаванняў. Галоўнае — дзе ўзяць сродкі на касцюмы і дэкарацыі. Фантастыка патрабуе пэўных матэрыяльных выдаткаў, а нам і так жывецца нялёгка. Купала сказаў, што ён аб гэтым паклапоціцца, і нам памогуць.

Калі мы ўспомнілі, што час ісці дахаты, было ўжо ля поўначы. Гаспадары і слухаць не захацелі, каб мы пайшлі ўначы па неспакойных яшчэ ў той час мінскіх вуліцах. Нам запрапанавалі пераспаць на шырокай канапе. Калі пад раніцу я спытаў у Андрэя, як паставяцца нашы бацькі да таго, што мы без папярэджання зніклі на ноч, Андрэй, не задумваючыся, ускліknуў:

— Скажаш, што быў у Купалы.

Купала стрымаў сваё слова. Нам далі касцюмы і некаторыя дэкарацыі з гарадскога тэатра, і мы падрыхтавалі дзве рускія казкі, якія паставілі для дзяцей на сцэне «Хаткі». Праз некаторы час паспелі «Пастушкі», «Данілка і Алеська» Кудзелькі, «Смерць пастушка» Бядулі, і камароўская дзетвара панесла нам свае «мільёны» (у тыя часы карабок запалак каштаваў некалькі тысяч рублёў). Хоць людзі ў гады пасляваеннага разбурэння жылі цяжка, замест грошай, якія страцілі цану, часцей за ўсё зарплату атрымлівалі мерзлай бульбай і салёнай рыбай, але якая маці не дасць свайму дзіцяці мільён-другі на тэатр альбо кіно — і нашы справы пайшлі ўгору.

Заканчэнне ў наступным нумары.




**Алег ЛОЙКА. КАЛІ Ў ДАРОЗЕ ТЫ.**
**Выдавецтва «Беларусь»,**
**Мінск, 1971.**

# ЦЕПЛЫНЯ ДАБРАТЫ

Паэтычны свет Алега Лойкі мае сваю, асаблівую прывабнасць. Гэта свет сціпласці і дабрыні, стрыманых пачуццяў і замілавання някідкай прыгажосцю жыцця. Паэт — у лепшых і найбольш характэрных для яго творах — настройвае нас на хвалю нейкай асаблівай спагадлівасці, даверлівай шчырасці. З ім, з яго лірычным героем прыемна быць побач: радавацца жыццю, верыць у шчасце, у будучыню, далучацца да працоўных клопатаў аратага і будаўніка, арганічна і проста быць **сваім** сярод людзей, сваім і пры нялёгкім успаміне, і ў мінуту вясёлосці.

Думаецца, гэтым вызначаецца і паэтычная праграма Алега Лойкі, паводзіны яго лірычнага героя. Ён верыць жыццю, людзям. Ён прапаведуе шчырасць і натуральнасць чалавечых узаемаадносін і быццам горнецца душою да нас, яго чытачоў, запрашаючы да ўзаемнасці і разумення.

Прынамсі, так чытаецца яго кніга выбранага «Калі ў дарозе ты...»

Гартаем старонкі гэтай кнігі.

Адна:

**Змоўк журавель... І я з вядра паволі**
**Празрыстую ваду ў карыта лью**
**І мыюся, і рады, як ніколі,**
**Вадзе, нябёсам, хмаркам, жураўлю!..**

Тут — душэўная яснасць, віднага, і юнацкая адкрытасць, і паэтычная засяроджанасць у апісанні спыненага імгнення.

Яшчэ:

**Чароўнай музыкай сагрэты,**
**Як песня родная ці казка,**
**Без хітрыкаў і без сакрэтаў**
**Два шчырых словы: «Калі ласка».**

І ўсё, пра што далей гаворыць паэт,— пра дружбу, сустрэчы, вёсны,— суладна лучыцца ў адной хвалі сардэчнасці і чалавечага яднання.

І яшчэ:

**Мне здаецца, калі я памру,**
**Буду чуць, як шуміць лес і вецер,**
**Як вітаюць птушкі зару**
**І каровы мычаць на дасвецці.**
**Не трывожце ж маршамі слых,**
**Бо змагу і заплакаць ад болю,**
**Напалохаўшы ўшчэнт малых,**
**А я ж іх не палохаў ніколі!..**

Простыя словы, але западаюць у душу, бо яны ад сэрца, бо ўсё гэта выказана шчыра, без позы.

Гэта — ужо даволі даўнія вершы Алега Лойкі. Сёння пачуцці яго сталі больш складаныя, душэўны вопыт узрос. Сталі больш разнастайныя (ды і больш напружаныя) яго шляхі да паэтычнай гармоніі. Але ў сваёй галоўнай сутнасці паэт застаўся ўсё тым жа — рамантыкам, летуценнікам, прыветным і сардэчным. Скажам так: самім сабою.

Ва ўсім, пра што піша паэт, заўважаецца натуральнасць пачуццяў і праўда іх выяўлення. Ён з любасцю захапляецца родным краявідам («І туліцца да вёскі вёска, як пацеркі на ніткі рэчкі, а сіняя





лясоў палоска зліваецца з нябёс далечай»). Ён чужую бяду, гора ўспрымае як сваё («Ляціце, журавы, без гора!.. Спапельвай, восень, сум-смугу!.. Пайду я з сябрам моўчкі поруч і гэтым, пэўна, памагу»). Ён арганічна не прымае фальшу, прытворства, падману («Калі б табе я здрадзіў раз, я б здрадзіў песням, што пяю»).

Гэта — рысы характару. І — асаблівасць таленту, які жывіцца душэўнай чуйнасцю, годнасцю і сціпласцю, цеплынёй дабраты.

Здаецца, што ўвесь існы свет абжывае паэт сваёй цеплынёю:

**Над хатамі — ветразь зялёны,**
**Клён — сонца паўдзённага брат,—**
**Нас, пэўна, пакінулі б клёны,**
**Калі б не цяпло нашых хат!..**

Гэта ж пра нас, пра нашу цеплыню, пра роднасць людзей і ўсяго жывога. І гэтая цеплыня родніць паэта і нас з той летуценніцай-дзяўчынай, сустрэтай у сінім Прынямонні («Пад сіняй сасонкай кашлатай, на нёманскай сонечнай строме, у лёгкай хусцінцы крылатай дзяўчына чакае парома»), з нашымі сучаснікамі-працаўнікамі, з сябрамі і сустрэчнымі, з папярэднікамі і продкамі («стагоддзяў дух забытых, паўзабытых, не менш складаных, чым сягоння час»), і з наступнікамі, што будуць сягаць да вялікіх мэт і нечуваных здзяйсненняў.

Вельмі характэрны для паэта верш аб родных людзях, аб тым, хто яны — «хаты будуюць, дзетак гадуюць... Крышку заводскія, крышку фабрычныя, крышачку сельскія,— з працаю — звычныя!..» Адбываецца паэтызацыя звычайнасці сумленнай працы і душэўнай цеплыні, людской добразычлівасці.

**Не абзавеш іх**
**Ні лісам, ні кротам,**
**Кормяцца людзі**
**Каля работы,**
**Кормячы іншых**
**І апранаючы,**
**Рук цеплыню сваю**
**Скрозь пакідаючы —**
**...На лемяхах, на баранках,**
**На кранах**
**І адгаблёваных светла**
**Парканах!..**

Паказальна, як суадносіць паэт сябе, свой занятак з гэтымі людзьмі:

**І на іх гледзячы,**
**Рады сабе я,**
**Робячы ціха**
**Тое, што ўмею.**

Так ва ўсім, пра што піша паэт, пульсуе трапяткі агеньчык дабраты і чалавечнасці. І накірунак вершаў паэта адзін — да людзей. Да аднадумцаў, да таварышаў па агульнай справе, да тых, хто родны паэту пачуццямі, мэтай, прыналежнасцю да працоўнай супольнасці людзей.

Паэзія Алега Лойкі не замыкаецца ў вузкім коле асабістых настрояў і інтарэсаў. Лірычнаму герою паэта — нашаму сучасніку — ёсць справа да ўсяго, што робіцца ў далёкім і блізкім свеце. Ён поўніцца паэзіяй іншых, далёкіх і блізкіх ад Беларусі мясцін. На трывалым грунце бязмежнай любові да роднага краю вырастае яго любоў да іншых народаў, разуменне іх жыцця і душы. Менавіта тое, чым цесна звязаны ён з роднай хатай, бацькоўскім парогам, вызначае яго «арыентацыю» ў вялікім свеце, вядзе да абсягаў усяго чалавецтва:

**І што б я быў для чалавецтва,**
**Калі б не гэтая дарога,**
**Якая ў свет шырокі ўецца**
**Адсюль — з бацькоўскага парога,**
**Дарога, што слязьмі і кроўю**
**Нявечылася да калецтва,**
**Што прашчуры і мы з любоўю**
**Усё ж абжылі для чалавецтва!..**

Гэта блізкасць да бацькоўскага парога выяўлена паэтам шмат разоў і па-рознаму, але з найбольшай, мабыць, выразнасцю — у «Вершах народнага складу» (так называецца раздзел з кнігі «Калі ў дарозе ты...»). Гэтыя вершы палоняць уменнем паэта зліцца са стыхіяй народнай паэтычнай творчасці. У іх жыве — на высокім узроўні красы і натхнення — народны побыт, традыцыі, абрады. Сказаць, што перад намі проста ўдалыя стылізацыі, перапрацоўкі — незаслужана мала. Увесь раздзел прасякнуты любоўю і пашанай да спадчыны і душы народнай і крышталіць чысцінёй пачуццяў...

Паэт патрабавальны да сябе. Ён мерае зробленае высокім рахункам. Ёсць верш, у якім гэта выказана А. Лойкам вельмі адметна, па-свойму:

**Ізноў бянтэжуся, нямею.**
**Хаваю ад другіх тугу,**
**Што анічога я не ўмею,**
**Што анічога не магу.**
**Каб не рабіў, не меў надзеі,**
**Не гнуўся радасна ў дугу,**
**Не ведаў бы, што так не ўмею,**
**Што так адчайна не магу...**
**А так — трывога, жаль і скруха,**
**Жыву ў нясплочаным даўгу!..**
**Без намаганняў і без руху**
**Ніяк, аднак жа, не магу!..**

І зноў жа, як гэта ўсё ў характары героя Алега Лойкі — і сарамяжная цнатлівасць, і нястрымная прага жыцця і дзейнасці, і адчуванне «нясплочанага доўгу», і — намаганне, напружанне, што напаўняе перажыванне ўнутраным зместам.

Змаганне з сабой і перамога над сабой, над сваімі слабасцямі і недахопа-

мі — пастаянная ўнутраная праграма героя паэзіі А. Лойкі. З яе менавіта і пачынаецца яго клопат пра душэўную прыгажосць, пра шчырасць, чуласць у чалавечых адносінах, пра маральны клімат грамадства:

**Бой пачынай — штодзённы бой,—**
**Бой з тупасцю, як пень, тупой,**
**Бой з чэрствасцю, як час, скупой,**
**Бой з крывадушнасцю любой,**
**Бяскроўны, ды смяротны бой!..**

Гэта — чытацкія ўражанні. Я кажу пра тое, што мне падабаецца ў паэзіі А. Лойкі. І мне хочацца цытаваць многія яго радкі. Пра подзвіг беларускага народа ў гады Вялікай Айчыннай вайны, пра «плошчаў светлыя далоні» нашай сталіцы, пра белыя пазалочаныя сонцам сцены Нафтабуда над Дзвіной. Запамінаюцца многія мясціны ў вершах «філасофскага плана» («Ачышчаюць агонь і вада...», «Звоніць нада мной выток трывог, пытанняў і кахання», «Хвайняк, хвайняк»), многія словы пра сяброўства, пра суд сумлення, пра адказнасць — ваяўніча скіраваныя супраць дэмагогіі, махлярства, пустой балбатні, прыстасаванства, душэўнай глухаты і невідучасці.

І ўсё ж нельга не заўважыць некаторыя слабасці паэта. У Алега Лойкі багата вершаў і радкоў, у якіх пераважае над усім крыху ідылічнае замілаванне светам і людзьмі. Мы не скажам, што ў гэтым ёсць нешта благое. Але адчуваецца аднатыпнасць перажыванняў, падабенства лірычных хадоў, інтанацый, што не можа не ўплываць на наша агульнае ўражанне.

Пры ўсёй шырыні і разнастайнасці інтарэсаў паэта, багацці матываў і тэм яму ўсё ж нібы нестае нейкай раскутасці мыслення, шырыні ўспрыняццяў. Ход перажывання ў большасці яго вершаў звычайна прамы: у стыхіі пачуццяў пераважае прынцып прамой паэтызацыі прадметаў і з'яў жыцця. Сістэма асацыяцый некалькі абмежавана традыцыйнай вобразнасцю. Ці не таму ствараецца ўражанне, што перажыванне ў некаторых вершах развіваецца па лягчэйшым, тораным кірунку. Здараецца, што паэт, захоплены пачуццём, быццам не дбае пра прыватнасці. (А ў «матэрыі» верша прыватнасцяў, як вядома, няма). І паяўляюцца радкі з «цяжкой фанетыкай» («Лавы нат з хаты цягнуў ён, браў нат мякіну з гумнаў...», «Дзяды-земляробы пра шчасце вельмі па-простаму мыслілі: каб хлеба — не як прычасце...»), выпадковыя адгалінаванні паэтычнай думкі і да т. п.

Мабыць (гэта ўжо, зрэшты, датычыцца многіх нашых паэтаў), трэба шукаць нейкія больш адчувальныя кантакты са з'явамі і фактамі, з матэрыялам нашай сучаснасці. Мала нам даводзіцца чытаць вершаў, у якіх адбіваюцца нейкія вострыя, супярэчлівыя, набалелыя пытанні жыцця, рэалізаваныя сюжэтна, як падзея, як ланцуг фактаў, праз якія паэтычнае пачуццё знаходзіць выйсце ў свет.

Паэт — у дарозе. Наперадзе ў яго, як напісаў ён аднойчы, яшчэ не адзін «непрыйдзены парог». Верыцца ў яго ўдачы, у новыя душэўныя спатканні «з дабром, цяплом, сардэчнасцю сяброў».

**Ларыса КАРОТКАЯ.**





**А. БЯЛЯЕЎ, Б. СЫРАМЯТНІКАЎ, В. УГРЫНОВІЧ**

# ПРАВАЛ АКЦЫІ «ЦЭПЕЛІН»

4

Амаль адразу ж пасля прыезду ў Рыгу Краўс прадставіў Палітава двум новым інструктарам, якія павінны былі займацца з ім штодзённа. Адзін з інструктараў, Палбіцын, меў біяграфію як дзве кроплі вады падобную на біяграфію Палітава. У мінулым буйны крымінальнік, асуджаны за згвалтаванне і забойства, ён добраахвотна перайшоў на бок немцаў і, працуючы ў органах разведкі, вельмі хутка зрабіў кар'еру. Палбіцын атрымаў званне капітана СС і быў прызначаны на пасаду начальніка аддзела паўночнай каманды разведоргана «Цэпелін».

Спецыялізаваўся Палбіцын у асноўным на падробцы фальшывых дакументаў, пячатак, штампаў, а таксама на экіпіроўцы і снараджэнні агентаў, якіх засылалі ў Савецкі Саюз.

Другі — П. П. Дэле, ён жа Ланге,— трапіў на службу да немцаў некалькі іншым шляхам. Гэта быў тыповы патомак старога дваранскага роду, выгнаны з Расіі рэвалюцыяй, перакананы манархіст і злосны антысаветчык. Дэле меў чын оберштурмфюрара СС і кіраваў гатчынскай групай бяспекі СД.

Як Палбіцын, так і Дэле з першага ж дня прынялі самы актыўны ўдзел у падрыхтоўцы Палітава. Пад гэты час быў ужо канчаткова зацверджаны план закідкі Палітава і Шылавай у савецкі тыл. Было вырашана, што Палітаў будзе дзейнічаць пад выглядам маёра Чырвонай Арміі, які атрымаў адпачынак пасля цяжкага ранення. Улічваючы гэта, новыя настаўнікі пры падрыхтоўцы Палітава падзялілі між сабою абавязкі такім чынам: Палбіцын заняўся з ім стральбой і падробкай дакументаў, якія сведчылі аб асобе Палітава, а Дэле дэталёва распрацаваў легенду аб знаходжанні Палітава на фронце, яго раненні і лячэнні ў шпіталі.

У канцы студзеня Палітава запрасіў да сябе Краўс.

— У нашай падрыхтоўцы не павінна быць ніякіх упушчэнняў,— сказаў ён.— Вам давядзецца легчы ў шпіталь і зрабіць пластычную аперацыю.

Палітаў адказаў, што ён гатоў.

— Але не хацелася б, каб хто-небудзь пра гэта ведаў,— папярэдзіў Краўс.— Нават вашу жонку не варта знаёміць з гэтай гісторыяй. Што калі мы пусцім чутку аб вашым тэрміновым ад'ездзе на фронт?

— Думаю, што гэта ні ў кога не выкліча ніякіх падазрэнняў,— адказаў Палітаў і ў той жа вечар паведаміў Шылавай аб камандзіроўцы ў дзеючую армію.

Раніцай наступнага дня да гасцініцы «Эксельсіёр» была пададзена машына, якая нібыта павінна была адвезці Палітава на вакзал. Палітаў развітаўся з жонкай і накіраваўся ў дарогу. Але замест вакзала апынуўся ў нямецкім ваенным шпіталі. Тут пад наркозам яму была зроблена складаная аперацыя, а праз два дні ў нумар да Шылавай з'явіўся Краўс і паведаміў ёй аб тым, што Палітаў трапіў пад бамбёжку, атрымаў раненне, але своечасова быў дастаўлены ў шпіталь і зараз знаходзіцца ў бяспечным месцы. Пра гэта ж было сказана і іншым асобам, якія мелі кантакт з Палітавым, а праз тры тыдні гэтую версію пацвердзіў і сам Палітаў, вярнуўшыся са шпіталя.

Пакуль Палітаў знаходзіўся ў шпіталі, яго шэфы прадаўжалі работу. Палбіцын, параіўшыся з Краўсам, рашыў, што Залатая Зорка Героя Савецкага Саюза павысіць шанцы новаспечанага маёра Чырвонай Арміі і зрабіў адпаведнае запытанне ў Берлін. Неўзабаве адтуль быў атрыманы ордэн Леніна і Залатая Зорка, якія меў генерал-маёр Чырвонай Арміі Іван Міхайлавіч Шэпетаў: ён вызначыўся ў баях 1941 года і пасля быў закатаваны ў фашысцкіх засценках.

Ордэн Чырвонага Сцяга, ордэн Аляксандра Неўскага, два ордэны Чырвонай Зоркі і два медалі «За адвагу» Краўс і Палбіцын лёгка знайшлі на месцы. На права нашэння ўсіх гэтых узнагарод былі зроблены адпаведныя дакументы, і Палітаў з гэтага часу стаў Таўрыным.

Заканчэнне.
Пачатак гл. «Маладосць» № 3.



Фіктыўныя дакументы, прад'яўленыя Палітавым пры затрыманні.

10 лютага ў Рыгу з Берліна прыбыў ужо знаёмы Палітаву маёр тэхнічнай службы. Ён прывёз зробленую ім д'ябальскую зброю. З гэтага дня Палітаў пачаў трэніравацца ў стральбе з «Панцэркнаке». Прывычную страляніну з пісталета замяніла змяінае шыпенне рэактыўных снарадаў. «Панцэркнаке» дзейнічала бездакорна. Снарады трапна клаліся ў цэль і прапальвалі браню ў 45 міліметраў. Палітаў крыху супакоіўся, бо як ён ні храбрыўся, як ні стараўся прадэманстраваць перад сваімі гаспадарамі сваё бясстрашша і сваю адданасць, на душы ў яго было неспакойна. Хто-хто, а ён выдатна разумеў, што адна справа — працаваць на акупаванай тэрыторыі, другая — сустрэцца са сваімі суайчыннікамі ў савецкім тыле. Але калі Палітаў баяўся прадстаячай аперацыі, то ў Берліне, наадварот, паверылі ў яе поспех. На самым апошнім этапе падрыхтоўкі заданне Палітаву было пашырана.

Усё той жа маёр тэхнічнай службы, зрабіўшы яшчэ адну паездку ў сваю сталіцу, прывёз адтуль нейкую скрынку. У ёй аказалася магутная магнітная міна з радыёўзрывальнікам, які ўзрываўся па радыёсігнале з адлегласці на некалькі кіламетраў.

— Гэта вельмі добрая рэч. На яе мы ўскладаем свае галоўныя надзеі,— паказваючы міну Палітаву, сказаў Краўс.— Як герой свайго народа вы павінны пабываць на адным з урачыстых сходаў, дзе будуць прысутнічаць кіраўнікі, і прынесці туды гэтую міну. Потым вы выйдзеце з залы і тым самым захаваеце сябе. А ўсё астатняе зробіць ваша жонка. У прызначаны час яна дасць радыёсігнал, і ўрачысты сход ператворыцца ва ўрачыстае пахаванне,— зарагатаў Краўс.

— Усё будзе зроблена,— запэўніў Палітаў, хоць і адчуў, што варыянт з мінай яшчэ больш немагчымы, чым варыянт з «Панцэркнаке».

На гэтым падрыхтоўка Палітава фактычна закончылася. Дарабіць засталося зусім нямногае, а менавіта: пашыць Палітаву і Шылавай форму, даць ім магчымасць на працягу некалькіх дзён абнасіць яе, добра схаваць у матацыкле радыёстанцыю, зброю, грошы, запасныя дакументы і розныя пячаткі і падрыхтаваць матацыкл да надзейнай эксплуатацыі.

Але тут Палбіцыну прыйшла ў галаву яшчэ адна ідэя. Ён здабыў па экземпляры газет «Правда» і «Известия» і перадрукаваў іх на чыстай паперы слова ў слова, з адным толькі невялікім змяненнем. У сфабрыкаваным нумары «Правды» ён надрукаваў нарыс пра подзвіг маёра Таўрына і ўціснуў яго партрэт. А ў нумары «Известий» паддрукаваў ва Указе Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР аб прысваенні звання Героя Савецкага Саюза радавому, сержанцкаму і афіцэрскаму саставу Чырвонай Арміі прозвішча, імя і імя па бацьку новаспечанага маёра. На думку Палбіцына, гэта павінна было засцерагчы Палітава ад усялякіх падазрэнняў больш надзейна, чым усе іншыя дакументы.

І яшчэ адно мерапрыемства ажыццявіў у гэтыя дні Палбіцын. Улучыўшы момант, ён, па заданні Краўса, у апошні раз праверыў Палітава. Застаўшыся неяк пасля заняткаў з вока на вока, Палбіцын «разгаварыўся»:

— А справы ж у немцаў швах. Падобна на тое, што ім давядзецца адсюль уцякаць.

На гэта Палітаў адказаў няпэўна:

— Нам што? Пойдзем разам з імі. Еўропа вялікая, месца ўсім хопіць.

— Не кажы,— гнуў сваё Палбіцын і зашаптаў Палітаву на вуха:— Падумай лепш, ці не час нам мяняць гаспадароў?

Палітаў зразумеў, куды хіліць Палбіцын.

— А па-мойму, асаблівых падстаў для хвалявання няма,— адрэзаў ён.— Няўдачы на фронце часовыя. Чуў, што Гебельс гаворыць пра новую зброю? Немцы сябе яшчэ пакажуць.

— Дай бог! — адразу рэцыраваўся Палбіцын і пажадаў Палітаву паспяхова выканаць задачу.

## 5

Супраць фронту бачнага заўсёды стаіць бачны фронт. Супраць фронту нябачнага — нябачны фронт. І хоць гітлераўцы ў самым вялікім сакрэце трымалі работу сваіх разведвальных органаў, савецкія чэкісты мелі пра іх дастатковую інфармацыю. Зусім ясна, што Рыга, дзе сканцэнтравана нямала тайных сіл праціўніка, ні на хвіліну не выпадала з-пад увагі савецкіх разведчыкаў.

Палітаў так і не дазнаўся, чаму яго перавялі з Пскова ў Рыгу. Яму тады толькі сказалі, што дадзеныя ўмовы для яго будуць больш мэтазгодныя, але што хавaецца за гэтай цьмянай фразай, чым





сапраўды быў выкліканы перавод, тлумачыць не сталі, хоць падстаў для пераводу ў кіраўніцтва «Цэпеліна» было больш чым дастаткова.

У навагоднюю ноч 1944 года быў схоплены разам з вельмі важнымі дакументамі памочнік начальніка разведвальна-дыверсійнай школы обершарфюрар СС здраднік Радзімы Лашкоў-Гур'янаў. Гэтую надзвычай дзёрзкую па задуме аперацыю бліскуча правялі чэкісты на чале са старшым лейтэнантам Георгіем Пяткіным.

Задоўга да пачатку аперацыі яны выявілі, што ў ваколіцах Пскова, у вёсцы Печкі, знаходзіцца гняздо разведоргана «Цэпеліна» — школа па падрыхтоўцы шпіёнаў і дыверсантаў, якіх засылаюць у савецкі тыл. Устанавіўшы гэта, яны ўзялі яе пад свой нагляд. На пачатку звесткі пра школу збіраліся з дапамогай савецкіх патрыётаў — жыхароў вёскі і яе ваколіц. Пазней чэкістам удалося накіраваць у школу свайго чалавека — лейтэнанта Аляксандра Лазарава, які хутка ўвайшоў у давер да немцаў і ўладкаваўся вартаўніком.

13 снежня сорак трэцяга года ён пераправіў запіску:

«Намечанай мэты дасягнуў, ваша заданне выканана поўнасцю, прыкладаю схему пастоў «Ш», а таксама прозвішчы і іх установачныя дадзеныя. Чакаю вашых указанняў на далейшае дзеянне».

З запіскі чэкісты таксама даведаліся, што начальнік школы маёр СС Хорват і яго памочнік Лашкоў-Гур'янаў жывуць у асобных катэджах, якія размешчаны на адлегласці 300 метраў адзін ад аднаго, варты асаблівай каля катэджаў няма, пасты аховы тэрыторыі школы былі пазначаны.

Пяткін паставіў перад Лазаравым шэраг новых задач і неўзабаве атрымаў ад яго запіску наступнага зместу:

«Прыкладаю дэкадны пароль, спіс кіруючых асоб школы і інш. У сучасны момант уваходжу ў давер да камандавання, прызначаны камандзірам узвода аховы школы, маю вялікае знаёмства».

Занятае Лазаравым становішча і прадстаўленая ім інфармацыя дазволілі аператыўным работнікам запланаваць захоп дакументаў і аднаго з кіраўнікоў школы. Выконваючы план гэтай аперацыі, Пяткін падрыхтаваў у дапамогу Лазараву трох «гестапаўцаў». Імі былі партызаны — латыш Біцбул і два эстонцы — Вілем і Іёхані.

У пярэдадзень Новага года ўсе трое выехалі ў Печкі. Згодна першапачатковай задуме, меркавалася захапіць маёра Хорвата. Але яго нечакана выклікалі ў Берлін, таму чэкісты пераарыентаваліся на Лашкова-Гур'янава.

Лазараў асабіста сустрэў «гестапаўцаў» ля брамы школы і па іх патрабаванні праводзіў усіх трох у катэдж Лашкова-Гур'янава. Роўна а чацвёртай гадзіне раніцы «гестапаўцы» разам з Лашковым-Гур'янавым і чамаданамі, наладаванымі дакументамі, пакінулі школу. Камандзір узвода аховы Лазараў зноў праводзіў іх да шашы. У школу ён вядома, не вярнуўся.

У выніку гэтай аперацыі савецкія чэкісты атрымалі ў свае рукі выключна каштоўныя звесткі аб падрыхтоўцы гітлераўскіх разведчыкаў, а штурмбанфюрар СС Краўс быў выкліканы ў Берлін і атрымаў такую прачуханку, ад якой доўга не мог апамятацца.

Не менш актыўна працавалі савецкія чэкісты і ў Рызе. Так, у сярэдзіне сакавіка ў адну са швейных майстэрняў, якія абслугоўвалі акупацыйных афіцэраў Рыгі, прыбыў эсэсавец. Ён паклікаў дырэктара. Той адразу ж з'явіўся. Эсэсавец перадаў яму вялікі скрутак добра выробленых хромавых скур і ўручыў запіску. У ёй было сказана, што з гэтых скур неабходна вельмі тэрмінова пашыць мужчынскае паліто і што фасон паліто і ўсе меркі праз дзень дырэктару перададуць дадаткова. Дырэктар запэўніў эсэсаўца, што ўсё будзе зроблена самым найлепшым чынам і пасля таго, як той пайшоў, яшчэ раз перачытаў запіску. Тэкст яе не выклікаў у яго ніякіх падазрэнняў, але подпіс «штурмбанфюрар Краўс» прымусіў насцярожыцца.

Праз дзень у майстэрню сапраўды завітаў высокі, круглатвары мужчына і папрасіў зняць мерку для паліто. Дырэктар асабіста абмераў наведвальніка і, гасцінна расклаўшы перад ім часопісы навейшых еўрапейскіх модаў, прапанаваў выбраць фасон. Аднак заказчык нават не зглянуў у часопісы.

— Пашыйце мне па рускім узоры,— папрасіў ён.

Дырэктар не стаў пярэчыць. Ён сказаў, што праз два дні паліто будзе гатова, і пры гэтым ветліва папрасіў пана ўказаць свой адрас, каб можна было даставіць заказчыку паліто на дом. Аднак заказ-



Аўтаматычны пісталет і камплект атручаных разрыўных куль да яго, адабраныя ў Палітава.



Спецыяльны апарат «Панцэркнаке», якім быў узброены Палітаў для здзяйснення тэрарыстычнага акта над прадстаўнікамі савецкага Галоўнага камандавання.

чык ад гэтай паслугі адмовіўся і паабяцаў прыйсці па паліто асабіста. Дакладна ў прызначаны тэрмін ён зноў з'явіўся ў майстэрню і, прымераўшы ўжо гатовае паліто, нечакана прапанаваў нехалькі падоўжыць правы рукаў, а на левым баку зрабіць дзве кішэні.

Усё гэта адразу ж было зроблена, і наведвальнік, атрымаўшы заказ, пайшоў. Услед за ім выйшаў хлопчык-разносчык. Праз гадзіну ён ужо ведаў, што новы кліент жыве ў «Эксельсіёры». Гэта таксама падалося цікавым. У названай гасцініцы спыняліся толькі вышэйшыя нямецкія афіцэры.

З гэтага дня за Палітавым пачала назіраць савецкая разведка, якая дзейнічала ў акупаванай Рызе. Хутка было дакладна ўстаноўлена кола людзей, з якімі ён сустракаўся, месцы, дзе ён бываў.

Крыху пазней, ужо ў чэрвені, армейскім чэкістам з іншых крыніц стала вядома, што на тэрыторыю СССР немцы накіроўваюць агентурную групу Л. з задачай падабраць пляцоўку для высадкі са спецыяльнага дэсантнага самалёта. Ваенныя контрразведчыкі далі магчымасць групе Л. высадзіцца ў лясах Смаленшчыны, а калі яна радзіравала ў Берлін аб тым, што пляцоўка для самалёта падабрана і ўказала яе каардынаты, чэкісты абясшкодзілі групу і зрабілі вакол пляцоўкі засаду.

Тады, канечне, яшчэ не было вядома, што паліто з падоўжаным рукавом, група Л. і іншыя разрозненыя дадзеныя — звенні аднаго ланцуга. Але так ці інакш да прыёму нечаканых наведвальнікаў усё было гатова.



Камплект літар з прыладай для набору, ручны металічны прэс для пашпартоў, адбіткі пячатак і штампаў розных савецкіх вайсковых часцей, якія былі знойдзены ў Палітава і Шылавай.

### 6

Позна ўвечары 5 верасня 1944 года на ваенны аэрадром Рыгі прызямліўся самалёт «Арада-332». У яго па спецыяльным трапе закацілі матацыкл маркі «М-72» і замацавалі ў фюзеляжы з дапамогай асобага прыстасавання. Пасля гэтага да самалёта падышлі Палітаў і Шылава. Іх праводзілі Краўс, Палбіцын і Дэле. Адлятаючыя былі апрануты ў форму савецкіх афіцэраў. На плячах у Палітава залаціліся пагоны маёра. Шылава мела пагоны малодшага лейтэнанта медыцынскай службы. Палбіцын у апошні раз агледзеў сваіх падапечных, паправіў у Палітава на грудзях ордэны.

Пасля гэтага Краўс адвёў Палітава ўбок і ўручыў яму ампулу з атрутай.

— Гэта на выпадак, калі для вас і для вашай жонкі створыцца безвыходнае становішча. Вы не павінны трапіць жывымі ў рукі ЧК...

Палітаў хваравіта зморшчыўся, але ўжо ў наступны момант рашуча запхнуў ампулу ў кішэню.

Як толькі дзверы фюзеляжа зачыніліся і «Арада» вырулiў на ўзлётную паласу, Дэле змрочна заўважыў:

— Два гады назад гэтая аперацыя мела на поспех куды большыя шанцы.

Краўс кіўнуў галавою:

— Я з вамі згодзен. Але мы і цяпер зрабілі ўсё магчымае для яе здзяйснення. Па самых сціплых падліках, гэтая задума нам каштуе ўжо чатыры мільёны марак.

Маторы «Арада» запрацавалі на поўную магутнасць, і размова спынілася. «Арада» ўзляцеў і ўзяў курс на ўсход.

Лінію фронту самалёт перасек у поўнай цемры. Недзе ўнізе, пад самалётам, чародамі паўзлі хмары і ішоў дождж. Пра гэта агентам паведаміў бортрадыст самалёта. Ён жа інфармаваў іх і аб праходжанні маршрута. Да месца пасадкі заставалася ўсяго паўгадзіны лёту.

Раптам цёмную тоўшчу неба, нібы меч, рассек зіхатлівы прамень пражэктара. Справа і злева ад яго жоўтым полымем палыхнулі выбухі зенітных снарадаў. Пілот адразу ж павялічыў абароты вінта і павёў машыну ўгору. Чарговая серыя выбухаў легла ўбаку. Але зіхатлівыя шчупальцы падбіраліся да самалёта ўсё бліжэй і бліжэй. Самалёт рэзка змяніў курс. Аднак і гэта не памагло. Успыхнуў другі прамень пражэктара, затым трэці. «Арада» ўзялі ў абцугі. Кабіну самалёта залілo сляпучым святлом. Яна ўся нібы ўспыхнула. Шылава, якая ні разу не была ў такім пераплёце, збялела. Палітаў таксама адчуў, як па спіне ў яго пабеглі мурашкі.

— Апусціце жалюзі на вокнах,— пачуў ён голас камандзіра самалёта.

Палітаў адразу ж выканаў загад, у самалёце стала цёмна. Зенітныя снарады рваліся і справа і злева, спераду і ззаду, унізе і зверху... Некалькі асколкаў прабілі фюзеляж. Пілот яшчэ раз змяніў курс, і толькі пасля гэтага «Арада» выйшаў з-пад абстрэлу. Але прабіцца да вызначанага месца пасадкі ўжо не ўдалося.

— Давядзецца садзіцца на запасную пляцоўку,— перадаў Палітаву камандзір.

— Рабіце, што хочаце,— змрочна адказаў Палітаў,— але пастарайцеся зберагчы нас і матацыкл.

А трэцяй гадзіне ночы самалёт удала прызямліўся на Смаленшчыне. Палітаў адразу ж спусціў па трапе матацыкл і, спехам развітаўшыся з экіпажам, разам з Шылавай знік у лесе.

### 7

Засада ваенных контрразведчыкаў, арганізаваная каля месца пасадкі самалёта, была гатова да прыёму начных гасцей. Аднак час ішоў, а самалёт не з'яўляўся. Старшы паведаміў пра гэта па радыё ў свой штаб. Работнікі штаба зараз жа звязаліся з камандным пунктам супрацьпаветранай абароны. Карціна хутка праяснілася. Але цяпер ужо захваляваўся камандны пункт.

— Што рабіць з парушальнікам? — запыталі з каманднага пункта.— Зараз можам узняць перахватчык і збіць яго.

Чэкісты адказалі, што пажадана захапіць самалёт пры пасадцы, і папрасілі камандны пункт не выпускаць парушальніка з-пад назірання. Каля трох гадзін ночы з каманднага пункта паведамілі, што самалёт пайшоў на зніжэнне ў раёне Карманава Смаленскай вобласці. Чэкісты неадкладна паведамілі пра гэта начальніку Карманаўскага раённага аддзела НКУС. Той, узняўшы па трывозе групу аператыўных работнікаў і афіцэраў ваеннага камісарыята, адправіўся на перахват.

Аднак як ні спяшалася карманаўская група, злавіць дыверсантаў на месцы прызямлення яна не здолела. Ёй удалося толькі захапіць самалёт, які ў часе пасадкі пашкодзіў вінты і ўзляцець ужо не змог.

Выявіўшы абстаноўку, чэкісты хутка разбіліся на некалькі пошукавых груп і занялі месцы на дарогах. Досвіткам на магістралі, што вяла да Ржэва, адна з з груп заўважыла матацыкл з каляскай, на якім ехалі двое вайскоўцаў: мужчына і жанчына. Адзін з аператыўных работнікаў спыніў іх і папрасіў прад'явіць дакументы. Сядзеўшы за рулём матацыкла маёр з Залатой Зоркай Героя Савецкага Саюза прад'явіў пасведчанне асобы і адпускны білет. У малодшага лейтэнанта медыцынскай службы таксама ўсё аказалася ў парадку.

— Адкуль едзеце? — спытаў чэкіст.

Маёр назваў пункт. Ад месца сустрэчы ён знаходзіўся кіламетраў за дзвесце.

«Значыць, ехалі гадзіны чатыры. Але ўсю ноч быў дождж, а яны сухія. Дзіўна!» — падумаў чэкіст і адразу ж западозрыў нядобрае.

— Вы выязджаеце з прыфрантавога раёна. Вам неабходна зрабіць адзнаку ў райваенкамаце,— сказаў ён.

Нічога не падазраючы, Палітаў збочыў у завулак.

Праз гадзіну ўсё было скончана. Пры вобыску ў тэрарыстаў знайшлі сем пісталетаў (разрыўныя кулі, якія прызначаліся для аднаго з іх, былі начынены атрутай, якая выклікала імгненную смерць), радыёстанцыю, «Панцэркнаке» і снарады да яго, спецыяльную міну, ручныя гранаты, 428 тысяч рублёў савецкіх грошай, 116 сапраўдных і падробных пячатак і штампаў, дзесяткі розных бланкаў, якія забяспечваюць падробку многіх дакументаў, што дзейнічалі ў СССР.

Так бясслаўна закончылася гэтая акцыя, падрыхтаваная фашысцкай разведкай.

Дзякуючы ўмелай рабоце савецкай контрразведкі Палітаў і Шылава былі абясшкоджаны. Яны атрымалі па заслугах. Кіраўніцтва ж галоўнага ўпраўлення імперскай бяспекі Германіі і разведорган «Цэпелін» яшчэ доўга атрымлівалі па палітаўскай рацыі інфармацыю аб тым, што падрыхтоўка да выканання задання ідзе добра.

■■■

# ЗОРНАЯ КАРТА КАПІЕВІЧА

У працэсе пашырэння навуковых ведаў на Беларусі значнае месца належыць беларуска-рускім культурным сувязям. Гэта вельмі яскрава выявілася ў дзейнасці выдатнага сына беларускага народа, вядомага асветніка пятроўскай эпохі Іллі Фёдаравіча Капіевіча (1651—1714). І. Капіевіч (па некаторых крыніцах Капіеўскі) вучыўся ў Слуцкай гімназіі, у так званых «Слуцкіх Афінах». Гэта была адна з найлепшых у той час навучальных устаноў на Беларусі, якая давала высокую і рознабаковую адукацыю. Менавіта гэта, а таксама прыродныя здольнасці і жаданне садзейнічаць развіццю асветы на Беларусі і ў Расіі дазволілі І. Капіевічу ў кароткі час падрыхтаваць і выдаць на рускай мове шэраг кніг па розных галінах ведаў. Сярод іх былі кнігі па гісторыі і рускай граматыцы, па астраноміі і арыфметыцы, дапаможнік па марской справе, слоўнікі, каляндар, байкі Эзопа і шэраг іншых.

Вельмі карыснай на той час была праца І. Капіевіча па астраноміі «Уготование и толкование ясное и зело изрядное красно образного поверстания кругов небесных...», якая была выдадзена ў 1699 г. па просьбе Пятра I у друкарні Я. Тэсінга ў Амстэрдаме. Гэта была зорная карта з падрабязным апісаннем, як ёю карыстацца. Яна прызначалася ў асноўным для школ «Матэматычных і навігацкіх хітрасна навук вучэння», адкрытай у Маскве ў 1701 г. і давала магчымасць рашаць шэраг задач практычнай і мараходнай астраноміі. Даследаваннямі ўстаноўлена, што гэта была першая на рускай мове карта зорнага неба.

Да канца XVII стагоддзя ў Расіі не было зорных картаў, якімі можна было б карыстацца для вывучэння зорнага неба, арыентавання, вызначэння дакладнага часу і рашэння іншых задач практычнай астраноміі. У некаторых перакладных рукапісных касмаграфіях і іншых дапаможніках па астраноміі даваліся малюнкі паасобных сузор'яў і знакаў задыяка ў выглядзе міфічных фігур людзей і жывёл. Зразумела, што гэтыя малюнкі былі пазбаўлены матэматычнай дакладнасці і імі зусім нельга было карыстацца для сістэматычнага вывучэння зорнага неба і, тым больш, для правядзення дакладных астранамічных назіранняў і разлікаў.

Аўтар карты падкрэслівае, што яна выдадзена на «карысць і ўцяшэнне» людзям, якія любяць астраномію. У той час на Беларусі і ў Расіі астраноміяй пачынаюць цікавіцца не толькі як навукай, звязанай з будовай Сусвету, але і як навукай практычнай, неабходнай у жыцці. Складанне геаграфічных картаў, вызначэнне каардынат населеных пунктаў, дакладнае вызначэнне часу, марскія і зямныя падарожжы—усё гэта патрабавала астранамічных ведаў і ўмення карыстацца зорнымі картамі і астранамічнымі прыладамі. Гэта выклікала ў людзей цікавасць да розных астранамічных прылад і імкненне набыць іх. Пятру I нават прыйшлося забараніць продаж астранамічных прылад, якія прывозілі замежныя купцы, да таго часу, пакуль яны не будуць дастаўлены ў Маскву. У гэтым сэнсе характэрным з'яўляецца выпадак, пра які сам І. Капіевіч піша цару. Двое рускіх дваран, прысланыя да І. Капіевіча ў Амстэрдам вучыцца, ад'язджаючы ў Расію, забралі ў яго два глобусы, не заплаціўшы за іх грошай. Цікава адзначыць, што вучні Капіевіча ўзялі не якія-небудзь каштоўнасці ці яго асабістыя рэчы, а менавіта глобусы.

Зорная карта І. Капіевіча «Поверстание кругов небесных» давала магчымасць рашаць шмат задач практычнай і сферычнай астраноміі.

Захавалася чатыры экземпляры карты І. Капіевіча: адзін у Бібліятэцы імя У. І. Леніна ў Маскве, астатнія—у Ленінградзе: адзін у Эрмітажы, два—у рукапісным аддзеле Бібліятэкі АН СССР. Да карты дадавалася невялікая кніжка з падрабязным апісаннем карты і спосабаў рашэння задач, з тлумачэннем астранамічнай і марской тэрміналогіі. Сама карта была выгравіравана на лісце медзі даўжынёй 56 і шырынёй 48 сантыметраў, з якога можна было рабіць чорна-белыя адбіткі на паперы. На адбітках дзяленні градусаў і месяцаў, фігуры сузор'яў былі намаляваны рознымі фарбамі, а зоркі—залатой фарбай. Розныя экземпляры карты маюць розную афарбоўку, відаць, уладальнікі гэтых картаў размалёўвалі іх на свой густ.







Уся рабочая паверхня карты падзяляецца на чатыры часткі (чвэрці). На палях карты адпаведна для кожнай чвэрці выпісаны назвы сузор'яў і некаторых зорак. Як піша сам І. Капіевіч, назвы зорак і сузор'яў ён пераклаў з грэчаскай і лацінскай мовы. Усяго на сваёй карце аўтар называе 53 сузор'і, гэта прыкладна столькі ж, колькі даецца на сучасных рухомых картах зорнага неба. І. Капіевіч дае агульнапрызнаныя ў той час назвы сузор'яў, захоўваючы міфалагічную сувязь паміж імі. Вось некалькі прыкладаў. «Андрамеда—пакутніца, звязаная. Касіяпея — маці пакутніцы Андрамеды. Цэфей — бацька Андрамеды. Галава Мядузы, або шчыт Персеея. Цэт, або Кіт». Назвы гэтых сузор'яў звязаны паміж сабою цікавай легендай, гэта і адлюстравалася ў тлумачэннях І. Капіевіча.

У некаторых выпадках аўтар адыходзіць ад міфалагічнага тлумачэння назваў сузор'яў і дае свае назвы і тлумачэнні. Відаць, ён лічыў, што яго назвы сузор'яў будуць больш зразумелыя, а некаторыя, мабыць, хацеў наблізіць да народных назваў. Так, Вялікую і Малую Мядзведзіцы ён называе «Больша Воз» і «Менша Воз», што сапраўды адпавядае народным назвам гэтых сузор'яў на Беларусі. Вось што піша пра гэтыя сузор'і І. Капіевіч. «Урса маёр (літаральна—Вялікая Мядзведзіца), або Воз Больша; чатыры зоркі сукупна з трыма над хвастом ёсць Воз. Урса меншая (Малая Мядзведзіца; па аналогіі з папярэдняй назвай трэба было б напісаць «Урса мінор»), або Менша Воз; два колы апошнія ёсць Вартавыя (так называліся гэтыя дзве зоркі ў сярэдневяковых мараплаўцаў) і пярэдні конь ёсць зорка паўночная (Палярная зорка)».

Пры тлумачэнні назваў некаторых сузор'яў І. Капіевіч дае крыху спрошчаны пераклад, а часам уводзіць новыя назвы. Так, напрыклад, Цялец—гэта Бык, Капэла—гэта Казёл; Малы Конь — проста Конік, а Пегас—конь, які лётае; Цэнтаўр—палавіна каня, палавіна чалавека. І. Капіевічу здавалася, што лацінскі Ботэс (пастыр, пастух) будзе лепш успрымацца як мужык-скамарох, які водзіць вучонага мядзведзя. Вось тлумачэнні І. Капіевіча: «Бот, або пастыр, які валы жанець (гоніць), але лепш назавецца мядзведнікам, бо ёсць вясковы мужык». Яркую зорку Альдэбаран у сузор'і Цяльца ён называе «Вока быка», а тры яркія зоркі ў сузор'і Арыёна, размешчаныя адна за адной на прамой лініі—так званы «пояс Арыёна»,—«Тры цары».

Імкненне наблізіць незразумелыя назвы сузор'яў да ўмоў жыцця простага чалавека, перанесці на іх назвы жывёл і птушак, вядомых на Беларусі і ў Расіі, адчуваецца ў наступных прыкладах. Так, І. Капіевіч тлумачыць, што Ліра (птушка)— гэта вялікая шэрая сава (няясыць), якая ляціць, а Арол— гэта таксама няясыць, але якая падае; Скарпіён—гэта мядзведка — жук, што жыве ў глебе і знішчае карэнні раслін.

Нельга сцвярджаць, што ўсе назвы сузор'яў, пазначаныя на карце І. Капіевіча, прыжыліся ў астранамічнай літаратуры. Аднак такія як Андрамеда, Арыён, Блізняты, Вознік, Воўк, Гідра, Дзева, Дэльфін, Касіяпея, Лебедзь, Леў, Рак; Страла, Стралец, Цэнтаўр, Цэфей і некаторыя іншыя ўжываюцца ў астранамічнай літаратуры і ў наш час.

Нашаму земляку належыць таксама заслуга ўвядзення такіх навуковых тэрмінаў, як вертыкал, гарызонт, глобус, градус, задыяк, каляндар, компас, паралелі, полюс, схіленне, экватар, экліптыка. Разам з пералічанымі назвамі сузор'яў гэтыя словы стала ўвайшлі ў беларускую і рускую мову і ўжываюцца ў астраноміі, геаграфіі і іншых сумежных навуках.

У тлумачэннях да карты і на самой карце можна сустрэць беларускія словы: Близнята, ведати, друкарня, литеры, между тым, свитание, протягнуть, уготованы, уготование і іншыя (тут яны пададзены ў тым напісанні, якое даваў І. Капіевіч). Зразумела, што гэты пералік не абмяжоўвае ўплыву тагачаснай беларускай мовы на лексіку твораў І. Капіевіча.

Зорная карта І. Капіевіча «Поверстание кругов небесных» адыграла вялікую ролю ў пашырэнні астранамічных ведаў.

**Алесь БОЛСУН,**
**кандыдат фізіка-матэматычных навук.**

# ДЗЕ? ШТО? ЯК?

## САЛЯНЫЯ АЎТАСТРАДЫ



**Камень, бетон, асфальт — звычайныя шасейныя пакрыцці. Тым не менш дарожнікі розных краін не спыняюць эксперыментаў, каб знайсці новыя матэрыялы, прыгодныя для гэтай мэты.**

**У Амерыцы, напрыклад, эксплуатавалася дарога, выкладзеная вялікімі салянымі блокамі. Англійскія інжынеры спраектавалі дарогу з каўчуку. Але, бадай, самы арыгінальны эксперымент праведзены ў Германіі — там шашу вымасцілі... шкляной тарай.**

## УЛЬТРАГУК СУШЫЦЬ ВУГАЛЬ

**За паўмінуты апрацоўкі ён выціскае з вугалю трэцюю частку вады, якая знаходзіцца ў ім. Устаноўку прыдумалі англійскія вынаходнікі.**



## БЯЛКІ З НАФТЫ

**У горадзе Лаверы (Францыя) пабудавана фабрыка для вытворчасці бялковых канцэнтратаў з нафты. Як яны выпрацоўваюцца? У спецыяльных пасудзінах вырошчваюць дражджавыя мікраарганізмы, якія жывяцца парафінам, што ўтрымліваецца ў нафце. Затым на цэнтрыфугах дрожджы аддзяляюцца ад дызельнай сумесі. 100 тон сыравіны даюць каля 90 тон высакаякаснага дызельнага паліва і 10 тон бялковага канцэнтрату. Атрыманы пасля выдалення растваральнікаў і высушвання канчатковы прадукт у выглядзе жаўтаватага парашку без паху можа адразу ісці на корм жывёле.**

## ЦУД-НАСЫ




**Георг Томсан з Англіі вельмі добра адчувае пахі. Яго нос ацэнены ў адзін мільён долараў. Томсан служыць на фірме Джоні Уокер, якая вырабляе сусветна вядомае віскі. Адзін з членаў праўлення фірмы заявіў: «Можна смела сказаць, што якасць нашага віскі залежыць ад носа Томсана».**

**Цяпер на змену натуральным насам пачынаюць прыходзіць штучныя. Не так даўно Цэнтр па вывучэнні пахаў пры тэхналагічным інстытуце ў Чыкага прыняў на работу 150 новых супрацоўнікаў. Яны будуць вучыцца кіраваць 150 штучнымі «насамі».**

**Электронны нос знойдзе прымяненне ў медыцынскай дыягностыцы, у харчовай прамысловасці, у міжпланетных караблях, падводных лодках, у самалётах, якія ўзнімаюцца на вялікую вышыню, у шахтах, у вінаробчай і парфумнай прамысловасці.**

## ЧАРОЎНЫЯ АКУЛЯРЫ

**Цікавы электрычны апарат, які знешне нагадвае акуляры ад сонца, сканструявалі радыёінжынерамі ФРГ. Варта іх надзець, як чалавек адразу моцна засынае.**

**У акуляры ўманціраваны блок мініяцюрных электродаў, якія дакранаюцца да веек. Пры ўключэнні апарата ў электроды ад невялікага пераноснага генератара, які ставяць каля пасцелі, пачынае паступаць электрычны ток. Імпульсы, пададзеныя гэтым генератарам, пачынаюць дзейнічаць на нервовыя цэнтры, якія рэгулююць сон, і праз 5—10 мінут чалавек засынае.**

## РАДЫЁХВАЛІ ПАД ЗЯМЛЁЙ

**Ужо шмат гадоў радыётэхніка выкарыстоўвае ўласцівасць верхніх пластоў атмасферы адбіваць радыёхвалі, якія ідуць на далёкія адлегласці, мінаючы перашкоды на паверхні зямлі. Параўнальна нядаўна пачаліся даследаванні падземнай радыёсувязі. У шэрагу доследаў, якія праводзіліся ў горным ланцугу Чэйен (ЗША), удалося перадаць радыёсігнал на адлегласць 50 км. Вучоныя мяркуюць, што падземная перадача радыёхваль адкрые дарогу новым сістэмам сувязі, менш падвергнутым атмасферным уплывам.**

# ПЛЫВУЧЫЯ АСТРАВЫ

У пачатку семнаццатага стагоддзя барон Валмар фон Унгерн, які правіў у Ліелунгуры, загадаў сваім прыгонным пабудаваць на маленькай рэчцы плаціну, каб стварыць каля сваёй рэзідэнцыі ва Унгурпілскім маёнтку возера.

Яно ўпрыгожыла новы парк. Барон змог катацца на лодцы, палявацъ на качак і вудзіць рыбу.

Якое ж было здзіўленне барона, калі аднойчы, лістападаўскай раніцай 1630 года, выйшаўшы да возера, пасля буры, ён убачыў непадалёк ад берага невялікі гай. Гай... плыў, і па ім бегала казуля, спрабуючы пераскочыць на сушу.

На наступную раніцу гай знаходзіўся ўжо ля супрацьлеглага берага. Барон рашыў, што ўсё гэта справа рук д'ябла, які хоча пабудаваць мост цераз возера. Каб спыніць падкопы «нячыстай сілы», барон вырашыў звярнуцца за дапамогай да мясцовага святара Іонаса Капеніса. Той не адважыўся адзін ісці ў атаку на нячысціка і заклікаў на дапамогу «святых айцоў» з Ліфляндыі— каля 40 чалавек. Як толькі яны, сабраўшыся на беразе таямнічага возера, прыступілі да чытання малітваў, вецер прыгнаў да берага яшчэ два гаі, з якіх даносілася шалёнае карканне варон. Багамолы, угледзеўшы такое, рашылі, што сам нячысцік прыбыў, і пусціліся наўцёк...

Гэтыя звесткі данесла да нас гісторыя аб плывучых астравах. На Унгурскім возеры ў Лімбажскім раёне Латвійскай ССР і зараз можна ўбачыць гэту незвычайную з'яву прыроды.

Паходжанне плывучых астравоў, думаецца, правільна вытлумачыў вядомы савецкі географ і пісьменнік М. Міхайлаў у сваёй кнізе «Ля карты Радзімы». Расказваючы пра стварэнне Рыбінскага мора, ён адзначае, што на тэрыторыі будучага вадасховішча зносіліся дамы, высякаліся лясы, былі перамешчаны сотні населеных пунктаў і некалькі гарадоў. А ўсё тое, што засталося, апынулася пад вадой. Узгоркі сталі астравамі, на іх цвілі вадзяныя гарлачыкі... І, як піша М. Міхайлаў, «здараецца, што з дна ўзнімаецца тарфяны масіў і пачынае вандраваць па новым моры, як плывучы востраў з травой, дрэвамі і пнямі».

Гэтак жа ўзніклі плывучыя астравы на Унгурскім возеры. Калі пабудавалі плаціну і стварылі возера плошчай да 100 гектараў і глыбінёй 5—7 метраў, з балоцістага рэчышча, якое апынулася пад вадой, пачалі ўзнімацца гурмы торфу з хмызняком. Ветрам іх носіць па возеры...

Зараз плывучыя астравы зараслі асакой, трыснягом, кустамі, дрэвамі. Пасля веснавой паводкі яны, як правіла, спыняюцца ля берагоў. Аднак моцным ветрам некаторыя плывучыя астравы ўсё ж адрываюцца ад берага і пускаюцца ў «падарожжа» па возеры. Такіх «падарожнікаў» тут налічваецца каля двух дзесяткаў. Плошча іх дасягае да паўгектара. Самы малады востраў (некалькі соцень квадратных метраў) усплыў на паверхню вады больш як дваццаць гадоў назад.

Мясцовым жыхарам плывучыя астравы даюць дровы, ягады. Астравы сталі любімым месцам адпачынку паляўнічых і рыбаловаў.

Ян МЕЙСТАРС.

■■■

# *А ХТО ЗА «ДЫНАМА»?*

Як гэта не дзіўна, але большасць футбольных спецыялістаў краіны лічаць мінулы XXXIII чэмпіянат СССР па футболе няўдалым. І яны аперыруюць фактамі. Першы паказчык—балельшчык. На некаторых матчах вышэйшай лігі ў Маскве прысутнічала ўсяго па 4—5 тысяч балельшчыкаў. Такое раней у Лужніках не здаралася. Выходзіць, футбол мінулага года быў нецікавы. Нават кіеўскае «Дынама» на сваім стадыёне ні разу не змагло сабраць поўную аўдыторыю. Значыць і ў гульнях лідэра нашага футбола ў мінулым сезоне меліся недахопы. Другі прызёр—ерэванскі «Арарат»—упершыню праявіў сябе не толькі як тэхнічны калектыў, але і як валявы. Армяне ў сустрэчах з маскоўскімі камандамі мелі найлепшыя вынікі. А гэта, як сведчыць практыка, заўсёды вырашала пытанне аб прызёры.

Тбіліскае «Дынама» стала трэцяй камандай. Няўдала выступалі ЦСКА, «Дынама» (Масква), «Спартак».

Амаль упершыню за апошняе дзесяцігоддзе спартыўна-тэхнічнай камісіі і Федэрацыі футбола СССР давялося вырашаць пытанне аб суддзях. Як ніколі многа было ў іх памылак. І далёка не выпадковых. Таму некаторым арбітрам прыйшлося развітацца са свістком, які не заўсёды быў у іх аб'ектыўны...

Вядома, беларускія балельшчыкі ўсе свае надзеі звязвалі з гульнёй мінскага «Дынама». У пачатку сезона для гэтага ў аматараў футбола былі аб'ектыўныя прычыны. Па-першае. «Дынама» добра фінішыравала ў сезоне 1970 года. Па-другое, здавалася, што моладзь ужо знайшла сябе і цяпер загаворыць на ўвесь голас.

Перад мінулым сезонам змен у камандзе амаль не было. Каманду пакінуў адзін з цэнтральных абаронцаў—Грэбнеў. І гэта адразу адбілася на гульні мінчан. Амаль увесь год старшы трэнер каманды І. І. Мозер тасаваў абаронцаў, і толькі ў канцы сезона, калі ў каманду прыйшоў Славак з брэсцкага «Спартака», абарона стала дзейнічаць больш надзейна.

Хочацца прывесці некалькі лічбаў. Па забітых галах мінчане ходзяць у прызёрах—дзеляць трэцяе-чацвёртае месцы. У камандзе—лепшы бамбардзір сезона Эдуард Малафееў, які забіў 16 галоў і атрымаў прыз рэдакцыі газеты «Труд». На сваім полі з пятнаццаці гульняў мінчане прайгралі адну—чэмпіёнам—0:1. Цэлы шэраг паражэнняў каманда пацярпела на выездзе. На пытанне: «Чым растлумачыць гэта?»—старшы трэнер адказвае:

— Футбалісты, асабліва ігракі абароны, на чужых палях былі нейкімі разгубленымі. Больш за ўсё гэта датычыць маладых. Вопытныя Малафееў, Сахараў, Васільеў стараліся, але гэтых сіл для поспеху было малавата.

Гэтая размова з трэнерам мінчан адбылася зімою. Вядома, нас цікавілі і перспектывы каманды.

— Мінулы год,—расказваў Мозер,—дапамог нам не толькі лепш зразумець нашы ўнутраныя камандныя справы, але таксама памог і зрабіць належныя вывады аб беларускім футболе наогул. Вядома, што я ў сваім аналізе закрану толькі справы каманды.

Перш за ўсё трэнеры каманды ўбачылі ў мінулым годзе, што многія футбалісты па сваіх здольнасцях і магчымасцях не могуць унесці добрага ўкладу ў ігру калектыву. Гэта прымусіла нас адмовіцца ад паслуг некаторых футбалістаў. З каманды былі адлічаны Скокаў, Шпілеўскі, Суркоў, Аліякбераў, Прыбылоў і Свірыдовіч. Падаў заяву аб пераходзе ў другі калектыў Смірноў. Больш уважліва аднеслася кіраўніцтва каманды да падбору новых футбалістаў. Тут, побач з вопытнымі, у каманду былі запроша-

ны маладыя перспектыўныя футбалісты. У новым сезоне за «Дынама» выявілі жаданне гуляць былыя ігракі кіеўскага «Дынама»—абаронца Белавус і паўабаронца Багавік. З Каломны ў нашу каманду прыехаў абаронца Кузняцоў, з Харкава—абаронца Паўленка. Замест Скокава мы запрасілі ў калектыў варатара Кірычэнку, які яшчэ зусім нядаўна гуляў за кіеўскае «Дынама». З маскоўскага «Спартака» ў наш калектыў прыйшлі абаронца Аўчыннікаў і малады нападаючы Грыгор'еў З смаленскай «Іскры»—нападаючы Папковіч. Вось што датычыць змен. Вядома, аматараў футбола павінна зацікавіць пытанне: «Чаму ў калектыў не прыняты ніхто з маладых перспектыўных беларускіх футбалістаў?» Мне здаецца,—сказаў Мозер,—што гэта важнае пытанне. Але аднаму на яго, бадай, не адказаць...

●

Маімі субяседнікамі сталі многія вядомыя ў мінулым футбалісты, а цяпер трэнеры. Гэта ў першую чаргу Пагальнікаў, Адамаў, Ерахавец, Ягораў і многія іншыя, якіх цікавіць становішча спраў у беларускім футболе.

Вядома, каб узвесці дом, трэба закласці падмурак. Інакш дом разваліцца. Прыблізна такая ж структура і ў футболе. Калі няма добрай базы, адкуль будзе добрая каманда?

Што стаіць за спіной мінскага «Дынама»?

На першы погляд тылы ў «Дынама» нядрэнныя—ёсць каманды другой групы класа «А»; «Гомсельмаш» (Гомель), «Спартак» (Брэст), «Спартак» (Магілёў) і «Дзвіна» (Віцебск). Тут гуляе каля 100 футбалістаў. Больш трыццаці калектываў удзельнічаюць у першынстве рэспублікі. Гэта яшчэ 500 ігракоў. У рэспубліцы больш за 20 юнацкіх груп. Яшчэ 400 маладых футбалістаў. Усяго: толькі ў першынствах удзельнічаюць 1000 ігракоў. А калі мы возьмем масавы футбол, то лічба гэта павялічыцца ў дзесяткі разоў. Але будзем «скакаць» ад тысячы... І пачнем з юнакоў, бо яны—галоўны рэзерв вядучых клубаў.

Каля 50 платных трэнераў працуе ў рэспубліцы з хлапчукамі і юнакамі. Які вынік іх «плённай» працы? А вось які. У мінскае «Дынама» не прыйшоў ні адзін юнак 1951—54 гадоў нараджэння. Як гэта разумець? Хутчэй за ўсё, як вынік халастой работы ўсіх юнацкіх трэнераў. Дапусцім, што кожныя чатыры трэнеры далі б у лепшую каманду па адным футбалісту. Значыць, кожны год у «Дынама» ўліваліся б 10—12 юнакоў. Вядома, напачатку яны прыглядаліся б да старэйшых, гулялі б у дублі, а праз год—хто-небудзь з іх і апрануў бы майку ігрока асноўнага складу. Але гэта пакуль што толькі летуценні. Чаму?

Прычын шмат. І галоўная з іх—адсутнасць спартыўнай базы. Напрыклад, юнакі мінскага «Дынама»—асноўнага рэзерву каманды майстроў—трэніруюцца ў самых цяжкіх умовах. У каманды няма свайго зялёнага поля, і яны гуляюць на... бітумнай пляцоўцы. Адкуль жа будзе майстэрства? Прыблізна ў такім жа становішчы і мінская ФШМ (футбольная школа моладзі) і ДСШ. А вядома, што больш за ўсё на гэтыя арганізацыі і ўскладае надзеі Федэрацыя футбола БССР. Менавіта ад трэнераў гэтых юнацкіх каманд і патрабуе яна даць здольных хлапчукоў. А расціць «здольнасці», шчыра кажучы, няма дзе.

У іншых умовах знаходзяцца юныя футбалісты спартклуба «Тарпеда». Тут у юнакоў ёсць сваё поле, але таксама няма здольных ігракоў. Чаму? Ад «Тарпеда» ніхто не патрабуе таленавітых выхаванцаў. У такім жа стане і юнацкая каманда «Працоўных рэзерваў». У юнакоў ёсць добрая матэрыяльная база, але ў кіраўніцтва няма заклапочанасці аб выхаванні здольных маладых футбалістаў, бо ў «Працоўных рэзервах» футбол—не галоўны від спорту. Ён там знаходзіцца ў ролі пасынка. А вядома, што ў школах прафесійна-тэхнічнага навучання—тысячы хлапчукоў. Аднак футбольныя трэнеры гэтага таварыства ідуць па шляху найменшага супраціўлення і маюць «нядрэнныя» вынікі. Яны запрашаюць у сваю каманду хлапчукоў, якія закончылі выступленні ў ФШМ альбо ДЮСШ. Такім чынам, «скалочаны» каліф на гадзіну дае магчымасць ім быць у сярэдзіне табліцы першынства рэспублікі. На наступны год усё паўтараецца, а «падросшыя» дзеці «пераходзяць» у заводскія альбо студэнцкія каманды. Там і губляюцца іх сляды.

Прыгледзеўшыся да юнацкага футбола рэспублікі, можна заўважыць і яшчэ адну акалічнасць. Пакуль што мала прадстаўлены ў першынстве рэспублікі каманды раённых цэнтраў. Трывожыць і тое, што большасць каманд, якія ўдзельнічаюць у першынстве рэспублікі, не маюць сваіх юнацкіх груп.

Адгэтуль вынікае другая праблема. Каманды першынства рэспублікі не маюць свайго папаўнення. Вядома, там знаходзяць прытулак тыя футбалісты, якія пакінулі каманды майстроў. А дзе павышаць майстэрства маладым хлопцам? Яны ж пасля выступленняў за юнацкія каманды застаюцца без нагляду. Вядома, не кожны хлопец можа выявіць свой талент у 15—17 гадоў. А вось як гуляе 18—20 гадовы футбаліст, ужо нікога не цікавіць. Так марнуецца пэўная колькасць талентаў.

Аднойчы мне давялося бачыць трэніроўку чэмпіёна рэспублікі—тарпедаўцаў Жодзіна. Ішоў дождж дзве гадзіны, але трэніроўка не спынілася. Потым трэнер каманды Леанід Ерахавец жартаваў:

— Футбольны душ прынялі...

І такая праца не засталася безвыніковай. Двойчы (у 1970—1971 гадах) жодзінцы былі чэмпіёнамі рэспублікі. Устаноўка трэнера прымусіла многіх ігракоў каманды перагледзець свае адносіны да футбола. У першую чаргу гэта закранула трэніроўкі. Яны сталі больш разнастайнымі, планавымі. Бо ў футболе без працы поспеху не дасягнеш. І ўжо ў хуткім часе каманда пачала вылучацца сярод іншых добрай фізічнай падрыхтоўкай, пачалі вырысоўвацца тактычныя навыкі, а таксама тэхнічная дасканаласць. Гэтыя тры напрамкі, як вядома, з'яўляюцца галоўнымі ў футболе. Ва ўсіх адносінах жодзінцы былі лепшымі. Таму двойчы запар і атрымалі залатыя медалі. Добрая гульня каманды зацікавіла балельшчыкаў. Насустрач ім пайшла адміністрацыя завода БелАЗ. У Жодзіне—адзін з лепшых стадыёнаў. Тут выдатнае футбольнае поле.

Амаль усе калектывы—удзельнікі першынства БССР—з'яўляюцца прадстаўнікамі вядомых заводаў або фабрык. Але як гэта не дзіўна, большасць каманд адарваны ад жыцця заводаў. Імі не цікавяцца ні камсамольскія, ні прафсаюзныя арганізацыі. Вось і атрымліваецца, што ў каманды адна толькі назва—заводская. Адсюль і «свабода», якая прыводзіць да таго, што ў камандах дрэнная дысцыпліна, а, значыць, і дрэнныя вынікі.

Пасля заканчэння чэмпіяната рэспублікі я папрасіў Л. Ерахаўца пракаменціраваць вынікі. Вось што сказаў трэнер чэмпіёна і ўладальніка кубка БССР:

— У 1971 годзе толькі на старце чэмпіяната барацьба была вострай, а затым усё стала на свае месца. Нам за некалькі тураў да заканчэння ўжо было забяспечана званне пераможца. У гэтым сезоне ў камандзе побач з вопытнымі футбалістамі я даверыў месца маладым хлопцам. Амаль усе яны вытрымалі выпрабаванне, а некаторыя з іх ужо атрымалі запрашэнне ў каманды майстроў.

Як ніколі раней, добра выступіў у мінулым годзе бабруйскі «Будаўнік». Каманда заняла другое месца, а яе нападаючы Глушанок удала сыграў некалькі гульняў у дублі мінскага «Дынама». Як бачым, калі дбайна адносіцца да моладзі ў камандах, можна рыхтаваць здольных футбалістаў. Але так бывае не заўжды. Мінскае «Тарпеда» ў апошнія гады больш спадзяецца на свой вопыт. Але застаўшыся без здольнай моладзі, каманда два гады запар выступала горш, чым раней. Да мінулага сезона такое становішча было ў мінскім «Спадарожніку». Але цяпер у камандзе ўзяты рашучы курс на работу з моладдзю.

Вядома, многа надзей ускладалі трэнеры мінскага «Дынама», калі ў рэспубліцы з'явілася ажно пяць каманд другой групы класа «А».

Мінуў год іх «дэбюту», і ніводнага футбаліста з гэтых клубаў мы не ўбачылі ў вядучай камандзе рэспублікі. Гэта значыць, што пяць каманд класа «А» пакуль што самі шукаюць таленты. Якое ж можна знайсці выйсце?

Большасць футбольных спецыялістаў згодны з думкай трэнера «Гомсельмаша» Л. Адамава, былога ігрока мінскага «Дынама». Ён прапануе на базе беларускіх каманд другой групы класа «А» стварыць вядучую зборную, у якую б увайшлі найбольш перспектыўныя і таленавітыя футбалісты. Вядома, што адзін-два здольныя ігракі ў слабай камандзе губляюць якасці і «апускаюцца» да класа сярэдняга ігрока. А калі аб'яднаць здольных хлопцаў, дык можа атрымацца выдатны калектыў, у якім «засвецяць» свае зоркі. Вось гэтыя «зоркі» і павінны будуць аказваць падмогу вядучай камандзе.

Як бачым, шматступеньчатая «сістэма Адамава» мае свае станоўчыя бакі. Справа за яе здзяйсненнем.

Вядома, цяжка выявіць усе слабыя бакі беларускага футбола. Але на некаторых з іх мы затрымалі ўвагу чытача. Зроблена гэта для таго, каб наша каманда сёлета гуляла лепш.

**Леанід ЗДАНОВІЧ.**

● Мікалай ДУБОЎСКІ

# ВУШЫ

### ГУМАРЭСКА

Урачыстасці ў Прудках пачаліся з самай раніцы. Прудкоўцы сабраліся на асфальтаванай пляцоўцы перад новай лазняй. Прыйшлі ўсе, хоць мароз пёк так моцна, што ў вартаўніка фермы дзеда Тараса стрэльба прымерзла да рукавіц.

Не прыйсці прудкоўцы не маглі: пра лазню гаворак было гадоў пяць, і столькі ж яе будавалі. І вось доўгачаканая механізаваная лазня грандыёзна застыла перад аціхлымі хаткамі вёскі. Ля новых дзвярэй яе палымнела нацягнутая шырокая чырвоная стужка, а на бетонным памостку ў ганаровым прэзідыуме стаяла ўсё начальства калгаса. З прамовай звярнуўся сам старшыня калгаса.

— Таварышы! — выкрыкнуў ён у марознае паветра.— Я не буду гаварыць аб тым, чаго мы тут стаімо. Вы сведкі, так сказаць, усяго таго, што тут рабілася і што нарэшце зрабілася: узве́дзена механізаваная лазня.

Усе думалі, што старшыня хутка закончыць прамову, возьме нажніцы ў бухгалтаркі, разрэжа стужку і ўпусціць акалеўшых людзей у цёплае памяшканне. Але прамоўца рашыў зрабіць экскурс у гісторыю Прудкоў і пачаў яго з прыгоннага ладу.

Гэткі адыход ад асноўнай тэмы прамовы многім не спадабаўся і асабліва Данілу Цеслюку, брыгадзіру калгасных будаўнікоў.

Цяслюк таксама стаяў у прэзідыуме якраз за плячыма старшыні. Не спадабаўся такі адыход не таму, што Даніла быў прыхільнікам прыгонніцтва, а з-за холаду. Ён, як і ўсе вакол старшыні, быў без шапкі, і ў яго пачалі гарэць вушы.

«Досыць мо балбатаць,— злосна падумаў ён сам сабе.— Дарваўся, як да чужой бутэлькі».

Але гэты сігнал брыгадзіравай тэлепатыі не прабіў тоўстага каўняра старшынёвага паліто, не перапыніў прамоўцу, а наадварот — той увайшоў у самы смак, гаварыў энергічна і голасна.

«Пацярплю яшчэ трохі, хоць вушы нешта рве і коле. Пацерці б іх, але ж няёмка, усё ж урачыстасць, і я — у прэзідыуме».

Тупаючы непрыкметна на месцы, сціснуўшы кулакі і зубы, брыгадзір мабілізаваў усю сваю волю, каб не схапіцца рукамі за балючыя вушы.

«Старшыня ж таксама церпіць,— падумаў Даніла.— Праўда, каўнер у яго высокі і вушы во як энергічна ходзяць пры кожным слове. А што калі і я паспрабую за ім паўтараць, можа і ў мяне яны будуць хадзіць і сагрэюцца». Даніла пачаў шаптаць за старшынёй, шырока разяўляючы рот, але вушы пачалі балець яшчэ больш.

«Канчай жа хутчэй,— пакутліва лаяў старшыню Даніла.— У цябе яны не мерзнуць, калі так распаліўся. А мо ён якім спецыяльным шмальцам намазаў, каб не мерзлі?»

Старшыня з запалам гаварыў пра тыя цяжкасці, што прыйшлося пераадолець у час будаўніцтва лазні. Пачуўшы гэта, Даніла яшчэ больш раззлаваўся:

«Ён пераадольваў! — перадражніў ён старшыню.— Я пераадольваў і цярпеў усё. Памятаеш, што ты сказаў, калі пятую секцыю ад паравіка ўкралі? Што ты сказаў тады? Бяры, Даніла, бутлю з горкай і кланяйся хлопцам з рамонтнага. І я пайшоў кланяцца. А якое яно пакланенне, хіба ты ведаеш? Таргуешся, каб не прадзешавіць, бо свае ж ёсць яшчэ хлопцы. І так пад канец накланяешся — ногі не трымаюць. Дамоў вязуць і цябе, і тую праклятую секцыю. А ты крычыш — пераадольваў!..»

Злосць на старшыню на нейкі момант адцягнулі брыгадзіраву ўвагу ад вушэй. Але як толькі Даніла скончыў свой нямы маналог, боль ажыў зноў. Усё ж і цяпер ён не закрычыць: новы прыліў злосці ён накіраваў цяпер на сваю жонку, якую ўбачыў у натоўпе. Раніцой, калі збіраўся на адкрыццё, яна ўгаварыла яго апрануць новае святочнае паліто. «Адзень, Данілка, адзень!» — перадражніў жонку брыгадзір.— Сама, нябось, заявілася ў маім кажуху. Во ліса!..»

«І што за мода пайшла на гэтыя паліто,— злаваў Цяслюк.— Прыдумалі каўняры вузенькія, як кашэчы хвосцік. Тырчыць ля шыі, быццам фіга; ні цяпла, ні радасці. Быў бы людскі каўнер, ці мерз бы я так?»





А старшыня ўсё гаварыў і гаварыў. Над ім і прудкоўцамі ўзнімалася пара. Даніла ўжо нічога не чуў. Стаяў, стуліўшыся, анямеўшы. Боль ён ужо не адчуваў, толькі вельмі хацелася спаць.

Нарэшце старшыня закончыў прамову, абярнуўся да брыгадзіра, каб перад усім народам пацiснуць яму руку, выказваючы гэтым шчырую падзяку за лазню. Але ў гэты момант старая Амальяніха закрычала: «Вушы, вушы!» За ёй падхапілі ўсе: «Вушы, вушы!» Старшыня рашыў, што яму падказваюць пацягнуць Данілу як імянінніка за вушы. Ён ухапіў брыгадзіра за вушы, пацягнуў... і яны ледзь не засталіся ў яго руках.

— Ай, небарака, трэба ж так, пабудаваў лазню і замерз каля яе! — залемантавала Амальяніха. А старшыня схапіў жменю снегу і пачаў церці ім брыгадзіравы вушы. Прудкоўцы смяяліся і падбадзёрвалі старшыню: «Тры, старшыня, тры, рабі яму лазню перад лазняй».

Даніла не супраціўляўся. А што зробіш, калі вушы дзярэ табе само начальства?

Мал. **С. Волкава.**

# нашы аўтары

●

**БЕЛІЖЭНКА Барыс** нарадзіўся ў 1937 годзе ў вёсцы Промыслы Бешанковіцкага раёна. Скончыў Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт імя У. І. Леніна і Мінскую Вышэйшую партыйную школу. Працаваў піянерважатым, дырэктарам Дома піянераў, загадчыкам райана. Цяпер працуе ў Віцебскім абкоме партыі.

●

**КАПЫЛОВІЧ Мікола** нарадзіўся ў 1937 годзе ў вёсцы Астражанка Лельчыцкага раёна. Скончыў Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт імя У. І. Леніна. Настаўнічаў, працаваў у выдавецтве і ў рэдакцыі «Звязды».
Аўтар зборніка апавяданняў «Скрозь жывуць людзі».

●

**ДЗЮБА Уладзімір** нарадзіўся ў 1946 годзе. Маленства прайшло ў вёсцы Патапаўка Буда-Кашалёўскага раёна. Скончыў Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт імя У. І. Леніна. Служыў у арміі. Цяпер працуе ў рэдакцыі «Гомельскай праўды».

●

**ФАМІН Уладзімір** нарадзіўся ў 1935 годзе ў вёсцы Старынка на Мсціслаўшчыне. Скончыў педвучылішча і Мінскую ВПШ. Працаваў у рэдакцыях газет і на партыйнай рабоце. Цяпер вучыцца ў аспірантуры пры Мінскім педагагічным інстытуце імя Горкага.
Аўтар зборніка вершаў «Падслухаў сэрцам».

●

**ПУШКІН Яўген** нарадзіўся ў 1939 годзе ў Оршы. Працаваў на будаўніцтве Волжскай ГЭС, служыў у арміі. Скончыў Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт імя У. І. Леніна. Цяпер працуе ўласным карэспандэнтам газеты «Лесная промышленность».

●

**КУНЦЭВІЧ Уладзімір** нарадзіўся ў 1937 годзе ў Слуцку. Скончыў педвучылішча. Настаўнічае і завочна вучыцца ў Мінскім педагагічным інстытуце імя Горкага.

●

**АЛЯХНОВІЧ Уладзімір** нарадзіўся ў 1938 годзе на Слонімшчыне. Скончыў Маскоўскі эканамічны інстытут. Працаваў журналістам, геолагам, у Дзяржаўным Камітэце па друку пры Савеце Міністраў БССР. Цяпер — галоўны рэдактар выдавецтва «Вышэйшая школа».

●

**ТКАЧОЎ Міхась** нарадзіўся ў 1938 годзе ў в. Міхайлаўка Варонежскай вобласці. У 1966 годзе скончыў аддзяленне журналістыкі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна. Працуе ў рэдакцыі газеты «Зорька». У «Маладосці» друкуецца ўпершыню.

**ЖУРНАЛ «МОЛОДОСТЬ» № 4**

Мастацкі рэдактар **Янка РАМАНОЎСКІ**. Тэхнічны рэдактар **Пятро ЛЫСЕНКА**.
Карэктары **Пятро ЛІПАЙ** і **Марыя ВАСІЛЕЎСКАЯ**.

Рукапісы аб'ёмам да аркуша не вяртаюцца.

Адрас рэдакцыі: Мінск, ГСП, вул. К. Маркса, 40.
Тэлефоны: 2-93-854—сакратарыят і аддзел крытыкі, 2-93-592—аддзелы паэзіі і прозы, 2-93-892—аддзелы публіцыстыкі і мастацкага афармлення, 2-93-775—аддзел інфармацыі.

АТ 09129. Здадзена ў набор 25/ІІ 1972 г. Падпісана да друку 29/ІІІ 1972 г.
Папера 70×108 1/16. Фіз. друк. арк. 10. Умоўн. друк. арк. 13,7. Ул.-выд. арк. 14,5.
Тыраж 15 883 экз. Зак. 799. Цана 40 кап.

**Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.
Мінск, Ленінскі прасп., 79.**